ГРОДЗЕНСКАЕ АБЛАСНОЕ АДДЗЯЛЕННЕ ГРАМАДСКАГА АБ’ЯДНАННЯ
«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

# НОВЫ ЗАМАК

ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ. ГРОДНА. MMXIV

МІНСК «КНІГАЗБОР» 2015



УДК 821.161.3(059)
ББК 84(4Беи)
Н72

Літаратурны альманах Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў», № 3, 2014 г.



Н72 **Новы замак** : літаратурны альманах. Гродна. MMXIV. № 3 / укл. С. Астравец. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 212 с.
ISBN 978-985-7119-36-3.

Сёлета аўтары сталі звяртаць больш увагі на назву альманаха, у трэцім выпуску «Новага замка» надрукаваны вершы «Фантасмагорыя старога горада» Юркі Голуба, «Апошні кароль» Мечыслава Курыловіча, балада пра Грунвальд Яўгена Петрашэвіча. З'явіліся новыя рубрыкі. У «Civitat Grodnensis» аўтары паглыбляюцца ў легенды Гродна, яго нядаўняе мінулае. У «Фарбах Панямоння» мастакі перадаюць уласнае бачанне краявідаў і архітэктуры, выказваюцца на тэмы беларускай літаратуры, разважаюць пра скарбы мовы. Чытач знойдзе ў новым нумары ўспаміны пра Васіля Быкава, які значную частку свайго жыцця жыў у Гродне, дзе напісаў многія свае творыя, якія зрабілі пісьменніка вядомым у літаратурным свеце.

**УДК 821.161.3(059)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-36-3**



# Рэцэпт апошняга караля

*Рэпартаж з Новага замка*

Дзясяткі гродзенцаў мелі магчымасць пакаштаваць ліквор паводле рэцэпта апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Частавалі ў авальнай зале Новага замка, апошнім гаспадаром-манархам якога ён быў. У замку цяпер гісторыка-археалагічны музей. Яго супрацоўнікі ажывілі на час каралеўскую эпоху, яе дзейных асобаў, падрыхтаваўшы для турыстаў анімацыйную праграму Dominis umbra — «Цень імя».

Ліквор меў свежы смак і быў даволі моцным. Пасля дэгустацыі гледачы фатаграфаваліся з царыцай Кацярынай і прыдворнымі дамамі. Тэкст прадстаўлення напісала загадчыца аддзела гісторыі Марына Сяліцкая. Яна патлумачыла, што гледачам сёння прадстаўляюць рускамоўную версію, паколькі яна першай створана і лепш адпрацавана. А ўвогуле сама Марына Сяліцкая і маладыя навуковыя супрацоўнікі свабодна карыстаюцца беларускай мовай.

Прадстаўленне пачынае Станіслаў Трэмбецкі (Васіль Герасімчык), прыдворны паэт апошняга караля і ягоны сакратар. Ён кажа «аб шчаслівых і трагічных момантах, што мелі месца ў гэтым палацы, каторы называюць Новым замкам. Богам і людзьмі было наканавана Гродну стаць горадам каралёў і сеймаў. У XVI стагоддзі ён стаў каралеўскай рэзідэнцыяй, а ў наступным у ім сталі праводзіцца дзяржаўныя сеймы».

Але гэта быў толькі пачатак. Пасля заканчэння Паўночнай вайны кароль Аўгуст II вырашыў пабудаваць у Гродне сучасны каралеўскі палац менавіта для сеймаў. Упершыню ў Новым замку сейм адбыўся ў 1752 годзе. Пабудаваны ў стылі ракако з элементамі класіцызму, замак стаў адной з найпрыгажэйшых рэзідэнцый ва ўсёй дзяржаве.

У 1764 годзе на каралеўскі пасад уступіў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, ён удыхнуў жыццё ў Новы замак, гаворыць паэт і сакратар. Мы ўжо на другім паверсе, дзе за сталом кароль (Яўген Махнач) распавядае, што лічыў сябе літвінам, бо нарадзіўся і прыняў хрост у Воўчыне, на «літоўскіх землях».

Зноў Станіслаў Трэмбіцкі распавядае пра свайго гаспадара: што перапісваўся з Вальтэрам, па крыві і духу быў не манархам, а інтэлектуалам эпохі Асветніцтва. Пры ім адкрыўся першы нацыянальны, агульнадаступны тэатр. Узнікла першае літаратурнае таварыства. Хуткае развіццё атрымалі кнігадрук і прэса. Сам кароль спрыяў адкрыццю кніжных лавак, літаратурных кавярняў, бібліятэк.

А далей — гісторыя кахання Станіслава Аўгуста і Кацярыны Вялікай. З'яўляецца яна сама (Вольга Макарчук), прыдворныя дамы (Вераніка Кацічава і Ганна Грыцкевіч). Пачынаюцца палацавыя танцы. Танчаць з дамамі паэт і кароль.

А вось славуты палюбоўнік Казанова (Аляксандр Хацько). Таксама пры двары Панятоўскага пакватараваў! Трапіў да яго на абед спачатку. Пахваліў манарха: ведаў той італьянскіх класікаў лепш за каго іншага, завёў размову аб рымскіх паэтах і празаіках, цытаваў іх. Кароль італьянца таксама ўпадабаў, даў яму дзвесце дукатаў і дазволіў прысутнічаць пры сваім ранішнім адзяванні.

Зноў танцы, прычым касцюмаваныя асобы запрашаюць удзельнікаў з ліку гледачоў. Ёсць яшчэ адна ўдзельніца — Апалонія Далеўская (Ганна Кізюк), прыгонная танцоўшчыца гродзенскай балетнай трупы Антонія Тызенгаўза, якая вельмі палюбілася каралю.

Станіслаў Аўгуст не быў ідэальным. Мог пабіць прыслугу, але затым узнагароджваў і прасіў прабачэння. Быў шчодрым, але і марнатраўным: пакінуў даўгоў на трыццаць чатыры мільёны польскіх фларынаў. Запазычыўся нават сваім камергерам і кухару!

Але навіна: звыклыя папойкі часоў саксонскіх каралёў сталі знікаць пры двары Станіслава Аўгуста. Вылучаўся ён цвярозасцю, а вытанчаную кухню любіў, меў кухараў немца і француза. Цікавая размова за сталом стала пераважваць. Кароль за абедам выпіваў не больш за келіх віна. Якраз надышла заходняя мода на салодкія лікворы. Адзін прыдумаў сам кароль. І вось тут усіх запрашаюць на дэгустацыю…

Анімацыя завяршаецца: па лесвіцы гледачы спускаюцца на першы паверх у сенатарскую залю, дзе адбываліся пасяджэнні верхняй палаты сейма. Там каралю належыць падпісаць акт адрачэння ад пасаду… Ён сядзіць на даволі звычайным крэсле і тлумачыць, што сапраўднае каралеўскае не захавалася. Станіслаў Аўгуст меў старасвецкае — пасад з часоў дынастыі Пястаў, які вазіў за сабою. Іператрыца забрала яго ў Пецярбург і загадала зрабіць з яго сабе гаршчок. Калі сядзела на ім, яе хапіў удар, не мінула нават году пасля адрачэння караля. Такія ўрокі гісторыі… А гледачоў запрашаюць фатаграфавацца з удзельнікамі прадстаўлення, і многія ахвотна пагаджаюцца.

Танцы XVIII стагоддзя пастаўлены вельмі нядрэнна. Марына Сяліцкая прызнаецца, што ўсё рабілі самі, не сталі звяртацца да прафесійных акцёраў і танцораў. Шмат матэрыялу прагледзелі, вывучылі танцы. Ніхто не дапамагаў.

*Сяргей Астравец*



▪ *Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (Яўген Махнач)*



# Паэзія

## Святлана Абдулаева (Юшкевіч)



Мне бусел над хатаю клёкатам
Шчымлівым сваім нагадаў
Фрагменты дзяцінства далёкага
Пад музыку спеючых траў.
І ў летуценнях — сцяжынкаю
Праз жыта іду да ракі,
А колас раз-пораз пушынкаю
Кранаецца мякка шчакі.
Зляцелі даўно завірухаю
Юнацтва імклівага дні…
І белага бусла я слухаю,
Як памяць сваю ў цішыні.

*10.08.2013*



За небасхіл каціўся сонца дыск,
І збажына хавала васількі…
Змярканне апускалася на Мінск
І самыя таемныя куткі…
Спяшаліся машыны ў гаражы,
Вандроўнік рыхтаваў сабе начлег…
І хтосьці дзень у святасці пражыў,
А нехта свой ізноў падвоіў грэх…

*07.07.2010*



Спускалася сонца ў Балтыйскае мора,
Танула, нібы карабель.
А хвалі рабілі паўтор за паўторам
Набегі бясконца на мель.

На фоне пунсовым над гладдзю марскою
Крык чаіцы белай павіс…
Застыў у чарговым чаканні прыбою
Самотна пустуючы пірс.

Спускалася сонца зусім непрыкметна —
Хавала ў ваду прамяні,
Нібыта ў гадзіну апошнюю лета
Падлічвала цёплыя дні…

*16.01.2011*



Цішыня за аселіцай…
Мякка падае снег…
І напевы мяцеліцы
Ліпа слухае ў сне.
Божым лёсам заручана
Побач з яварам быць —
Як агонь непатушаны,
Цуд-каліна гарыць.
І за іх нібы моліцца
Дуб і шэпча: «Амінь».
І ляціць над ваколіцай
Звон царкоўны: «Дзінь-дзінь».

*25.02.2013*






нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна. Закончыла Гродзенскае музычнае вучылішча, працуе ў Навагрудскай дзіцячай школе мастацтваў. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар зборнікаў вершаў «Музыка дажджу» і «Тайна времени».

УЛАДЗІМІР ВАСЬКО

## Добры настрой

Заглядзелася сонца
ў раку,
асвятляючы вёрткія
рыбкі.
Добры дзень спадару
рыбаку!
Добрай раніцы, срэбныя
блікі!
Добры дзень стагадовым
дубам!
Добры дзень, адзінокая
лодка!
Добры дзень, бусляняты,
і вам,
і табе, прыбярэжная
плотка!
Вось так раніца!
Вось дык размах!
Вось дзе радасці сінія
сховы!
Рады сонцу і мятлік,
і птах,
і шчупак, і пастух,
і каровы.
Ну а я? Што казаць пра мяне?
Я на небе бязвоблачным сёмым.
Я ў рэальнасці, ці мо у сне?
Як мне лёгка і хораша сёння!



Драбнатэм'е… Драбналессе…
Завыванне, а не песня.
Чым душу запаланіць,
Зрок і слых свой наталіць?
Аднастайнасць… Аднастайнасць,
Як асенняя туманнасць.

Дзе ты, духу апантанасць?
Дзе ты, сонечная радасць?

## Чалавек — мурашка

Зямля — мурашнік. Мы ўсе — мурашы.
Ствараем нешта, нешта здабываем
і зарабляем нейкія грашы,
якіх даволі вельмі рэдка маем.
Не ўсёмагутны ўсё-ткі чалавек:
не справіцца з жукамі з Каларада,
ніяк не можа вылечыць калек,
з эстрады часам падае да здрады.
Ну й што, што ў космас неяк сігануў,
але ж да зорак не дастаў рукамі?
Дык ён яшчэ так мала дасягнуў,
як і мурашка, што паўзе на камень.
Праз тысячу гадоў не падрасце,
і падужэе розумам і целам,
калі не стане грудаю касцей
ад зброі, што ставарае агалцела.






нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гродзенскі пединстытут імя Я. Купалы. Настаўнічаў, працаваў у рэдакцыях раённых газет. Аўтар паэтычных кніг «Прасветленасць», «На схілах берагоў», «Кругаварот жыцця». Сябар СБП. Жыве ў Лідзе.

ЮРКА ГОЛУБ

## Вынік

Злавеснае слова «было»,
Як здзекі над лёсам?
Стаіць над таемным білом.
Пілося-лілося…

Спяшаліся прагна любіць.
Памылкі вяршылі.
Здаваўся пагорак любы
Скаронай вяршыняй.

Збягаліся час вырашаць
Задыхана ў зборні.
Яго ж вырашае варштат
І сонца за борам.

Ірваўся юначы хаўрус
Гісторыю здзейсніць.
На плечы накладвалі груз,
Каб несці — не дзесьці.

Выхоўвалі веры наконт:
Да костак даймала.
Дзікунства шпурляла на кон.
Жыццё абдымала.

Падумаеш: гарам гары
З анапестам дольнік.
Дурэе маланка ўгары…
Зайздросная доля.

## Фантасмагорыя старога горада

Уздымае плечуком квартал
Да паддашка змрочныя карнізы.
І раяля чорны футарал
Зачыняе музыкі харызму.

Змоўк вялебны поначы арган.
Вежа стрэлкі ўверсе запыніла.

І дыміцца рыцарскі саган.
Бацька не адхіліць шаблю сына.

Тут Давыд над грывай паўставаў:
Загрудкі хапаліся за Нёман.
Попел вельмі доўга астываў,
Ці астыў — дагэтуль невядома.

Нечысць хіжа лезла на муры.
Рабавала….
Драла…
Дратавала…
Горад, ты заўчасна стаў старым,
Хоць цябе і неба ратавала.

Дзе гарматы сцерагуць музей,
Ядры засяроджаны на змесце,
Ты сябе трымаеш на слязе,
А сляза не рухаецца з месца.

## Аповесць пра буквар

1

Зноў пачаць з буквара…
Паўтараешся, мусіць!
Наступіла пара:
Падштурхоўвае муза.

Паваенны этап:
Радасць.
Горыч.
І рэзрух.
Не адкінеш, што там
Цені шныраць з абрэзам.

Кніжкі гэтакі лёс:
Дрэвы хутар захутаў,
Кніжку з стрэльбай прынёс
Дужы дзядзька на хутар.

Ён, ляснік і штукар,
Штосьці з-за пазухі выняў:
Так адбыўся буквар,
Скіраваны на вынік.

Без аклада буквар,
Носьбіт наскае мовы.
Ды буквар быў за дар,
З той прычыны — не ўмоўны.

2

Ён — усё-такі — быль!
(Сантыментаў не шкода.)
І прадвеснікам быў
Пачатковае школы.
Там на партах зімой
Замярзала чарніла.
Як скарбонка замоў,
Печка з кафлі дыміла.

Ды найперш з буквара
Адгукалася мама.
Мела казку ствараць
Ёю мытая рама.

Са старонак наскрозь
Працінала, як спевам,
Духам красак і кроз,
Пахам лесу саспелым.

Хто мог думаць тады,
Што адчыняцца сілы —
Адчыняць гарады,
Зачыняць небасхілы?

Вір нябёсаў спасціг.
Дол разгледзеў на сажань.
Ды не вернецца міг
З букваром недасяжным.

## Слыхавое акно

Побач лёсы ставілі на кон:
Заплываюць травамі акопы.
На гарышчы слыхавым акном
Заапекавалася эпоха.

Стуль адходзіў пешкі краявід.
Далеч набліжалася крылата.

І палёт уласны не скрывіў
У нябёсах ястрабок крылаты.

Трактар абувалі хлопцы ў трак,
І крактаў балесны над улоннем.
…У гарышча шмат было адзнак:
Вось, напрыклад, серп і апалонік.

Залічыла б следства за пралік,
Што акенца затаілі ў схове.
Трапіць у прыстойны пералік
Не змагло б акенца слыхавое.

…У царкву святочна йшлі жанкі.
(Там цябе хрысцілі «на Пакрову».)
Пастухі глядзелі з-пад рукі
На сукенкі даўняга пакрою.

Па гасцінцы везлі штось на продаж.
Узлятаў лістотаю лясок,
Пэўна, з ашалелаю лісой,
Што брахала ўчора на калодзеж.

Дробязь. Але чуеш з-за акна:
Конікі кавадла асачылі.
І забіты з-за вуха вухналь
Не іначай як адвагі чыннік.

Часам засцілала белы свет
Хмары навальнічнае навала.
Лета грэбла з-пад таполі снег,
А зімой чаромха расцвітала!

Расцвіце й касмічны васілёк.
Вабнае.
Крынічнае.
Гагарын.
Вырaі вярталіся здалёк,
І буслы любіліся папарна.

Распіраў прастору дзюбай грак.
Там Зяльвянка паглынала жэрліц.
І махаў рукой табе вятрак,
Як анёлак, па-над вёскай Жэрна.

## Балада восені

Восень абарвала ўсе канцы
У пралогу медналістай драмы.
Вунь яе вятрыстыя ганцы
Грукаюць у вулічную браму

Вастрыём пажарнай каланчы
Перахрысцяць, як на здраду, флюгер.
І прычынай на златвесны чын
Зарыпяць і фугі, і фрамугі.

Парк у мех драпежны заграбуць,
Як падатак года на маёмасць.
Жарабцы пад бронзаю храпуць —
Ім умоўнасць зроду невядома.

І каб звесці белы свет на скрут,
Залічыць жаданае за подзвіг,
Дык запаляць пад усходам трут,
А пажар сустрэнуць на заходзе.

Ім — што свіснуць — горад абакраць!
Зачыніць на засаўку калодзеж!
Мусібыць, зачыняць небакрай
І крыж-накрыж вокны закалоцяць.

## Вір

Яшчэ ў Адэльску жыў вятрак
І рыбы мелася навалам,
Ляцелі лодкі на вятрах,
А млынам неба кіравала.

Апала сонца булава.
Патужыў рыбачок папружку.
І вецер хвалі габляваў
І гнаў сябе паперад стружку.

На плёсы плюхала вада,
А плёскат бавіўся ў зарэччы.
Ды чаек плач па невадах
Заўсёды вуху недарэчны.

Мянушка выспы «Сахалін».
Туды зацята пяўся човен.

Вось так імкнуцца да былін,
Назад вяртаюцца — ні слова…

Закруціць жорны белы вір —
Млынар мясцовых звад і баек,
І ходзіць з шапкай набакір,
Пра лёс тутэйшы ані дбае.

## Пад лёдам

Над прошчай чорны мост завіс.
Над ім сузор'яў сны кішэлі,
Ды ў іх кароткі жыццяпіс
У неба цёмнага кішэнях.

Мароз муры загартаваў,
І камянелі сцены нанач.
А крыгі вецер згуртаваў
І захаваў пад імі Нарач.

Збылася мара ездака,
Бо надакучыла прастойваць.
І ў сані кінула рука
Сянца пахучага ад стога.

Дзе след рыбацкі загавеў,
А чайкі трызнілі палётам,
Над лёдам свішча снегавей,
Ды цёпла возеру пад лёдам.

## Паэма

Узгоркі. Паддашак нябёс.
Стукоча няспынна гадзіннік.
Ды помніцца жыта найбольш,
Куды нас валоўка вадзіла.

## Світанак

Стаіць асенні Нёман:
Стамілі сенакосы.
Ты тут, як незнаёмец,
Або сваяк ускосны?

Яго стаяць глыбіні:
Згубілі плёскат вёслаў.
Ды не! Хлапцы згубілі,
Адчайныя на вёснах.

Світае склюд наранку,
Знячэўлены начамі.
І Нёману фіранка
Акенца адчыняе.






нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Сябар Саюза пісьменнікаў з 1971 года. Выдаў зборнікі паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра цябе», «Сын небасхілу», «Багра». Узначальвае абласную арганізацыю СБП.

МІХАСЬ ГУБЕРНАТАРАЎ

## Каханай

Я ў цябе, дзяўчына, закаханы,
Толькі ў вочы глянеш, як анёл.
Пацалункі, як і бэз духмяны
Прывялі нас за вясельны стол.
Хопіць нам і радасці, і смутку,
Век пражыць — не поле перайсці.
Я цалую мілую галубку
І жадаю сонейка ў жыцці.
Жыць са мною ты і вечнасць згодна,
Шчырая, з душою залатой.
Абдымаць мне хочацца пяшчотна
Любую з сардэчнай дабратой.
Падару табе я песню кветак
Ад лугоў духмяных і ад ніў,
Каб любіла ты свайго паэта,
Як ніхто ніколі не любіў.

## Парачанка

Ягады, грыбы збірала зранку,
Шчодра іх дарыў гасцінны бор.
Так сустрэў я ў лесе парачанку
З сінімі вачамі ад азёр.
Нізка пакланілася паненка,
Нібы лес густы яе радня.
Аблягала стройны стан сукенка,
Песціла дзяўчынку цішыня.
І пачуў я раптам пах смалісты
З чарамі дзявочае красы.
А за ёю дуб стаяў плячысты,
І шапталі казку верасы.
Пройдзе час — знайду цябе, славянка.
Не пакіну слаўную ў журбе.
Зараніла ў сэрца парачанка
Ягадку лясную — мілую сябе.



Любая, сыграй мне паланэз,
Я тваім навекі стану.
А да вокнаў пальчыкамі бэз
Дацягнуўся з сіняга туману.
Любая, цябе я прытулю,
Як бярозку майскую,
Каб любіла ты сваю зямлю
Матчынаю ласкаю.

## Летапісец вайны

Мы ніколі цябе не забудзем,
Песні шчырай няма цаны,
Якую дарыў шчодра людзям
Летапісец страшнай вайны.
Суровыя, мужныя творы
Раслі з-пад пяра салдата.
Згаралі героі, як зоры,
Сабой набліжаючы свята.
І ў сне даганялі іх кулі,
Дачасна лёг снег сівізны,
Як светлай душою адчулі,
Што твар не жаночы ў вайны.
Хацелася жыць толькі ў міры,
За стол запрашаць шмат гасцей.
Не стаў халуём талент шчыры
Для шкурнікаў розных масцей.
Прайшоў праз вайны навальніцу,
А многія леглі сябры.
Сустрэў і сваю чараўніцу
З усмешкаю яснай зары
Пралітай слязой і крывёю
На помніку ты між імён.
Ды якой жывой вадою
Вярнулі цябе ў батальён?
Плыў клін над табой жураўліны,
Кіпеў твой да ворага гнеў.
З любоўю да роднай Айчыны
Ты з матчынай песняй мужнеў.
Хапіла папрокаў і крыкаў,
Што праўду сказаў аб вайне.

Загадка твая, Васіль Быкаў,
Жыве ў векапомнай вясне.
Радзіма для ўсіх нас святая
З сынамі дайшла аж да зор.
Няхай да цябе прылятае
Зноў песня з блакітных азёр.
Шануем твaё пажаданне,
Каб мы па-братэрску жылі.
Хай кожны чацвёрты паўстане
З палітай крывёю зямлі.
І пойдзе ў нас шчыра гаворка,
Як сядзем за белы абрус.
Нам свеціць душы тваёй зорка,
Сапраўдны ты наш беларус.

## З юначага

На рамонку гадаў, варажыў —
Стала ты маім светлым жаданнем.
Многа ў свеце я перажыў,
Каб і ты даражыла каханнем.
Верыў вуснам гарачым, святым,
Тваім лёгкім, зваблівым крокам,
І вясёлым вачам маладым,
І грудзям, што ўздыхалі глыбока.
Верыў смеху твайму і слязам,
Юным марам, жаданням, лятункам.
Як хацелася мне расказаць,
Як я верыў тваім пацалункам.
Гэта песня не стане былой —
Нехта першы насустрач кранецца…
Зноў пад белай галінкай з пчалой
Пацалунак мядовы здаецца.



Не прайсці, не праехаць
Мне ў былую вясну.
Да цябе, мая ўцеха,
Галаву прыхіну.
Любай скончана песня,
Голас — спеў малады
Знік за тым паднябессем,
Дзе знікаюць гады.
Як мяне цалавала,
Абдымала ў цішы,
Белым лебедзем стала
Песня юнай душы.
Разгарнуліся крылы
У блакіце шырэй.
Свет мой ясны і мілы,
Будзь з гадамі дабрэй.
Верне радасці рэха
Мне твая маладосць.
Самай лепшай уцехай
Ты ў жыцці гэтым ёсць.
З мілай, юнаю, весняй
Вера ў сэрцы маім.
Не, не скончана песня —
Пець яе маладым.



Ты з марай сустрэцца хацела,
На плечы — хусцінку з нябёс.
На сонцам налітае цела
Ляглі мае рукі — як лёс.
Гару ад вачэй, ад пагляду,
Нібыта цалую спярша.
Да белага зыркага саду
Цягнулася светла душа.
Клянуся, яна мне клянецца,
Жыві, мая вера, жыві.
Пялёсткі падобны на сэрца,
Гарачае сэрца любві.
Ласкава галінкам смяецца,
Што бачылі — як нараклі —
З пяшчотай сустрэліся пальцы,

І вусны праз вечнасць прайшлі.
Зайздросцілі нашай планеце
І зоры, што ноччу цвілі:
Абняліся двое на свеце
На радасць матулі-зямлі.
Цябе за руку я трымаю,
Пад бас залатога чмяля
На шчасце нас кветкамі мая
Благаслаўляе зямля.
Цалую я рукі нявесце,
Цалую грудзей белізну.
На самай блакітнай планеце
Больш стала на песню адну.






нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Ангелаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Настаўнічаў, выкладаў у ВНУ. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг «Паверка», «Пакланенне агню». Жыве ў Гродне.

АРТУР КАМАРОЎСКІ

## Балючае

Заўжды пакідаюць нас самыя светлыя людзі,
якіх мы маглі бязмежна і доўга кахаць.
І восень-хвароба халодзіць дажджамі грудзі,
маўляў, ты збірайся, пара і табе канаць.
Ды толькі гляджу на пякучую неба сінечу,
адзіны кляновы лісток за шыбай акна.
Другое каханне не лечыць, зусім не лечыць,
калі у душы — па-ранейшаму ты адна.

## І восень…

І восень запляце ў сваю касу
прагорклы жаль сляпога расставання,
што я цябе, што я тваю красу
згубіў падчас імжыстага світання.
Ў апалым лісці, ў белых туманах,
ў вятрах халодна-колкіх і варожых
шукаў цябе, як веры той, манах,
бо ёй жыве, а без яе — не можа.

## Толькі

І ўсё, што застанецца ўспамінаць, —
халодны позірк з даўняй фотакарткі.
І будуць дні, бы прывіды, мінаць,
і я да лірыкі зраблюся палкім.
Падасца, што не цішыня, а ты
чытаеш Барадуліна і Блока,
бароначы мяне ад нематы,
але не побач, дзесьці там… далёка.

## Мне шмат не трэба

Мне шмат не трэба: я хачу ісці
Туды, дзе ранне пахне васількамі,
Дзе дыхае свабодай кожны камень,
Дзе кожны вокліч з хаты — мамін,
Туды хачу ісці.
Мне шмат не трэба: я хачу вясны.
Знянацку, як у гэтым годзе,
Каб рэкі забурлілі ў крыгаходзе,
Скарыўшыся свавольніцкай прыродзе.
Такой хачу вясны.
Мне шмат не трэба: я хачу спяваць
Пра тое, што было, што ёсць і будзе,
Аб вернасці, адданасці, аб цудзе,
Аб тым, чаго баяцца людзі.
Я так хачу спяваць.
Мне шмат не трэба: я хачу кахаць.
Сустрэць яе на гарадзенскіх вулках,
Каб рэха ад абцасаў было гулкім,
Каб сэрца грала кожнай стрункай.
Я так хачу кахаць.
Мне шмат не трэба: я хачу жыцця.
Каб сонца грэла, а дажджы студзілі,
Каб людзі не пазнаўшы — не судзілі,
Сябры былі, а ворагі забылі.
Я жыць хачу.






нарадзіўся ў 1991 годзе ў Міры Карэліцкага раёна. Скончыў філфак ГрДУ імя Я. Купалы па спецыяльнасці «беларуская філалогія», магістратуру пры ўніверсітэце па спецыяльнасці «літаратуразнаўства». Друкаваўся ў часопісах «Тэрмапілы», «Маладосць», «Верасень».

МЕЧЫСЛАЎ КУРЫЛОВІЧ

## Між Харыбдаю і Сцылай

Што ні князь, то лямант юру,
жывата цяпер і тут.
Верагоднасці амураў
вырашае Боскі суд,

veto гонару — liberum,
з батраком — вазьмі, падай,
а ўшчаміла хвост у дзверы
пагалоска — нашых знай,

каб дашчэнту анямела
біяграфія з дзвюх дат,
дзе, як чорнае па белым:
не вярнуцца вам назад.

Ды трымціць агменьчык хвілі,
скуль пачаўся наш адлік.
Між Харыбдаю і Сцылай
не пагас — дасюль не знік.

## Апошні кароль

Во все время своего государствования интересы нашей империи собственными почитать, их остерегать и им всеми силами по возможности поспешствовать.

*З таемнай умовы паміж Кацярынай II і Станіславам Аўгустам Панятоўскім*

Юрлівай эпохі юрлівыя дзеці.
Апошні, апошні кароль
(давер на павер Кацярынавай мэце),
як зніклай Краіны пароль.
Наіўнасць міністраў і соймавай шляхты.
Фанфары. Віват. Лістапад —
з пажоўклаю кветкай магнацкія шашні —
пралог для кастрычніцкіх дат.

Набатная споведзь — Тадэвуш Касцюшка,
нядошлая ода сынам,
якіх бор зубрыны у прыцемках гушкаў
на памяць сівым перунам.

## Не падзялілі

Для трапнай высновы
Бог даў прывілеі,
каб мудрыя словы
братэрскі дух грэлі.

Апошніх адлюдкаў
без моцнае веры
на Поўню на суткі
пагналі жаўнеры,
дзе з голаду Кука
дзялілі пароўну
(Пілат умыў рукі),
браты шчэ і Поўню.

## Запавет

> Табою ўсягды пагарджалі,
> Цябе не пушчалі з ярма,
> І душу тваю абакралі, —
> У ёй нават мовы няма.
>
> *Максім Багдановіч*

Яднала слова берагі
зарой прарочага прасвету —
людскі рахунак за даўгі
ліцвінскі час прыслаў паэту.

Зімою лютаю з «Вянка»
вярэдзіў водар дух нашчадкам.
З лядовым этнасам рака
будзіла вокліч соннай згадкай.
А Лебедзь досвітны Страцім
стаў шляхам досвітным паэта,
каб наскай кветкаю кілім
з персідскім шармам быў апеты…

## Нестыкоўка

А нам каб смачна: пальцам пханую,
яшчэ й з вyслоўем — пад шашлык,
а з успамінаў «окоянную»
хай дапівае бальшавік.

А там, дзе пальцам пхаць не здольныя,
як за правіннасць без віны,
бытуе думка манапольная:
«А нам — каб толькі без вайны».

## Нaватворныя гульні

Гульцы, бы шулеры, пры карце,
ганяюць босага па пожні,
каб дух, ачышчаны у гарце,
дакладна знаў, што ён парожні.

Гульня не ў дурня падкіднога,
а ў газ і нафту. Супраць — лохі,
чый лёс ад дышла да нарога
распішуць пулькай некралогі.

Банкуе долар, хоць з паперы
і на яе адпусціць сродкі,
бы рыбе, кінутай на бераг,
ён дасць крэдыт, зусім кароткі.

## Сустрэча з хатай

Трыснягі і аер па-за хатай,
дэфіляда прысадных бяроз,
што вечнасць вялі па загаду
з найменнем для часу — пагост.

А дапёк мяне форум птушыны,
што ў бяссонне прыходзіў праклёнам,
калі сум даганяў мне хвіліны
на балконе сінечай зашклёным.

Грыбны водар смакуе лясок,
што згубіў пратаптаную сцежку…
І клякоча буслом вершаваны радок
пад сто грам і з закускай на рэшту.

## Юбілей

Запрасіла на баль
грыбасейная восень,

дзе бацькоўшчыны гай
белы грыб для сноў носіць.

І далася у знак
з хвастом знічка з-пад Гродна.
Хмарачосавы гмах
абналічваў рэкорды,

скуль, бы з Боскіх званіц,
пакаціўся упокат
жыцця шэрага бліц
пад запрошаны рогат.

Фанабэрны абцас
з Боскай кпіць дапамогі,
калі ціснуць на газ
у танцоўшчыкаў ногі,

бо сусед пада мной
(год умоўна да волі)
паўтарае, бы Ной
у час буры: даво-олі.

## Паэзія

То спаліць гарэм Праметэя,
то Музу у Тураў пакліча,
на год ці на два анямее
і ў снах жураўлём закурлыча.
То ўспомніць дасціпныя тропы
яшчэ з універаў паганскіх,
Гусоўскага ў цэнтры Еўропы
бізонам лірычна-славянскім,
А фрэскам і рунам Каложы
прыпомніць ліцвінскія былі,
каб людзі ад Буга да Сожа
найперш хоць сябе палюбілі.



нарадзіўся ў 1939 годзе ў Гродне. Па прафесіі урач. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, анколагам і хірургам у Гродне і хірургам у рыбалоўным флоце Мурманска. Аўтар кніг паэзіі «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба», «Вчерашние святыни», «Матыў прынёманскіх вятроў».



ЯЎГЕН ПЕТРАШЭВІЧ

## Балада пра Грунвальд

Перамагчы — задача ваяра,
падзею векаславіць —
мэта паэта-песняра.

1

Чуюць голас зазыўны славяне,
Абыякавым быць ніхто тут не ў стане.
Падымайцеся, Польшча, Расія, Украіна, Малдова й Літва!
Нас чакае вялікая бітва.
Ад спусташальных крыжацкіх набегаў
Сталіліся людзі,
Надзейны адпор ім учынены будзе.

2

Нястомна куюць кавалі
Кальчугі, мячы, дзіды й латы
У кузнях гарачых.
А як жа іначай?
У народзе падымаюцца помсты хвалі
У гарадах, паселішчах, вёсках,
І дыбіцца ў сэрцах хваля народнай адплаты.

3

Князь Гарадзенскі
Ля Каложскай царквы
Збірае народнае веча
І будзе казаць:
— Грамада!
Парадаваць вас не маю чым.
Дык узнімем мячы на крыжацкую нечысць?
— Узнімем мячы! —
Узнёсла гудзе веча.

4

Гараджане-мужчыны на палянцы збіраюцца спраўна.
Сякуцца на мячах заўзята,
А пазней — сапраўдна.
І прыгаворваюць:

«Бі свой свайго, каб чужыя баяліся».
(Нават найміты татары-інструктары бойцы здзіўляліся.)

5

Былі выпадкова з маладых «параненыя»,
А старэйшыя ваяры супакойвалі парадамі:
— Кажы, перастала балець!
Прыкладвалі чыстацел ці трыпутнік —
І неўзабаве гаіліся раны з дапамогаю Божай.

6

А хлапчукі маладыя здалёк пільна назіралі,
Як дарослыя ваяры «ў вайну гулялі» —
Скуль ім ведаць,
Што Тэўтонскія рыцары іх чакалі з мячамі
У далёкім краі?

7

Спрытна гарцуюць ваяры на выгане
На турніры з дзідамі на конях.
Пад баявой харугвай Пагоні
Набіраюцца баявога спрыту, ахвоты,
Сякуцца ў бойцы да сёмага поту —
А потым едуць купацца ў рэчцы
І песню заводзяць, дарэчы:

**Нёман сіні**

Плыве струмень з далячыні,
Набірае сілы моц,
Прыгажун мой Нёман сіні,
Льешся ўдаль, як шчасны лёс.

Промнем сонечным сагрэты,
Дорыш мору свой паклон.
Не стрымаць твайго імпэту,
Хваль чароўны перазвон.

Дорыш сілу і пачуцці —
Шчырых сэрцаў уладар.
Ты калыска ў нашым свеце,
Наймілейшы Божы дар.

8

Да берага крочаць дзяўчаты,
Верныя наказу матулі,
Нясуць паласкаць ручнікі і кашулі.
І хлопцам у адказ летняй хвілінкай
Пяюць Купалінку.

**Радуйся, Купалінка**

Рана на Івана
Кветачкі збірала.

*Прыпеў:*
Радуйся, Купалінка,
Купалінка

Кветачкі збірала,
Вяночак сплятала.

*Прыпеў.*

Вяночак сплятала,
На ваду пускала.

*Прыпеў.*

На ваду пускала,
Яна сустракала.

*Прыпеў.*

Яна сустракала,
Ручку падавала.

*Прыпеў.*

Ручку падавала,
Нарачонай стала.

*Прыпеў:*
Радуйся, Купалінка,
Купалінка.

9

А хлопцы сваволяць з ахвотай:
Апырскваюць дзяўчатам ножкі.
Ці хто з іх крыўдуе залётам?..
Ні трошкі.

10

Раптам ляцяць вершнікі ва ўвесь апор,
З гікам зухаватым выкрыкваюць моцна:
— Заўтра ў поўным баявым вайсковы збор
На ўсходзе сонца.

11

І на ўсходзе Ярылы-сонца,
Як першы промень глянуў у аконца,
Хтосьці галосіць:
«Прачніся, люд любы!»
У ноч развітальную людзям было не да сну,
Зазыўна ваяроў склікаюць трубы
На бой, на вайну.

12

Шэрагамі стаіць на плошчы дружына.
Князь на белым кані аб’язджае,
Косіць на ўсіх вачыма.
Трапеча княжае сэрца.
Трывожная прычына…
Ці адзіная мая дружына?
Пытае проста:
— Мо хто забыўся чаго на расстанне?
— Княжа, забыўся пацалаваць дзяўчыну-нявесту…
Дружына ўся залівaецца смехам.
— А не забыўся ты меч? Была б тут пацеха!

13

Стары святар, як голуб белы,
Шэрагі ваяроў абходзіць
І святой вадою тройчы накрыж кропіць.
— Божа наш, дапамажы рабам тваім у ліхую гадзіну.
Хор стройна і дружна псалом пяе з уздымам.

14

Абоз, гарматы, пешыя і вершнікі на конях
На захад бяруць накірунак павольна
Пад харугвай баявой Пагоні,
Аж кроў прылівае ў скроні.
Дзяўчаты хусцінкамі белымі выціраюць слязіны,
Матулі набожна ваяроў хрысцяць у спіны.
Здалёк чуваць развітальныя трубы:
«Бывай, край наш любы».

**Тры брацікі**

Ішлі дарогаю,
Ішлі з трывогаю,
Ішлі ў паход салдацікі,
А на світаначку
Выйшлі на ганачак,
Родныя выйшлі брацікі.

Старэйшы меч нясе,
Другі каня вядзе.
Здалёк у паход труба заве.
А той малодзенькі,
Хлопчык прыгожанькі,
Родную песеньку пяе:

— Вазьмі нас, брацiку,
Вазьмі нас, родненькі,
Вазьмі з сабою на вайну.
— Вазьму я востры меч,
Вазьму я коніка,
А вас у хаце пакіну.

Паеду смела ў бой,
Мае сябры са мной,
А ў сэрцы слова матчына:
Сынок, аберагай
Наш мілы родны край,
Цудоўную нашу спадчыну.

15

У шматвёрстым суровым паходзе
З ранку і да зары
Пасябравалі між сабой князі, коннікі, ваяры,
А вечарамі на кожным прывале
Пры вогнішчах
Песні ды іскры да неба ўзляталі.

**Пойдзем наперад дружна**

Пойдзем наперад дружна,
Нас, пэўна, выбраў час.
Воля, сябры і мужнасць
Моцна яднаюць нас.
А за спінаю вояў
Бацькаўшчына ляжыць,
На вострых дзідах — воля
Гранямі зіхаціць.
Гэй, перад намі Грунвальд,
Дай сілы, родны край.
Не замаўкай харугва,
Не замаўкай, спявай.

16

Войска Вялікага Княства Літоўскага
Складалася з баявых харугваў выбітных,
І харугваў землякоў, пад гербам «Пагоня»,
Радавітага герба «Калумны» Вітаўта.

17

Слаўныя рыцары сталі ў харугвах:
Віленскай, гродзенскай, трокскай,
Ковенскай, лідскай, навагрудскай,
Полацкай, медніцкай, віцебскай,
Брэсцкай, смаленскай, кіеўскай,
Драгічынскай, камянецкай, ваўкавыскай,
Старадубскай, пінскай…
А ўсяго іх было пяцьдзясят з лішкам.

18

Татарскім дапаможным аддзелам
Кіраваў хан Джэлал-ад-Дзін,
Смаленскімі і мсціслаўскімі харугвамі —
Князь Сямён Лінгвін,
Падольскімі — Іван Жэявід,
Літоўскімі — Пётар Гаштольд і Манівід.

19

Пад галоўнай харугвай Польскага каралеўства
(Белы арол на чырвоным полі)
Адмысловыя рыцары стаялі.
Побач стаяла шыкоўна Гоньча харугва.
(З двума залатымі крыжамі ў блакітным полі.)

20

Казалі князі:
— Ваяры!
Будзе крывавая сеча з ранку да вечара,
Тут шкадаваць няма чаго.

21

Перад боем уначы
Усім не да сну.
Воі не змыкаюць вочы,
Хто меч точыць,
Хто моліцца: «Госпадзі, абарані маю душу»,
А хто шэпча малітву «За радзіму Літву».

22

Прыціхла ўсё ў абозе,
Хтось крадком слязу выцірае,
Хто ўсхліпвае, каб не чулі:
— Дапамажы, літасцівы Божа,
Пабачыць ізноў свой родны край
І на бацькаўскім парозе
Сустрэцца з роднай матуляй.

23

А маладым ваярам
Вайна, як гульня.
Не церпіцца ім штосьці,
І бестурботна ў прыцемках
Гуляюць сабе ў косці.

24

У вячэрняй цішы
Песня чутна там на ўзгорку.
Яе падхапілі на слых.
Магчыма, тут яна і недарэчы,
Але прыслухацца…
Жыве ў ёй ліцвінскі дух,
І так магічна яднае сяброў сардэчна.
А песню вядзе, як мёд, густым тонам
Ваяр з-пад Слоніма Конан.

**Князю Вітаўту віват!**

Слухай песню, ваяры,
Нос трымайце дагары.

*Прыпеў:*
Гэй, гэй, гэй!
І во-ха-ха!
Нос трымайце дагары.

Пакажы сябе, Літва,
Будзе моцная бітва.

*Прыпеў:*
Гэй, гэй, гэй!
І во-ха-ха!
Будзе моцная бітва.

Пад Грунвальдам будзе бой,
Павядзе нас князь Вітольд.

*Прыпеў:*
Гэй, гэй, гэй!
І во-ха-ха!
Павядзе нас князь Вітольд.

Хай адведае крыжак
Гартаваных мечаў смак.

*Прыпеў:*
Гэй, гэй, гэй!
І во-ха-ха!
Гартаваных мечаў смак.

Князя моцная рука —
Крыжакам даць драпака!

*Прыпеў:*
Гэй, гэй, гэй!
І во-ха-ха!
Крыжакам даць драпака!

25

Заціхла песня,
І гоман змоўк раптоўна.
Пакрыла ноч усё чорнай коўдрай,
Толькі месяц двухрогі не дрэмле —
Штосьці хоча падгледзець.
Вісіць на варце ў небе.

26

Як толькі пырснулі сонца першыя промні,
Ваяроў разбудзілі сурмы і горны.
Князь Вітаўт гарцуе на белым кані,
Натхняе вояў стойка трымацца ў змаганні,
Вецер палошча харугву з выявай «Пагоні»,
Суровыя твары вояў у маўчанні.

27

Ля князя Вітаўта збіраюцца маладыя ваяры,
Каб перад бітваю пасвяціў іх у рыцары.

**Песня маладых рыцараў**

Гэй, узніміце харугвы,
Вояў склікайце сурмы.
Пад дроб барабанаў плячо да пляча.
— На коні!
— На коні!
— Пагоня!

— Пагоня!
Ударым!
Хай помніць назаўжды крыжак
Мяча загартаваны горкі смак.
Хай помніць назаўжды крыжак
Мяча загартаваны горкі смак.
Гэй, гэй!

28

Крыўду і помсту неслі здалёк вяльможна
На паказ усяму свету.
Які дзень удаўся прыгожы,
Божа, дзякуй за добрую прыкмету.
А там у варожым стане
Трывожна гучаць горны,
Даносіць вецер гукі паходнага аргана,
Манахаў спеў манатонны.

29

Не спяшаўся нават кароль Ягайла,
Але ірваўся ў атаку князь Вітаўт.
Кароль павольна апранаў латы,
Сеў на каня баявога спрытна,
Выехаў на ўзгорак, вярнуўся ў даліну,
Надзеў шалом новы,
Наваспечаным рыцарам казаў прамову з хвіліну:
— Хай жыве Польшча, Літва і Карона!

30

Раптам вестку даносяць стражнікі:
— Прыбылі два герольды важныя.
У аднаго на грудзях знак,
Знак Свяшчэннай Рымскай імперыі —
Чорны арол у залатым полі,
А ў другога — герб шчацінскіх князёў —
На белым полі грыф чорны.

31

Герольды ўткнулі ў зямлю два мячы калёныя
З надпісамі-праклёнамі:
«Drink blud» — «Пі кроў» —
Ад хохмайстра і вялікага маршала
Каралю Польшчы і князю Літвы

І на словах сурова перадалі выклік да бітвы:
«Калі ж, можа, вялікаму князю і каралю
Не хапае прасторы, — сказалі пасланцы, —
То мы адыдзем колькі трэба,
Каб даць месца».

32

— Мячоў у нас і сваіх хапае,
А прасторы насамрэч мала, — сказаў Ягайла.

33

І на самай справе ордэнскія войскі
Манеўрамі падманнымі пасунуліся назад,
Адкрываючы даліну з перашкодамі,
Замаскаванымі ямамі, каб заманіць у пастку
Баявыя дружыны.

34

Князь кажа:
— Быў гонар закрануты кожнага з вояў!
— На Грунвальд!
— На Грунвальд! —
Гул пракаціўся па цэлым полі.
І па загадзе бліснулі на сонцы мячы —
Шматтысячная армада на крыжакоў імчыць.
Літоўскае войска з поклічам «Вільня»
Пайшло ў атаку.
І з захаду, спяваючы «Багародзіцу»,
Рушылі палякі.
Крыжацкія гарматы паспелі
Даць два залпы,
І заціхлі яны, як і лучнікі, арбалетнікі,
Бо напорам вояў былі выбітыя.

35

Наперадзе імчалася лёгкая конніца
Хана Джэлал-ад-Дзіна.
Іх крывавыя мячы іскрыліся на сонцы,
Пулялі арканамі са свістамі і гікамі,
І за хвіліну частка іх трапіла ў пасткі-ямы,
Але страты былі невялікія.

36

Ваяр малады адчайна рынуўся ў бой
І ўпаў ад смяротнае раны.
Канае ён разам з надзеяй святой,
Звалены дзідай варожай з сядла,
Коньмі здратаваны.

37

Як джала, укалола воя крыжацкая дзіда,
Божа, дай сілы ў сядле ўтрымацца.
Што кружыш над полем, чорнае варанне, як прывід?
Здабычы вам не дачакацца!
Каму наканавана жыць — таму ў жывых застацца.

38

Дзве стыхіі сышліся, як агонь і вада,
На Грунвальдскім пякельным абшары —
Паклікала помста — ліхая бяда
Стаць з ворагам твар да твару.

39

Пад напорам крыжацкай навалы
Вялікая каралеўская харугва ўпала
З выявай Белага арла.
Але ў тую ж хвілю
Яе падхапілі.
Для крыжакаў здалося —
Крытычны момант настаў,
І пачуўся пераможны спеў:
«Хрыстос паўстаў»!

40

І тут не дарэмна
Ягайла наладзіў падмацаванне напярод —
Цераз лес
Паслаў засаду патаемна
Да правага фланга крыжакам у абход.

41

Ульрых фон Юнгінген
Сам на чале атакуе каралеўскую армію.
А на самога караля Ягайлу напад адбыўся —
Леапольд фон Кёкерытц, адважны рыцар,
Што падпяразаны залатым поясам, здаля
Разагнаў каня і дзідай цэліў у караля.
Ягайла прыняў выклік без дзіва
І параніў рыцара дзідай.

42

А рыцар Алешніцкі Збігнеў
Пульнуў у Ульрыха фон Юнгінгена дзідай.
Але дарэмна.
Той, як сведкі гавораць,
Усміхнуўся і падбіў дзіду ўгору…
Пусціўся за Алешніцкім удагон,
Але вярнуўся, пабаяўся трапіць у палон.

43

Князь Вітаўт прымае тактычны ход — падманку:
Праваму флангу адступіць дае каманду.
За воямі крыжакі ладзяць пагоню — праслед слынны
І натыкаюцца на засаду ўкраінцаў, малдаванаў, ліцвінаў.
Звон сталёвых мячоў аб тарчы і шлемы,
Крыкі вояў, енк параненых,
Іржанне коней
Зліліся ў адну какафонію.

44

Правыя і левыя флангі крыжакоў
Акружаліся паасобку менавіта,
Не вытрымалі напору, з жарам
Былі ўшчэнт разбіты.
Здаліся рыцары Хэлмінскай зямлі,
Замежныя «госці» — найміты харугвы здалі.
Ператалі супрацiўляцца венгры, чэхі, мараўцы, швейцарцы.
Здаваліся: хто ў жывых здолеў застацца?

45

Рэштка крыжакоў замацавалася ў абозе,
Пабудавалі барыкады,
Сцягнулі гарматы.
Але гэта ім не дапаможа…
Лагер быў здабыты,
Абаронцы перабіты.
Забітых — тысячы, раненых — споўна,
У аблогу трапіў хохмайстар галоўны.

46

Загінуў хохмайстар Ульрых фон Юнгінген,
І амаль усе саноўнікі — марна:
Вялікі комтар, вялікі маршал,
Вялікі штатнік, скарбнік…
І цэлы шэраг военачальнікаў.
Страціў жыццё Генрык фон Швельбок —
Камандзір вайсковага аддзела з Тухолы,
Што перад бітвай казаў узнёсла:
— Пакуль не афарбую меч кроўю ворагаў,
Не пакладу ў похву.

47

Аб’яднанае саюзнае войска
Здзейсніла справу з адвагай.
Крыжацкай навале ўчынена помста.
Ці запануе ў жыцці раўнавага?
Суд ідзе звыш, напэўна, над усім гэтым,
Толькі не людзі правяць Сусветам.

48

Стамілася купальскае сонца,
Спусціцца за лес павінна.
Заціхлі енкі і стогны хлопцаў —
Смерць абняла крыжакоў, палякаў, ліцвінаў.
Цёмным начным пакрывалам пакрыты воі,
Сном вечным заснулі на полі.
А там на Радзіме ў неспакоі кожную хвілю
Сыноў з паходу чакаюць матулі.

49

Разбіты тэўтонцы з усёй сваёй світай
Саюзным напорам павальным.
Сорак крыжацкіх харугваў здабыта
У бітве пад самым Грунвальдам.
Саюзныя войскі крыжакам учынілі
Акружэнне накшталт купальскага вянца,
З той пары ордэн абяссілеў —
Гэта быў пачатак канца.

50

Грунвальдская бітва разбурыла падмурак
Тэўтонскай структуры і ладу.
Паклала пачатак заняпаду.
Падзея адбылася пры Грунвальдзе
У 1410 годзе,
Далі адпор набегам крыжакоў —
І годзе!

*03.04.2014*






нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна. Настаўнік музыкі, закончыў Мінскую музычную вучэльню. З'яўляецца членам Гродзенскага клуба кампазітараў-аматараў. Аўтар скульптур для літаратурнага музея ў Гудзевічах. Узнагароджаны Дыпломам абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны за цыкл песень-балад на гістарычную тэматыку на вершы Я. Чачота. Выдаў зборнікі паэзіі «Пасынкі» і «Віншаванкі».

ВІКТОРЫЯ СМОЛКА



У светлым сэрцы зноў не светла.
Ды восень ў тым не папракні.
Памерла маладое лета,
Паўсталі восеньскія дні.

Цяпер не дождж гуляе зранку,
З аблокаў льецца на зямлю —
То вочы Маці ад світанку
Да цемры ткуць слязу сваю.

Саткаўшы, спавіваюць лісце,
Што не жадае адлятаць.
Для сонца доля — нарадзіцца,
Для цемры доля — паміраць…



А гэта лета, ад сонца святое,
Народнатворчым, фальклорным было.
Але жыццё і ў лета такое —
Ледзь заструменіла і адышло.

Але вернецца яно, уваскрэсне,
Яшчэ кране струны думак маіх,
Калі народзяцца вершы і песні,
Калі захочацца плакаць ад іх…



Букет лістоў у час сустрэчы падару,
Калі ўбачымся у восеньскім мы садзе.
Я па далькажыку з табой пагавару
Аб надыходзячым праз тыдзень лістападзе…

Усё маленства захаваецца ў радках,
Не я, а Бог яго на вечнасць захавае,
А твая музыка, як звонкая рака,
Вясною новай ў маім сэрцы заіграе.

І нездарма каля вакзала светлы храм,
І нездарма туды хаджу я у нядзелю.
Далькажык я свайму Анёлу перадам,
Калі ты святам мне дашлеш паведамленне…



Я прыйшла да Каложы з малітваю —
Ранкам траўня ў Божы Дом.
Хвалі Нёмана аксамітныя
З сэрцам моляцца ва ўнісон.

Хор нябесных анёлаў пачуецца —
Ля Каложы пяюць салаўі.
І душа гэтым спевам ўратуецца
Ад самоты і ад тугі…



Я самотная не ад самоты,
Я вясенняя не ад вясны —
Проста ў сэрцы расквітнелі ноты,
І цябе нагадваюць яны.

Дзе кастрычнік, там мая надзея,
Ад якой у сэрцы верш нашу,
Павуцінне хуткае нядзелі
Зноў маю заблытае душу.

Да цябе, я ведаю, прыеду,
Прывязу на памяць сакавік,
Калі Неба мне пашле білеты
На чарговы восеньскі цягнік…

## Не сумуй

Не сумуй ты па мне, не сумуй…
Сыпле зорачкі снежныя вецер,
Мне здаецца, надзею тваю
Светлым сумам ён сыпле на плечы.

Крок за крокам… Зноў скончыўся дзень.
Адшумелі віхурай падзеі.

Крок за крокам. І зноў для мяне
Твае песні спявае Надзея.

Не сумуй пра мяне, мой анёл…
Будзем верыць у нашу сустрэчу.
Быццам мары святыя, на дол
Сыпле зорачкі снежныя вецер…



Нас кветачка цешыць чужая,
Хоць роднай жыццю не стае.
Чаму ж тая шчырасць згасае,
Што Бог да Радзімы дае?!

Чаму сэрца б'ецца маўкліва,
Бясслёзна на роднай мяжы,
Калі залацістая ніва
Купаецца ў летнім дажджы?!



А верасень хутка міне,
Як краска, асыпацца здолее,
Яшчэ суцяшае мяне
Лістота зялёнага колеру.

Нябёсы у смутку пральюць
Слязу — дажджавое праменне,
І гронку з рабіны сарвуць,
Як вогненнае імгненне.

Яшчэ так далёка зіма
І снежныя вальсы завеі,
Бо ў сэрцы квітнее вясна,
І лета святое квітнее.

І хочацца гучна спяваць
Не сумам, а радасцю сталай,
Каб верасень мог паміраць,
Мяне пакідаючы з марай…



З дзіцячай крыўдай горкай
Сачу затым, як міла
Каля таго пагорка
Цягнік ўздымае крылы.

Знікае нерашуча,
Нібы пачуць імкнецца,
Як птушкаю пявучай
Зноў заспявала сэрца.

Хоць па душы шматструннай
Смычок надзеі грае,
Але цягнік той сумны
Зноў не са мной знікае.

На той вагончык сіні
Гляджу, не плачу ледзьве,
Што да тваёй Радзімы
Ён без мяне прыедзе…

## Ігнату Дамейку

У студзеньскі дзень на чужыне,
Калі снег нягодны ішоў,
З Любоўю да светлай Радзімы
У Вечнасць Ігнат адышоў…

На небе збірае ён кветкі —
На небе валошак палі,
Такія, як там, ля Мядзведкі,
Ў маленстве ягоным раслі…

Хай памяць аб ім не загіне
Хай свеціць над нашым быццём,
Як там, над прасторамі Чылі,
Планеты ягонай жыццё…






нарадзілася ў 1996 годзе ў Гродне. Студэнтка ГрДУ імя Я. Купалы: беларуская філалогія, літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць.

АЛЕСЬ СТАДУБ

## Не звенчаны

Галоўнае ў гэтым жыцці
У час адысці.
*Рыгор Барадулін*

Упарта часопісы просяцца
Мной прарасці,
Але ж я гадамі
Ўшчэнт пакамечаны.
Галоўнае ў гэтым жыцці
У час адысці.
Паверце, я з вечнасцю
Целам не звенчаны.

## Спрахлі б

На парозе стаім,
Неабходна спяшацца.
Адыходжу, як дым,
У камечанай шапцы.
*Юрка Голуб*

А мне ён і блізкі, і слізкі,
Празрысты, складаны.
Ён вершы, напэўна, з калыскі
Снаваў без заганы.

Купалі малога ў гарачым.
За бойкасцю крочыў.
Ахвотніцкі нам тэлебачыў
І праўдзіў у вочы.

Гады эпізод не забылі:
Мяне вёў пад пахі.
Без Голуба што б мы рабілі?
Без Голуба спрахлі б!

Сягоння ніхто з нас не вінны.
А мо падалося?
Барвовыя кроплі рабіны
Рыфмуюць пра восень

## Патрыёт

Якое сонца! Цуд які!
Чытаю звонкім соснам вершы.
*Міхась Пазнякоў*

Стараюся, каб на вякі.
Суцэльны дзень, штодзень заняты.
Якое сонца! Цуд які!
Аж некалі ўзняць вачаняты.
Ў Заброддзі пуста. Ой, шкада.
Разбегліся — ад сцен гарошак,
Няйначай, па маіх слядах.
Здалёк спакусна пахнуць грошы.
Наўкола неспазнаны свет.
Пайду, хай лес мяне пацешыць.
Сын Паўла, лаўрэат, паэт,
Там пачытаю соснам вершы.

## Чараўнік

Я поглядам вырошчваю траву.
*Анатоль Сыс*

Вы думалі, я недарэчны маг?
А ў вузел хто завяжа гэты гмах?
Я вольнай несвабодаю жыву.
Я поглядам вырошчваю траву.
Захочаце, навек абзалачу.
За воблакі Хрыстосам залячу.
Агонь залью ад супярэчных мар —
З сакрэтамі прыроджаны змагар.
З туману я, з зазнайства і з расы.
Я — геніяльнейшы, няпросты Сыс.

## Сустрэча

Ідзе паэт па вулках Гродна,
Ідзе і думае…
*Рычард Бялячыц*

Забег у «Гродзенскую праўду»,
Не ўсе там дзверы на замку.
Хацеў, каб выдаў волі праўду
Той, хто ў начальніках пакуль.

Але дарма, але дарма.
Каго хацеў, таго няма.
Шляхі, як караблі на моры —
То ў правы бок, то ў левы бок.
Мінулы раз не дагаворваў
Загадкавы мой галубок.

Не скажаш, што яму паверыў,
Я ж Р. Бялячыц, а не зэра.
Мо з опусам маім не згодны,
Але ў запасе там ого!
Пайду, няйначай, вулкай Гродна.
Мо і натраплю на яго.

Канечне, кожны з нас круты.
Ды вось… Насустрач мне «святы».

## Паглянь

За лесам — лес, за полем — поле
*Сяргей Грахоўскі*

За лесам — лес, за полем — поле,
За вершам зноў турбуе верш.
А ў галаве — за болем болі,
І ціск за ціскам цісне ўверх.

За пакаленнем пакаленне.
Паглянь, за сябруком сябрук.
Ва ўсіх натхненне за натхненнем,
Аж цяжка мне прабіцца ў друк.

Накаштаваўся лёсу солі
З-за розуму свайго. Не лгу.
Але ж за лесам — лес, не поле.
Чаму? Уцяміць не магу.



нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Юшкавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Пасля сканчэння ВНУ працаваў у сродках масавай інфармацыі. Выдаў больш за дзясятак кніг паэзіі і прозы, сярод якіх «Калінавыя гроны», «Сюжэт на фоне надвячорка», «Водгук ісціны», «Шэпты крыл», «Скрыжалі». Сябар СБП. Жыве ў Лідзе.





# Проза

## Аляксей Дземідовіч

# Мініяцюры амаль з натуры

### Зорачка

Кожны чалавек у сусвеце — гэта калі не зорка першай велічыні, то зорачка, маленькая планета са сваім узыходам і заходам, сваімі днём і ноччу, сваімі пачаткам і канцом існавання на Зямлі — толькі, але ж і несмяротнасцю ў свеце, што за межамі Зямлі і нашага з вамі абмежаванага ўяўлення.

*1998*

### Самабічаванне

З гадамі штодня і на кожным кроку я стаў больш прыдзірліва да сябе ставіцца і ўглядацца не толькі ў тое, як жыву, але і як жыў раней… І ведаеце, знаходжу ў гэтай жытцы, о, Божухна, колькі ж нароблена грахоў, якія мы ўсе прывыклі апраўдальна і як бы зусім нявінна называць памылкамі! А якія ж гэта памылкі, калі мы нешта робім і ўвогуле жывём няправільна, не па-Божаму, па сутнасці грашым, хай і шмат дзе несвядома? Я, напрыклад, раней і не ведаў і цяпер яшчэ не заўсёды ўпэўнена скажу ў кожным выпадку, дзе будзе грэх, а дзе не… Божыя законы і Святое Пісанне мы яшчэ не вельмі добра ведаем і разумеем, тым больш — як гэта ўсё стасуецца з нашым паўсядзённым жыццём, ды і, прызнацца, не надта да гэтага імкнёмся…

Адсюль і нашае жыццё такое, сама нават дзяржава, яе парадкі і законы недасканалыя, падчас абсурдныя, бо змушаюць нас рабіць не тое, што ўгодна Богу. Усе мы, старэйшыя, ведаем, як дзяржава ставіла рабочымі днямі нават вялікія хрысціянскія святы, забараняла вянчанне і хрышчэнне ў царкве. А колькі было, ды яшчэ сёння ёсць іншых перашкодаў на шляху да Бога!

Канечне, грахі гэтыя нярэдка вымушаныя, але тым не менш грахі. А вось куды горш, калі чалавек сам ужо па сваёй духоўнай прыродзе і дадзенай яму Богам свабодзе выбару паміж дабром і злом самачынна дазваляе сабе і выбірае такое, што нават тая ж скаціна, звер ці птушка такога не робяць. Скажам, тую ж прыроду ніхто так не губіць, як чалавек…

Не буду сцвярджаць, што ўсё сказанае тут нейкае ўжо пакаянне… Гэта хутчэй роздум услых над сваім жыццём, ці мо толькі самабічаванне… Але ж тут несумненна адно, што награшыў я і сапраўды столькі, што ні адзін грузавік, здаецца, не давёз бы ўсяго таго да месца ўсяленскага суду — калёсы і рысоры трэснулі б ад цяжару. І гэта толькі тое, што я ведаю ці зразумеў цяпер, што не так рабіў… А колькі незгаданага, незразуметага! Выходзіць, што амаль усё жыццё нашае — гэта грахі, грахі, грахі… Вялікая гара грахоў… Але ж твая міласць і літасць, Божа, большая. Дык даруй мне, маім родным, блізкім і ўсім нам, людзям, правіны ў гэтым жыцці і дапамажы зрабіць яго лепшым, чысцейшым, каб не было ў ім і ў нашых душах месца для грахоў і ўсякіх іншых дрэнных учынкаў. Амін!

*2001*

**Куды спяшаюцца аблокі**

Стары Тамаш сядзіць на лавачцы, змайстраванай унукам ля варотаў хаты, і крэкча нешта сам сабе, потым глядзіць, глядзіць, засланіўшыся рукою ад сонца, за дарогу, у поле, на вялікі сіні бор, адкуль выплываюць і паднімаюцца ў неба ўсё новыя і новыя аблачынкі, нібы тыя нястрыжаныя баранчыкі, а калі даплываюць сюды, да вёскі і ракі, то ўжо не ягняткі, а добрыя каровы і большыя, як тыя зубры ў Белавежы, толькі выкупаныя ў белапенных марскіх хвалях. Мінаваўшы вёску, за ракою, яны збіваюцца ў больш буйныя статкі і недзе за гарызонтам ужо цямнеюць ладнаю хмарай.

— К-хы, мо, дасць Бог, дождж неяк збярэцца на нашу беднасць ды трохі зямельку прамочыць, а то ж без хлеба і бульбачкі будзем, — зноў крэкча дзед, не то сабе, не то мінакам, расцягваючы ў роздуме словы. Затым ён выбівае аб лаўку люльку і лезе ў свой скураны капшук, што на поясе, па тытунь, каб засмаліць на ўсю вуліцу, пакуль не пайшоў той чаканы дождж… — А мо зноў разгоніць, як і ўчора, к-хы… — адкашліваецца пасля першай зацяжкі стары Тамаш.

— Ты, дзеду, як той наш калгасны радыёвузел, што хрыпеў на слупе са старога вядра ля стайні, якое старшыня ветліва яшчэ называў гучнагаварыльнікам. Але ў народзе гэты цуд часу атрымаў чамусьці другі назоў — мацюгальнік. Інакш і не гаварыў ніхто, акрамя хіба саміх праўленцаў… Трохі мо і грубавата было, затое трапна, асабліва калі ўлічваць нярэдкія пакрыкванні начальства на людзей і яго беспардонныя загады накшталт такіх: «Сённяшні дзень лічыць рабочым днём», — хоць гэта быў не проста выхадны дзень, а Вялікдзень. Хіба ж ты, дзядуля, не памятаеш гэтага?.. А ў першыя гады пасля вайны дык брыгадзір сам па хатах хадзіў і загадваў, куды каму ісці працаваць. А гэта потым ужо той вузел з мацюгальнікам на калгасным двары з'явіўся, як радыёфікавалі вёску.

Але паспрабуй зразумець, што і каму ён загадваў, калі спачатку сіпла і траскуча нехта прадзімае гарляк, бы ржавыя цвікі сыпле ў бляшанку. Потым

гэты гарляк, прадзьмуўшыся і прагрэўшыся, скварчыць і шыпіць, быццам старое сала на патэльні, толькі яшчэ хіба дым з вядра на слупе не валіў… Раптам прарываюцца словы, але такія дрыготкія, змазаныя, што ніхто нічога не можа зразумець. Хоць перакладчыка прыстаўляй — і той не даў бы рады, куды гэта ісці сёння вяскоўцам: на балота ў буракі ці ў загарынь лён браць… А калі пачнецца яшчэ ікаўка і адрыжка ад перапою таго паганялы ды правалы праз два-тры словы, то і зусім не ўцяміш, дзе і над чым бедным калгаснікам сёння працаваць: мужчынам на праполцы, а жанкам — на касьбе, салому сціртаваць ці наадварот…

— Я даўно ведаю, балабон, куды табе трэба ісці, — казаў звычайна дзед Тамаш таму слупу з вядром, — у Слуцак у выцвярэзнік ці ЛТП, калі штодзень ужо зранку не прасыхаеш…

Колькі ж гадоў прайшло ўжо з той пары, колькі начальства мянялася як знізу, так і зверху, а самагнёт як быў, так і па сёння ў вёсцы застаўся. Ён стаў яшчэ важнейшы за брыгадзіра і старшыню, бо каня ці якога іншага цягла за так могуць і не даць, а пляшку паставіш — бяры. Пакуль унук з дзедам пра гэта разважалі, да іх падышоў трактарыст Ватоўка і просіць у дзеда закурыць. Яго старэнькі заглухшы ХТЗ стаіць з самага ранку недалёка ад вуліцы ўзбоч поля, і там корпаецца памочнік. Стуку-груку на ўсю вуліцу, а жалезны конь ні з месца…

— Ён, дзеду, ужо сваё адараў, — кажа Ватоўка, — але ж гэты маладзён ваду забыў заліць у радыятар, хоць пра сваё горла не забыў, ужо зранку да мяне ўкінуў…

— Э-эй, хлопчыкі, — уздыхнуў дзед, — пры цары, у сталыпінскія часы вас такіх ні адзін гаспадар не трываў бы, хутчэй пайшлі б вы жабракамі па сёлах.

Трактарыст, немалады ўжо таксама дзяцюк, неяк непрыязна паглядзеў на дзеда і хутка заморгаў вачыма, з якіх аж слёзы паказаліся, але не ад дзедавых слоў, а ад глыбокай зацяжкі яго моцным самасадам…

Неўзабаве памочнік паклікаў Ватоўку нешта патрымаць, і той нехаця, няспешна павалюхаўся да свайго кармільца, а дакладней паільца. Размова з дзедам на тым абарвалася. Але і без таго было зразумела: так было, ёсць і доўга яшчэ будзе. Парушыць усё гэта разам, здавалася, ужо нішто не можа, хіба толькі вось гэтыя аблокі і густыя чорныя хмары ў небе, якія спускаліся на грэшную зямлю пасля чарнобыльскай аварыі і неслі не дождж, а радыяцыю…

Дзед Тамаш пра тое нічога не ведаў, апроч чутак… Ён сядзеў, сядзеў на лавачцы ды, не дачакаўшыя дажджу, так і патэпаў па сухой пыльнай сцяжынцы да сваёй хаты, перад гэтым яшчэ раз азірнуўшыся на сіні вялікі бор, адкуль плылі аблокі. Потым спыніўся, паглядзеў на раку, дзе па-ранейшаму чарнела хмара, зірнуў угару на неба. Там усё плылі гэтыя бязводныя, як сухая вата, воблачкі.

«І куды толькі яны спяшаюцца, плывуць дзень і ноч, а дзе дзяваюцца, калі там ні кроплі? — у роспачы думаў ён. — Не інакш яны і насамрэч усе чарнобыльскія, без вады, а з адной толькі гэтай самай радыяцыяй… Дык куды ж

тады, на чыю галаву яны спяшаюцца? Пэўна, адзін Бог гэта ведае…» — кашлянуў Тамаш і націснуў на клямку дзвярэй.

*1988*



нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Жыціна Старадарожскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі бібліятэчны тэхнікум і Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Настаўнічаў на Свіслаччыне, затым працаваў у Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні. Загадвае грамадскім музеем Васіля Быкава. Аўтар кнігі вершаў «Калі шчырым быць».



## Пацалаваны богам
*Апавяданне*

Як да Франка Лушчэўскага трапіла скрыпка, у мястэчку ніхто дакладна не ведаў. Людзі сталага веку сцвярджалі, нібыта каваль прывёз яе з Нясвіжа, дзе працаваў на рэстаўрацыі тамтэйшага фарнага касцёла. Мясцовыя краязнаўцы пусцілі плётку, быццам ён скраў скрыпку ў Радзівілаў падчас апошняй вайны. Інтрыгу падагравала і яшчэ адна акалічнасць: хтосьці з заезджых музыкаў прызнаў, што да стварэння шэдэўра прыклаў руку сам вялікі Страдывары. Але гэтую гіпотэзу аддана аспрэчвалі раённыя інтэлектуалы з музычнай школы. Яны ніяк не дапускалі, што ў нейкага каваля захоўваецца шэдэўр вялікага майстра. На жаль, спраўдзіць меркаванні першых і пярэчанні другіх не было аніякай мажлівасці, свой скарб каваль упарта хаваў ад цікаўных выведнікаў. І толькі адзінкі насамрэч бачылі скрыпку, калі дарэшты п’яны каваль спрабаваў на ёй нешта йграць.

Пасля таго, як заўчасна памерла жонка, каваль Лушчэўскі стаў люта запіваць. Тым часам розгалас пра Франкаў рарытэт ужо дасягнуў вялікіх гарадоў. І ў мястэчка адзін за адным пацягнуліся рознага кшталту калекцыянеры ды музыкі. З год пасля смерці жонкі каваль усё ж такі трымаўся і скрыпку не прадаваў, але з цягам часу яна кудысьці згінула, а неўзабаве ў хаце Франка стаўся пажар, у якім няшчасны ўладальнік шэдэўра і згарэў…

Народжаны на невялікім хутары, паблізу Снова, Уладзь вельмі рана застаўся адзін. У тыя часы па вёсках вакол Нясвіжа бушавала эпідэмія нервовай гарачкі (менінгіту). Дзесяцігадовага сірату Радзівілы ўладкавалі да бяздзетнага італьянскага майстра, які трымаў у Нясвіжы мануфактуру па вырабе музычных інструментаў. Італьянец адразу разгледзеў у хлопца надзвычайны талент да стварэння скрыпак. Уладзь быў удзячны за бацькоўскае стаўленне да сябе з боку майстра і з ранку да ночы прападаў у майстэрні. Таўшчыня дэкі і шырыня грыфа, неабходныя прамеры бакавых планак, пошук патрэбнага лаку… Хлопца захапіла навука, якую яму выкладаў італьянец.

Калі неўзабаве стары майстар адышоў у іншы свет, Уладзь стаў адзіным нашчадкам яго спадчыны. Жалоба цягнулася нядоўга, і на трыццаць першы дзень маладзён перасяліўся ў майстэрню. Калі хлопцу наспеў час браць шлюб, дзяўчыну яму сасватаў мясцовы ксёндз, які небеспадстаўна лічыў, што са скрыпкай Уладзь дамовіцца хутчэй, чым з дзяўчынай. На пачатку трыццатых гадоў у вядомага скрыпічнага майстра адзін за адным нарадзіліся два сыны. Па горадзе пайшоў розгалас, маўляў, хутка ў Нясвіжы будзе не адзін майстар Гузаеўскі, а цэлая дынастыя скрыпічных майстроў Гузаеўскіх. З усяе Еўропы ў Нясвіж цягнуліся коміваяжоры і музыкі. Ды, на жаль, Уладзь не мог задаволіць усіх паломнікаў. Ён не рабіў сталы ці крэслы, ён

стварае скрыпкі, як ствараюць вершы паэты ці карціны мастакі. Ад таго інструменты, зробленыя нясвіжскім майстрам, былі на пералік. У сваю чаргу кошт на створаныя рэчы рос з году ў год. І раптам, калі Уладзь дасягнуў вышыняў, пра якія іншыя майстры толькі мараць, лёс у адначассе перамяніўся. На пачатку восені трыццаць дзявятага года ў Нясвіж прыйшлі саветы. Па горадзе пакаціліся арышты. Хапалі ўсіх: і багатых габрэяў, і каталіцкіх манахаў, і польскіх паліцыянтаў. Людзьмі апанаваў страх, суседзі даносілі на суседзяў, бацькі перасталі давяраць дзецям. У чалавечых душах штосьці памерла. Толькі Уладзь нібыта не звяртаў увагі на тое, што тварылася навокал. Ён толькі ствараў скрыпкі і ні пра што болей не думаў. Але аднойчы ноччу ў майстэрню пагрукалі. Дзверы нечаканым гасцям адчыніла Зося, жонка майстра.

— Гражданка Гузаевская?

— Так. Чаго вам, панове? — пацікавілася жанчына ў тых, хто быў за парогам.

— Паны за Бугом, — працадзіў праз зубы савецкі афіцэр і, адпіхнуўшы гаспадыню ўбок, рушыў у майстэрню. Каманда з чатырох чалавек у форме НКУС паспяшала за ім.

— Начинайте, — суха прамовіў усё той жа афіцэр.

На падлогу паляцелі недаробленыя інструменты, паліўся лак. Пачуўшы грукат у майстэрні з суседняга пакоя вылецеў Уладзь:

— Што вы робіце, гэта ж скрыпкі, вы ж іх пашкодзілі!

Сухі высокі афіцэр спадылба злосна зірнуў на майстра.

— Ваша фамилия Гузаевский Владимир?

— Так.

— Вы являетесь директором этой фабрики?

— Я не дырэктар, а майстар, які вырабляе скрыпкі.

— Мастер работает сам, а у вас работает батрак!

У сям'і Гузаеўскага насамрэч жыў маладзён, якога папрасіў узяць на вучобу мясцовы ксёндз.

— Калі вы пра Фэлюся, то ён не работнік, а вучань. — Уладзь задумаўся і дадаў: — Хоць і не дужа здольны.

Афіцэр дастаў з кішэні паперу і ўслых зачытаў тэкст.

— Я, Феликс Черняк, являюсь наёмным работником у хозяина музыкальной мастерской Владимира Гузаевского. Выше упомянутый гражданин днём и ночью эксплуатировал меня, заставлял стругать дерево, убирать мастерскую, замешивать лаки. Когда я не успевал что-то сделать, он от меня требует, чтобы я работал целую ночь без отдыха.

Уладзь ад здзіўлення вылупіў вочы.

— Гэта ён напісаў?

— А вы думаете, я?

— Дык, калі ён не хоча стаць майстрам, хай зыходзіць. Я яго не трымаю!

— Боюсь, что не ему, простому рабочему человеку, а тебе, буржую и мироеду, придётся оставить этот дом. Гражданин Гузаевский, вы задержаны!

Афіцэр паклікаў сваіх падначаленых. Два супрацоўнікі падхапілі майстра за рукі і павалаклі яго да дзвярэй. Зося ад страху абхапіла сваю галаву і, як зачараваная, узіралася, як жаўнеры зводзяць кудысьці мужа.

— Зося, глядзі за хлопцамі, — ужо на парозе галёкнуў Уладзь.

— Ула-адзё… — праз слёзы прашаптала жанчына.

Ноч у пастарунку цягнулася доўга. Майстар думаў пра свайго вучня, пра чалавечую здраду, але самае галоўнае, яму было шкада дарэмна страчанага часу: «Колькі можна было б зрабіць, а я тут, як кот, валяюся без справы». Чалавек, які ўсё жыццё не меў ніводнай вольнай хвіліны, проста шалеў без працы. Крыху супакоіўшыся, Уладзь агледзеўся. Камера была запоўнена людзьмі featured рознага ўзросту, усе чакалі сваёй пары. Суткамі навылёт вязняў па адным выклікалі на допыты. Кагосьці потым вярталі ў камеру з выбітымі зубамі, у некаторых былі пераламаныя рукі, бывала, калі няшчасных заносілі ў камеру без прытомнасці. Але былі і такія, што ў камеру не вярталіся. Сярод насельнікаў хадзіла чутка, быццам няшчасных нкусаўцы пастралялі. Час ішоў, а Уладзя не выклікалі. І толькі недзе каля палудня наступнага дня дзверы камеры адчыніліся, і грубы голас прамовіў.

— Гузаевский, на выход.

Праз некалькі хвілін нкусавец прывёў майстра да нейкага кабінета.

— Лицом к стене, — халодна прамовіў ён.

Уладзь выканаў загад, павярнуўся тварам да абадранай, мокрай сцяны. Канваір адчыніў дзверы.

— Товарищ следователь, задержанный Гузаевский доставлен.

— Заводи.

Уладзь зайшоў у кабінет. У ім былі два чалавекі. Чарнявы гарбаносы афіцэр у дарагой ваеннай уніформе сядзеў крыху наводдаль ад стала, закінуўшы нагу на нагу, і паліў папяросы. Хударлявы, русы, сярэдніх гадоў афіцэр стаяў за сталом нерухома, трымаючы рукі па швах. Вочы яго спалохана зыркалі то на Гузаеўскага, то на чарнявага. Чарнявы акуратна затушыў папяросу і, не хаваючы свой грузінскі акцэнт, скамандаваў.

— Можете продолжать.

Атрымаўшы дазвол, следчы сеў на сваё месца і пачаў допыт.

— Ваша фамилия Владимир Гузаевский?

— Так.

Падчас размовы хударлявы выцягнуў хустачку з кішэні фрэнча і, пакасіўшыся на грузіна, дрыжачай рукой выцер з ілба пот. Адчувалася, што ён вельмі хвалюецца.

— Гражданин Гузаевский, вы являетесь владельцем музыкальной мастерской?

— Я ўжо казаў вашаму афіцэру, я не ўладальнік майстэрні, я скрыпічны майстар!

— Хорошо, хорошо, «мастер», вот здесь с вами хотят поговорить.

Следчы поглядам паказаў на важнага афіцэра. Апошні адкашляўся і ціха прамовіў:

— Капитан, подождите за дверью.

— Ёсць! — Следчы, спатыкаючыся, рвануў да дзвярэй. Чарнявы правёў яго поглядам, потым падняўся з крэсла і павольна падышоў да Гузаеўскага.

— Курите, — чарнявы адчыніў партсігар і паднёс яго Гузаеўскаму.

— Дзякуй, але я не палю.

— Здоровье бережёте?

— Ды не, проста часу не маю.

Грузін засмяяўся. Уладзь здзівіўся, што сказанае ім рассмяшыла афіцэра.

— Сапраўды, я не маю часу, вось і тут я не разумею, чаго мяне трымаюць.

Чарнявы закрыў партсігар, падышоў да стала і прысеў на крэсла, на якім яшчэ хвіліну таму сядзеў следчы.

— Послушайте, что я вам скажу, гражданин Гузаевский. Сейчас у нас весна сорок первого. До декабря этого же года вы должны изготовить лучшую в мире скрипку.

— Як гэта? — здзівіўся Уладзь.

— Здесь всё просто, у товарища Сталина в начале зимы юбилей, и вам предоставляется честь изготовить подарок.

Ва Уладзя ад здзіўлення адвісла пашчэнка.

— А калі-і-і?

— Отказаться вы не можете, — перарваў майстра важны нкусавец. — В этом случае у вас только два варианта. Первый: вы делаете скрипку у себя в мастерской. Второй: будете делать её на Колыме, а ваша семья будет вам помогать. Всё понятно?

Уладзь усё зразумеў, апусціў вочы і, пагаджаючыся, кіўнуў галавой.

— Очень хорошо. Капитан, зайдите.

Дзверы адчыніліся, і ў кабінет заскочыў хударлявы.

— Слушаю вас.

— Отвезите мастера домой.

— Есть.

Чарнявы, не развітваючыся, накіраваўся да выхаду. На хвілінку прыпыніўшыся каля дзвярэй, ён прамовіў.

— Да, капитан, сделайте так, что бы мастеру никто не мешал.

— Есть… — Хударлявы стаяў па швах і ўважліва сачыў за ўсім, што рабіў і гаварыў грузін.

— Очень хорошо. А вы, Гузаевский, помните, што скрипка должна быть лучшей.

На развітанне чарнявы ўважліва агледзеў майстра і пакінуў кабінет.

— Ф-у-у… — адчуўшы палёгку, следчы плюхнуўся ў сваё крэсла. — Автомобиль ждёт, — падпісваючы пропуск, прамовіў ён.

— Дзякуй.

Майстар узяў паперу і пацягнуўся на выхад. На парозе дома яго чакала заплаканая Зося. Уладзь зайшоў на падворак і зачыніў за сабой веснічкі. Жонка кінулася яму насустрач.

— А я думала, што ўсё, болей цябе не ўбачу…

— Ну чаго ты, ну чаго, усё будзе добра.

— Дзякуй богу, з табой нічога не здарылася.

— А што са мной магло здарыцца? Ім жа патрэбна толькі мая скрыпка. А ведаеш, каханая, для чаго? — Жонка, нічога не разумеючы, глядзела на мужа і толькі краёчкам хусткі выцірала слёзы. — Каб Сталіну на юбілей паднесці.

Жонка пачала жагнацца. На твары Зосі з’явіўся непрыхаваны страх.

— Адмоўся, Уладзё, адмоўся.

Мужчына адпусціў жонку і, уздыхнуўшы, прамовіў:

— Эх, каханая, каб я толькі мог!

— Што з намі будзе, што з намі будзе…

Майстар тым жа вечарам узяўся за справу. Нарыхтоўка драўніны і сушка загатовак. Падбор адпаведнага лаку. Клопат па пошуках неабходнага гучання забіраў шмат часу. Уладзь ламаў зробленыя загатоўкі, а потым вырабляў новыя, і так месяц за месяцам. І нарэшце, на пачатку чэрвеня сорак першага года, пачало атрымлівацца тое, чаго ён шукаў. У сваю чаргу, афіцэры НКУС пільна сачылі за стварэннем скрыпкі. Неаднаразова наведваліся яны ў майстэрню Гузаеўскага, нібыта даведацца пра здароўе. Разы два прысланыя грузінам афіцэры запрашалі майстра да сябе, каб, пэўна, папалохаць. Але так ці іначай справа па стварэнні скрыпкі ішла.

Уладзь выйшаў з майстэрні вельмі задаволены, ён толькі што скончыў пакрываць лакам скрыпку. Бадзёры спеў птушак летнім ранкам нагадваў яму гучанне яго скрыпкі. Ён заплюшчыў вочы і ўважліва прыслухаўся. У галаве гучала толькі яе вялікасць Музыка.

— Якая радасць, калі атрымліваецца тое, што ты задумаў.

У гэты час веснічкі расчыніліся і на падворак забегла перапалоханая ўшчэнт жонка.

— Зося, што зрабілася, хлопцы захварэлі?

Жанчына падбегла, абняла мужа і амаль закрычала:

— Вайна!

Уладзь, не разумеючы, пра што яна гаворыць, перапытаў:

— Ты што, з глузду з’ехала, якая вайна?

— Ды немцы сёння ноччу распачалі вайну, сядзіш у сваёй майстэрні і нічога не ведаеш… — Яна зірнула мужу ў вочы і ціха прамовіла: — Уладзё, давай з’едзем, чуе маё сэрца, нешта дрэннае здарыцца.

— Пакінь Зося, што можа здарыцца, я ж толькі майстар. Якая мне розніца, чыя ў горадзе ўлада? Я рабіў скрыпкі пры паляках, пры саветах, буду іх рабіць пры немцах.

— Ой, Уладзё, чуе маё сэрца, штосьці здарыцца.

Прайшло ўсяго некалькі дзён, і ў Нясвіжы з’явіліся немцы, ізноў пачаліся арышты, расстрэлы: камуністаў, выжыўшых пасля савецкіх рэпрэсій габрэяў. Гузаеўскі не звяртаў увагі на тое, што адбывалася ў горадзе, працягваў ствараць замоўленую скрыпку. І ўсё паўтарылася, як некалькі месяцаў таму. Ноччу ў майстэрню пагрукалі. Гэтым разам дзверы адчыніў гаспадар.

— Слухаю вас, панове? — звярнуўся да незнаёмых людзей Гузаеўскі. Нямецкі салдат моўчкі папхнуў гаспадара ў грудзі, і ўзброеная кампанія, не чакаючы запрашэння, праціснулася ў майстэрню. Апошнім пераступіў парог той самы хударлявы следчы, які дапытваў Уладзя ў міліцыі некалькі месяцаў таму.

— А-а, гэта вы? Ну як служыцца ў новых гаспадароў, можа, яшчэ і ў тым самым кабінеце?

— Ты не поверишь, мастер, и за тем же столом, — былы савецкі следчы зарагатаў.

— А хіба ж, хто сумняваўся. Ну і што вам ад мяне трэба?

Хударлявы паказаў рукой на нямецкага афіцэра, які стаяў каля дзвярэй. Выкінуўшы за ўваходныя дзверы дагарэлы недапалак, афіцэр падышоў да верстака, каля якога стаяў майстар.

— Меня зовут Юзаф Фрай, капитан немецкого воздушного флота, — павітаўся высокі, прыемнага аблічча афіцэр у скураной кароткай куртцы. — Где у вас можно поговорить?

Уладзь, не марудзячы, выцягнуў з-пад верстака два невялічкія зэдлікі і запрасіў нямецкага лётчыка прысесці насупраць сябе.

— Я к вам, господин Гузаевский, по делу.

— Слухаю вас, пан афіцэр.

— В Европе хорошо знают ваши работы. Понимающие люди сравнивают ваши скрипки с лучшими экземплярами итальянских мастеров.

— Дзякуй.

— І ещё. Мы знаем, что вам поручили изготовить инструмент к дню рождения Сталина.

Суразмоўцы амаль адначасова зірнулі на хударлявага следчага. Той, як быццам нічога не разумеючы, разглядваў майстэрню.

— Покажите мне этот инструмент.

Уладзь моўчкі падняўся і прайшоў у фарбовачную. Праз хвіліну вынес на свет скрыпку. Фрай падскочыў і рушыў насустрач.

— O mein Got! Gut, sehr gut.

— Але яна яшчэ не зусім гатова. — Уладзь працягнуў скрыпку. Уражаны афіцэр далікатна пакруціў інструмент перад сабой і, пратрымаўшы яго некаторы час, вярнуў майстру.

— Значит так, скрипка нам понадобится к началу января.

Уладзь пацісну́ў плячыма.

— Я паспрабую.

— Послушайте, господин Гузаевский, мы не советы, если всё будет так, как надо, вы получите неплохое вознаграждение.

Пасля сказанага афіцэр хутка падняўся і рушыў да дзвярэй. Салдаты і былы следчы рванулі за ім.

Уладзь наўздагон спытаў.

— А чаму да студзеня?

Афіцэр рэзка павярнуўся, паглядзеў на Гузаеўскага, пасля чаго адным рухам расчыніў дзверы і хутка рушыў з майстэрні. Уладзь хацеў было вярнуц-

ца да працы, як тут у дзвярах з’явіўся перапалоханы былы следчы. Ён падбег да здзіўленага майстра і на вуха таму прашаптаў:

— В январе день рождения Германа Геринга. Ты понял?

Пасля сказанага ён гэтак жа хутка знік. Гузаеўскі падышоў да ўваходных дзвярэй і, каб зноў чужынец не ўляцеў у майстэрню, выглянуў вонкі. Усё на падворку было ціха.

— Д’ябал, сапраўды д’ябал.

Ён зачыніў на засаўку дзверы і вярнуўся да працы. З хаты ў майстэрню зайшла заспаная Зося:

— Хто гэта быў?

— Немцы.

— Ах, Божа, Божа, і што ім трэба?

— А што ў нас узяць, акрамя некалькіх скрыпак?

Зося нічога не гаварыла, толькі здзіўлена глядзела на мужа.

— Ты можаш не верыць, але цяпер мая скрыпка, якую я рабіў для Сталіна, спатрэбілася Герынгу… Я вось думаю: ні Сталін, ні Герынг іграць на скрыпцы не ўмеюць. Дык навошта ім мая скрыпка?

Жонка, не ведаючы, што адказаць, моўчкі паціснула плячыма.

— А я думаю, справа ў тым, што кожны з іх марыць разам з інструментам авалодаць вечнасцю.

— І я думаю, так яно і будзе, хто ж ім запярэчыць? — прашаптала напалоханая Зося.

— Ты ведаеш, каханая, назіраючы за людзьмі, а іх тут пабывала ой як багата, я зрабіў выснову. Чалавек можа многае: шкадаваць і забіваць, падпарадкоўваць і загадваць. Але са скрыпкай, звычайнай скрыпкай, зробленай з невялічкага кавалка дрэва, чалавек зрабіць нічога не можа. Калі гэта яму не наканавана зверху. І нават такія ўсёўладныя людзі, як Сталін і Герынг, не змогуць прымусіць яе іграць.

— Ну, навучыцца іграць можа любы чалавек, — адазвалася жонка.

Уладзя затрэсла, ён падскочыў і амаль закрычаў на ўсю майстэрню.

— Ніколі яны іграць на гэтай скрыпцы не будуць! Глядзець на яе могуць, патрымаць у руках — калі ласка, а іграць — ніколі.

— Чаму, Уладзё?

Майстар падышоў да Зосі і, узіраючыся ў вочы, прамовіў:

— Скрыпка не захоча ў іх руках іграць. А ведаеш чаму?

— Не ведаю.

— Справа ў тым, што скрыпку зрабіў не я.

— А хто?

— Бог.

— Бог? — вырвалася ў Зосі.

— Так-так, Бог, але толькі маімі рукамі.

У майстэрні запанавала цішыня. Праз хвіліну Зося прамовіла.

— Лепш ты адмовіўся б.

— А як жа тут адмовішся? — зусім ціха прамовіў Уладзь. — Добра, Зоська, паглядзі, як там хлопцы, ды ідзі спаць, а мне трэба працаваць.

І зноў пацягнуліся доўгія ночы і дні працы. Напачатку зімы інструмент быў гатовы. Але ноччу, перад самымі каталіцкімі Калядамі, у дзверы ізноў пагрукалі. Уладзь ужо так прызвычаіўся да featuresрознага роду хадакоў, што яго зусім не хвалявала, хто там за дзвярыма. Ён ляснуў засаўкай і, адчыніўшы дзверы, акамянеў.

— Фэлюсь, ты чаго тут? — здзіўлена прашаптаў гаспадар.

Былы вучань нічога не адказаў, а толькі груба піхнуў майстра ў пакой. За ім у майстэрню зайшло яшчэ некалькі чалавек са зброяй.

— Бачу, Фэлюсь, ты ўсё ж такі выбіўся ў людзі. Праўда, дзеля гэтага табе днямі і начамі працаваць не прыйшлося.

Фэлюсь праходжваўся па майстэрні.

— Ты, Уладзь, не палохайся, цябе страляць мы не збіраемся, а вось рабіць скрыпкі для фашыстаў не дазволім. Таму бяры сваю скрыпку, што для Герынга зрабіў, і з намі, у лес.

Уладзь падняўся, падышоў да Фэлюся і, гледзячы яму ў вочы, прамовіў:

— А жонка як, а дзеці, што з імі будзе? Не, я не пайду. Можаш браць скрыпку і ўсё астатняе, а я не пайду.

Фэлюсь прысеў на вярстак, акінуў поглядам майстэрню, як быццам успамінаючы сваю маладосць, якую правёў тут, пасярод загатовак, лакаў, скрыпак, і, прыпыніўшы погляд на майстры, абыякава прамовіў.

— Ведаеш, Уладзь, мы маем загад цябе застрэліць, а майстэрню тваю спаліць, калі ты не пойдзеш з намі ў лес. Таму даю табе пяць хвілінаў, збірайся.

Камандзір, а за ім і астатнія партызаны ляснулі затворамі. Выйсця не было, і праз некалькі дзён у лесе каля Нясвіжа з’явіўся скрыпічных спраў майстар. Перад Новым годам у майстэрню Гузаеўскага прыйшоў той самы нямецкі лётчык. Прайшло яшчэ некалькі дзён — і па ўсім горадзе з’явіліся аб’явы: «Калі да пачатку студзеня сорак другога года ў камендатуру не звернецца скрыпічны майстар Уладзімір Гузаеўскі, то яго сям’я будзе расстраляная за сабатаж». Дакладна невядома, што было далей, але на пачатку студзеня на ўскрайку Нясвіжа з’явіліся адна вялікая і дзве малыя магілы. Як толькі ў сорак чацвёртым немцы адышлі на захад, да каваля Франка Лушчэўскага, які працаваў тады ў касцёле, звярнуўся аброслы малады чалавек. Ён замовіў у каваля тры надмагільныя каваныя крыжы, а ўзамен прапанаваў скрыпку…

Восенню тысяча дзевяцьсот семдзесят пятага года я ехаў у Нясвіж са спадзевам нарэшце пабачыць майстра, што стварыў той міфічны інструмент, які мне паказваў калісьці каваль Франак Лушчэўскі. Выйшаўшы з аўтобуса, рушыў у накірунку фарнага касцёла. Стары Нясвіж у любую пару года здольны абудзіць у чалавеку глыбокія пачуцці. Слуцкая брама, муры кляштараў. Я ішоў па горадзе, і маё сэрца з кожным крокам напаўнялася радасцю будучай сустрэчы. Цяслярня месцілася на тэрыторыі касцёла з боку брамы, каля самай агароджы. У палудзень на тэрыторыі святыні не было ніводнай жывой душы, я на свой страх і рызыку зайшоў за агароджу і адчыніў

дзверы ў майстэрню. У невялікім пыльным пакоі за верстаком, згорбіўшыся, працаваў сівы мужчына гадоў сямідзесяці пяці. На сценах, паліцах, сталах вісела і ляжала безліч розных касцельных рэчаў. Я папрасіў прабачэння і спытаў у яго, дзе можна знайсці скрыпічнага майстра Уладзіміра Гузаеўскага. Пажылы чалавек, адарваўшыся ад сваёй працы і зірнуўшы мне ў вочы, коратка адрэзаў.

— Майстар памёр зімой сорак другога. І шукаць яго тут няма аніякага сэнсу.

Пасля гэтых слоў ён моўчкі вярнуўся да верстака. Зразумеўшы, што мне са старога болей нічога не выцягнуць, я развітаўся і выйшаў на дзядзінец. І ў гэты самы час на маё шчасце з касцёла на вуліцу кіраваўся малады святар.

— Прабачце, калі ласка, ойча. — Святар прыпыніўся. — Ведаеце, я даследчык з Мінска, чуў, што тут у вас пры касцёле працуе скрыпічны майстар Уладзімір Гузаеўскі. Я хацеў бы яго пабачыць.

Святар мяне ўважліва выслухаў, а потым, шчыра ўсміхнуўшыся, прамовіў:

— У нас скрыпічнага майстра з такім прозвішчам няма.

Я засумаваў і апусціў галаву, і тут святар дадаў:

— Але ў нас ёсць стары цясляр Уладзь, як я зразумею, вы ў яго ўжо былі. А скрыпічнага майстра, не-е, у касцёле няма.

Малады ксёндз паціснуў плячыма і, развітаўшыся, пакрочыў па сваіх справах. А я працягваў стаяць, не разумеючы, што рабіць далей. Усе мае спадзяванні сустрэцца з майстрам раставалі, як вясною снег.

Ужо потым, дома ў Мінску, я доўга асэнсоўваў лёс нясвіжскага генія. Чаму так здарылася, што Божы дар не прынёс шчасця ні майстру, ні яго сям'і? Што супрацьстаіць чалавечаму таленту: людская зайздрасць, пагарда да свету самога майстра ці, можа, наканаванне лёсу?.. І ці ведаем мы кошт, які вымушаны заплаціць таленавітыя людзі за свой дар?

Бог цалуе выбранага ім чалавека, калі дае яму талент. Але ці можам мы адрозніць пацалунак Бога ад пацалунка Іуды?..



нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна. Кіруе малым прадпрыемствам «Вітаўт». Выдаў кнігу гістарычных нарысаў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігу прозы «Чорная Воля». Сябар СБП. Жыве ў Гродне.



МІХАСЬ ЗІЗЮК

# Сцяна

1

Вольга звыкла перамывала, потым выстаўляла на паліцу чыстыя даільныя апараты, а думкі яе былі далёка адсюль — тачыла трывога за Зміцера. Яшчэ ўчора, калі клалася спаць, спрабавала датэлефанавацца да яго, але безвынікова. Тое самае было і сёння раніцай. Хутчэй за ўсё, ён не паслухаў яе і пайшоў на плошчу. А пра тое, што там адбывалася, яна збольшага ведала ад Веркі, у якой стаіць спадарожнікавая талерка, і тая глядзела ўчора навіны па некалькіх каналах. Самой Вользе было не да тэлевізара: разбалелася галава, было неяк нядобра і тлумна на душы, яна прылегла і прыснула. Але недзе ў глыбіні цеплілася надзея: магчыма, ён проста не падзарадзіў свой старэнькі мабільны тэлефон, пайшоў да сяброў абмяркоўваць апошнія падзеі і забавіўся там. Ёй вось купіў новенькі тэлефон, як падарунак да дня нараджэння, а сам абыходзіцца старым. Шчыра кажучы, Вольга заўсёды ганарылася сынам. Ён з дзяцінства рос такім — клапатлівым, добрым і працавітым. У школе вучыўся сам, без усялякіх напамінкаў і праверак урокаў, сам паступіў у інстытут на бюджэт. Грошы ад яе стараўся браць як мага радзей. Неяк зусім нядаўна зноў была падобная гаворка, а Зміцер адказаў:

— Мне, мама, пакуль не трэба. Стыпендыю атрымаў ды чарцёж адзін вялікі зрабіў — мне заплацілі. Да таго ж на адну тваю зарплату трэба нас дваіх з Алёнкаю цягнуць. Купі лепш што сабе.

— Сынок, якая там твая стыпендыя. А мне што купляць? Куды я хаджу? З фермы дахаты ды з дому на ферму — там і ватоўкі з гумовікамі хапае. Вось хіба да твайго вяселля куплю што лепшае, — ужо пажартавала яна, як бы спрабуючы нешта выведаць пра адносіны сына з дзяўчатамі.

— Не, — рашуча адказаў сын, — пакуль не стану на ногі — жаніцца не буду.

Ён ніколі не гаварыў, што ў яго ёсць дзяўчына, маўчаў. Але неяк нядаўна прыязджаў з сваім лепшым сябрам-мінчуком — Алегам, і той прагаварыўся, што Зміцер ужо амаль год сустракаецца з дзяўчынай-прыгажуняй і што ў іх узаемнае каханне, усё вельмі сур’ёзна. Вольга пастаралася выпытаць у Алега ўсё, што змагла. Але даведалася толькі тое, што дзяўчыну завуць Аксана Круглова, яна равесніца Зміцера і вучыцца ў лінгвістычным універсітэце. Сам жа Зміцер не любіў размаўляць на гэту тэму, на яе асцярожныя пытанні стараўся аджартоўвацца.

З успамінаў яе выцягнула гучная размова суседак па працы: Валі Сцяпуры ды Галі Такмановіч, якая мела смешную вясковую мянушку Каза. Некалі ў дзяцінстве яна ніяк не магла вымавіць слова «страказа» і казала коратка — «каза». Дзеці смяяліся з яе, і мянушка прыклеілася да Галі. У той даўно і про-

звішча іншае, і дзеці свае амаль дарослыя, а мянушка засталася. Валя гучна, нібы стараючыся некага перакрычаць, распавядала пра ўчарашнія падзеі на плошчы:

— Ты што, там такое паказвалі, такое рабілася — людзей процьма, траха не было сценка на сценку. У тэлевізары казалі, што там і нейкая зброя ў запасе была. Добра, што паспелі ўсіх разагнаць.

— Няўжо? — дзівілася праставатая і недалёкая Каза.

— Я табе кажу, — даводзіла ёй Валя, — так паказвалі. Але вось людзі ўсё бунтуюць. І чаго ім не хапае ў гэтых гарадах? Жывуць жа не раўня нам — на ўсім гатовым. А я так думаю — менавіта ад таго, што лайдачаць. Хай бы парабілі з нашае. Хоць і нам цяпер лепш стала: заробак паднялі, сена даюць, выхадныя ёсць.

Потым яны перайшлі на іншую тэму, а ў Вольгі ў вушах гучала чамусьці гэтае Валіна «сценка на сценку», і сэрца зноў заныла ад трывогі за Зміцера.

Пад высокаю пацямнелаю столлю кароўніка вуркацелі надзьмутыя галубы, а праз бруднае запыленае аконнае шкло прасочвалася кволае ранішняе святло. Вольга пацягнула на сябе заінелыя цяжкія вароты і выйшла на вуліцу, пакінуўшы за плячыма спёртае, прапахлае гноем, сіласам і каровамі паветра. Раніца пaціху разганяла шэрае сутонне, але прыцемак яшчэ трымаўся за нізкае свінцовае неба. Кружлялі рэдкія сняжынкі, паміж маўклівых застылых будынін фермы пасвістваў рэзкі і халодны вецер.

Вольга сцепанула плячыма ад холаду, шчыльней падвязала хустку і скіравала ўлева, да занесенай снегам гары вялікіх пачарнелых скрыняў — тудою зручней было ісці. Сёлета ў калгасе меліся зладзіць новую зернесушылку, але нешта не зраслося, і запакаванае абсталяванне засталося ляжаць на вуліцы да будучага лета. Пратаптаная сцежка вяла на вясковую вуліцу. Дома, пэўна, ужо павіскваюць за агароджай галодныя парсюкі ды пора рагамі ў дзверы наравістая карова па мянушцы Ліса. Гэта Зміцер некалі даў ёй такое імя — цялушка, якую яны пакінулі ад старой каровы, была спрэс рудая. Ліса аказалася з норавам, даіцца падпускала толькі Вольгу, ды і тую магла спрабаваць таўхануць рогам ці вывернуць вядро. Не раз раззлаваная гаспадыня хацела ўзяць больш пакладзістую карову, але заўсёды спынялася: у Лісы добрыя надоі, а малако высокай тлустасці. А больш паклапаціцца пра гаспадарку няма каму — дачка Алена, як і Зміцер, ужо студэнтка, а з мужа аніякага толку. Эх, Іван, Іван…

Яна пайшла за Івана па каханню. Спраўны, жвавы хлопец, які граў на гармоніку, падабаўся многім дзяўчатам. Ён жа ўпадабаў Вольгу. Спачатку Іван не запіваў, а Вольга не надавала асаблівай увагі таму, што ён амаль кожныя выхадныя граў то вяселлі, то хрэсьбіны, адтуль прыносіў якія-ніякія грошы. Ды і клопату хапала — Зміцер нарадзіўся, за ім Алёнка, дом, агарод. Іван хадзіў у калгасе ў поле — у брыгаду, як у іх казалі. Калі Зміцеру было каля сямі год, Вольга заўважыла, што без гарэлкі муж абысціся ўжо не можа: ён так і стараўся знайсці прычыну, каб недзе выпіць. Яна спрабавала змагацца сама

з гэтым злом спачатку ўгаворамі, потым пагрозамі разводу, а пасля і яго бацькоў прасіла, каб паспрыялі. Усё дарэмна. Івана хапала на дзень-два цвярозага жыцця. Участковы, якога Вольга таксама прасіла, мог толькі пагаварыць з мужам, бо, выпіўшы, той не скандаліў, як некаторыя, а браўся за гармонік і граў. Нярэдка так і засынаў з ім. Лячыцца Іван катэгарычна не згаджаўся — лічыў ганьбай для мужчыны і не прызнаваў сябе алкаголікам.

Ці то не хапіла ў Вольгі характару, ці то цярплівасці, але, праваяваўшы колькі год, яна чамусьці змірылася з тым, што муж — п'яніца. У апошнія гады ён зусім перастаў сачыць за сабою і, каб не Вольга, даўно мог бы недзе замерзнуць альбо згібець пад плотам. Можа, з-за таго, што Іван піў і не глядзеў за гаспадаркаю, Зміцер і рос такім самастойным: змалку стараўся браць на сябе самую цяжкую працу, рабіў усё, каб маці было лягчэй. Сын вырас шчырым і адказным чалавекам, што радавала Вольгу. А ў старэйшых класах, калі яго равеснікі каштавалі віно і гарэлку, ён ці не адзіны з класа адмаўляўся ад спіртнога і не курыў: прынамсі, так ёй расказвала іхняя класная. Мабыць, так яно і ёсць, бо на вёсцы цяжка ўтаіць нешта, усё навідавоку. Ды і яна ніколі не бачыла сына з цыгарэтаю ці нападпітку. Вось такі яе Зміцер. Пры ўспаміне аб сыне ў душы разлілася гарачая хваля пяшчоты. Вось жа пашанцуе нейкай дзяўчыне з мужам — яе сынам.

2

Як толькі Вольга адчыніла веснічкі, да ног кінуўся маленькі чорны клубочак — сабака Чарлік. Ён завіляў хвастом, радасна цяўкнуў некалькі разоў і закруціўся каля ног.

— Пачакай, Чарлік, пачакай, — адмахнулася Вольга, — пакармлю і цябе.

Той, як зразумеўшы, адышоўся і сеў каля парога. Яна ўвайшла ў хату. Іван сядзеў каля акна і смаліў цыгарэту. Апухлы, непаголены твар. Іван хмура глядзеў на зімовую вуліцу, а рука, якая трымала цыгарэту, дробна дрыжала — прыкмета таго, што яму неадкладна патрэбна апахмелка. Пасля ўчарашніх прэзідэнцкіх выбараў ён сам не дайшоў дахаты — аднекуль прывёз Вользін стрыечны брат Андрэй. І за гэта дзякуй, што не кінуў на вуліцы. Зімою на працу Іван амаль не хадзіў, але выпіць заўсёды недзе знаходзіў. Добра, што яшчэ з хаты нічога не выносіць, як гэта робяць некаторыя мясцовыя апівуды, яго так званыя «сябры». Нічога не кажучы, яна распаліла ў печы, замяшала тоўчанай дробнай бульбы з мукою для падсвінкаў, наліла ў міску ўчарашняга булёну з косткаю для сабакі, аднесла корму курам. Выліла вядро свінням, выпусціла з хлява Лісу, прыбрала за ёю лепяхі, крыху падаслала саломаю і зноў загнала на месца. Потым паставіла перад кароваю падрыхтаваны цэбрык з мешанкаю і ўзялася даіць.

На добры лад яно можа і не патрэбна ўжо ёй тая Ліса — няма каму піць малако, але ж прывыкла да каровы ды крыху нейкая капейчына перападае ад здадзенага. Падаіўшы, вярнулася ў хату, паставіла патэльню з салам на агонь, закалаціла мукі для бліноў. Яшчэ трэба нешта на абед зварыць.

— Дай на віно, — буркнуў раптам Іван.

— Дзе ўчора піў — там сёння і пахмяляйся, — зазлавала яна. — Думай сам, дзе браць, усё роўна галава больш нічым не забіта. Вунь сынаў тэлефон маўчыць, а табе і клопату няма.

— Нічога з ім не зробіцца — загуляў недзе, дзела маладое.

— Гэта толькі ты можаш загуляць — дваццаць год ужо гуляеш.

— А такім, як ты, актывісткам, усё трэба, — нечакана зазлаваў і Іван, успомніўшы яе былое дэпутацтва. — Во і Зміцер у цябе ўдаўся.

— Добра, што не ў цябе, — агрызнулася яна.

— Бо нечага лезці, куды не просяць. Трэба было сына вучыць гэтаму. А то лезе ў палітыку, а ў самога малако на губах не абсохла. І гэтыя ўсе, у тэлевізары, спрачаюцца, мітынгуюць, б’юцца. Чаго? Якая, хрэн, розніца, за каго галачку накрэмзаць і каго там выберуць? Усе аднолькавыя, усе крадуць ды пад сябе грабуць.

Яна прамаўчала. Спрачацца з Іванам не хацелася. За гэтыя дні столькі наслухалася пра выбары, што ад іх аж вярнула. Спрачаліся і гаварылі ўсе, хто толькі мог: ад вясковых алкаголікаў да яе галоўнага начальніка — мясцовага заатэхніка. У іх на ферме жанчыны таксама не раз заводзілі размову пра кандыдатаў у прэзідэнты, але заканчвалася ўсё адным — кпінамі і смехам у адрас Васі Калодкі па мянушцы Прэзідэнт, а потым перамываннем касцей іншым аднавяскоўцам. Вася — былы трактарыст, пазбаўлены правоў за п’янку — прыдбаў незвычайную мянушку некалькі год таму назад. Як часта бывала, ён недзе п’яны зваліўся пад плотам і заснуў. Пакуль ён спаў, нейкі мясцовы шалапут ці шалапуты прыляпілі яму на спіну шыльду з надпісам «прэзідэнт». Вася так і прайшоў праз усю вёску з надпісам. З таго дня мянушка прыклеілася да яго, як смала да порткаў. Вось і ўчора жанчыны пасля дойкі зноў успомнілі спачатку пра выбары, пра галасаванне, пра Васю, а скончылася размовамі аб тым, як жонка гнала паленам жулікаватага агранома-бабніка Кулакоўскага ад удалай развядзёнкі Арыны Спірыдонавай, што гаспадарнічала ў сельскай бібліятэцы.

Сама ж Вольга даўно не цікавілася палітыкай і тэлевізар часцей глядзела толькі зімою, калі было больш вольнага часу, хоць некалі і яна была ў дэпутатах. Яшчэ год дзесяць назад яе, як перадавую даярку, нехта з уладнай вертыкалі загадаў вылучыць у раённыя дэпутаты. Яе абралі, як усіх, каго вылучылі. Вользе нават прыйшлося некалькі разоў з’ездзіць на тыя паседжанні, хоць ад іх не засталося асаблівых успамінаў, бо помняцца толькі вялыя даклады, панурыя прамоўцы і нейкая пустая балбатня. А што тычыцца сына, то Зміцер слухаў яе ва ўсім, акрамя аднаго — сваіх поглядаў на палітыку. Яшчэ на першым курсе ён уступіў у нейкую маладзёвую суполку, стаў размаўляць на чыстай беларускай мове, чытаў невядомыя ёй газеты. Калі яна стала ўшчуваць яго, каб не лез у групоўкі, бо дабром усё гэта не скончыцца, сын адказаў:

— Мама, ты ж не ведаеш, якія там хлопцы — з імі хоць куды! Іх сапраўды хвалюе лёс дзяржавы. У нас няма тых, для каго галоўнае — гэта так званае «бабло». За мяне не бойся, мы нічога супрацьзаконнага не робім.

— Сынок, ты ж малады, навошта яно табе? У нас жа на ўсё могуць артыкул знайсці.

— Мама, я не магу быць староннім назіральнікам.

Як яна не спрабавала пераканаць яго адступіцца, але Зміцер цвёрда стаяў на сваім. Перад выбарамі ён казаў, што збіраецца разам з сябрамі пайсці на плошчу і падтрымаць свайго кандыдата.

Ад гэтых думак сэрца сціснулася, і яна прысела на ўслон. Не, трэба паспрабаваць зноў. Вольга ўзяла мабільны тэлефон, націснула кнопку, паднесла апарат да вуха. Усё так жа, спадзяванні аказаліся марнымі. Што ж рабіць? Як агаломшаная, прасядзеўшы некалькі хвілін, паднялася і прымусіла сябе нешта рабіць. Трэба і свінням згатаваць на вечар, і карове, і сабе на абед не зварана. Што той абед, калі яшчэ нават не снедала.

Снедала ў адзіноце. Іван, пакуль яна хадзіла па ваду да калодзежа, недзе пасунуўся. Хай ідзе, што з ім гаварыць. У яе даўно ўжо няма ні злосці, ні дакору на мужа, настолькі збрыдзеў яго п’яны твар. Дзеці, дзякуй Богу, усё разумеюць і падтрымліваюць як могуць. Так, няма чаго грашыць, у яе добрыя дзеці. Вунь Алёнка — толькі паступіла, а стараецца, вучыцца, часта тэлефануе, прыязджае пры першай магчымасці дапамагчы па гаспадарцы. Прызналася нядаўна, што нават кавалера займела, Алегам зваць. Тут Вольгу як токам працяло. Дык жа Зміцераў сябар — Алег! І яго нумар недзе запісаны ў яе на тэлефоне. Яна схапіла мабільнік, хуценька знайшла патрэбны нумар, і той адказаў роўным гудзеннем. Дзякуй Богу, на сувязі!

— Слухаю вас.

— Алег, гэта ты?

— Так, гэта я, Вольга Пятроўна.

— Малайчына — бачыш, пазнаў мяне. Можа, Зміцер недзе побач? Нешта яго тэлефон не адказвае.

— Тут такая справа, Вольга Пятроўна, — Алег замяўся і на нейкую хвіліну змоўк. — Не ведаю, як вам сказаць… Не хачу маніць. Карацей кажучы, Зміцера ўчора схапілі на плошчы. Вы, мабыць ведаеце, што там адбывалася. Я змог неяк уратавацца, а ён не паспеў.

У Вольгі пацямнела ў вачах. Так і думала — трапіў у бяду. Цяпер жа могуць не толькі пакараць, а і таго горш — адлічыць з інстытута. Што ж тады будзе?

— Паслухай, сынок, Алежка, а дзе ён цяпер?

— Дакладна не ведаю. Бо мы сёння шукалі сваіх, усіх, каго затрымалі — усе знаходзяцца ў розных месцах. Зміцер, па маіх звестках, павінен быць у ізалятары на Акрэсціна. Але дакладна я пакуль не ведаю

Думкі віхурай замітусіліся ў галаве. Не, так жа нельга пакідаць. А што, калі яго і сапраўды адлічаць? Трэба ехаць у інстытут, прасіцца, маліцца, па-

куль не позна. Няўжо там не людзі, не зразумеюць яе? І Зміцер там недзе галодны, халодны сядзіць за кратамі. Ехаць, трэба ехаць. Да сына павінны пусціць. Алег цярпліва чакаў, пакуль яна маўчала.

— Паслухай, Алег. Я сёння ж выеду ў Мінск. Чуеш? Ты толькі дакладна даведайся, дзе Зміцер. Чуеш?

— Добра, Вольга Пятроўна, я зраблю. Тэлефануйце, я вас сустрэну.

Яна падхапілася і тут жа села. З чаго пачынаць? Па-першае, трэба сабраць сыну цёплыя рэчы, у турме, пэўна, холадна. Потым паесці чаго сабраць. Яна кінулася да шафы, стала выцягваць вязаныя шкарпэткі, світары. І зноў, як знямоглая, апусцілася на ложак. Зусім забылася: а каровы, ферма? Хто за яе пойдзе на дойку? Хто дагледзіць гаспадарку дома? Не, не, яна павінна гэта вырашыць. Вольга знайшла нумар загадчыка фермы Якоўчыца.

— Сцяпанавіч, добры дзень. Выручай. Мне трэба тэрмінова ў Мінск на дзень-другі.

— Вольга, ты думаеш, што кажаш? Каго я пастаўлю на тваё месца? І так тры даяркі ў водпуску. Няма кім замяніць, сама ведаеш. Не магу.

— Сцяпанавіч, колькі разоў я цябе выручала, га? Забыў? А я калі прасілася? Першы раз. Мне тэрмінова трэба, разумееш? — А потым прыгразіла: — Не адпусціш — на мяне больш не спадзявайся, калі спатрэбіцца.

У тэлефоне было чуваць, як Якоўчыц цяжка ўздыхнуў:

— Ладна. Але толькі на два дні. Чуеш? На два дні!

— Дзякуй, Сцяпанавіч, дзякуй, міленькі.

3

Праз нейкую гадзіну яна бегла да Андрэя. Яго жонка, Галя, дагледзіць гаспадарку, а Андрэй падкіне ў райцэнтр. Яшчэ не позна, аўтобусы да Мінска павінны быць. Руку адцягвала цяжкая валізка, у якую яна напакавала цёплых шкарпэтак, паклала світар, чыстай бялізны. Пад імі ляжала крыху сала, два колцы дамашняй кілбасы, паляндвіца ды яшчэ тое-сёе. Яшчэ чаго потым прыкупіць на месцы. Галоўнае — дабрацца, а там разбярэцца.

Андрэй быў дома. Ён не стаў аднеквацца, і праз паўгадзіны яго чырвоненькі «фольксваген» пад'ехаў да спануранага і маўкліва-халоднага аўтавакзала. На пустым засіверaным пероне стаяў адно невялікі белы аўтобус, ля якога курыў, захутаўшыся ў пярэсты шалік, высокі чарнявы хлапец. Пакуль Вольга бегала ў касу па білет, брат чакаў яе ў машыне. Аўтобус павінен быў адпраўляцца праз паўтары гадзіны. Андрэй дапамог ёй аднесці валізку ў зал для пасажыраў, і Вольга, з палёгкаю уздыхнуўшы, прымасцілася на шырокім драўляным сядзенні. Хоць бы ўсё было добра. Як там Зміцер? Прыгадала чамусьці, што малым ён вельмі любіў дэкламаваць вершы, якія давалі завучваць у школе. Як запраўскі артыст, узбіраўся на зэдлік і старанна паўтараў:

Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому,
Кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому.
«Мамачка, галубка, — просіць сын так міла, —
Можа б, ты на рэчку пагуляць пусціла».

Тады ўсе пляскалі ў далоні, а ён радасна ўсміхаўся. Праўда, потым перарос сваё захапленне і, пасталеўшы, наадварот, стаў больш сарамлівым, ціхім. У пятым ці шостым класе стаў шмат чытаць, і Вольга, баючыся, каб ён не пасадзіў зрок, нават ганяла яго ад кніг. У школе Зміцера ставілі ў прыклад, і для яе стала нечаканасцю, калі аднойчы ён прыйшоў з запісам у дзённіку. Яе вызывалі ў школу, бо сын разбіў шкло ў класе. На папрокі і пытанні ён упарта маўчаў. Дырэктар, праўда, аднёсся не вельмі строга да таго здарэння, улічваючы ўсе абставіны: і тое, што сын ніколі раней не быў парушальнікам, і тое, што Вольга была ў ліку лепшых даярак раёна. Толькі праз некалькі гадоў яна даведалася, што тое шкло разбіў не яе сын. Гэта выпадкова зрабіў яго сябар Васька Бартосік і, спалоханы, заплакаў. Бартосік-старэйшы быў вельмі строгі, нават жорсткі чалавек, лупцаваў сына за найменшую правіннасць. Зміцер па-сяброўску ўзяў віну на сябе і нікому ў гэтым не прызнаўся.

Гучны пранізлівы голас з вакзальнага дынаміка абвясціў аб прыходзе чарговага аўтобуса. Побач, на лаўцы, гаманілі дзве жанчыны пенсійнага ці перадпенсійнага ўзросту з туга напакаванымі валізкамі. Яны абмяркоўвалі ўчарашнія выбары, і да Вольгі даляталі абрыўкі іх гутаркі:

— А я кажу, дабром не скончыцца… як лобам у сцяну… — даводзіла адна.

— Так, так, — пагаджалася другая, — абы ціха ды мірна… палучкі добрыя, чаго там.

Вольга адвярнулася ад іх і глянула на гадзіннік. Хутка і яе аўтобус. Што яе чакае далей? Ці зразумее хто яе?

Мерна гуў рухавік аўтобуса, у салоне было ціха, сусед — дробны, з рэдкімі вусікамі, бы хлапчук, мужчына — заплюшчыўшы вочы, драмаў ці рабіў выгляд, што дрэмле. Праз напаўзамерзлае шкло прагляндваліся заснежаныя дрэвы, потым мільганула вёска і пайшло белае поле. Вольга падаткнула хустку, пасунула ногі крыху ўперад і засяродзілася на сваім. Успомнілася, як улетку да Зміцера прыязджаў Алег. Часам яны бурна спрачаліся: галовы маладыя, гарачыя. Канечне, ёй не было часу асабліва ўслухоўвацца ў іхнія размовы, але сёе-тое ўсё роўна чула. Гаварылі яны пра падтрымку нейкага іхняга будучага кандыдата, пра тое, як і што будуць рабіць. Яна неяк за вячэрай зноў не вытрымала і ўмяшалася:

— Ой, хлопцы, маладыя вы яшчэ, даверлівыя, не раўнуючы, як тыя мае цяляткі-немаўляткі, сунеце галаву абы-куды. Навошта вам патрэбна гэта палітыка? Во, вучыцеся сабе, дзяўчат шукайце ды жывіце. Нашто яна вам? Што яна вам дасць?

— Вольга Пятроўна, калі не мы — то хто будзе будаваць нашу будучыню? Мы хочам жыць у еўрапейскай дзяржаве, разумееце? — адказаў Алег.

— Ой, не ведаю я гэтыя вашы «еўропы», але і ў нас, калі рабіць, то можна жыць. А ад гэтых кіраўнікоў адна карысць. Вунь у нас адзін прадсядацель быў — краў, цяпер другога паставілі — і той сыну хату ў горадзе будуе за калгасныя грошы. Што змянілася?

— Мама, калі нічога не рабіць і маўчаць, то дакладна нічога не зменіцца. Цябе задавальняе такое жыццё? — ужо не змаўчаў сын.

Вольга няпэўна пацiснула плячыма, бо нiколi не задумвалася над такiм пытаннем, не да таго было. Пытанне ў другiм: цi бачыла яна iншае? Што яна можа думаць i казаць, калi падумаць пра гэта няма часу: ферма, дойкi, агарод, бульба, сена. Ды шмат чаго яшчэ. Яна цяжка ўздыхнула.

— Вось, мама, мы i хочам, каб ты магла працаваць, каб жыць, а не жыць, каб працаваць. А гэта можа быць толькi ў свабоднай беларускай дзяржаве, дзе нiхто i нiкога не баiцца.

Тая размова неяк забылася i во сёння чамусьцi прыгадалася. Хто яго ведае, можа i трэба нешта мяняць, але ж жыццё адно. Пакуль будзеш пяцца, упрагацца — гады прабягуць. А яшчэ, не дай Бог, артыкул знойдуць, то ўвогуле будзе дрэнна. Яны, маладыя, не думаюць, што можа быць далей. Як лёс з самага пачатку зруйнуеш — то потым цяжка папраўляць, усё роўна былое будзе вылазiць i чапляцца за цябе. Вунь сын iхняга суседа, Пятра Жоўгалы. Добры хлопец быў, вучыўся нядрэнна, а нешта ўтварыў у войску, пасадзiлi яго. Пасля, як адсядзеў, i ў iнстытут браць не хацелi, i работы добрай не знайшоў: памыкаўся ў горадзе ды вярнуўся ў вёску. Цяпер нечага — мабыць, духам упаў — выпiвае, робiць у калгасе праз пень-калоду. Анягож, з такiм кляймом цяжка жыць. Яна разумее, што Змiцера не пераканае, бо ён надта балюча рэагуе на любую несправядлiвасць i будзе да канца адстойваць сваю думку. А яе, несправядлiвасцi, сёння паўсюды вунь колькi. Хоць, дарэчы, i раней было не лепш. Але ж нiчога, жылi людзi. У каго ж сын такi ўдаўся? Мабыць, у дзеда — яе бацьку. Той усё жыццё, колькi яна памятае, ваяваў з калгасным начальствам, рэзаў праўду-матку ў вочы. За гэта бацьку i не любiлi: з брыгадзiрства знялi, ды i потым падножкi ставiлi не раз. Затое ў вёсцы яго паважаюць, нiхто дрэннага слова не скажа.

Калi аўтобус, цiха вуркочучы, спынiўся на скрыжаваннi на чырвоны свет, яна ачомалася: трэба ж патэлефанаваць Алегу. Той як чакаў — тут жа адказаў. Дамовiлiся, што ён прыедзе на аўтавакзал. У вакзальнай мiтуснi яна крыху разгубiлася: забыла, калi апошнi раз i была ў Мiнску. Падняўшы валiзку, стомлена пакрочыла ў будынак, бо Алег, пэўне, не паспеў яшчэ даехаць. Але доўга чакаць не прыйшлося, сябар сына з'явiўся лiтаральна праз пяць хвiлiн пасля таго, як яна увайшла ў зал чакання. Стрымана павiтаўшыся, юнак працягнуў руку да яе валiзкi:

— Давайце я, Вольга Пятроўна. Паедзем да нас, пераначуеце. Мая мама чакае. А ўжо заўтра пойдзем…

Не дагаварыўшы, Алег пайшоў наперадзе, а яна за iм. На прыпынку было шматлюдна, i ў натоўпе Вольга ледзьве не згубiла яго з поля зроку. Юнак спынiўся каля лаўкi.

— Можа, ты даведаўся, дзе знаходзiцца Змiцер? — нейкiм крыху надтрэснутым, як не сваiм, голасам спытала яна.

— Так. Як я i казаў, ён знаходзiцца ў iзалятары на Акрэсцiна. Заўтра сходзiм туды, магчыма, атрымаецца аддаць перадачу.

— А пабачыцца?

— Не ведаю, — Алег пацiснуў плячыма. — Бо да гэтага часу з затрыманымі нічога не вырашылі. Прабачце, не хачу вас палохаць, але скажу шчыра: наўрад ці штрафам абыдзецца. Могуць некалькі сутак даць. А ўвогуле, не ведаю. Прабачце.

Нядобрыя думкі зноў палезлі ёй у галаву: напэўна, калі дадуць сутак, выключаць з інстытута. І тады ўсё — гэта ж і ганьба, і жыццё хлопцу зруйнуюць. Вось нарабілася.

4

На ліфце яны падняліся на чацвёрты паверх. Алег пстрыкнуў замком і гасцінна расчыніў дзверы перад Вольгаю, уключыў святло, потым дапамог распрануцца. У вітальню заглянула цёмнавалосая жанчына гадоў сарака ў хатнім халаце.

— Знаёмцеся, Вольга Пятроўна, гэта мая мама, Ала Іванаўна, — ветліва прадставіў Алег.

— Вельмі прыемна, — кіўнула Вольга.

— Праходзьце ды будзем вячэраць. Алег, пакажы госці, дзе рукі памыць, — прыязна ўсміхнулася Ала Іванаўна. Яе вочы свяціліся цеплынёй.

Вольга выйшла з прыбіральні і схамянулася, што з'явілася з пустымі рукамі. Яна адчула сябе няёмка. Вярнулася ў вітальню, выцягнула з валізкі колца дамашняй кілбасы і прынесла яго на стол:

— Прабачце, неяк не падумала, нічога не купіла з сабою.

— Што вы гаворыце нешта такое, — махнула рукою Ала Іванаўна, — нічога і не трэба. Сядайце, калі ласка. Прыгубіце крыху за знаёмства?

— Не, можа, вы самі, калі што, — рашуча адмовілася Вольга, — бо я не надта да гэтага. Хай яна гарам гарыць.

— Тады і я не буду, — падтрымала і гаспадыня, — я ж толькі дзеля прылiку прапанавала. То давайце вячэраць.

Нейкі час яны маўчалі, нібы кожны думаў аб нечым сваім, хоць, можа, яно так і было. Вольга ўявіла, што сын сядзіць недзе за кратамі і там ужо напэўна ніхто не пакорміць яго гарачай вячэрай. І чаму ж усё так складваецца? Хай бы лезлі іншыя, мо ў іх бацькі больш багатыя, могуць дапамагчы у такіх абставінах. Яна ж нічым не дапаможа, хіба толькі што прасіцца ў начальства.

— Алег, чаму ты так мала ясі? — Ала Іванаўна паглядзела на сына. — Нешта здарылася?

— Ды не, усё нармальна.

— Ох, бачу, не ўсё ты мне кажаш, — уздыхнула маці. — Шкада, што бацькі няма, можа, ён з табою пагаварыў бы.

— А дзе ж ваш гаспадар? — спыталася Вольга.

— У Расію на заробкі паехаў. Зманулі яго сябры, што там атрымліваюць больш, чым у нас, у два разы. А сын мяне зусім слухаць не хоча.

— Мама… — з дакорам працягнуў Алег.

— Што мама? Вось чаго вас пагнала на тую плошчу? А цяпер клопату мне, ды і ёй во, — кіўнула гаспадыня на Вольгу. — А далей што?

— Калі ўсе будуць сядзець у кватэры ці хавацца за спіны іншых, то ніколі і нічога не зменіцца. Як ты гэтага не разумееш?! — з запалам выгукнуў Алег. — Кастусь Каліноўскі за свабоду на шыбеніцу пайшоў.

— Калі ж тое было, успомніў, — Ала Іванаўна вяла махнула рукою. — Свабода, свабода… Эх, дзеткі, не разумееце вы, як маткам прыходзіцца. Калі б ведалі, то дзесяць разоў падумалі б перш, чым ісці туды. Але ж нездарма кажуць: каб маладосць ведала, а старасць магла…

Зноў усе прымоўклі. Потым гаспадыня схамянулася:

— Што ж я сяджу, давайце гарбаты з печывам пап'ём.

— Мама сядзі, я сам, — падхапіўся Алег.

Папіўшы гарбаты, ён пайшоў пасядзець за камп'ютарам — рыхтавацца да экзаменаў, а жанчыны засталіся адны. Вольга, стомленая дарогай і цяжкімі роздумамі, маўчала. Маўчала і гаспадыня, пацягваючы гарачую гарбату.

— Добры ў вас сын, — прамовіла яна, — адказны і клапатлівы.

— Ды і ў вас таксама добры хлопец, — адказала Вольга. — Калі яны са Зміцерам да нас прыязджалі, я заўсёды радавалася, што ў сына такі сябар.

— Мабыць, так. Але вось трэба ж было ім лезці ў гэту палітыку. Не хацела пры Алегу казаць, ды здаецца мне, не скончыцца дабром яно, — Ала Іванаўна раптам усхліпнула.

— Чаго вы, не трэба, — стала суцяшаць яе Вольга, хоць у самой унутры ўсё абарвалася пасля гэтых слоў. — Алега ж не затрымалі, дзякуй Богу. Так што ўсё будзе добра.

— Вы проста не ўсё ведаеце, — сумна хітнула галавою Ала Іванаўна. — Мне знаёмая тэлефанавала і казала, што прыходзяць дахаты і затрымліваюць тых, хто быў на плошчы, асабліва актывістаў. Дзяўбла ж я яму — не лезь, ды дзе там.

— І я не раз казала Зміцеру, — падтрымала яе Вольга, — толькі і ён мяне не паслухаў. Галовы гарачыя, лічаць, што больш за нас ведаюць. З аднаго боку, яно так, ведаюць і бачаць шмат — цяпер моладзь адукаваная, не мы, цёмныя. Але ж не разумеюць таго, што мы жыццё ўжо пабачылі, хай сабе і крыху іншае.

Яна прымоўкла і задумалася. Пасля жанчыны яшчэ крыху пагаманілі. Вользе спадабалася маці Алега: спакойная, добрая і спагадлівая жанчына. З ёю было лёгка і проста размаўляць, Вользе падалося, што яны бачацца не першы раз і даўно знаёмыя. Потым Ала Іванаўна адвяла Вольгу ў пакой, паслала ложак і, пажадаўшы добрай ночы, выйшла. Вольга, нягледзячы на стому, доўга ляжала і не магла заснуць. Што будзе заўтра? Ці ўбачыць яна сына? Ці стануць яе слухаць у інстытуце? Паўздыхаўшы, павярнулася на бок і непрыкметна заснула.

5

Па даўно заведзенай звычцы Вольга прачнулася рана: на вуліцы, тым больш у кватэры, панавала цішыня. Яна паднялася, падышла да акна і глянула на гадзіннік: так і ёсць, яшчэ толькі палова на шостую. Зыркае святло вулічнага ліхтара выхапіла з цьмянай цішыні чорныя верхавіны дрэў, радок прыпаркаваных уздоўж ходнікаў машын і маўклівыя прамавугольнікі камяніц. Большасць гараджанаў яшчэ спала. Вольга чамусьці адчула сябе чужой і пакінутай у гэтым вялікім і амаль незнаёмым горадзе. Тут усё халоднае, адчужанае: і дамы, і вуліцы, і людзі. І няма дзе прытуліцца воку, пагрэцца погляду на нечым сваім, знаёмым і блізкім. Дзіўна, як людзі прывыкаюць да мітусні і тлуму, да мноства незнаёмых, абыякавых твараў, цесных і халодных сцен. Навошта ўся гэта мітусня і беганіна? Хай сабе і цяжка ў вёсцы, але сэрцу лепей.

Па вуліцы прамчалася машына і як бы вывела яе са стану здранцвення. Спаць ужо не хацелася, але каб не турбаваць Алу Іванаўну з Алегам раней часу, яна ціха прылегла ў ложак. Можна і паляжаць, калі ў яе такое бывае, што не трэба хуценька падымацца, падходжвацца па гаспадарцы, спяшацца на ферму. Сёння нялёгкі дзень будзе. Са слоў Алега, яшчэ ўчора лёс затрыманых заставаўся нявызначаным. Магчыма, што сёння павінна нешта вырашыцца. Калі ўсё будзе добра і будзе прынята нейкае канчатковае рашэнне, то могуць даць згоду на кароткачасовае спатканне. Прынамсі, такі расклад абмаляваў Алег. А можа, дарэмна яна хвалюецца, можа, усё абыдзецца? Дадуць Зміцеру тых некалькі сутак, адсядзіць і выйдзе. Раней жа за дробны арышт ніколі не выганялі з інстытута. Тым больш сын на добрым рахунку, добра вучыцца ўжо чацвёрты год. Не можа быць, каб такое не ўлічвалі. Ад гэтых думак яна павесялела, паднялася і пайшла ў ванны пакой, тым больш, што ў суседнім пакоі празвінеў будзільнік.

Паснедаўшы, яны з Алегам выйшлі з кватэры. Ала Іванаўна, развітаўшыся, пайшла на працу яшчэ раней. Вольга ж меркавала пасля паездкі на Акрэсціна з’ездзіць у інстытут і пагаварыць у дэканаце пра сына, і потым, вырашыўшы ўсе гэтыя пытанні, адправіцца на аўтавакзал. Заняткі ў Алега пачыналіся ў другую змену, таму ён бесперашкодна мог пабыць з ёю ўвесь той час, пакуль яна будзе займацца сваімі справамі, бо Вользе цяжка было арыентавацца ў Мінску. Да таго ж юнаку і самому хацелася — калі такое будзе магчыма — пабачыцца з сябрам, падтрымаць таго.

Мякка шчоўкнуўшы, дзверы ў пад’езд зачыніліся. Твар адразу ж абдало сіверам і стыласцю, вільготнае паветра, як бы прыцiснула да зямлі. Шэрая імглістасць яшчэ хавалася ў закутках паміж камяніцамі і пад’ездамі, панура сцішыліся прысыпаныя снегам машыны. Алег перакінуў у правую руку даволі цяжкую Вользіну валізку, зрабіў некалькі крокаў наперад. Яна паспяшалася за сынавым сябрам. У гэты момант з-за вугла будынка выехаў міліцэйскі «УАЗік» і, аглушальна віскнуўшы тармазамі, спыніўся каля юнака. Пярэднія дзверы адчыніліся, з іх высунуўся міліцыянт:

— Грамадзянін Карпеня?

— Так, — крыху разгублена адказаў Алег.

— Вы павінны праехаць з намі, — міліцыянт вылез з машыны, узяў юнака пад локаць. Заднія дзверы адчыніліся, з іх вылез яшчэ адзін чалавек у цывільнай вопратцы і падышоў да Алега з другога боку.

— А ў чым справа? — усхвалявана выгукнуў хлапец. — Чаго вы ад мяне хочаце? Я нічога не парушаю.

— Вам прыйдзецца праехаць з намі ў раённае ўпраўленне ўнутраных спраў, там усё патлумачым, — цярпліва адказаў міліцыянт. — Я ваш участковы інспектар. Сядайце ў машыну, і не трэба паднімаць гвалт.

— Пачакайце, я аддам валізку, — Алег вырваў сваю руку і павярнуўся да жанчыны. — Вольга Пятроўна, прабачце, я не змагу паехаць з вамі. Вы ідзіце наперад паміж дамамі, там будзе аўтобусны прыпынак. Спытаецеся, як даехаць да вуліцы Акрэсціна, нехта падкажа. А там, на месцы, сёння будзе шмат народу, любы вам скажа, што рабіць далей. Там усе нашы, разумееце? Усё будзе добра.

— А… а як жа ты? — выціснула з сябе разгубленая жанчына.

— За мяне не хвалюйцеся, праўда. Яшчэ сустрэнемся, — абнадзеіў яе юнак. Ён паставіў валізку на дарогу, злёгку паціснуў Вользе руку і сеў у машыну. Гучна ляпнулі дзверы, аўтамабіль таргануўся, праехаў некалькі метраў па дарожцы, потым звярнуў у цемру пад аркай і знік. Вольга адчула, як унутры нешта сціснулася, перахапіла дыханне, і ёй падалося, што яна можа заплакаць.

Некалькі слязінак самі па сабе скаціліся на твар, нечакана абудзілі хвалю роспачы і бяссілля. Хацелася кінуць усё, сесці проста на гэты заезджаны асфальт і заплакаць. Не, толькі не цяпер. Ды і ўвогуле нельга плакаць. Не хапала, каб яе бачылі слабай. Яна павінна дапамагчы сыну. Але чаму, за што забралі Алега? Што робіцца?

Невысокая гаваркая жанчына пенсійнага ўзросту ў тоўстай вязанай шапцы спрабавала было патлумачыць ёй, як даехаць да таго самага ізалятара, а потым, схамянуўшыся, кінулася да пад'язджаўшага тралейбуса. З таго, што ёй расказала жанчына, Вольга так і не зразумела, як дабрацца да патрэбнага месца. На шчасце, побач стаяў высокі і худы мужчына з сівой шчэцціцю на твары, які сам прыйшоў ёй на дапамогу:

— Сядайце са мною во ў гэты аўтобус. Я якраз у той бок еду і падкажу, дзе вам перасесці.

Яна з удзячнасцю зірнула на незнаёмца і праціснулася за ім у аўтобус. Аўтобус праехаў колькі прыпынкаў, і мужчына гукнуў яе:

— Выходзім.

Калі яны выйшлі, мужчына ахвотна патлумачыў:

— Адсюль вам тры прыпынкі, можна і пехатой, калі ісці ўлёгцы, але ў вас цяжкая валізка. Сядайце на любы нумар — і даедзеце.

Ён сабраўся было ісці, але нечакана павярнуўся, прыязна ўсміхнуўся Вользе і з цеплынёю ў голасе прамовіў:

— Удачы вам.

Падзякаваўшы, Вольга глянула на гадзіннік: палова на дзявятую. Добра, якраз паспее да дзевяці. Яна села ў першы ж аўтобус.

6

Патрэбны будынак шукаць не прыйшлося. На выхадзе з аўтобуса яна зноў спытала дарогу і хутка трапіла да ізалятара. Сцяна, са скручаным калючым дротам паверсе, доўгая і высокая, як варожая крэпасць, цягнулася уздоўж на сотні метраў. У адным месцы, недзе пасярэдзіне, цямнелі высокія металічныя вароты, а каля іх вытыркалася паўкруглая будка з дзвярыма і акенцам. На вуліцы стаялі міліцэйскія грузавікі, а каля варот невядомыя людзі ў чорным: ці то міліцыянты-амапаўцы, ці то спецназаўцы. А каб ніхто не сумняваўся, што трапіў у патрэбнае месца, увесь малюнак дапаўняла шыльда: прыёмнік-спецразмеркавальнік.

Яе спачатку напалохала такая колькасць амапаўцаў: ці тут плануецца зноў нейкае выступленне? Калі так, то гэта ўсё невядома чым скончыцца. Але не, ніхто не мітынгаваў, большасць прысутных складала моладзь і жанчыны, якія вялі сябе спакойна. Алег казаў, што выпадковых людзей каля ізалятара не будзе, і ён, відаць, не памыліўся: у тых, што тут знаходзіліся, шмат у каго ў руках былі напакаваныя торбачкі і валізкі. Нехта стаяў каля ўваходных дзвярэй, іншыя разбіліся на купкі і вялі між сабою гаворку. Падобна на тое, што людзі стаялі ў вялікай чарзе. Вылучалася моладзь, якой было нямала, многія трымалі ў руках фота кандыдатаў у прэзідэнты, мільгалі нейкія людзі з фотаапаратамі. Зводдаль ад усіх стаялі двое добра апранутых мужчын і смела здымалі прысутных на відэакамеру.

Вольга спынілася: што далей, куды ісці, да каго звяртацца? Быў бы Алег, ён павёў бы, куды патрэбна, а сама яна нічога не ведае. Трэба, мабыць, да дзяжурнага, у тое акенца. Уздыхнуўшы, як бы набіраючыся смеласці, яна пaціху пашыбавала да дзвярэй. Бліжэй да акенца, хутаючыся ў чорны шалік, стаяў мужчына сярэдняга ўзросту з невялікай акуратнай бародкай і нешта разглядаў у тэлефоне. Побач маладая дзяўчына размаўляла з хлопцам, злева ад іх курыў статны, з вайсковай выпраўкай, мужчына.

— Прабачце, — нясмела звярнулася Вольга да мужчыны з ваеннай выпраўкай, — ці пускаюць туды?

— Туды пускаюць, а адтуль нікога не выпускаюць, — пажартаваў той.

— Пакуль што чакаем, — дадаў мужчына ў шаліку.

— І перадачы не прымаюць?

— Што вы, не. Учора павесілі аб’яву, што не прымаюць па тэхнічных прычынах, а сёння пакуль нічога не паведамлялі. Але пачакайце, павінна праясніцца. Мы тут усе стаім у чарзе.

Вольга адышлася, апусціла валізку. Колькі ж чакаць? Што ж, людзі стаяць, пастаіць і яна. Трэба ісці ў канец займаць чаргу, магчыма, ёй і пашанцуе. Апошняй стаяла стройная жанчына з ярка падфарбаванымі вуснамі ў прыгожай скуранай дублёнцы. Вольга спынілася каля яе:

— Скажыце, вы апошняя?

Жанчына неяк нядобра, як падалося Вользе, нават з пагардаю, глянула на яе, але адказаць нічога не паспела. У гэты момант у яе азваўся тэлефон. Суседка выцягнула яго з кішэні і паднесла да вуха:

— Да, я здесь. Пока ничего. Да, вчера пыталась, да где там. Представляешь, ходила в милицию, пыталась что-то узнать. Я им говорю, что у нас не комендантский час, имеешь право гулять, где хочешь. За что хватать? Бесполезно, разве докажешь, это всё равно, что лбом о стенку биться. Да, ты не представляешь, это ужас — экзамены на носу.

Тое, што жанчына гаварыла па тэлефоне на чыстай рускай мове, не здзівіла Вольгу, але неяк рэзала вуха, бо звычайна большасць размаўляе на «трасянцы». «Таксама хвалюецца, некага і ў яе забралі», — са шкадаваннем адзначыла Вольга. Каб неяк пабавіць час, яна запытала ў жанчыны пасля таго, як тая скончыла размову:

— А ў вас каго забралі?

Жанчына здзіўлена, быццам дзіва дзіўнае, агледзела яе, потым з нечаканай злосцю перадражніла яе:

— «Каго забралі». Приедут вот такие сюда и начинают везде лезть со своею «моваю». Говорила я своей дурочке: не связывайся с этими мужланами, они до добра не доведут. Она же у меня умница, двумя иностранными языками владеет, стихи пишет, на фортепиано играет. Всё было бы хорошо — так нет, эта деревенщина появилась, а моя в него втрескалась и уши развесила, попёрлась на «плошчу». Надо оно ей это — «Жыве Беларусь»!

Вольга спачатку анямела ад яе слоў, а потым абурылася: за што? Што яна зрабіла ёй, толькі пацікавілася ж? Таксама, пані знайшлася! Бачыш ты яе: дзеравеншчына, мужланы. Нябось, хлеб з малаком ды мяса есць і не крывіцца, а тут вёска ёй дрэнная. І Вольга не змаўчала.

— Вось вы тут пра вёску, пра мову кажаце. Ды каб вёска гэта вас не карміла, што было б? А тут, канечне, усе разумныя, фартэпіяны, інстытуты, вершы. Вось так: робім, робім, а нас памыямі абліваюць.

Жанчына кінула ў яе бок здзіўлены позірк, памаўчала, а потым прамовіла ужо цішэй, як бы апраўдваючыся:

— Это вы зря, лично против вас я ничего не имею. Мне за дочку обидно: растила её, вкладывала всё, чтобы интеллигентным человеком стала, а она полезла в эту муть. Зачем ей это? Вот скажите, как я могу спокойно относиться к тому, что её задержали?

— Я разумею вас, у мяне сына таксама за гэта з плошчы забралі, — ужо спакайней адазвалася Вольга. — І мне ўсё баліць. Не дай Бог, адлічаць з інстытута, а ён жа бюджэце вучыцца, і добра вучыцца. Ведаеце, я за гэтыя дні столькі перадумала. Такія ўжо нашы дзеці, што не хочуць слухаць нас, але гэта іх жыццё і яны самі яго выбіраюць. Трэба, мабыць, змірыцца з гэтым.

Памаўчаўшы, яна дадала:

— Толькі ўсё адно перажываеш за іх: як там усё будзе? Цяжкая наша жаночая доля: выпраўляць ды чакаць.

Жанчына нічога не адказала, і Вольга, сцішыўшыся, паглыбілася ў свае думкі. Алег нешта ведаў, калі гаварыў, што дадуць суткі. Хай сабе, перажывецца, абы горш не было. Хоць за што яго караць? Яна выгадавала добрага сына і выдатна ведае, што той не ўзніме руку на чалавека, не кажучы пра што горшае. А што людзі там такога страшнага зрабілі? Прайшлі па праспекце, выйшлі на плошчу, кажуць, нехта разбіў шкло ў дзвярах. І што? Караць за тое, што выйшлі на вуліцу? Не, тут іншае — яны пайшлі супраць улады, а ўлада не даруе такога. Ад гэтай нечаканай думкі яна жахнулася, і рукі дробна закалаціліся. Каб схаваць сваё хваляванне, Вольга стала папраўляць хустку, пальцы забегалі па кішэнях, як бы нешта шукаючы. Калі яна правільна думае, то ўсё можа скончыцца значна горш, чым яна сабе раней уяўляла. Няўжо такое магчыма? О Божа, што ж тады будзе са Зміцерам, з яго вучобаю? Не, не, такога не павінна здарыцца, яе сын ніякі не злачынца.

7

Наперадзе абазначыўся нейкі рух, чарга ажывілася:

— Як быццам будуць прымаць.

— Так, першыя пайшлі.

— Ну, то і добра, праз якія гадзіну-дзве і да нас чарга дойдзе.

Жанчына ў дублёнцы, мабыць, паспела адысці ад першапачатковага раздражнення. Крыху пасунуўшыся ў чарзе, яна першая загаварыла з Вольгаю:

— Понимаете, ведь моя Оксаночка не сможет и дня прожить в таких ужасных условиях. А её бросили в холодную вонючую камеру. Я представить себе не могу, как она там мучается: голодная, грязная. О, это невыносимо!

Жанчына нават усхліпнула.

— Не перажывайце вы так, — як магла стала супакойваць яе Вольга, — яна там не адна. Мне здаецца, што дзяўчат трымаць доўга не будуць — не сёння-заўтра адпусцяць.

— Вы так думаете?

— Канешне, навошта ім дзяўчаты, вунь колькі нахапалі і без іх. Гэта ж колькі людзей прыйшло да сваіх. А колькі яшчэ не, — Вольга кіўнула на чаргу.

— Хорошо бы, — жанчына ўздыхнула, — а то у неё сессия скоро, готовиться надо. Я ведь в Оксаночку столько сил вложила — одна растила, можно сказать, разве что родители помогали немного.

— А дзе ж ваш муж, прабачце?

— Муж, — пагардліва фыркнула жанчына. — Где они есть, настоящие мужчины? Мой сбежал, как только узнал, что я беременна. До сих пор так и не объявился.

— Усялякае бывае, — пагадзілася Вольга, успомніўшы пра свайго Івана. — Але ж не ўсе аднолькавыя. А ваша дачка дзе вучыцца?

— В лингвистическом университете. Между прочим, исключительно на «восемь» и «девять», — з гонарам паведаміла суседка.

У Вольгі ад нечаканай думкі аж злёгку закружыла ў галаве. Няўжо такое магчыма? Не, такое толькі ў кіно бывае. Ці ўсё ж спытаць у жанчыны? Ат, калі так ужо атрымалася, то няхай.

— Прабачце, не ведаю, як вас зваць?

— Елена, — адказала жанчына.

— А мяне Вольга. Скажыце, а як ваша прозвішча?

— Что?

— Ну, фамілія.

— Странно. Зачем вам? Ну, допустим, Круглова, а что?

— Ды не, нічога. Проста мой сын Зміцер сустракаецца з дзяўчынай, а яе зваць Аксана Круглова і яна вучыцца ў лінгвістычным універсітэце.

— П-подождите, — злёгку заікнулася Алена і загаварыла, блытаючы рускія і беларускія словы. — Вы хотите сказать, что ваш Зміцер сустракаецца с моей Оксаной? Дык вы з Забалаці?

— Так.

— О, Боже! Невероятно, — Алена войкнула, прыкрыла рот рукою ў пальчатцы і ўтаропілася ў Вольгу.

— Прабачце, але я і сама ніколі не магла падумаць, што такая сустрэча можа здарыцца, — Вольгу ахапіла лёгкае хваляванне. — Мне сын нічога не расказваў. А пра Аксану я даведалася ад яго сябра, Алега.

— Но как же так? Невероятно, никогда не думала, что такое возможно. Хотя что говорить? — Алена слаба махнула рукою. — Оксана и слушать не хочет меня, а глядзіць толькі ў рот вашаму Зміцеру. Но если у них всё настолько серьёзно, я не представляю, как она будет жить у вёсцы. Она-то была там всего несколько раз.

— Ведаеце, Алена, не такая ўжо вёска і страшная, як вам здаецца, людзі і там жывуць. Галоўнае, каб у іх было ўзаемаразуменне. Я не хачу хваліцца сваім сынам, але Зміцер адказны і сумленны хлопец, ён ніколі не пакрыўдзіць вашу Аксану. Да таго ж яшчэ невядома, як яно ў іх там будзе, што казаць раней часу.

— Согласна. Я видела Диму только несколько раз и не буду спорить — он мне понравился: воспитанный и порядочный. Но я Оксана у меня тонкая, ранимая. А вы же видите, что творится вокруг. Куда они лезут?

Чарга тым часам рухалася наперад, Вольга з Аленай пасунуліся за ўсімі. А за імі таксама паспеў выцягнуцца невялікі хвост. Алена хацела нешта яшчэ сказаць, але ў гэты момант заскрыгаталі вароты і адтуль паказалася машына з металічным фургонам. Такія машыны Вольга бачыла па тэлевізары — у іх перавозяць злачынцаў. Позіркі прысутных скіраваліся на аўтамабіль, які марудна выпаўзаў на вуліцу. Нечакана да машыны кінулася нейкая жанчына ў карычневым паліто і загаласіла:

— Вярніце мне сына! Дзе мой сын?!

Яна стала наперадзе, машына спынілася. Да яе падбеглі двое дужых малайцоў у чорным, падхапілі пад рукі і адвалаклі ўбок. Жанчына працягвала галасіць і рвацца даваротаў. Але тыя, у чорным, нібы сцяна, сталі перад ёю,

не даючы магчымасці прайсці наперад. Вольгу ўразілі іх твары: цвёрдыя, халодныя і абыякавыя, нібы тая самая каменная сцяна з калючым дротам, што варожа натапырылася за спінамі спецназаўцаў. Людзі навокал загаманілі, выказваючы сваё абурэнне. Нервы ва ўсіх, пасля нядзельнага вечара і ўчарашняга дня, былі нацягнутыя як струна:

— Што вы робіце?!

— Колькі можна хапаць?!

— Людзі вы ці не?!

Але на гэтыя гнеўныя воклічы «чорныя» ніяк не рэагавалі. Яны пачакалі, пакуль машына праедзе, а потым вярнуліся да варот.

— Что же теперь будет? — чамусьці шэптам вымавіла Алена.

— Як было, так і будзе, а далей час пакажа, — разважліва адказала Вольга. — Цяпер галоўнае каб нашы дзеці хутчэй выйшлі адсюль. Я сёння яшчэ хацела паспець з'ездзіць у інстытут. Бо калі, не дай Бог, адлічаць, то дзе я буду браць грошы, каб заплаціць за вучобу?

— Вы думаеце… — не дагаварыла Алена.

— Людзі казалі. А тым больш пасля гэтага, — вочы ў Вольгі затуманіліся ад болю і няпэўнасці. Сапраўды, яна не хоча сабе нават і ўяўляць, што такое магчыма. І каб было спакайней, трэба абавязкова пагаварыць з тым самым дэканам. Прынамсі, Зміцер казаў, што менавіта ён галоўны ў іх на курсе. А прозвішча даведаецца, гэта не так складана.

8

Калі дайшла чарга да Вольгі, яна працягнула сваю торбачку.

— Фамилия, — грозна буркнуў з акенца нядобры твар.

Яна назвала. Твар нейкі час маўчаў, мабыць, шукаў прозвішча ў спісе, потым адазваўся, як нехаця:

— Что у вас там?

— Дык во — рэчы цёплыя, сёе-тое. Нічога асаблівага.

Пасля таго, як у яе забралі рэчы, ператрэслі, твар зноў буркнуў:

— Следующий.

Вольга таропка зрабіла крок улева. Алена чакала яе:

— Пойдёмте на остановку, я провожу вас.

На прыпынку ў метро Алена растлумачыла Вользе, як даехаць да інстытута, а потым дадала:

— Вы не обижайтесь на меня, просто нервы сдали. Как представлю, где моя дочь и что с ней дальше может быть, — страшно становится. Я понимаю, что должно что-то меняться. И ничего не имею против белорусской мовы, хоть привыкли все как-то к русскому. Но самое главное — жизнь одна. Вот зачем ей губить свою жизнь?

— Не, што вы, я не крыўджуся на вас, ні ў якім разе. Вы цудоўная маці, бо выхавалі добрую дачку, хвалюецеся за яе. За што тут крыўдаваць? А наконт астатняга… Думаеце, мне не баліць? Але я ведаю толькі адно: гэта жыццё

майго сына, хай сам выбірае сваю дарогу. Каб, даў Бог, тут усё добра скончылася.

Вольга з хваляваннем перажагналася. Яны цёпла развіталіся, Алена выйшла з вагона. «Добрая жанчына, хоць спачатку я на яе дрэнна падумала. Усё ж такі і яе жыццё не песціла», — Вольга задумліва глядзела ўслед выходзячай Алене. Міжволі ўкраліся ўспаміны пра сваё жыццё: дзявочыя гады, першыя гады замужжа. Якім светлым і простым здавалася тады будучае жыццё! Не, яна не хоча скардзіцца на свой лёс: у яе добрыя дзеці, дагледжаная гаспадарка, у хаце ёсць усё, што патрэбна. Толькі што муж п'яніца, але гэтая бяда ў многіх. Але ж чаму да слёз шкада тых даўніх мар, той лёгкасці ў рухах і свежасці ў думках, што зніклі пад магутным прэсам будзённасці і неадольнага бегу жыцця?..

На першым паверсе вучэбнага корпуса інстытута пажылая жанчына, што сядзела на вахце, выслухаўшы яе, ахвотна патлумачыла:

— Я даўно тут раблю, усіх ведаю, ага, не сумнявайся. То табе, даражэнькая, трэба ісці ў другі корпус, наступны за нашым, — там твой факультэт. Падымешся на другі паверх і запытаеш, дзе кабінет Ігара Паўлавіча. Ён павінен быць там.

Мабыць, якраз аб'явілі перапынак, бо калідор быў запоўнены студэнтамі. Вакол стаяў шум і гамана, моладзь бесперапынна таўклася з боку ў бок, і ў Вольгі аж паплыло ў вачах ад такога гармідару. Нейкі невысокі бойкі юнак у акулярах паказаў ёй патрэбны кабінет. Вольга пастукала ў дзверы, прыслухалася, але адказу не дачакалася — хутчэй за ўсё гэтаму перашкаджаў шум з калідора — і адчыніла іх. За сталом, гледзячы на экран манітора, сядзеў даволі малады, не больш за сорак гадоў, паўнаваты мужчына. Ён прыўзняў галаву, адказаў на яе прывітанне і прапанаваў сесці.

— Слухаю вас.

— Прабачце, што турбую, адрываю ад справы. Вы Ігар Паўлавіч?

— Так, вы не памыліліся.

— Я маці вашага студэнта Зміцера Карповіча. Вось хацела пагаварыць.

— Аб чым жа вы хацелі пагаварыць?

— Можа, ведаеце, што Зміцера затрымалі заўчора, на плошчы. Самі разумееце, маці заўсёды перажываюць за дзяцей. Яго ж, пэўне, хутка адпусцяць, бо Зміцер ні ў чым не вінаваты. Дык я хацела прасіць, каб вы ўжо там яго не надта сурова каралі. Ён жа паслухмяны, добра вучыцца. А тое, што было, — дык гэта ж моладзь. Яны такія — іншы раз не паглядзяць, не падумаюць, — Вольга выпаліла ўсё гэта на адным дыханні.

Ігар Паўлавіч моўчкі перагледзеў нейкія паперы на стале і адвёў вочы ўбок:

— Так, нам патэлефанавалі, што ён арыштаваны. Канечне, пакуль мы не ведаем ступень яго віны за ўдзел у тых падзеях і не можам рабіць ніякіх высноў. Да таго ж я нічога не вырашаю, бо ўсе загады падпісвае рэктар — кіраўнік нашай установы. Так што прабачце, але я нічога канкрэтнага вам не магу сказаць.

— Але ж Зміцер вучыцца на вашым факультэце.

— Так, на нашым факультэце. Але паўтаруся — ад мяне нічога не залежыць, — Ігар Паўлавіч развёў рукамі, усё так жа стараючыся не глядзець ёй у вочы.

— Вы скажыце — яго не адлічаць? — яна не змагла сябе стрымліваць.

— Гэтага я не магу вам сказаць, — дэкан ухіліўся ад прамога адказу. — Калі нам прышлюць матэрыялы, тады і будзем вырашаць.

— Вы ж можаце пахадайнічаць.

— Так, я магу нешта прасіць. Толькі вы мяне зразумейце — у мяне невялікія паўнамоцтвы і шмат студэнтаў. Да таго ж нада мною яшчэ шмат начальнікаў. Ды вы не хвалюйцеся так, яшчэ пакуль ніхто і нікога не збіраецца караць.

Зразумеўшы, што ад дэкана яна больш нічога не даб'ецца, Вольга паднялася:

— То прабачце, што патурбавала.

— Нічога, нічога, заходзьце, калі трэба.

На вуліцы яна спынілася і аглянулася на будынак інстытута, падумала пра Ігара Паўлавіча. Не, такі не стане прасіць, ён будзе трымацца за сваё месца. Да галоўнага, да рэктара, таксама не мае сэнсу ісці, наўрад ці стане ён слухаць. Якія ж дробязныя цяпер усе тыя, хто ва ўладзе: нічога не хочуць бачыць далей свайго ўтульнага кабінета. Мо і без іх абыдзецца. Там жа столькі моладзі было, няўжо ўсіх павыганяюць ды пад суд аддадуць? Такога проста не можа быць. Супакоеная гэтай думкай, яна пайшла на прыпынак.

Ужо ў аўтобусе, стомленая і спустошаная ад бегатні і хвалявання за гэты кароткі зімовы дзень, Вольга іншы раз заплюшчвала вочы, успамінала яго, нібы пражываючы пройдзенае ўжо ў думках. Як ты там, сынок? Як твая Аксана? Мабыць, прыгожая і харошая дзяўчына, калі ты яе абраў. А што, можа, і добрая была б пара? Калі жорсткі і бязлітасны лёс не развядзе іх па розныя бакі, калі яны змогуць захаваць цеплыню ў сваіх сэрцах, не пабудуюць сцяну ў сваіх пачуццях падчас сумеснага жыцця.

Сцяна… Сёння кругом Вольга натыкалася на яе: раніцай, калі забралі Алега, днём, каля доўгай мураванкі з калючкай, і тады, калі гэтыя ў чорным стаялі нерухомай раўнадушнай перапонай перад беднаю жанчынаю. І тады ж нябачная сцяна нянавісці вырасла паміж людзьмі і прадстаўнікамі ўлады. Гэта так жахліва: бачыць, што сцены не памяншаюцца, не разбураюцца, а растуць. Растуць усюды: на вуліцах, паміж людзьмі, у сэрцах людзей. Яны, сцены, уяўляюць сабой страшную сілу, бо раз'ядноўваюць, робяць людзей ворагамі, разбіваюць на два процілеглыя лагеры. А такога быць не павінна. Трэба тэрмінова нешта рабіць, каб гэтых сцен не было.

Вольга задрамала. Ёй прысніўся Зміцер: вясёлы і дужы, ён ішоў недзе па вуліцы з незнаёмаю дзяўчынаю, а вакол іх груганнём кружыліся чорныя цені. Вольга заўважыла гэта і кінулася адганяць пачвар. Яна махала рукамі, выбіваючыся з сіл, хацела крычаць, ды не было моцы, а яны зусім не баяліся яе, нахабна кружыліся і кружыліся над сынам з дзяўчынаю. І тут яна ўбачы-

ла, што маладзёны ўсміхаюцца адно аднаму, так добра, так хораша, што цені самі сталі адлятаць ад іх, рушыцца ўніз і валіцца, нібы сцены, у прах. Тады, у сне, з палёгкаю ўсміхнулася і змучаная маці.






нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча і Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Служыў на Далёкім Усходзе. Жыве і працуе ў Навагрудку. Аўтар кніг прозы «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы Междуречья». Сябра СБП.

МІКОЛА КАНАНОВІЧ

# Сучасныя вясковыя гісторыі

## Сядзела, як жывая

— І што ж гэта робіцца з цяперашнім светам, што адбываецца з намі, мая ты даражэнькая! Даўней, чула я, быў на нашай зямлі такі звычай: у галодны год, калі не хапала хлеба, каб да новага ўраджаю пракармілася ўся сям'я, гаспадар завозіў сваіх састарэлых бацькоў у лес і там пакідаў іх на волю лёсу. Лічы — ваўкам на вячэру. А цяпер што робіцца? І памерлую маці сын хаваць не хоча! — дзялілася сваімі думкамі з суседкай старая Аўдоцця.

Другую яе суседку, Акуліну, нядаўна пахавалі. Хаваў калгас. Але не гэтая акалічнасць турбавала адзінокую Аўдоццю, будзіла невясёлыя думкі пра непазбежную і недалёкую ўжо, адчувала старая, смерць. Аўдоццю, як і ўсю іхнюю вёску, уразіла незвычайная гісторыя Акулінінай смерці.

Жывучы па-суседску, Аўдоцця і Акуліна неўпрыкмет зблізіліся толькі, калі выйшлі на пенсію. У абедзвюх хутка паўміралі гаспадары, і ўдовіна доля на старасці гадоў збліжала мацней, чым даўняе суседства. Як былі маладымі, працавалі і гадавалі дзяцей, то і пагутарыць добра не было асабліва часу. На працы ў калгасе таксама не сутыкаліся, бо адна гнула спіну ў паляводстве, а другая — на ферме.

Аўдоцціны дзеці — сын і дачка — выраслі, вывучыліся. Як казалі вяскоўцы, выйшлі ў людзі. А як пажаніліся, то ў роднай вёсцы паказваліся гадкі ў радкі. Унукі часцей прыязджалі, калі былі меншыя, а павырасталі — прыязджаць перасталі, як і іх бацькі.

Акуліне лёс выпаў яшчэ больш незайздросны. Даў ёй Бог аднаго толькі сына ды рана забраў мужа. Усю сваю вялікую мацярынскую любоў і пяшчоту ўклала яна ў адзінага сынка. Змалку ніколі ні ў чым не адмаўляла хлопчыку, пылінкі з яго здзімала. Рос сынок, мужнеў і мацярынскі клопат пра сябе ўспрымаў, як належнае. Вырас, што называецца, матчыным сынком ды… такім і застаўся.

Не склалася ў Акулінінага сына жыццё. Вучыўся — не давучыўся. Ажаніўся — з жонкай не ўжыўся. Жонка ж не маці, каб трываць дзівацтвы дармаеда, які памяняў столькі месцаў працы, што і сам збіўся з ліку… Урэшце, памыкаўшыся па свеце, вярнуўся 40-гадовы недаростак да маці ў вёску. У калгасе вольных «няпыльных» месцаў не было. Нават вартаўніком на ферму ўладкавацца не ўдалося. Круціць на мехдвары гайкі ці на той жа ферме ўвіхацца з віламі Акулінін хлопец не хацеў. Апошнія некалькі гадоў нават і не спрабаваў уладкавацца на працу — жылі з маці на яе пенсію.

З часам у Акуліны пачалі адказваць ногі і сэрца. Фельчарка раіла легчы ў бальніцу падлячыцца, але старая не пагаджалася. Калі Аўдоцця заходзіла

да суседкі, тая ўсё часцей дзялілася з ёю сваімі турботамі пра сына: «Як жа ён будзе жыць, калі я памру?.. Пенсіі ж яму не дадуць, а нідзе не робіць!..» І яшчэ адна думка не давала спакою Акуліне. Хоць і была ў яе немалая па тутэйшых мерках пенсія, але сабраць грошай сабе на смерць старая ніяк не магла — сын, як казала, часта пускаў грошы на вецер.

Апошні раз, калі Аўдоцця была ў хаце Акуліны, тая скардзілася: «Гэта ж кажу я ўчора сыну: не жлукці ты ўжо гэтае віно, памру хутка — за што ты мяне пахаваеш?.. А ён мне адказвае: «Нічога, маці, ніхто яшчэ наверсе не застаўся, і цябе закапаюць. А мне, жывому, пра сябе жывога трэба думаць… Ды яшчэ, ведаеш, так нядобра засмяяўся… А я ж сапраўды хутка памру. Ніякага здароўя, ніякіх сіл ужо не засталося…»

Больш пасля той размовы Аўдоцця Акуліну жывой не бачыла. А праз тыдзень даведалася ад паштальёнкі, што суседка памерла.

Паштальёнка шмат разоў потым і шмат каму пераказвала гэтую гісторыю: «Нясу я ёй пенсію і бачу з надворка, што Акуліна сядзіць у акне, на мяне глядзіць. Ды так неяк дзіўна, быццам глядзіць і не бачыць. І твар хусткай праз галаву перавязаны, як пры зубным болю. А ў яе ж, ведаю, і зубоў няма сваіх даўно ўжо, чаму там балець?.. Зайшла ў хату, сын яе на парозе сустракае. Кажу, пакліч маці, хай пенсію атрымае. А ён мне адказвае, што маці не выйдзе з пакоя, бо яны пасварыліся і старая не хоча ні з кім размаўляць. Ну, не хоча дык не хоча. Мне таксама не да размоў — да цямна трэба было паспець пенсіі і пошту людзям разнесці. Карацей, выдала сынку грошы, ён распісаўся ў ведамасці, і пайшла я з хаты.

А калі выходзіла з надворка, зноў глянула ў акно — сядзіць Акуліна, як сядзела. Падалося, што нават і не зварухнулася. І ў тую хвіліну, ведаеце, нейкае падазрэнне мне ў душу закралася, штосьці тут не так са старой, падумала. А тут якраз на вуліцы сустрэла нашу доктарку з участковым, то і сказала ім, што Акуліна, можа, надта хворая, што сама пенсію атрымаць з пакоя не выйшла. Ды з сынам, кажу, яшчэ пасварылася… Пасля гэтых маіх слоў завярнулі доктарка з участковым да Акуліны ў хату. Добра, што ім якраз па дарозе было і зайшлі яны тады да бабкі Акуліны. А то і мне прыйшлося б яшчэ адказ трымаць. Ведама — выдала грошы мёртваму чалавеку. Ды ўжо надарылася, як надарылася…

І толькі, значыць, доктарка з участковым на парог, як сынок Акуліны апрануты з хаты сабраўся выходзіць, ішоў ужо матчыну пенсію траціць. Але не паспеў, дзякуй Богу. Участковы яго назад завярнуў: «Ідзі, кажа, правядзі доктара да маці, хай паглядзіць яе, паслухае». Таму што ўжо заставалася рабіць? — павёў доктарку ў пакой. Глянула маладзічка на Акуліну, узяла яе за руку дый чуць не самлела — старая даўно акарчанела, ды і пах ад яе ўжо нядобры ішоў… Участковы пачаў дапытвацца ў сынка, калі маці памерла. Той спачатку: «Не ведаю! Не знаю! Раніцай яшчэ жывая была…» А потым прызнаўся, мярзотнік (куды ж яму было падзецца!), што старая ўжо тры дні назад памерла. Сынок, каб людзі бачылі і думалі, што маці жывая, пасадзіў яе мёртвую каля акна. Хусткай за бараду падвязаў, каб рот не раскрываўся, а вочы пасля смерці адкрытымі заставаліся. Так трое сутак бабка Акуліна і

прасядзела, як жывая… І ўсё з-за пенсіі. Тры дні не дажыла старая да пенсіі, то сынок і ўтварыў з ёй такое… А ўсё роўна не скарыстаў грошай — участковы тады адразу і забраў… Не прывядзі гасподзь такога сына мець!» — кожны раз жагналася напрыканцы свайго аповеду паштальёнка…

— Вось і кажу я табе, суседка, што не толькі мы, старыя, дажыліся да ручкі. Свет увесь наш ужо да ручкі даходзіць. Нічога святога ў ім не застаецца. Але ж не хочацца, каб пасля смерці мышы ў роднай хаце вушы паад'ядалі. Акуліна, бач, тры дні пасля смерці ў акно глядзела, як жывая. А як я памру — ніхто і не ўбачыць. То ты, суседка, пакуль яшчэ дужэйшая за мяне, заходзь у маю хату паглядзець, калі доўга бачыць не будзеш…

Аўдоцця ўстала з лавы і панесла дамоў сваю пацяжэлую пасля смерці Акуліны крыўду на жыццё, на дзяцей, на ўнукаў і на ўвесь белы свет.

**Чары**

Іван прачнуўся рана і чамусьці на печы. Нясцерпна сушыла. Галава не балела. Толькі ў вушах стаяў гул, падобны на аддалены гул вадаспада. Павярнуўшыся, каб злазіць з печы, ён адчуў, што ў целе ну зусім няма сілаў. Ад невялікага, здавалася б, намагання задрыжэлі рукі, пацямнела ў вачах, самахоць тузанулася левая нага, якой Іван не патрапіў на табурэтку. Ён страціў і без таго хісткую раўнавагу і бразнуўся-такі на падлогу.

— Каб ты смалы на тым свеце напіўся, як ты мне ўжо абрыдзеў сваёй п'янкай! Каб ты спруцянеў і выцягнуўся апошні раз — паплакала б, пахавала і больш не мела б клопату і сораму перад людзьмі за такую абразіну! Гэта ж да чаго дапіўся, да чаго дадумаўся сваёй прапітай башкаўнёй!.. — Іван як праз вату ў вушах слухаў жончыны праклёны, спрабуючы падняцца на ногі. Нічога новага не чакаў ён пачуць сёння ў жончыных словах, якімі кабета аднолькава прывячала мужа падчас кожнага яго запою. А запіваў Іван апошнім часам рэгулярна, з перыядычнасцю раз на месяц, калі атрымліваў пенсію.

Добрую пенсію зарабіў сабе Іван за 20 гадоў брыгадзірства ў калгаснай будаўнічай брыгадзе. Правялі яго на пенсію, як перадавіка вытворчасці, — тэлевізар падаравалі на ўрачыстым сходзе. І заслужана. Бо ў дабротных цагляных дамах, выбудаваных Іванавай брыгадай «як для сябе», цяпер жывуць і не скардзяцца спецыялісты і трактарысты. Нават новы старшыня пасяліўся ў адным з Іванавых (як іх называюць) дамоў, а не ў той новай «шпакоўні», якія цяпер лепяць па прэзідэнцкай праграме.

Сабе Іван пабудаваў дом на месцы старой бацькоўскай хаты. Не дом — мара для многіх. Ды Івана яго дом ужо не радаваў. Раней думаў: «Пайду на пенсію — зажыву!» Аказалася — няма чаго рабіць на той пенсіі. Людзі дабрэйшымі здаваліся і жыццё весялейшым — толькі калі вып'е. Праз тры гады, як падаравалі тэлевізар, Іван ужо не выпіваў, а піў запоямі. І ў гэты час не тое што тэлевізар — на сябе ў люстэрка глядзець не мог. Ды ўсё даўжэйшымі і цяжэйшымі рабіліся спробы працверазець — апаноўвалі нячысцікі. Пра тых нячысцікаў якраз і думаў Іван, прагна п'ючы агурковы расол з ляноўні: «І хто іх напусціў на маю галаву, хто навёў чары?..»

— Ачомаўся ўжо, дайшоў да памяці? — жонка падперла рукамі бакі, гатовая спапяліць Івана сваім позіркам. — Што цяпер будзеш рабіць, арыштант, што ўчастковаму скажаш?.. Такая ганьба на старасці гадоў, такі сорам…

Нечакана для Івана жонка заплакала. Гаспадар застыў са слоікам у руках, прадчуваючы нядобрае. Не было яшчэ такога, каб жонка плакала толькі з-за яго п'янак. «І чаго гэта яна ўчастковага згадала?» — намагаўся зразумець Іван, утаропіўшыся ў жонку.

—Дык ён жа не помніць, што ўчора вечарам вырабіў? Зноў не ведае, якая яго ведзьма зачаравала і розум апошні адабрала?.. — падхапіўшыся з табурэткі, жанчына з крыкам пайшла на вартага жалю Івана. — Ты ж, гад, хату ўчора суседчыну падпаліў, якую будаваць калісьці памагаў, — каб гарэў ты сам сінім полымем! Верка, з якой век душа ў душу жылі, ведзьмай яму, бачыце, падалася! Чарцей на яго напусціла! І што прыдумаў, анціхрыст: спаліць суседку разам з хатай, як ведзьму, якая чарцей на яго наслала. Добра, што мне яшчэ паспеў сказаць пра тое, пакуль заснуў… Каб ты ўжо лёг і не прачнуўся!..

Не чакаючы больш рашучых дзеянняў ад жонкі, Іван выскачыў з кухні на вуліцу. Ад сэрца адлягло — Верчына хата стаяла на месцы. Толькі шалёўка з аднаго боку выгарала да паловы хаты, а замест крайняга акна ззяла абгарэлая дзюрка. Спрактыкаваным вокам будаўніка Іван прыкінуў, што рамонту яму (калі працаваць аднаму) будзе на некалькі тыдняў.

«…Не магла Верка нячысцікаў напусціць. Бо каб яна была той ведзьмай — не прывялі б мяне чэрці да яе хаты…» — зусім цвяроза разважаў Іван праз два месяцы пасля пажару, калі суддзя зачытвала яму прысуд аб прымусовым лячэнні ад алкаголю.

Пакуль ён рамантаваў дом суседкі і не піў, а праваахоўнікі займаліся яго справай, нячысцікі да Івана больш не прыходзілі. Але былы брыгадзір будаўнікоў добра ведае, што яны ёсць. Дагэтуль не ведае Іван у твар толькі тую ведзьму, што напусціла на яго чары.

**Лявон і Тэкля**

— Добры дзень, добры дзень, цётачка Тэклечка мая! Ну, як жыццё, як здароўе? Ходзіш яшчэ трохі? — п'яны Лявон ніколі не мінаў, каб не зачапіць словам удаву свайго колішняга старэйшага знаёмца па рыбалцы ды чарцы, даўно ўжо спачылага ў Бозе.

— От, соваюся крыху па надворку — і слава Богу! А ты гэта адкуль такі вясёлы сёння ідзеш? — запыталася жанчына, якая акурат магла б па ўзросце быць маці 50-гадоваму Лявону.

— Ды во, бачыш, траву касілі каля платоў, дзе няма каму касіць. А хатаў такіх — палова вёскі, ты ж ведаеш, — паказваў Лявон рукой наперад вясковай вуліцы, дзе ішоў, хістаючыся, з бензакасой у адной руцэ і пакетам з бензінам ды машынным маслам у другой яго маладзейшы таварыш па працы. — Цэлы дзень пяклі. Усю лёску зрасходавалі. Ёсць такія зараслі — там трактар з ротарнай касілкай трэба, а не наша гэтая бензакаса. Нікому не патрэбныя

пакінутыя хаты, то нам, бачыш, загадалі навесці парадак каля іх хаця б ад вуліцы.

— Правільна, бо ўжо страшна глядзець, як усё пазарастала! — адказвала на тое жанчына.

— Так то яно так, Тэклечка, але лепш ужо было б, каб гэтыя хаты бульдозерамі пабурылі, пассоўвалі ды на дровы людзям пааддавалі ці да качагарак калгасных пазвозілі! Каб не стаялі ды не гнілі! А пляцы тыя пазасейвалі якім збожжам, — распальваўся са сваіх жа слоў п'яны Лявон.

— А хто яго ведае, што тут лепш, а што горш, калі ўсе ўцякаюць з вёскі? Як не ў горад, то хоць у аграгарадок той пруцца з роднай хаты. Ты ж таксама ў хаце з выгодамі жывеш! — казала Лявону вяскоўка.

— Я прыехаў сюды працаваць — і далі кватэру. А твае землякі ды сваякі пакінулі свае хаты і пайшлі ў казённыя жыць, а потым і прыватызавалі многія кватэры ды катэджы. А родную хату і каля хаты, калі яна апусцела, хто глядзіць хоць крыху, а хто — і носа не пакажа на падворку! — ледзь не крычаў Лявон у адказ.

Жанчына змаўчала, бо з п'яным лепш не спрачацца. Асабліва калі той кажа праўду.

Тым часам Лявонаў таварыш спыніўся напрыканцы вуліцы і загукаў: «Ты ідзеш ужо ці не? Зараз магазін зачыніцца!»

— Ну, бывай, Тэклечка, не сярдуй! Як што дрэннае — гэта не я! — заспяшаўся на кліч таварыша Лявон.

— І ты бывай. Заўтра, можа, і мне крыху абкосіш траву каля плота, — сказала на развітанне вяскоўка, але Лявон таго ўжо не чуў.

— Бач ты, запомніў ды так і называе Тэкляй! — сама сабе ўсміхалася, устаючы з лаўкі, жанчына і прыгадала, як п'яны муж клікаў яе гадоў, можа, дваццаць з гакам таму са злосці ці з хмельнага куражу чужым імем: «Тэкля, ты дзе? Ты дома?!» Разам з ім стаяў тады на падворку такі ж п'яны, але малады яшчэ Лявон. З таго дня Таццяна і зрабілася для Лявона Тэкляй.

нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Пасля заканчэння філфака БДУ выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школе ў Слоніме. Працуе намеснікам рэдактара «Газеты Слонімскай». Аўтар кнігі паэзіі «І доўжыцца ноч…».





АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

# Шчонаўскія абразкі

*У згадцы пра мае абразкі, надрукаваныя ў другім выпуску альманаха «Новы замак», паведамлялася, што напісаныя яны пра знакамітых людзей вёскі. У таго аглядальніка, што, відаць, не чытаў тэкст, спрацавала інерцыя: калі пішуць, то пра знакамітых.*

*Вось жа, не было ў маім Шчонаве ні аднаго чалавека, знакамітага ў агульнапрынятым сэнсе гэтага слова. Але дазволю сабе дапоўніць класіка:* ***кожны*** *чалавек — гэта цэлы свет. І няма для мяне людзей «простых», бо кожны — асоба са сваім непаўторным светам.*

*Мілыя для мяне падзеі даўняга шчонаўскага жыцця, згадкі пра дарагіх людзей, многія з якіх ужо даўно знайшлі спачын на высокай шчонаўскай гары, мушу захаваць, бо напісанае застаецца.*

### Лубін

У шасцідзясятыя гады ніхто са шчонаўцаў не замыкаў сваіх хатаў. Не памятаю нават, ці быў у нас замок. Уявіць немагчыма было, каб нехта зайшоў у чужую хату і нешта вынес.

А вось красці ў калгасе ніякі маральны закон не забараняў. Асабліва даставалася таму, што расло. Праўда, і тут была пэўная іерархія: што красці больш грэшна, а што зусім не. Цёця Ганна Юлькава з гумарам абуралася: «Лубіну нажаць — хіба ж гэта красці? Во картоплю ці бураке…» Ну і даставалася тому лубіну ці не найбольш. Як звечарэе, то і збіраецца кабета з самай надзейнай на той час суседкаю ў поле, узяўшы серп і дзяружку.

Сабралася аднойчы і мая мама. Хоць і вельмі перажывала: настаўніца, а красці даводзіцца. Бо чым нашыя свінні горшыя за іншых? Бацькі тады дома не было, пры ім бы ніколі не пайшла. У Магілёве вучыўся. Усё на маме. За каляжанку выбрала маладую суседку Зіну Парасчыну, таксама не вельмі дасведчаную ў той справе. А поўня свяціла. І так далёка відаць было. Ідуць і страху адна адной наганяюць.

Лубін тым летам рос на гары каля могілак. Толькі дайшлі, жаць сталі, раптам бачаць: з могілак выходзіць чорны цень, высозны, страшэнны. Вочы ж у страха вялікія. Перапалохаліся бедныя, леглі ў той лубін ні жывыя ні мёртвыя. А цень на іх насоўваецца. Калі параўняўся, пазналі суседку Тамару Мішышыну, якая ішла, пэўна, са свайго поля, што было ля самых могілак…

Супакоіліся трохі. Зноў жаць пачалі. А тут па сцежцы з хутароў Вера Лідзіна са сваім Іванам ідуць. Ізноў леглі нашыя зладзейкі ў лубін і чакаюць, каб непажаданыя сведкі прайшлі. Параўняліся, а Вера і кажа: «Іван, во сюды ідзі». І паказвае якраз туды, дзе мама з Зінай схаваліся. Ускочылі яны і пабеглі дадому напрасткі праз той лубін…

Памятаю, як праз нейкі час, зімою ўжо, мама з крыўдаю выгаворвала Веры, з якою сябравала, што толькі адзін раз у той лубін і схадзіла, а яна яе выкрыць захацела. Бедная Вера таксама тое памятала, апраўдвалася: «Казала Івану, каб ішоў туды, бо там лубін высокі быў, мы таксама нажаць хацелі, а адтуль нехта як паляціць. Мы і не пазналі, хто гэта быў. Перапалохаліся…»

**Жорсткасць**

Ці была яна наогул характэрна маім шчонаўцам? Яшчэ як. Як і вялікая дабрыня. Так, яе можна апраўдваць нястачай. Але ж праяўлялася яна далёка не ва ўсіх.

Неаднойчы чула пра тое, як гаспадар Дубень Рыгор са шчонаўскіх хутароў карміў свайго сабаку. Наліваў поўнае вядро вады, на дно кідаў дзве вараныя бульбіны. Бедны сабака, заўсёды галодны, заўсёды на ланцугу, піў тую ваду. Аж бакі яму выпіналіся. Падаў. Уставаў. Ізноў піў, бачачы тыя бульбіны. Ці ставала яму сілаў адчуць іх смак, калі ўжо ўрэшце ўся вада была выпітая?..

Мне, малой дзяўчынцы, было вельмі балюча чуць пра гэта. Хацелася неяк змяніць гэтую гісторыю, падказаць тому беднаму сабаку выйсце: «А чаму ён не перакуліў тое вядро, не выліў ваду?» Але ў жыцці нічога змяніць нельга…

Нешта падобнае даведалася пазней. Ужо пра тое, як другі гаспадар, бацька, карміў сваіх дзяцей. У вайну заміж цукру падсалоджвалі ваду сахарынай. Пару таблетак на кубак. І гэта з лустай хлеба быў наедак. Цётка Ніна Пасэсарава сказала неяк: «Здаецца, каб цяпер мне тае вады з хлебам далі, то наелася б…»

Вось жа, Мікіта Чайка даваў сваім дзецям вады, кінуўшы на дно кубка кавалачак белае эмалі, адбіты ад посуду. Дзеці мусілі выпіць тую ваду, чакаючы, калі ж «сахарына» ўрэшце растане і стане салодка…

**Пост старое Юльчыхі**

Юльчыха была вельмі набожнай. А таму пасты спраўляла заўсёды. І шчырым постам пасцілася: нічога ў рот, апроч вады і хлеба, не брала.

Было тое незадоўга да яе сыходу. Старэнькая была. Зусім змарнела. І ў галаве цямнее, круціцца, і ледзьве ногі валочыць. Ні на якія ўгаворы, каб хоць што скаромнае з’ела, не паддаецца. Ніякое рады нямашака. Хоць бы малака выпіла.

Надумаліся да яе доктара запрасіць. Прывезці яго меўся брыгадзір Коля Барэйкаў. Перад тым дамовіліся: па дарозе доктару патлумачыць мусіў, што недамаганне ад таго надта шчырага посту, папрасіў, каб той і лячэнне адпаведнае назначыў.

Прыехаў лекар, паслухаў бабулю, ціск змераў. Зусім нізкі. Пакінуў вітамінаў, нейкіх лекаў. А галоўнае: мусіць быць добрае харчаванне. «Як жа, доктарко, пост жа?» — паспрабавала пярэчыць старая. «І ў пост можна, калі такі дыягназ», — строга прамовіў лекар. Не слухацца яго ніяк не выпадала.

Так мусілі родныя падмануць старую кабету. Дзеля яе карысці. Праўда, апроч малочнага, нічога не ела. Але і таго досыць было. Хутка адышла. І ў галаве круціцца перастала.

**«Як мядзведзь на дзераво залезя»**

Згадала гэта ў часе прэзентацыі новага «Беларускага настольнага перакіднога краязнаўчага календара», што ствараецца ахвярнай працай прафесара Гродзенскага дзяржуніверсітэта Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча на матэрыяле Гарадзеншчыны.

Размова зайшла пра адрыўныя насценныя календары, якія былі ў большасці нашых хатаў і выконвалі некалькі функцыяў: адукацыйную, пазнаваўчую, эстэтычную, гаспадарчую. Звычайна лісткі штодня адрываліся, папера скарыстоўвалася ў гаспадарскіх патрэбах. У нас лісты не адрываліся: была прыгожая, каляровая кардонка, на якой каляндар замацоўваўся гумкаю, што трымала скарыстаныя лісты.

Канец 60-х. Наш бацька вучыцца ў далёкім горадзе. На маміных плячох, апроч школьнае працы, трое дзетак, немалая гаспадарка, агарод, соткі… Кожны бацькаў прыезд — свята. На пытанне малога Валеркі: «Калі папа прыедзе?» — мама адгортвае старонку календара, паказвае той дзень. Гэта было пытанне, якое часта задавалася ўсім нам суседзямі. Дзіўна было цікаўным цёткам чуць ад Валеркі незразумелы адказ: «Як мядзведзь на дзераво залезя». Калі ж прыйшоў той шчаслівы дзень і мама перагарнула старонку, убачыла намаляванага мядзведзя, што лезе на дрэва.

**Самая верная сяброўка**

Фаня Сцяпанава была самай вернаю мамінай сяброўкаю. Жыла недалёка, праз хату. Штодня ў нас бывала. Хоць на хвілінку прыбяжыць. Усе працы вялікія маме дапамагала спраўляць.

Жыла з бацькамі, пасля іх сыходу з дачкою Людай засталася. Працавала на ферме. Якая гэта катарга была! Брала мяне цёця Фаня на ферму. Цікава было паглядзець, што ў тым кароўніку робіцца. Як зараз, бачу тыя вялізныя бідоны, поўныя малака, што ўдзвюх уздымаюць даяркі. Як зараз, чую той едкі пах, настоены на прэлым сене, малацэ, гнаі. Не, зусім не гадкім ён быў: сенажу і сіласу тады яшчэ не было. Памятаю, як дзялілі сена на няроўныя кучкі для кожнай даяркі, затым цягнулі саломінкі: хто большую выцягне, таму і сена болей. Такая вось гульня была. Тады ўпершыню дазволілі мне кароўку падаіць. Паспрабаваць. Не зусім гэта ўдалося, але — памятаецца…

Як пачалося тое сяброўства, цёця Фаня неаднойчы згадвала: «Думала я: хіба ж я, даярка, ды ёй, такой разумнай, настаўніцы, роўня?» Вось жа, вывезлі ёй гной на соткі, што побач з хатай. Выйшла разбіваць адна, ды пасля дойкі ранішняе. Бачыць, ідзе да яе Валя Барэйкава. «Ды са сваімі *вілачкамі!*» Менавіта так і казала: *вілачкамі.* Каб і праз слова пяшчоту да суседкі выказаць. Кажу ёй: «Пятроўначка, у вас жа свае работы поўна. Ці ж вам, настаўніцы,

мне такую брудную работу рабіць?» А тая ў адказ: «Дзе ж вы адна ды на ўсе соткі разаб'яце? Я да ўсякай работы прывычная».

Няўдала замуж выйшла. Мама неаднойчы абуралася: «Хіба ён Вас, Фанечка, такое прыгажуні, варты быў?!» Як і не была замужам: з'ехаў у Мінск і там другую знайшоў. Расказвала цёця Фаня, як ездзіла ў той Мінск. Знайшла яго, а там і сапраўды тая другая. Пасядзелі, пагаварылі. Пытаюся ў яе: «Ну, з кім мой мужык спаць ляжа: з табою ці са мною?» Гэта такая бравада была. Не вярнуўся яе муж у Шчонава.

А цёця Фаня і сапраўды незвычайна прыгожай была. Нават і ў старасці тварык гладкім, румяным застаўся. А постаць якая спраўная, рост высокі. Валасы цёмна-русыя, густыя, вочы вялікія, выразныя. Толькі шчасця Бог не даў…

Калі мы пакідалі Шчонава, плакала цёця Фаня, плакала мама. Такое вернае сяброўкі ў яе больш ніколі не было.

**Гасцючок**

Калі якая малая шчонаўская недаежа перабірала ў сваёй місцы, ела не са смакам, быццам ёй у роце расло, то чула ад бацькоў: «Што, гасцючка шукаеш?» Цікава мне было: што ж гэта за гасцючок такі, якога ў ежы знайсці можна? Расказала наша нянька цёця Ганна Юлькава.

Жэня Аляксандрава ў дзяцінстве была такою ж недаежай. Мела звычку калупацца ў талерцы. Перашматала яна аднойчы варанае яйка, а бабуля й пытае: «Што ж ты там, Жэнька, шукаеш?» — «Гасцючка…» — адказала малая, не ведаючы, што яе адказ стане шчонаўскім фразеалагізмам.

**«Ежмо і гаварэмо»**

Ганна Юлькава асабліва цаніла людзей, што ўмеюць пагаварыць. «Яна ж такая гутарлівая!» — найвышэйшая ацэнка кабеце. Вымаўляла тое слова з націскам на першым складзе, расцягваючы, быццам смакуючы. Але ўсяму ёсць мяжа.

Заўсёды дапамагала ў тых працах, дзе не патрабавалася хадзіць, бо ў шаснаццаць гадоў нагу страціла. Восенню каму толькі буракі не церабіла. Тым разам Адамовічам. І дачка іх старэйшая Люда таксама прыехала з Навагрудка.

«Але ж галаву адурыла! Гаворыць і гаворыць. То пра дачку сваю, як яна нейкія булкі пячэ, то яшчэ нешта…» Кажу ёй: «Вы ж любіце гутарлівых». — «Дык ні на хвіліну не сціхла. Думаю: зараз есці будзем, то хоць памаўчыць, а яна ўсё гаворыць і гаворыць. Кажу ёй: "Давайце ўжо есці". А яна: "Дык ежмо і гаварэмо…"»

**Шчонаўскія партніхі**

Шчонаўскія кабеты рэдка куплялі гатовыя сукенкі, бо і дарага было, і выбару не было асаблівага. Партніха ж пашые як скажаш, дапасуе да фігуры. Мама часта шыла ў Фані Лысішынай. Думаю зараз: калі яна яшчэ і шыць паспявала, даяркай працуючы, усе жаночыя хатнія справы робячы? А яшчэ ж дзялкі, соткі…

Умела дагадзіць маме Вера Лідзіна. Яна і да гэтага часу згадвае, што мама задаволеная была яе сукенкамі. Чамусьці не запомнілася мне, ці шыла маме Валя Зенкевічава. Згадваюць і яе швейныя здольнасці шчонаўскія кабеты.

У блізкім Хвалаве жыла партніха Леаніда Цярэшка, або Батурыха, як яе ўсе клікалі па мужавай мянушцы. Часам і да яе шво насілі. Праўда, яна брала неахвотна, бо працавала санітаркай у Райцы ў шпіталі. Але ўжо сваіх дзяўчат Ліду і Тамару апранала так прыгожа, так стыльна, што ніхто такімі строямі пахваліцца не мог. Густ партніха мела не абы-які.

І сёння памятаю, якую прыгожую сукенку пашыла мне Тоня Алёшышына. Матэрыял бацька з Масквы прывёз. Гладкі, бліскучы, ярка-марковага колеру. Сукенка была заказана прыталеная, у складачку, з паясочкам і белым каўнерыкам.

Мая стрыечная сястра Ніна Каціна на ўсё жыццё запомніла сукенку, якую ёй сшыла Лапаціха, жонка настаўніка. Прыгожая тая сукенка была, уся белая, а ўнізе кайма каляровая. Дзяўчынка вельмі любіла гэтую рэч, апранала толькі па святах.

Часам не выпадала каму да партніхі ісці. Тады свае здольнасці шчонаўскія ўмеліцы праяўлялі. Маруся Алёшы Канцавога пашыла сукенку для сваёй сястры рукамі, бо машыны не мела, а дзяўчынцы ў Райцу на свята ісці трэба было. Вельмі хараша атрымалася.

А вось усё хатняе шво: навалачкі, простыні, зарубіць, залатаць, сукенку на фартух перашыць, — рабіла для нас цёця Ганна. Да гэтага часу захоўваецца ў мяне некалькі яе працаў. Захоўваю з удзячнасцю і замілаваннем, згадваючы яе спрытныя ручкі.

**Але ж харошая матэрыя!**

Волька Барэйчыха мела сакрэт: матэрыял на сукенку купляючы, моцна рукамі яго расцягнуць. Адвярнуўшыся, каб ніхто не заўважыў. Часта той матэрыял не вытрымліваў, надрываўся. Ганьбу такой рэчы старая давала адразу.

Самае галоўнае патрабаванне было, знак якасці ад старое Барэйчыхі, каб сукенка насілася доўга, каб зносу ёй не было. Ды каб яшчэ і пераліцаваць можна было, калі на сонцы выцвіце. Але калі ўжо выбера да густу, то нарадавацца не можа: «Але ж харошая матэрыя! Ну і сукенка будзе!»

**Хлясцік**

Галі Алёшы Канцавога купілі новае паліто. Зімовае, цёплае, крыху на падрост. З варатнікам са штучнага футра. А ззаду прышыты быў невялікі хлясцік.

Бегалі мы па вуліцы, у снежкі гулялі, даганялі адна адну. Бягу я за Галяю, вось ужо і дагнала, а схапіцца няма за што, то і ўхапілася за той хлясцік. А ён прышыты слаба быў. Галя ж бегчы не пераставала. Хлясцік застаўся ў маіх руках. Як я спалохалася! Галя ж крычаць стала, што маці на мяне паскардзіцца, што будзе мне. І нямала! А мне і так свет нямілым з-за тае правіны падаўся. Перажывала моцна. Баялася на вочы цётцы Анюце трапіць. Пакуль цёця Ганна не супакоіла: «Нічога страшнага! Прышыюць яны той хлясцік, і ўсяе бяды. Знайшла пра што думаць!»

**Шчонаўская полька**

Танцы (*гулянё*) у Шчонаве былі святам для ўсіх. І старыя, і малыя прыходзілі. Стратэгічнымі пазіцыямі сталых жанчынаў былі месцы на лаўках. Каб усё згледзець, каб назаўтра ні аднае костачкі маладое перамытае не засталося.

Танцавалі па хатах, у цёплы час на вуліцы, але часцей у школе, якая вечарамі ператваралася ў клуб, каб пасля закрыцця школы да зруйнавання назаўсёды ў яго ператварыцца.

Модны вальс, вясёлы кракавяк, шляхетны падэспанак часцей за ўсё выконваліся мясцовымі музыкамі. Але самым улюбёным шчонаўскім танцам была полька. Не тая недарэчная паскакуха, якую толькі і ведаюць сёння. Гуляць польку трэба было так, каб яйка, на галаву пакладзенае, не ўпала. Без усялякіх падскокаў, роўненька, лёгенька, прытупваючы, круцячыся то ўправа, то ўлева.

Разагрэюцца дзяўчаты, польку за полькаю скачучы, выйдуць у марозны вечар і на снег палягуць. Адыходзяць ад стомы, каб ізноў, вярнуўшыся, польку гуляць.

Вельмі любіў польку мой бацька. Добрым танцорам быў. Але не ягоны воблік паўстае перад маімі вачыма, а Казакевіча Аркадзя, які, моцна прытупваючы, гуляе польку ў хаце Мілкі Лысішынай. Перакрыкваючы музыку і тлум, танцор заліхвацкі прыпявае, бясконца паўтараючы адно і тое ж: «Эх, давай, давай, давай, не прыгаварывай, давай!»

З тых шчонаўскіх *гуляняў* мае першыя танцавальныя ўрокі і любоў да даўніх вясковых танцаў.

**Надзя-танцорка**

Як кожнай маці, Марылі Адамавічавай з хутаранскага Кліну яе дачушка Надзя наймілейшаю была. А пахваліцца асабліва і не было чым. Не тое, што брыдкаю Надзя была, але і не прыгажуняю. Ды і іншых нейкіх вартасцяў не мела. Маці ж вельмі хацелася дачкою перад суседкамі пахваліцца.

Здавалася Адамавічысе, што дачка яе вельмі хораша танцуе (у Шчонаве гаварылі *гуляя*). То і казала жанчынам неаднойчы: «От мая Надзя хорашо гуляя: тупая ўправо, а круціцца ўлево!»

**Ракач і гадзіннік**

Дачакалася і Надзя свайго суджанага. З'явіўся да яе ў сваты Мікалай Ракач з далёкае вёскі. Усё добра заладзілася. Вяселле надоўга адкладваць не сталі.

Мела Надзя наручны гадзіннік. Вельмі ён у вока маладому ўпаў, мо не меней, чым маладая. Бо ніколі хлопец такое рэчы дарагое не меў. Адзеў ён той гадзіннік сабе на руку і ўсё вяселле прасядзеў, на прыгожую цацку гледзячы. Адгорне рукаў пінжака і любуецца. Задаволены, шчаслівы!

А дзяўчаты вясковыя, што пад вокнамі стаялі, усё выгледзелі. Бо чаго ж яшчэ на вяселле хадзіць, каб такую навіну ды не згледзець?

**Манька-Паштарка**

Манька Юлькава жыла са сваёю сястрою Ганнай. Была калекай: не вырасла, на адно вока не бачыла, вельмі дрэнна чула.

Яшчэ дзяўчынкай была, як тое калецтва займела. Раззлаваўся чагосьці на яе суседскі хлопец, схапіў кій, што пад руку трапіў, і смальнуў Маньцы па галаве. Так і не вырасла, аглухла і аслепла. Але ўсе цяжкія мужчынскія працы па гаспадарцы рабіла: арала, касіла, дровы ў лесе нарыхтоўвала, секла… Дзе і сілы браліся ў такое маленькае?

Вельмі любіла малых хлопчыкаў. Калі кабета дзіця чакала, найлепшым Маньчыным пажаданнем было: каб хлопчык нарадзіўся. Як радавалася, калі ў мяне Максімка на свет з'явіўся! Калі хлопчык падрастаў, гаварыць навучаўся, праводзіла з ім Манька «курс маладога байца» — так сама гаварыла. Вучыла лаяцца. Калі мама яе папракала: ці ж можна, каб дзіця такія словы казала, адказвала: «Які ж мужчына вырасце, калі лаяцца ўмець не будзе?» Праўда, тая лаянка ў параўнанні з сённяшнім брудам, што льецца адусюль, з вуснаў не толькі мужчынскіх, такою бяскрыўднаю была.

Апошнія гады зусім не бачыла. І другое вока выцекла. Але нейкую дзіўную здольнасць мела: памятала даты, святы. Сядзіць на ложку, перабірае пальцы на руцэ, нешта шэпча, вылічвае. А пасля і абвесціць сястры: сёння такое і такое свята, або — сёння ж Алін Максім нарадзіўся!..

Вось жа, працавала калісьці ў 60-я гады Манька паштаркаю. Праўда, нядоўга. То газету не прынясе, то ліст надта доўга трымае. Не вельмі тую службу шанавала: работы па гаспадарцы хапала. Звольнілі яе. Не надта й бедавала. Але мянушка гэтая — Паштарка — за ёю так і засталася назаўсёды.

**Доля**

Шчонаўцы вельмі баяліся грому, маланкі. І недарэмна. У памяці многіх засталася самотная карціна смерці вясковай кабеты Марылі Гіль, Юркавай жонкі. Пасіраціла дзяцей малых. Нацярпеліся бедныя без мацеры. Загінула ад грому. Сядзелі за сталом з суседкай Мішыхай, аж уляцеў той пярун у хату і забіў гаспадыню. А суседку нат не крануў. Такая вось доля…

Таму, калі гром грымеў, розныя засцярогі рабілі: вокны завешвалі, юшку ў коміне закрывалі. Не дай Божа, валасы каб у акне відаць былі, бо ж маланку прыцягнуць могуць. Як зараз памятаю тое адчуванне страху, што ўсіх ахоплівала. Праўда, нам, малым, яшчэ і цікава было, як той гром страляе, як маланка паліць.

А Мішыха пазней замуж за Колю, сына Марылі, выйшла. Таксама доля…

**Ягады Веры Трахімавай**

Баба Вера Трахімава хадзіла ў ягады ў Захомы разам з іншымі кабетамі. Але колькі адзінокай старой тых ягад трэба? Нарве яна збанок і перасыпле ў вядро сваёй дачцэ Валі. Ідуць жанчыны дахаты не заўсёды з поўным вядром, бо не паспеюць: работа ж дома пільная чакае. Ды і ягады не заўшы добрыя. А Валіна вядро поўнае.

Вера была чужаніцаю ў Шчонаве. Прыйшла сюды замуж з далекаватага Палужжа. Не надта яна ўмела з суседзямі ладзіць. Нават з самымі роднымі: дачкою, сынамі, нявесткамі. Ні з кім не сябравала. А вось мама мая ніколі з ёю нядобрым словам не перамовілася. Відаць, у знак асаблівай прыязнасці да настаўніцы сыпаліся часта Верыны ягады і ў маміна вядро.

**Абрамовічавы жарты**

Мікалай Абрамовіч пражыў доўгае жыццё, амаль сто гадоў. Мяркую, і таму, што любіў жартаваць. Не заўсёды ягоныя жарты былі лагоднымі, часам ператвараліся ў высмейванне, часта выклікалі абурэнне і злосць. Але былі яны не пазбаўленыя досціпу. Таму і вартыя згадкі.

**Лісіныя шкуры**

З’яўленне падводы жыда-ганучніка было ў Шчонаве не абы-якою падзеяй. Вельмі ж прыгожыя хусткі ён прывозіў. Аплатай былі ганучы, старая вопратка, шкуры. Абрамовіч і кажа вазніцы: «Заедзь у тую хату, там лісіныя шкуры набудзеш». І паказаў яму на двор Мікалая Лукошкі. Туды і скіраваўся абрадаваны ганучнік.

А што было далей, хай вам, шаноўныя чытачы, намалюе ваша ўяўленне. Падкажу толькі, што мянушка гаспадара, на якую ён вельмі злаваўся, была Ліс…

**Варвара і камень**

Шчонаўцы часта вазілі прадаваць яблыкі. Часам вельмі далёка: у Мінск і нават у Маскву. Між мужчынаў, што тым разам вярталіся з продажу, былі Абрамовіч і Варвара (такую мянушку меў Іван Дубень). Вырашыў Абрамовіч пажартаваць з наіўнага, недалёкага Варвары. Калі, выехаўшы з Мінска, замочвалі дзесьці пры дарозе ўдалы гандаль, падняў камень, даў Варвары і сказаў: «Трымай!»

Ездзілі тады на грузавых машынах па шасэйных дарогах. Гадзінаў чатыры з Мінска дарога займала. Уявіце, як рагатаў у душы Абрамовіч, увесь гэты час гледзячы на Варвару, які паслухмяна трымаў у руках камень. Аж да самых Карэлічаў, дзе ўрэшце спытаў: «А што далей рабіць з каменем?» — «Кінь», — прагучаў лаканічны адказ шчонаўскага жартаўніка.

**Піскунова самагонка**

Абрамовіч працаваў на мельніцы. Вядома, што змолатае збожжа мусіць быць «замочанае». Юзік Захарчук, па мянушцы Піскун, не забыўся прыхапіць бутэльку самагонкі, якую жартаўлівы Абрамовіч незаўважна падмяніў на бутэльку з вадою.

Селі мужыкі пасля працы, закусь расклалі. Мельнік і кажа: «Твая гарэлка, ты і налівай сабе першаму». Глытнуў Піскун «гарэлкі», анямеў на хвіліну ад неспадзеўкі, а тады ўсе вядомыя на той час у вёсцы маты выпаліў на адрас свае жонкі. Ды з абяцанкаю добрага прачуханца ёй даць. Быў пэўны, што гэта яна гарэлку на ваду памяняла. «Падставіла» мужыка.

«Не раві! Во твая гарэлка», — дастаў Абрамовіч схаваную бутэльку, каб супакоіць раззлаванага Піскуна-крыкуна.

**У адведзіны**

Адна шчонаўская ўдава вельмі сталага веку прыняла прымака. Мужчыну значна маладзейшага.

Родам яна была з іншай вёскі. І трэба ж было яе сваякам сустрэць Абрамовіча. То і пытаюцца: «Як там наша сваячка маецца?» — «Добра, дзіця нарадзіла», — быў адказ.

Дзе радзіны, там і адведкі. Сабраліся сваякі, падарунак купілі і прыехалі ў Шчонава. Пад'язджаюць да двара сваячкі, а яна ў градах. Прывіталіся і да справы: «Дзіця паказвай».

Зразумела, што гэты зусім не бяскрыўдны жарт вельмі абразіў паважаную жанчыну. А каго б не абразіў? Доўга яна на Абрамовіча злавалася, не размаўляла.

Але ж і сваякі тыя які розум мелі? У такі цуд наіўна паверылі, уявіўшы жанчыну ледзьве не біблейскаю Сарай…

**Не на плоце вісела**

Калі Вы, шаноўны чытач, ёсць асобаю далікатнай, шануеце сваё гжэчнае ўяўленне, то можаце прамінуць гэты абразок.

Многія шчонаўцы з'ехалі пасля вайны ў далёкі край, у Мурманскую вобласць. Па-рознаму там уладкаваліся. Але амаль ніхто ў беларускі калгасны рай не вярнуўся. Была між тых эмігрантак сястра Косціка Яўсея Вера. Спачатку ўсё няблага там было, грошай шмат мела, адзенне справіла. Дачку нарадзіла. Сваякі настоялі, каб вярталася. Але не ўжылася ў братавай сям'і. Хадзіла па хатах, прасілася пажыць. Ніхто не пусціў. Вымушана была зноў з'ехаць. Але ўжо на ногі там не стала. Не надта ёй жылося. Дзяўчына тым часам падрасла. Пісаць лісты стала да стрыечнае цёткі Ганны Юлькавай. Кожны ліст у вёсцы пераказваўся, каментаваўся. Шкадавала яе Ганна. Але і нічога добрага ў тым жыцці не бачыла. Бо з самага ранняга юнацтва надта ж Лена шмат у сваіх лістах пра хлопцаў расказвала. З кім сустракаецца, хто дахаты праводзіць. І ўсе яе надта любяць. То і не дзіва, што ў хуткім часе прыйшла ў лісце навіна пра будучае дзіцятка. Пісала пра гэта без скрухі. А гэта ж яшчэ сямідзясятыя гады былі, калі вёскі нашы даволі цнатлівымі меркамі кіраваліся. Асабліва падліло вады ў агонь паведамленае, не без гонару выказанае будучай маці: дакладна ведаю, ад каго дзіця будзе. Тут ужо цётка Ганна не стрывала, каб у лісце-адказе не ўкалоць: «Канечне ж, ты, Ленка, ведаеш, ад каго ў цябе дзіця. Бо яна ж у цябе паміж ног была, а не на плоце вісела».

Толькі ці зразумела тую горкую іронію недарэчная дзяўчына? Лісты ад яе ісці перасталі. Думалі ў вёсцы, што прапала яна. Ці жывая, ніхто і не ўведаў.

нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна. Закончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, працавала ў вясковых школах. Закончыла аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук. Працуе дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры ГрДУ. Сябар СБП. Напісала кнігу «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі».





АЛЯКСЕЙ ПЯТКЕВІЧ

## Кляновае лісце

На лекцыі ва ўніверсітэт некалі заўсёды ішоў цераз парк Жылібера. Восенню, на пачатку навучальнага года, калі быў нейкі асаблівы, не будзённы настрой, падказаны чаканнем студэнцкай аўдыторыі, калі да таго ж хораша свяціла і нават грэла сонца, прыемна было адмерваць крокамі гэты невялікі кавалак парку — ад драматычнага тэатра да выхаду на вуліцу Ажэшкі. Тут, ля фантана, высілася купа старых разгалістых клёнаў. Яны напэўна помнілі суседства помніка-бюста знакамітай пісьменніцы, што быў усталяваны на гэтым месцы. Падчас урачыстага адкрыцця помніка, калі людзі запоўнілі парк і прылеглую тэатральную плошчу, хтосьці з рэпарцёраў узабраўся на адзін з гэтых высокіх клёнаў і зрабіў панарамны здымак — шапкі, службовыя фуражкі, капелюшы, капялюшыкі… Яны дэманстравалі самую розную публіку, што сабралася тады дзеля святочнай нагоды.

Клёны стаялі доўга і кожнай пагоднай восенню сыпалі сваё буйнае залацістае ўбранства на газоны і дарожкі парку. Ідзеш, бывала, раніцай (а тады камунальнікі не вельмі спяшаліся ачышчаць парк ад апалай лістоты), і гэтая ярка-жоўтая раскоша на асфальце, што ўзлятае і раскідаецца ўбакі пры тваёй хуткай маладой хадзе ды яшчэ далікатна пахне нейкім рэдкім водарам восені, дадае табе бадзёрасці і лёгкасці. Нават падымае тваю душу, адкрытую насустрач усяму добраму і светламу, на нейкую паэтычную вышыню. Бо дзівосныя ўзорам і колерам кляновыя лісткі ўяўляюцца творам загадкавага мастака, прыхільніка барока, шчодра раздадзеныя ўсім. Падымеш адзін такі, найбольш упадабаны табою, лісток і нясеш у руцэ, як нешта каштоўнае. У такую часіну згадваеш, бывае, сваё роднае мястэчка і высокія старыя клёны, што густа раслі вакол касцёла (царква была абсаджана ясенямі) і засыпалі дарогу, па якой бегаў у школу. Яшчэ згадаецца мама, якая выпякала на кляновых лістах у нашай печы вялікія авальныя буханкі хлеба, такога смачнага, асабліва калі ён яшчэ цёплы ды з свежым малаком.

Кляновы лісток бываў прынесены на працу, аддаваўся кафедральнай лабарантцы, якая аддзячвала за такі знак мужчынскай увагі сардэчнай усмешкай. А то лісток проста клаўся на кафедральны стол, які адразу ж мяняў увесь свой выгляд. Па дарозе назад часам заносіў такі лісток дадому, і жонка ставіла яго ў маленькую вазачку ці знаходзіла яму іншае месца ў інтэр'еры кватэры. Цэлы букет гэтага зеленавата-жоўта-карычневага цуду мы збіралі, нярэдка было, з маленькай дачкой, і яна ўрачыста несла яго дадому. Тут трэба было, крыху пачакаўшы, прайсціся па кожным экземпляры не надта гарачым прасам, каб букет захаваў сваю эстэтычнасць. Тады ён мог цэлую зіму аздабляць сабой жыллё.

Трэба прызнаць, што нават ссохлае кляновае лісце зберагае ў сабе дзіўную энергетыку і можа быць карысным пры пэўных абставінах. Аднойчы, калі

кіраваўся прывычным маршрутам цераз восеньскі парк, стаў сведкам нечаканай сцэны. Куча сухога кляновага лісця непадалёк ад выхаду падалася незвычайнай, бо мела глыбокую ўпадзіну. Спыніўся і заглянуў. Убачанае ўразіла. Унутры быў кот. Праўда, відаць была толькі яго спіна. Стаялі тады раннія замаразкі, але сонца грэла яшчэ добра. І гэты цёмна-шэры вялікі, стары, відаць, кот вынайшаў найлепшае месца для восеньскага мацыёну. Залез на верх кучы, напэўна абнюхаўшы яе папярэдне, магчыма, і разгроб лапамі верхнюю частку, патаптаўся, зрабіў сабе яму і апусціўся ў яе, падставіўшы сонцу спіну. Ён адразу пачуў маю прысутнасць, але не запанікаваў, толькі павольна павярнуў галаву і зірнуў адным вокам. Заўважыўшы, што не маю наконт яго благіх намераў, а спакойна стаю ды ўсміхаюся, гэтак жа флегматычна і, падалося, незадаволена адвярнуўся, уткнуўшы зноў пысу ў лісце. Я крыху яшчэ пастаяў, але мой знаёмец не мяняў паставы: відаць, яна была аптымальнай і прыносіла поўнае задавальненне.

Гэта было даволі даўно. Я па-ранейшаму хаджу цераз парк. Толькі кляновае лісце ўжо не змятаюць, бо яго амаль няма. Старыя клёны ля фантана зрэзалі. Засталося адно маладзейшага ўзросту дрэва з сіратліва выгнутымі ў адзін бок галінамі. Павыразалі многа іншых дрэў. І парк, дзе былі калісьці вялікія зарасці бэзу і чаромхі, праглядваецца і прадзімаецца вятрамі наскрозь. Пракладзены тут шырокія і роўныя дарожкі з дробнай бетоннай пліткі. Абапал іх падстрыгаецца траўка. І цяністае, утульнае калісьці месца адпачынку набыло казённае, «стыльнае» аблічча. Зрэшты, выразалі і ў маім мястэчку ўсе дрэвы вакол царквы і касцёла. Для чаго гэта зроблена, адзін Бог святы ведае.

Гродзенцы апошнім часам перамясціліся дзеля адпачынку ў Пышкі. Але які адпачынак? Некалі прыходзілі сюды ў выхадныя дні сем’ямі, бралі з сабой на ўвесь дзень прадукты, бралі шахматы, кніжкі, жанчыны — вязанне. Размяшчаліся бліжэй да Нёмана, купаліся, загаралі, адпачывалі. Цяпер на беразе людзей мала. Затое на алеях гэтай лесапаркавай зоны публіка віруе — гуляюць. Пераважна сталага, пенсійнага ўзросту людзі. Праўда, па гэтых жа алеях імкліва носяцца на роліках, веласіпедах і іншых, больш сучасных сродках перамяшчэння дзеці, падлеткі і нават дарослыя. Што ж, такі век!

З’явілася ў Пышках і такая навіна, як танцпляцоўка, дзе гучаць па выхадных папулярныя рэтрамелодыі. Яна карыстаецца павышаным попытам — тут заўсёды ў цесным гурце кружацца пары. Мужчынаў мала, пераважна жанчыны. Гэта маё пакаленне і крыху маладзейшыя. Я іх добра разумею. Тым больш, што заўсёды вельмі любіў, ды, прызнацца, і цяпер люблю танцаваць. Але нешта не пускае мяне на гэтую пляцоўку. Не толькі ўзрост, а нешта іншае, больш значнае, што не мае дакладнай назвы. Толькі калі ў сонечны летні падвячорак кіруюся на Нёман і мінаю шумную танцпляцоўку, вакол якой заўсёды многа людзей, міжволі запавольваю крок. Мне падабаюцца песні, якія тут гучаць: яны ж і мае, з маіх даўніх рамантычных часоў. Угледаюся ў твары, часцей жаночыя. Бачу бляск вачэй гэтых немала-

дых адзінокіх кабет, шчырую іх цікавасць да ўсяго, што тут адбываецца, і яшчэ — чаканне… У любым узросце чалавек чагосьці чакае ад жыцця. Так што тут, у Пышках, на танцпляцоўцы — надзеі і запозненыя мары многіх. Дай ім Бог хоць крышку здзейсніцца. Я ж іду на Нёман і затым доўга стаю на беразе, узіраючыся ў рачную плынь, і мне здаецца, што яна нячутна адгукаецца на маё вітанне.

Што ж, у Пышках добра, тут такое чыстае паветра. Пахне лесам, сасновай смалой. Але гэта асобны, нават аўтаномны свет. Сюды прыходзяць, каб вярнуцца назад, у горад. А парк Жылібера — частка горада і мяне самога. І я зноў і зноў, хоць і не так часта, як калісьці, іду знаёмым маршрутам — паўз лялечны тэатр і да выхаду на вуліцу Ажэшкі. Мне прыемна тут ісці. Толькі вось ніяк не прызвычаюся да гэтага абноўленага парку. Чаго мне ў ім бракуе? Няўжо толькі тых старых клёнаў? Я не маю на гэта адказу.






літаратуразнаўца, культуролаг, краязнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Прафесар. Сябар СБП. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў мястэчку Новы Свержань (Стаўбцоўскі раён). Скончыў філфак Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у Гродзенскім педінстытуце (універсітэце) з 1957 года на кафедрах літаратуры, беларускай літаратуры, беларускай культуры, беларускай культуры і рэгіянальнага турызму. Выдаў кнігі «Наднёманскія былі» (1968, у сааўт.), «Сюжэт. Кампазіцыя. Характар. Аб прозе К. Чорнага» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст. (1981, 2-е выд. 1998, у сааўт.), «Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі» (1996), «Людзі культуры з Гродзеншчыны. Даведнік» (2000), «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002), «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы» (2006) і інш.

ВІКТАР САЗОНАЎ

## Гібель Тытаніка

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што менавіта ў той жа ж дзень і ў тую ж хвіліну, калі быў падпісаны апошні дакумент, што дазваляў пачаць будаўніцтва славутага «Тытаніка», ад Антарктыды адкалоўся даволі важкі кавалак лёду, які пацiху паплыў на поўнач. І цалкам мажліва, што гэты белы прыгажун ужо тады планаваў сваю чорную справу. І ўвесь гэты час, пакуль рабочыя заклёпвалі абшыўку ціхаакіянскага лайнера няякаснымі клёпкамі, айсберг няспешна плыў да сваёй мэты, робячы па дарозе розныя добрыя ўчынкі, такія, як прадастаўленне бясплатнага адпачынку знясіленым пералётным птушкам або ўпрыгожванне аднатоннага марскога ландшафту ззяючай на сонцы серабрыстай копіяй піраміды Хеопса. І калі ні з чым не параўнальны «Тытанік» пад радасныя воклічы шчаслівага натоўпу выйшаў у акіян, то паменшаная ў маштабе адзін да дзесяці копія славутай піраміды ўжо ведала сваё сапраўднае прызначэнне і з сумам рыхтавалася перайсці ад спраў добрых да спраў лёсаносных.

Скептыкі ў гэта дакладнае супадзенне датаў і лёсаў не вераць. Ды яны ні ў што не вераць, як гулякі не могуць паверыць у вернасць сваіх абраннікаў, якія ім так і не здрадзілі аж да магільнай ямы. Ім, скептыкам, каб зразумець таямнічую ідэю запраграмаванасці ўсяго існага ад самага пачатку стварэння сусвету і да сканчэння вякоў, перашкаджае цалкам зматэрыялізаваная вышэйшая адукацыя канца дваццатага і пачатку дваццаць першага стагоддзя. Бо менавіта яна не дазваляе людзям паверыць у сцверджанне геніяльнага Альберта Эйнштэйна, што Бог не гуляе з сусветам у косці.

А вось стары Яўген Гурэвіч з невялічкага хутара з-пад Іўя, у якога за плячамі было не больш трох класаў пачатковай школы, мог бы пабажыцца, што часамі лёсы так дакладна можна пралічыць законамі кармічнай матэматыкі, як лёгка можна пералічыць нешматлікую дробязь у левай кішэні яго парадней фуфайкі. Бо ў яго самога рэальна было нешта падобнае ў жыцці, што прымусіла б скептыкаў сарамліва апусціць вочы долу і некалькі разоў перачытаць радкі пра Фаму, які ўсё не мог паверыць у відавочнае. Ды не такое просценькае пацвярджэнне слоў старыны Альберта напаткала Гурэвіча, як з тым няшчасным «Тытанікам» і не асабліва шчаслівым айсбергам, а значна больш складанае і закручанае, як ланцуг у непаравязанага два тыдні цяляці.

А было ўсё, як у высакаякасным дэтэктыве. Толькі Яўген пачаў рабіць новы самагонны апарат, як у той жа ж дзень і ў тую ж хвіліну здарыліся яшчэ ажно тры паралельныя і на першы погляд незалежныя адна ад адной падзеі. Першая падзея была да банальнасці простай. Іўеўскі знакаміты самагоншчык, якога з-за неверагодна вялікіх аб'ёмаў вытворчасці празвалі Тытан, і нават яго сына Тытанік, вырашыў пашырыць свой нелегальны бізнес, які пры-

носіў легальнае задавальненне палове Іўя і яшчэ некалькім набліжаным да гэтага раённага цэнтра вёскам. Ён павялічыў калекцыю сваіх дзеючых самагонных апаратаў яшчэ на адзін навюткі і прыгожы, як усмешкі спажыўцоў яго прадукцыі. Ды паставіў яго ў лесе, недалёка ад хутара старога Гурэвіча. Балазе, мясціны там малалюдныя, гушчар непраходны, і ўсе патрэбныя прыродныя рэсурсы ў выглядзе дроў і халоднай крынічнай вады ў поўнай наяўнасці. Умовы для працы значна лепшыя, чым можа запатрабаваць для рабочых самы моцны і шчыра заклапочаны ўмовамі працы прафсаюз.

Але каб не гэтае дакладнае супадзенне па часе, калі чужы самагонны апарат з'явіўся ў лесе акурат тады, як Яўген пачаў аднаўляць свой, стары нават увагі не звярнуў бы на спойвацеля іўеўскага рабочага класа. Якая сціпламу хутарскому жыхару розніца, колькі той іўеўскі прахадзімец яшчэ сваіх агрэгатаў у лесе панаставіць і колькі няшчасных кабет праклянуць яго за спойванне іх мужыкоў? Сам Гурэвіч ніколі не гандляваў дурманячым зеллем. Выробляў выключна для ўнутраных патрэбаў, сярод якіх значыліся толькі ён сам і яго нешматлікія госці: кум, кума, стары сябра маладосці, зяць з дачкой, што жылі ў Гародні і ў госці наведваліся акурат тады, як Яўген парсючкоў калоў, сын з сваёй жонкай, што таксама нейкім сёмым пачуццём здагадваліся калі парсючкам надыходзіць канец, ды мясцовы ўчастковы з чырвонымі пагонамі і сінім носам. Таму канкурэнцыю наконт вытворчасці горкай старому ніхто не мог зрабіць у прынцыпе. Як і ён нікому. Але ж…

Але ў той жа ж дзень і ў тую ж хвіліну, калі стары Яўген Гурэвіч пачаў аднаўляць свой самагонны апарат, а іўеўскі самагоншчык паставіў у лесе недалёка ад Гурыновічавага хутара свой навюткі агрэгат, начальніку іўеўскай раённай міліцыі пазваніў яго начальнік з вобласці. І паведаміў, што таму толькі што пазваніў яго начальнік ужо рэспубліканскага значэння.

— Ад нас патрабуюць жорсткай барацьбы з самагоншчыкамі, — не сваім голасам роў у слухаўку абласны начальнік. — І не проста ліпавай барацьбы, а рэальнай. З рэальнымі вынікамі. Таму слухай мой загад. Спадзяюся, ты ўжо стаіш па камандзе «стройна».

— Так, стаю, — глухім тонам адазваўся раённы начальнік. — Адразу так стаў як вы пазванілі.

— Ну то слухай. У трохдзённы тэрмін правесці зачыстку ляснога масіву ля Іўя на прадмет пошуку самагонных апаратаў. Выявіць усе незаконныя агрэгаты, зрабіць ля іх засады і злавіць рэальных самагоншчыкаў прама на месцы злачынства, як толькі яны там з'явяцца. Бяры іх дзе хочаш, але каб былі злоўленыя. А то цябе самога зраблю самагоншчыкам.

— Усё зразумеў, — прамармытаў у слухаўцы напалоханы голас. — Усё будзе зроблена.

— І яшчэ, — з другога боку не супакойваўся голас гнеўны. — На твой адрас быў высланы пакет з сакрэтным загадам. Ты яго атрымаў?

— Так, атрымаў, — іўеўскі начальнік скасіў вочы на толькі што прынесеную капэрту. Усе загады выканаем.

— Поспехаў.

І вось ужо праз паўгадзіны па камандзе «стройна» стаяў увесь раённы аддзел міліцыі. А іўеўскі начальнік, які паспеў змяніць свой напалоханы голас на дакладна такі тон, які нядаўна гучаў са слухаўкі яго кабінетнага тэлефона, пырскаючы слінай, крычаў сваім падначаленым раней пачуты ад абласнога начальніка тэкст. Прычым рабіў ён гэта з такой дакладнасцю, малпуючы і голас, і інтанацыю, і нават паўзы, што каб запісаць гэтыя два маналогі на стужку, то ніякая міліцэйская экспертыза не адрозніла б адзін ад другога.

А праз гадзіну міліцыянты павыскоквалі кулямі з міліцэйскага будынка на самае складанае ў сваім жыцці заданне. Каго яны маглі арыштаваць, калі кожнаму мясцоваму самагоншчыку хтосьці з іх прыходзіўся то братам, то сватам, то кумам, то яшчэ якой раднёй? А часамі і сябрам, аднакласнікам, аднакурснікам, вайсковым саслужыўцам і нават змоўшчыкам у справе вырабу або распаўсюду забароненай прадукцыі. Ну, а хто з самагоншчыкаў быў далёкі ад сваяцтва ці сяброўства з ахоўнікамі правапарадку, той ужо даўно мусіў пастаўляць свае дурманячыя вырабы задарма для розных міліцэйскіх папоек.

— Што будзем рабіць? — прапанаваў параіцца малодшы лейтэнант, ён жа старэйшы сын таго знакамітага іўеўскага самагоншчыка, які павялічыў калекцыю сваіх дзеючых самагонных апаратаў яшчэ на адзін навюткі і прыгожы, як усмешкі спажыўцоў яго прадукцыі, ды паставіў яго ў лесе, недалёка ад хутара старога Гурэвіча.

— А што ты прапаноўваеш? — у адзін голас запыталі астатнія.

— Ды ёсць адна задумка. Трэба будзе толькі заахвяраваць адным бацькавым апаратам. Нічога страшнага. Бацька не пабяднее. Яшчэ наробіць. Толькі ж майго бацьку мы арыштоўваць не будзем, праўда?

— Не, твайго не будзем, — заківалі галовамі астатнія, так што кукарды на іх фуражках сталі пералівацца ў промнях сонечнага святла залатымі зайчыкамі. — А каго будзем? Некага ж трэба затрымаць!

— А затрымаем мы, — падняў палец у гору малодшы лейтэнант і старэйшы сын, — старога Яўгена Гурэвіча, што жыве на хутары ля лесу. Гэта недалёка ад бацькавага апарата. Таму будзе выглядаць праўдападобна, што апарат належыць Гурэвічу. Ён стары пенсіянер. Яго за гэта ніхто не пасадзіць. Дадуць штраф, і ён будзе выплочваць яго пакрыху з сваёй пенсіі аж пакуль не загнецца. Так што страта для яго будзе невялікая, а ў нас справа будзе закрытая. І апарат навюткі, бліскучы і прыгожы сканфіскаваны, і самагоншчык затрыманы.

— То ж была каманда злавіць на месцы злачынства, — засумняваўся нехта ў праўдападобнасці аперацыі.

— А мы яго туды прывядзём, і нават сфатаграфуем там, — заявіў старэйшы сын, ужо прадчуваючы, што і лейтэнантам пасля такой удалай аперацыі таксама хутка стане старшым. — А пасля хай гэты стары пень апраўдваецца як хоча і тлумачыць што захоча. Ён што скажа? Раскажа праўду. Што мы яго выцягнулі з хаты і прыцягнулі на месца злачынства. Дык хто ж у такое паверыць, што міліцыя такую гадасць зрабіць можа?! Праўдзе ў наш час ніхто не

верыць. Вось і яму не павераць. Так што, што б ён ні гаварыў, суд палічыць гэта як спробу ўцячы ад адказнасці. А ў нас удала правернутая аперацыя і закрытая справа. Толькі ўмова: паколькі я аўтар гэтага плана, то начальніку скажам, што самагоншчыка злавіў я. Каб мяне ўзнагародзілі. А вас таксама не праміруць. За такое ўвесь аддзел у пашане будзе.

— Згода! Ну і галава ў цябе. Не дарма цябе называюць Тытанікам, — з захапленнем прастагналі міліцыянты і, падзяліўшыся на дзве групы, рушылі кожны па сваё. Адны распаліць вогнішча і запусціць самагонны апарат, а другія па душу і цела старога Язэпа.

Язэп акурат у гэты момант корпаўся ў агародзе і нават не падазраваў пра тую подласць, што рыхтавалася супраць яго. І як два суровыя хлопцы з пагонамі загадалі яму ісці з імі, то і не пытаў чаго. Так цішком і пасунуўся з імі, не выпускаючы з рук рыдлёўкі. Колькі раз за жыццё яму нешта камандавалі хлопцы з пагонамі. І з савецкімі пагонамі, і з польскімі, і з нямецкімі… Не пералічыць. Таму стары Гурыновіч ужо меў багаты досвед і ведаў, што лепш цішком планаваць, як ад іх збавіцца.

— Твой апарат? — спытаўся пакуль што малодшы лейтэнант, як Яўгена прывялі ў лес.

— Не.

— А чый?

— Чый-чый, твайго бацькі, чый, — прастагнаў стары, ужо ўцяміўшы, што супраць яго арганізоўваюць паскудную правакацыю. Прыжмурыўся. Задумаўся.

«Эх, хлопцы вы, хлопцы, — падумалася яму. — Колькі вас тут было такіх разумных?! А мы мусілі выжываць на сваім хутары насуперак вашай подлай натуры. І дзяды, і бацькі выжывалі. І пры фашыстах, і пры бальшавіках, і халера ведае пры кім. І ці ж выжылі б мы, каб не былі за вас разумнейшыя?»

— Майго бацькі?! Што ты брэшаш! — закрычаў малодшы…

— Сабакі брэшуць, — парыраваў стары.

— Ану пайшлі ў аддзел. Там свае байкі расказваць будзеш.

— Пайшлі.

— Загад выкананы, — адрапартаваў шчаслівы міліцыянт, упіхнуўшы старога Яўгена ў кабінет начальніка. — Аддзел папрацаваў добра. Увесь лес прачасалі. Зрабілі засаду. А гэтага самагоншчыка я сам узяў на месцы злачынства. Я ўжо ў рапарце ўсё напісаў.

— Добра, — адказаў начальнік, ляніва зірнуўшы на Гурэвіча.

— Ну, а ў цябе ёсць што сказаць? — спытаўся вяла, без цікавасці. — Лепш усю праўду расказаць. Гэта змякчае віну.

— Усё раскажу, — адгукнуўся стары. — Усю праўду. А было ўсё так. Значыць, корпаюся я ў сябе ў агародзе, і тут раптам бачу: з лесу чорны дым валіць. Я думаю: лес гарыць. Хапіў рыдлёўку і паляцеў тушыць. Прылятаю, а там вось гэты, злыдзень. На бацькавым апараце самагонку цісне. Я кажу яму, каб перастаў. Ці хоць мундзір хай бы зняў. Пагоны не ганьбіў. А ён мне

кажа, каб я ўцякаў адтуль, пакуль не позна, і язык за зубамі трымаў. Але ж я не магу дапусціць, каб закон парушалі. Я схапіў яго за карак, дзякуй Богу сіла яшчэ ёсць, і прыцягнуў гада сюды да вас. Каб хоць вы, як начальнік, сказалі яму, што так рабіць нельга. Брыдка гэта. Самагонку гнаць у нас жа забаронена. А ён дык яшчэ і міліцыянт. Сорамна. Неяк не па-людску гэта, — і Гурыновіч сарамліва апусціў вочы долу. А пасля схамянуўся, падняў іх на начальніка, зірнуў яму проста ў расплюшчаныя ад здзіўлення шырока, як у савы, вочы, ды больш гучным голасам дадаў: — А як толькі сюды прыйшлі, гэты гад, каб выкруціцца, пачынае на мяне ўсё валіць! Вось жа дзе злыдзень! І адкуль такія бяруцца?! Здаецца, і бацька ў яго чалавек добры. Сумленны самагоншчык. І дзед быў чалавек прыстойны, супраць вашай улады ваяваў, як вы прыйшлі. А гэты невядома ў каго пайшоў!

У малодшага лейтэнанта рот разявіўся так непрыстойна шырака, як можа дазволіць сабе толькі рот генерала. А начальнік павольна, з хуткасцю самай малой стрэлкі свайго гадзінніка, апусціўся на крэсла. Пасля страпянуўся і камандзірскім тонам выгукнуў:

— Капітан Салагуб!

На загад у кабінет заляцеў капітан.

— Гэтага Тытаніка, — начальнік паказаў пальцам на малодшага лейтэнанта, — арыштаваць. Міліцэйскае пасведчанне і зброю забраць. Я з ім пасля разбяруся. А вы, Яўген… э-э-э… забыўся, як вас па бацьку, прысядзьце, калі ласка. Усё, што расказалі, напішыце на паперы. А мы разбяромся. У нас такія пярэваратні ў міліцыі працаваць не будуць. Не сумнявайцеся.

Гурэвіч усё так і напісаў, як расказваў. Яго адразу адпусцілі, і нават падзякавалі. Ён ішоў па старадаўнім Іўі у бок свайго хутара і думаў пра ўсіх, хто некалі прыходзіў на той хутар з пагонамі розных уладаў. Ён дакладна не ведаў, чаму яго адпусцілі так лёгка. Але недзе на ўзроўні падсвядомасці яго ўласны досвед і досвед яго продкаў, што перадаўся праз генетычную памяць, падказваў старому, што акурат у той жа дзень і ў тую ж хвіліну, калі Яўген пачаў рамантаваць свой самагонны апарат, а іўеўскі знакаміты самагоншчык паставіў у лесе ля гурэвічавага хутара свой, а іўеўскаму начальніку міліцыі патэлефанаваў яго абласны начальнік, адбылося яшчэ адно здарэнне — на стол іўеўскага начальніка лёг пакет з сакрэтным загадам. І там, між іншага, былі і такія радкі: «У комплексе мер, скіраваных супраць нелегальнага вырабу самагону, асаблівую ўвагу трэба звярнуць на супрацоўнікаў міліцыі, чые сваякі або яны самі займаюцца самагоннай справай. Абавязкова трэба выявіць і пакараць такіх супрацоўнікаў. Гэта справа першаснай і павышанай важнасці».

І пра «Тытанік» з айсбергам стары Яўген Гурэвіч, у адрозненне ад больш адукаваных маладых міліцыянтаў, як і пра той сакрэтны загад, таксама нічога не ведаў і нават не чуў.

## Панская хвароба

— Падагра — гэта не смяротна. Не перажывай так моцна і не маркоцься, — у тэлефоннай размове рабіў выгляд, што стараецца мяне супакоіць, адзін мой добры прыяцель Сярожа. Хоць інтанацыя яго голасу міжволі выдавала радасную фразу, якая круцілася на кончыку яго языка, як паганая вош на срэбным грэбні, і ад якой Сярожа ледзьве стрымліваўся, каб не выбухнуць, як святочная петарда: «А я табе казаў, што дап'ешся рана ці позна і якаясь трасца ў цябе абавязкова ўб'ецца. Бачыш, я не памыляўся! Я ніколі не памыляюся ў такіх пытаннях».

Не тое што ён сапраўды цешыўся з маёй хваробы чорнай радасцю, не вартай чалавечага звання. Не! Ні ў якім разе. Я далёкі ад такіх жудасных падазрэнняў наконт нават не самых лепшых сваіх знаёмых. А гэты дык увогуле блізкі. Ён проста нявінна і чыста радаваўся, што яго прадказанні наконт майго здароўя збыліся. Людзі часта цешацца з такіх рэчаў, калі спраўджваюцца іх прароцтвы. Гэта падымае іх вартасць, як яны думаюць, у вачах іншых. Хоць іншым, насамрэч, глыбока напляваць з самага вялікага хмарачоса на іх вартасць. Ды і халера з ёй, той вартасцю. Галоўнае, што за маё здароўе ён таксама перажываў шчыра. Ледзьве не так, як радаваўся сваёй геніяльнасці. Прынамсі, мне так хочацца думаць.

Мне не хацелася зняверваць прыяцеля Сярожу, таму я не стаў распавядаць, што мяне пра тую трасцу папярэджвалі амаль усе знаёмыя, а не толькі ён адзін. Таму калі гэтыя прадказанні ўспрымаць як фактар чалавечага інтэлекту, то трэба прызнаць геніяльнасць не толькі яго аднаго, а і ўсіх іншых людзей планеты. Ну хіба што акрамя мяне самога. Ды і на размовы гэтым разам мяне не цягнула. Вельмі балелі суставы ног. Дакладна так балелі, як і трэба пры гэтай хваробе.

— Добрага тут мала, — дурыў мне галаву іншы знаёмы, зноў жа па тэлефоне. — На нашай беларускай зямлі падагру называюць панскай хваробай. Бо некалі паны маглі сабе дазволіць часта піць гарэлку ды закусваць шмат і тлуста. Як ты. Таму і хварэлі. Як ты. А хвароба паскудная. Ногі баляць. І не толькі ногі. Ды гэта перажыць неяк можна. А вось як перажыць тое, што пры гэтай хваробе гарэлкі нельга піць увогуле і свініну есці забаронена?! Во дзе праблема! Хоць ты рабі абразанне і прымай іўдзейства або мусульманства з такім харчовым і безалкагольным рацыёнам.

— Абразанне рабіць ды кардынальна мяняць кухню хіба не буду, — як напрыканцы споведзі, вяла і неахвотна прастагнаў я. — Прывык я да гэтай ежы. Таму здзейсніць радыкальныя змены ў гэтым кірунку не ў змозе. Хоць нешта мяняць прыйдзецца напэўна. Бо як баліць, то тады ні піць, ні есці не хочацца.

— Як я табе спачуваю! — толькі і знайшоў адгукнуцца той.

Гэтае «спачуваю» мне прыходзілася выслухоўваць ужо каторы дзень запар. Гучала яно ў розных інтанацыях, перадавалася безліччу галасоў, якія я не ўсе нават змог распазнаць і ідэнтыфікаваць, і выйшла на першае месца сярод пачутых за апошні тыдзень слоў.

А вось самым першым паспачуваў мне знаёмы лекар, які пасля праверкі аналізаў з радасцю, якая мела тыя ж вытокі, што і ў Сярожы, упэўнена абвясціў дыягназ — падагра. І шчыра ды натхнёна павіншаваў мяне. Бо хвароба гэтая, маўляў, шляхетная і значна прадаўжае хвораму жыццё, папраўляе яму здароўе, дадае бадзёрасці, лёгкасці і працаздольнасці, як ні парадаксальна гэта гучыць. Такімі былі яго лекарскія сцверджанні.

— Як такое можа быць? — здзівіўся я з лёгкім падазрэннем, што ў таго ў самога не ўсё нармальна са здароўем. І яўна гэта ў яго не падагра.

— Лёгка, — патлумачыў ён, развейваючы мае падазрэнні. — Хвароба не смяротная, гэта раз. Працякае з моцнымі болямі суставаў, гэта два. Каб болі зменшыць, ёсць адзін шлях — не піць гарэлкі і не жэрці абы-чаго. Гэта тры. Жаданне пазбавіцца дзікіх боляў спрацоўвае значна лепш, чым рэкамендацыі самага ўплывовага прафесара медыцыны, і хворы пачынае выконваць усе парады лекара. Ну, а патрэбная пры падагры дыета ўжо сама па сабе прыносіць лёгкасць і спрыяе якасці ды працягласці жыцця. Былі б усе хваробы такімі, як гэтая, то чалавек мог бы стаць увогуле бессмяротным. Я ў маладосці нават марыў вынайсці такі медычны прэпарат, каб наўмысна заражаць людзей гэтай хваробай. Так чалавецтва змагло б перамагчы алкагалізм цалкам, не падвяргаючы рызыцы жыццё пацыентаў. Мы ўсіх піяк заразілі б падаграй, і гарэлкі яны піць не змаглі б з-за боляў ад алкаголю ў суставах. Таксама гэтая хвароба падвышае ўзровень мачавіннай кіслаты ў крыві, якая станоўча ўплывае на інтэлект. То хворыя пачалі б нарэшце думаць, зноў набылі б цікавасць да жыцця, сталі б прыносіць карысць грамадству, перасталі б развальвацца з-за алкаголю сем'і, на планеце надышоў бы залаты век шчасця ды гармоніі. Ну, а мая сціплая персона атрымала б ад удзячнага чалавецтва невялічкую Нобелеўскую прэмію і яшчэ адзін лішні выходны дзень у год. Можа, тады ўжо хоць адаспаўся б.

Але хаця перспектывы лекар мне абмаляваў абнадзейваючыя, болі суставаў асаблівага натхнення не дадавалі. А з часам і спачуванні знаёмых ды блізкіх так абрыдлі, што прыйшлося выключыць мабільны тэлефон і ўгаварыць жонку, каб тая тлумачыла ўсім назойлівым спачувальшчыкам, якія затэлефанавалі на хатні, што я ўжо цалкам вылечыўся, пайшоў у глыбокі запой і з'ехаў на вёску з тае прычыны, што там на натуральных прыродных абшарах самагонка мацнейшая, а свініна тлусцейшая, чым у асфальтнабетонным палоне горада. Адным словам, я ёсць, але не тут. А там, дзе я ёсць, мяне знайсці цяжка.

Гэтая хітрасць не спрацавала. Народ стаў ціснуцца ў хату ўласнымі персонамі, каб пасля з гонарам распавядаць тым нешчаслівіўцам, якія не дадумаліся да такой хітрасці, што на свае вочы бачылі: я сапраўды зусім не п'ю. І ўвесь час мне спачувалі. Няведама, чаму больш. Ці то таму, што мне баляць суставы, ці то таму, што я сапраўды не п'ю. А адзін дык нават шэптам на вуха спытаўся:

— Ты мне праўду скажы. Як ніхто не бачыць і лекар не ведае, ты пакрыху выпіваеш? Не хвалюйся. Я нікому не здам таямніцу.

Некаторыя ж, выслухаўшы гісторыю хваробы і прапанаваныя метады лячэння, хмура і недаверліва матлялі галовамі і агучвалі свае версіі. Найбольш праўдападобнай, бо была самай пажаданай, выглядала такая:

— Ды не можа такога быць! Медыцына павінна лячыць людзей, а не здзекавацца з іх. Можа, твая жонка добра заплаціла лекару, каб ён табе такое жудаснае лячэнне прыпісаў! Гэтыя бабы і на такое здольныя, каб гарэлку ў нас з гарляка вырваць!

А адзін знаёмы, падняўшы палец угору і заявіўшы, што безвыходных сітуацый не бывае, прапанаваў такое выйсце:

— Лекар забараніў табе піць гарэлку? Падумаеш, праблема! Мяне некалі не пускалі са шпіталя дахаты начаваць. Казалі, мушу быць у лякарні. Дык я прыплаціў медсястры, і яна заплюшчвала вочы на мае ўцёкі. Ты зрабі таксама. Дай лекару добры хабар, каб дазволіў ужываць алкаголь! Вось і ўсе праблемы!

Я на такі радыкальны крок не адважыўся. Пачаў выконваць тыя рэкамендацыі медыкаў, якія яны давалі без хабару. Думаў, крызіс хутчэй пройдзе. Але час ішоў, і нічога не мянялася як нічога не мяняецца ў сюжэце ўжо выдадзенай кніжкі.

Жыццё ўсё больш афарбоўвалася шэрымі колерамі. Дайшло да таго, што я пачаў зайздросціць усім іншым людзям. І знаёмым, і не. Бо ў іх нешта ўвесь час здаралася — хтосьці выехаў у лес на шашлыкі, недзе пачалася вайна, прыяцель Сярожа парэзаўся пры галенні… Толькі ў мяне нічога не мянялася. Як у пустыні Сахара. Аднатонны і нудны ланшафт. Толькі дыета і невыносныя спачуванні… Адным словам, у мяне ўсталявалася поўная стабільнасць таталітарнага характару. Дакладна такая ж стабільнасць, якая ўсталявалася ў Беларусі пасля 1994 года, калі быў зліквідаваны пачатак маладой і нестабільнай беларускай дэмакратыі…

Вось так аднаго разу я ляжаў, як прыдурак, уставіўшыся мордай у тэлевізар, і разважаў, што я з-за сваёй хваробы зрабіў няшчаснымі неверагодна вялікую колькасць людзей. Яны ўсе перажываюць за мяне, маркоцяцца, спачуваюць… І сябры, і блізкія, і нават проста знаёмыя…

Я ўжо не кажу пра сям'ю. У дзяцей хоць іншыя клопаты ёсць. А вось бедная жонка лётае, як вясковы венік, прадукты адмысловыя шукае для майго правільнага харчавання, па аптэках носіцца… За дыетай сочыць, мне асобна гатуе, прыносіць у ложак, прыбірае… Столькі праблем ёй нарабіў! Як яна яшчэ трывае гэта ўсё… Як жа ёй цяжка! Усё ж было раней добра. Больш чым дваццаць год разам жывём душа ў душу. Здавалася, і далей усё будзе добра, як раней. І тут на табе… Якая паганая хвароба! Каб хоць толькі сам пакутаваў, дык яшчэ нічога. Можна было б трываць. А тут і іншыя. Асабліва жонка. А яе ж некалі, больш за дваццаць год таму, абяцаў зрабіць шчаслівай… Яшчэ тады абяцаў, як замуж прапаноўваў. І што атрымалася! Як цяпер яе ашчаслівіць?!

Вось з такімі думкамі я ўзяў мыліцы і павольна пасунуўся на кухню. Вады захацеў. Збіраўся ўжо дзверы адчыняць, як пачуў, што мая жонка з некім гучна размаўляе па тэлефоне:

— Ой, Леначка, як я табе спачуваю, — шчыра шкадавала яна нейкую сяброўку. — Як табе цяжка! Як ты трываеш яшчэ?! Скуль у цябе бяруцца сілы?!

Мне ад такой нечаканасці і вады расхацелася. Гэта ж я хворы! Гэта мне ўсе спачуваць мусяць! А мая родная жонка спачувае нейкай там Леначцы! Гэта я яе, сваю другую палову, лічыў самай няшчаснай з-за маёй падагры! А яна яшчэ некага лічыць больш няшчаснай! З якой такой нагоды! Трэба высветліць да канца. Разабрацца. І я яшчэ больш шчыльна прыклаў вуха да дзвярэй кухні.

— І што, твой гад ужо трэці дзень у запоі? — працягвала тэлефонную размову жонка. — Ой, як табе кепска! Гэтыя алкаголікі як дабяруцца да гарэлкі, то пра ўсё тады забываюцца. І пра сям'ю, і пра абавязкі, і пра людскасць, і пра працу, і пра жонак… Я ведаю гэта. Толькі не ведаю, што табе параіць.

Я ад нечаканасці і здзіўлення так прытуліўся да дзвярэй, што нават пачуў голас з тога боку слухаўкі:

— А што тут параіш, — уздыхала Лена заплаканым голасам. — Такі мой лёс, відаць, паскудны. Застаецца толькі цярпець. А у цябе як справы? Як жывеш зараз? Што там у цябе новага?

— А ў мяне, нарэшце, усё добра, — узбадзёрылася жонка і эмацыйным узбуджаным голасам стала дзяліцца з сяброўкай сваёй радасцю. — Усё ў мяне цудоўна стала — мой мужык захварэў. Дык я не магу нацешыцца ніяк. І не ведаю, як дзякаваць лёсу. Падагра ў яго. Суставы баляць моцна. Хадзіць зусім не можа. Цэлы Божы дзень у хаце. Нідзе не цягаецца. Не п'е зусім, і ў рот не бярэ, бо ад гэтага яшчэ больш баліць. Нават не нюхае. У сям'і радасць і ідылія, гармонія і ўтулак. Якая добрая хвароба! Я і не думала раней, што ў шлюбе можна быць такой шчаслівай. Хоць ужо больш чым дваццаць год замужам. І вось толькі цяпер шчасця дачакалася. Больш чым дваццаць год пакутавала, і нарэшце лёс злітаваўся! Захварэў мой родненькі. Ды так удала! Дай Бог усім добрым людзям такую хваробу. Яе ў Беларусі яшчэ называюць панскай. Ну то сапраўды панская хвароба. Жыву зараз, як сапраўдная пані.

нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Гальшаны Ашмянскага раёна. Скончыў ГрДУ імя Я. Купалы, гісторык. Сябар СБП. Выдаў кнігі «Занатоўкі кантрабандыста», «Notatki kontrabandzisty» (у перакладзе на польскую мову), «Bajdy sąsiedzkie» (у перакладзе на польскую мову), «Сандалі метрапалітыка, або Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі».







# СПАДЧЫНА

## «Край навагрудскі светлы мой...»

Лёсам вызначылася так, што ён прыехаў у беларускі Навагрудак пасля заканчэння вайны і, на жаль, не па ўласнай віне не пабачыўшы тутэйшыя краявіды і іхнюю вабноту, пражыў там да канца сваіх дзён у 2002 годзе. Гэта ў яго, паэта Гаўрыіла Шутэнкі, чалавека з невідушчымі вачамі і куды як з відушчым сэрцам, больш чым дзве траціны жыцця былі загорнутыя ў суцэльную цемру.

Хлопец з Арзігіра на Стаўропальшчыне, дзевятнаццацігадовы баец разведроты Гаўрыіл Шутэнка ў жніўні 1943 года ў баі пад Багародзічным на Данбасе быў цяжка паранены, ды так, што ўжо толькі потым, горка азначаны ўласнай трагедыяй, прашаптаў у чорную бездань: «Згубіў я сонца на вайне…»

Не варта даводзіць: усё далейшае жыццё, а ў ім і ўся творчасць паэтафрантавіка былі акрэсленыя тым — і толькі — падзелам на святло і цемру. Ды насуперак наканаваным яму нягодам, а магчыма, і гнятліваму адчуванню немачы перад галоўнай бядой Гаўрыіл Шутэнка за гады знаходжання ў цёмнай і, здавалася, абмежаванай прасторы напісаў, дакладней, нагаварыў, прадыктаваў, як ужо будзе заўгодна, шэраг паэтычных кніг, дзе прытуліў уласныя ўспаміны пра ліхую вайну, застаўся адданым акопнаму пабрацімству, не паскупіўся на мужчынскую пяшчоту і не саромеўся замілавацца, пачуўшы звычайны шэлест бярозы або голас жаўрука над сакавіцкімі пагоркамі Навагрудчыны.

Хай зямной не бачу пекнаты,
Ды ці мне аб згубе шкадаваць?
Я ж ад раны мог і не ўтрываць —
Не дазнацца: ёсць на свеце ты…

Свае вершаваныя зборнікі кішэннага, паходнага фармату і не толькі з таго не грувасткія ўласным аб'ёмам, паэт і называў зусім не адхілена ад іх сутнасці, а годна і грунтоўна: «Мои глаза», «Память», «Жажда», «Солнце на ресницах», «Горит костёр воспоминаний». І тое, што названыя кнігі былі сапраўды выверанымі і цалкам выпакутаванымі, а не інакш, іх творцам, сцвердзяць уласцівыя радкам гранічная сціслацсць і стрыманасць, пячатка моцнага характару аўтара і лірычнага складу яго душы. Уражвала яшчэ адна рыса, нават пэўны апазнавальны знак шутэнкаўскага паэтычнага спосабу, пра што ў свой час казаў Васіль Быкаў: «Паэт жыве ў свеце зрокавых вобразаў, многія

з якіх пад яго пяром ператвараюцца ў вобразы сапраўднай паэзіі, сагрэтыя пачуццём… трэба валодаць незвычайнай зрокавай памяццю, каб напісаць такое…»

Ад возера вунь да палянкі
(А можа, здаецца мне тое)
У строі з святла залатога
Спяшае ў лазняк свіцязянка.

Значылася за Гаўрыілам Карнеевічам, паэтам, ветэранам мінулай вайны і адна неад’емная ад яго імклівай натуры слабінка, здольная, аднак, пераўвасобіцца ў сваю процілегласць — падзвіжніцтва. Уласныя вершы, наладаваныя любасцю да людскасці, горасныя, але ж пераможныя згадкі пра салдацкі подзвіг ён правёз літаральна «ад Брэста да Уладзівастока», далучаючы да іх шкаляроў, вайскоўцаў, рабочых і студэнтаў. Штосілы ён караскаўся жыць не сам-насам, і тое незвычайнаму навагрдцу, дзякаваць Богу, патрафляла.

Край навагрудскі
Светлы мой,
Ну як не пець мне
Днём вясеннім?
У руні гнуткай і густой
Расніцы кожнай —
Глянь — натхненне.

Паэтычныя радкі Гаўрыіла Шутэнкі, як медныя гільзы, не іржавеюць, а пакрываюцца ахоўным налётам часу, каб напомніць пра сваё існаванне на зямлі і ў навагрудскай біяграфіі таксама.

Хусткай нам не махнулі,
Пацямнелай ад слёз…
Сотні вёрст загарнулі
Нас у снег і мароз.
Нас вясна саргавала
Там, Стары дзе Аскол,
Там раса асядала
На вінтовачны ствол.
І паспеў я прыкмеціць
Перад тым, як упаў:
Мне з наступны дасвеццяў
Хусткі ўзмах далятаў.

Дык ці можна ўсумніцца ў трывушчасці гэткай паэзіі, атожылкі якой з навагрудскай глебы?

Нельга!

*Юрка ГОЛУБ*

## На Свіцязі

У нетры пугач зарагоча.
І зоры над Свіцяззю весцяць.
Здаецца, і небу дасхочу
Каснік на яліны павесіць.

Ад возера вунь да палянкі
(А можа, здаецца мне тое)
У строі з святла залатога
Спяшае ў лазняк свіцязянка.

Можа, у вёску Мірацічы
На танцы дзяўчат падзівіцца
Хлопец з балады імчыцца,
І след за дубамі не страчаны.

## Роднасць

Балоты ды лясы на карце —
у Беларусі лёс такі.
Так думаў я на школьнай парце,
не знаў, што будзем сваякі.

Любоў мацнее з кожным годам
да васільковай старaны.
Зрадніўся я з яе народам,
І дзеці з ёй у нас адны.

Цяпер чытаю я Купалу,
яго я мову палюбіў.
Зязюля мне накукавала:
не меней сотні каб пражыў.

Бярозы шэлест разумею,
дубоў і клёнаў перабор.
І ў грукаце пазнаць умею
магутны мазаўскі матор.

Нас не пужаюць багны болей,
мы нафту здолелі здабыць.

У нас хапае добрай солі,
каб ніве каласістай быць.

І слаўлю я сардэчным словам
народа волатаўскі лёс.
Радок найлепшы ў кнізе новай
я Беларусі шчодра нёс.

Старой не давяраю карце
і слова гордае бяру:
стаіць магутная на старце
мая радзіма — Беларусь.

## Расінкі

Край навагрудскі
Светлы мой,
Ну як не пець мне
Днём вясенні́м?
У руні гнуткай і густой
Расніцы кожнай —
Глянь — натхненне.

## Навагрудак

Табе, мой горад,
Шмат чым абязан.
Ты даў прытулак мне
У самы цяжкі час.
Сюды ў гасціну ехаў я
З Каўказа…
Цяпер гасціць
Я езджу
На Каўказ.



Шырокі Нёман стужкай
Заплецены ў лясы.
Мяне той кут загушкаў
Чароўнае красы.

Рацэ схіліўся ранак —
Ваду з далоні п'е.
І мудрасці каханак,
Мне жаўр вясну пяе.

Ідзе насустрач пушча.
Ці сам — паміж ялін?..
На сцежку сіняй тушшу
Сцякае цень з галін.

Хадзілі партызаны
Ад гэтых хвой на бой
Граміць гасцей нязваных
І край прыкрыць сабой.

Шырокімі палямі
Прасторы расцвілі.
І цёхкаюць начамі
У вёсках салаўі.



Хай зямной не бачу пекнаты,
Ды ці мне аб згубе шкадаваць?
Я ж ад раны мог і не ўтрываць —
Не дазнацца: ёсць на свеце ты…



Хусткай нам не махнулі,
Пацямнелай ад слёз…
Сотні вёрст загарнулі
Нас у снег і мароз.

Нас вясна саграvала
Там, Стары дзе Аскол,
Там раса асядала
На вінтовачны ствол.

І паспеў я прыкмеціць
Перад тым, як упаў:
Мне з наступных дасвеццяў
Хусткі ўзмах далятаў.

*Пераклад з рускай Юркі Голуба*



нарадзіўся на Стаўрапольшчыне ў 1924 годзе. З дзевятнаццаці гадоў інвалід Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 года да канца сваіх дзён жыў у Навагрудку. Памёр у 2002 годзе.



## Легендарны доктар, які пісаў вершы

Польскі штогоднік «Rocznik Parafii Świętego Krzyża» за 1991–1993 гады апублікаваў вынікі пяцігадовых пошукаў ахвяраў Беразвечча (беларускай Катыні) на Віцебшчыне. Сярод іх быў і беларус з Беласточчыны доктар Усевалад Шыран.

Штогоднік пісаў, што 13 красавіка 1991 года адбылася ўрачыстая імша ў Беразвеччы па бязвінна закатаваных суайчынніках. Такое ж ушанаванне ахвяраў НКУС адбылося і ў вёсцы Мікалаёва каля Улы Бешанковіцкага раёна. У той 1939 год, калі Заходняя Беларусь адышла да Усходняй, было арганізавана каля 200 турмаў, якія сталі месцам дзікіх злачынстваў. Там закатавалі насмерць каля 1000 чалавек.

Усевалад Шыран нарадзіўся 11 сакавіка 1906 года ў вёсцы Лась Мазавецкага ваяводства (па іншай інфармацыі, ён нарадзіўся ў вёсцы Лапы) на Беласточчыне. Спачатку вучыўся ў Ломжынскай гімназіі, а потым працягваў вучобу ў Наваградскай гімназіі імя Адама Міцкевіча, якую скончыў 9 чэрвеня 1925 года.

Пасля заканчэння Наваградскай гімназіі Усевалад Шыран паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя на медыцынскі факультэт. Ужо на трэцім курсе ён пачаў працаваць на кафедры ў якасці малодшага асістэнта апісальнай анатоміі, самастойна праводзіў навуковыя даследаванні. Адначасова Усевалад пачаў цікавіцца і палітыкай. Яго хвалявалі пытанні нацыянальнай і сацыяльнай справядлівасці, адраджэнне нацыянальнай беларускай самасвядомасці.

13 сакавіка 1932 года юнак з Беласточчыны выдае на беларускай мове ў Вільні першы нумар палітычнага і літаратурнага «Часопіса для ўсіх» накладам 2 тысячы асобнікаў. Але польская паліцыя хутка наклад часопіса ліквідавала, а далейшае яго выданне забараніла. Сам рэдактар быў адпраўлены ў Лукішкі. У гэтым выданні непасрэдны ўдзел прымаў і Максім Танк, якога таксама хутка арыштавала дэфензіва і пасадзіла ў Лукішкі.

Прафесар з Гродна Андрэй Майсяёнак перадаў мне копію пісьма Максіма Танка да яго. Пісьмо было напісана 27 лютага 1988 года. Спадар Майсяёнак цікавіўся тады Усеваладам Шыранам. Народны паэт Беларусі пісаў: «На вялікі жаль, вельмі мала захавалася ў маёй памяці звестак пра Усевалада Шырана, бо з таго часу, калі я з ім сустракаўся, мінула больш за 50 год. Пазнаёміў мяне з ім адзін з кіраўнікоў камуністычнага падполля вясной 1932 года. Шыран тады збіраўся выдаваць прагрэсіўны журнал “Часопіс для ўсіх”. У гэтым часопісе, які адразу быў канфіскаваны польскай цэнзурай, былі змешчаны мае апавяданні і вершы. З таго часу сувязі з маім рэдактарам на нейкі час перарваліся. І толькі вясной 1933 года, калі я працаваў у падполлі, я зноў сустрэўся з Усеваладам Шыранам у Лужках на Дзісеншчыне…».

Сапраўды, калі наш зямляк трапіў у турму, ён ужо меў дыплом урача Віленскага ўніверсітэта. Але прафесія — прафесіяй, а палітыка — палітыкай.

Менавіта палітыка перашкодзіла Усеваладу Шырану застацца працаваць ва ўніверсітэце, займацца навуковай дзейнасцю. 1 мая 1932 года ўсе планы маладога ўрача пайшлі марна.

Ратаваць аднакурсніка і сябра, а пазней мужа, пачала яго сяброўка па жыцці Браніслава Смольская. Дзякуючы ёй Усевалада вызвалілі пад заклад. Дапамаглі гэта зрабіць прафесары з Вільні Сенгалевіч і Райхер, якія пазычылі спадарыні Смольскай 300 злотых. А 30 верасня 1933 года Віленскім следчым аддзелам справа была закрытая з-за недастатковых доказаў.

Пасля турмы Усевалад Шыран разам з Браніславай Смольскай вырашылі пакінуць Вільню і паехаць кудысь у глыбінку. Месцам працы яны выбралі вёску Лужкі на Дзісеншчыне. Там іх мясцовая ўлада сустрэла не вельмі добра. Але Браніслава Смольская ўладкавалася працаваць у бальнічную касу, а Усевалад Шыран захапіўся прыватнай медыцынскай практыкай. І ў яго атрымалася даволі паспяхова. Слава пра доктара Шырана хутка разышлася па ўсім Дзісенскім і суседніх паветах. З пісьма Максіма Танка да Андрэя Майсяёнка: «Відаць, з Усевалада Шырана быў харошы доктар, бо слава аб ім ішла далёка па ўсіх суседніх гмінах, бо ён, як тады казалі, лячыў ад усіх хвароб…»

І гэта было так. Доктар мог абыходзіцца практычна без спецыялістаў і выконваў самыя складаныя хірургічныя, акушэрскія, афтальмалагічныя і таларынгалагічныя аперацыі. На свае ўласныя грошы ён купіў і меў у Лужках медыцынскае абсталяванне, даволі дарагое па тым часе. Гэта расказаў мне Андрэй Майсяёнак, які меў сустрэчу пры жыцці з Браніславай Людзвікаўнай Смольскай. Яна яму распавядала пра дзіўны дар Усевалада Шырана як гісторыка, літаратара, публіцыста і медыка. А да таго яшчэ і выдатнага пчалавода і селекцыянера, які вырошчваў незвычайныя гатункі кветак і кавуноў.

Але мясцовыя польскія дактары ім былі незадаволеныя, бо яны страчвалі паціху сваю кліентуру. Ды і паліцыя за Шыранам пільна сачыла. Таму ў 1937 годзе ён з сям'ёй пакідае Дзісеншчыну і пераязджае ў Высока-Літоўск.

З архіўных дакументаў, якія захоўваюцца ў Брэсцкім абласным архіве, можна даведацца, што Усевалад Шыран польскімі ўладамі падазраваўся ў дзейнасці, накіраванай супраць тагачаснага ўрада Польшчы. Шлях у афіцыйныя дзяржаўныя ўстановы яму быў закрыты, таму і ў Высока-Літоўску доктар займаўся прыватнай медыцынскай практыкай. Не забываў ён і Лужкі, куды зрэдзьчасу наведваўся, лячыў людзей, даваў кансультацыі. Там, у Лужках, ён сустрэў і 17 верасня 1939 года. З прыходам саветаў ён з сям'ёй зноў вярнуўся на Дзісеншчыну. У маёнтку Гарадзец Усевалад Шыран з жонкай Браніславай разгарнуў узорны стацыянар на 100 ложкаў, куды прывёз усё асабістае медыцынскае абсталяванне. У той час не хапала медыцынскіх кадраў, таму доктар Шыран арганізаваў курсы медыцынскіх сясцёр.

Той жа Андрэй Майсяёнак пра доктара Шырана ў шаркаўшчынскай раённай газеце «Кліч Радзімы» ў 1988 годзе пісаў: «Вельмі хутка ўзрасла актыўнасць Лужкоўскай бальніцы. Медыцынская сітуацыя стала хутка паляпшац-

ца. Таленавіты хірург змог арганізаваць правядзенне ў мясцовых умовах складаных хірургічных аперацый, а таксама дэталёвы догляд у пасляаперацыйным перыядзе. Цікава, што менавіта ў гэты час ён шырока карыстаўся "стацыянарам на даму", аб якім так многа размоў сёння. Ён шчодра дзяліўся сваімі ведамі з прадстаўнікамі савецкай аховы здароўя, прапаноўваў арыгінальныя метады лячэння розных захворванняў, аб чым пісаў у рэдакцыю ўсесаюзнай газеты "Медицинский работник", актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх мерапрыемствах савецкай улады. Не застаўся забытым і выведзены гатунак кавуноў — ён быў прапанаваны Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Савецкія даследчыкі з разуменнем і ўвагай аднесліся да яго».

Яшчэ ў сярэдзіне 1930-х гадоў Усевалад Шыран друкаваў у заходнебеларускіх часопісах свае вершы, якія змяшчаліся побач з вершамі Міхася Машары. Ды справа была далёка не ў літзаслугах, а ў незалежных паводзінах нашага доктара пры паляках і папулярнасці яго як лекара. Як чалавека знанага на Дзісеншчыне, родам з Беласточчыны, яго ў 1939 годзе дэлегавалі на Народны сход у Беластоку, які фармальна вырашаў лёс Беларусі. Дэпутатам Народнага сходу быў абраны і Міхась Машара, які першым з заходнебеларускіх паэтаў напісаў хвалебны верш пра Сталіна.

Вершаў Сталіну Усевалад Шыран не пісаў і не думаў пісаць. У чэрвені 1941 года яго арыштавалі органы НКУС. Савецкай уладзе значна больш, чым польскай, мог не падабацца яго нонканфармізм і нацыяналізм. Можа, былі і якія-небудзь іншыя прычыны, адзін Бог ведае. Але пасля арышту ў спешцы супрацоўнікі НКУС легендарнага доктара Усевалада Шырана расстралялі.

Працуючы над пошукамі звестак пра знакамітага доктара, напісаў ліст да даследчыка заходнебеларускай літаратуры і культуры Арсеня Ліса. Арсень Сяргеевіч адказаў: «Рады, што вы, руплівы шукальнік і вяртальнік нашай спадчыны, хочаце вырваць з цемры забыцця імя Усевалада Шырана. Калісь у маладосці сустракаў яго вершы ў часопісе "Шлях моладзі" за другую палову 1930-х гадоў. У "Калоссі", праўда, хоць поўны камплект не трапляў, здаецца, публікацый яго з чатыры было. Вершы не зрабілі ўражання. Але, пачуўшы ад светлай памяці Яўгена Іванавіча (маецца на ўвазе Максім Танк. — *С. Ч.*) пра яго гвалтоўную смерць у чэрвені 1941 года, быў узрушаны. Даведаўся, што Усевалад Шыран быў папулярны на Дзісеншчыне як доктар, лекар і як чалавек незалежных поглядаў, асоба. Фота, на жаль, яго нідзе не давялося бачыць. Думаю, што можна знайсці ў Вільні. Напэўна, ён заканчваў медыцынскі факультэт пры ўніверсітэце і там захавалася яго асабістая справа, куды звычайна далучалі фотакартку. Відаць, ёсць яна і ў справе, якая захоўваецца ў Мінску ў архіве КДБ, але цяпер той архіў недаступны. Вось і ўсё, што магу вам сказаць пра Усевалада Шырана».

Сапраўды, легендарны доктар пісаў вершы, хоць і няшмат іх, але некаторыя былі апублікаваныя ў заходнебеларускіх выданнях. Мне давялося адшу-

кацць толькі два вершы Усевалада Шырана ў «Студэнцкай думцы» за 1926 і 1928 гады. Іх і прапаную чытачам штогодніка «Новы замак».

*Сяргей ЧЫГРЫН*

нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Слоніме, працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра. Напісаў і выдаў больш за 25 кніг паэзіі, гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых артыкулаў.





УСЕВАЛАД ШЫРАН

## Ці доўга?

Калі я ўбачу, што ўсюды няпраўда
Пануе на свеце і ўсюды прыгон,
Яшчэ калі ўспомню, як помню аддаўна,
Што ўсюды грыміць толькі золата звон —
Тады мне маніцца, што ўсё прадаецца,
І хочацца верыць, што гэтак здаецца
Маім асляплёным і слабым вачом
Прад новага дня светазарным святлом.
Калі я ўбачу, што людцы іныя,
Забыўшы ідэі і мыслі святыя,
Пакуль былі слабы, аб праўдзе пяялі,
Цяпер тую праўду за грошы прадалі
І песню з такім жа запалам іную
Спяваюць, каб цемру пашырыць начную, —
Хацець толькі верыць, што гэтак здаецца.
Калі я ўбачу сябе даакола
Карысці заклятай замкнёнае кола,
Што кожнае свята і кожнай нядзелі
Людзі з малітваю кленчаць ў касцелі,
А прыйдуць дахаты — бясправе твараць
І роднага брата гатовы б прадаць, —
Тады застанецца адно запытацца:
Ці доўга яшчэ так нам будзе здавацца?..

*1926*

## Вясна

Здаецца, што вясну раз першы спатыкаю
З такою страшнаю душэўнаю тугой.
Мне жудасна і сумна так! Пытаю,
Не знаючы: што робіцца са мной?
І ўсё маўчыць. Прырода! Вечар мая!
Ніхто адказу даць не хоча для мяне,
Хоць вецер вечарком лісточкамі іграе
І блікі месяца гуляюць па сцяне.
Іх мова мне зусім не зразумела,
А зразумелаю сто раз бы быць магла,
Калі б ты да мяне на момант прыляцела,
Калі б цяпер са мной ты, мілая, была.

*1928*







# CIVITAT GRODNENSIS

## ТАЦЦЯНА МАЛІНОЎСКАЯ

## Раёк на Збажовай

*Прысвячаецца Надзеі Галубовіч з Амельяновічаў, маёй бабулі*

Бесклапотны дзіцячы сон перапынілі гучныя стрэлы, паміж якімі чуўся магутны трэск. Я, маленькая дзяўчынка, не магла зразумець паходжанне гэтых гукаў. Яны даносіліся з боку Нёмана. Я села на высокім бабуліным металічным ложку, каб зазірнуць у акно насупраць, і паспела заўважыць скрозь фіранку надыход золку і ў чорных рысках белы покрыў Нёмана перш, чым у пакой увайшла мамуся. Невядомага паходжання гукі надалей сатрасалі наваколле. «Спі, маленькая, спі спакойна, гэта ламаецца лёд на Нёмане, надыходзіць цяпло. Пачынаецца крыгаход, на хвасце якога прыйдзе вясна. Не бойся, спі», — кажа матуля, і я зноў засынаю. Ранішняе абуджэнне суправаджалася новым гукам. Гэта было мяккае шапаценне, падобнае да шапацення старых асінаў на гары за домам пад вераснёўскім ветрыкам, толькі, можа, больш упарадкаванае. Так, толькі аднойчы ў жыцці, я стала сведкай пачатку крыгаходу на Нёмане вясной 1959 года ў доме маёй бабулі Надзеі, матулінай маці.

Нёман майго дзяцінства — гэта Нёман, на беразе якога стаяў на высокім падмурку драўляны дом маёй бабулі Надзеі Галубовіч, які напрыканцы 40-х гадоў пабудавалі на гродзенскай вуліцы Збажовай, калі сям'я вырашыла перабрацца з Абідава, хутара каля вёсак Баярскай і Касога Двара на Наваградчыне, у Гродна. А туды сям'я бабулі перасялілася з Падляшша, калі з'явілася новая пасляваенная мяжа паміж Беларуссю і Польшчай.

Дом на Збажовай быў пастаўлены ў цяжкі час, калі будаўнічы матэрыял прадаваўся па спекулятыўных коштах і літаральна ўсё было дэфіцытам. Грошай, што прывезлі з Польшчы, засталося мала. Таму ў Абідаве даралялі на дом продажам масла, смятаны, яек і іншых прадуктаў сваёй гаспадаркі, якія мая мама Валя і яе сястра Жэня вазілі на ровары на рынак у Навагрудак. Продаж сельгаспрадуктаў даваў добры прыбытак, але на гэтыя грошы трэба было жыць бабулі і дзвюм малодшым дочкам. А яшчэ грошы трэба было дасылаць ў Ленінград, дзе на інжынера вучыўся старэйшы брат маёй мамы, дзядзя Лёня. Ускладняючую карэкту ўносіла жыццё — дом прыйшлося будаваць на дзве сям'і, бо ад будучага калгаснага «раю», услед за бабуляй

з дзецьмі, паехала з Навагрудчыны і сям'я старэйшай мамінай сястры цёці Шуры. Напачатку думалі, што яны паселяцца часова, але атрымалася на чатыры дзесяцігоддзі.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці дом у Гродне пабудавалі. Перад драўляным плотам бабулінага пляца на Збажовай прабягала адзначаная коламі вазоў дарога, якая і была «вуліцай». Дарога ішла паралельна Нёману, за ёй з боку Нёмана сцяліўся невялікі лужок, па беражку якога Нёман сваімі хвалямі старанна шліфаваў і прамываў драбнюткі жоўценькі пясочак пляжа. Драўляны бабулін дом на высокім падмурку з верандай у цэнтры фасада, высокім двухсхільным дахам і двума комінамі красаваўся на ўзгорку, трохі прыкрыўшыся яшчэ маладымі яблынямі. За домам двума ўступамі падымалася гара. На першым уступе былі пасаджаныя яблыні і расла высокая духмяная трава, на якой мы, я і мае стрыечныя браты і сёстры, любілі цёплымі летнімі днямі пагуляць. Пазней, падлеткамі, мы, выцягнуўшыся на льняной посцілцы, загаралі тут альбо чыталі ці проста гультайнічалі і марылі, углядаючыся ў нёманскую плынь ці на гульню аблокаў. На другім уступе быў бабулін агарод.

З боку чыгуначнага моста, адкуль і пачыналася вуліца Збажовая, перад бабуліным домам туліўся невялікі дом Новакавай і за ім пралягаў глыбокі і даволі шырокі роў, па якім прабягаў ручай, што бесперапынна нёс у Нёман ваду з крыніцы, загубленай дзесьці на тэрыторыі вайсковага гарадка, у якім на складах працаваў дзядзя Аляксандр, муж цёткі Шуры.

Нашая сям'я, якая ад 1956 года жыла на вуліцы Савецкай, найчасцей ішла да бабулі пешкам праз Савецкую плошчу з журботнай, жахліва аголенай і разам з тым велічнай Фарай Вітаўта, рэшткамі старых габрэйскіх крамак. Далей спуск да моста і на ўзгорку справа сілуэтна, на фоне неба, выступаў зруйнаваны войнамі і часам бернардзінскі кляштар. Пры самым мосце — бровар, які заяўляў пра сябе здаля пахам паранага ячменю і соладу. За мостом адразу збочвалі налева, на Леваўзбярэжную.

Тут заўжды на вуліцы гулялі дзеці, жанчыны мылі бялізну перад дамамі, на лаўках сядзелі старыя, а мужчыны ўладкоўваліся па беражку наднёманскага схілу са шклянымі куфлямі піва і папяросамі. Мужчыны гаманілі, назіралі за рыбакамі, чые лодкі тырчэлі над нёманскай плынню, жанчыны аклікалі дзяцей, спрытна мылі бялізну, перакідваліся заўвагамі і навінамі з суседкамі. Старыя моўчкі назіралі за мужчынамі, жанчынамі і дзецьмі… З дзяцінства захавалася ў сэрцы ўражанне пра вельмі жывую, шматлюдную і цікавую на дэталі вуліцу. Далей падымаліся праз чыгуначны насып і спускаліся на Збажовую.

Калі прыехалі ў Гродна, пад чыгуначным мостам яшчэ быў праезд і мама з сястрой Жэняй праязджалі тут на ровары. Неўзабаве, на мосце з'явіўся ахоўнік са зброяй, і пад мостам, па якім ішлі цягнікі ў Польшчу, забаранілі праходзіць, нават набліжацца, таму мы падымаліся і спускаліся праз насып далей ад моста.

На Збажовай, адразу за чыгункай, злева былі два дамкі з агародамі і палі з бульбай, потым спуск да ручая. Перад ручаём — дом Вараксаў, і далей, спра-

ва ад дарогі, у рове, мясцілася, мабыць, шэсць ці восем дамоў на ўступах, па схілу рова ці нават каля самай вады, як, да прыкладу, гаспадарства Мазуркевічаў, да ганка дома якіх увесну ці па восені ручай разліваўся сажалкай, дзе рэй вялі заўжды неспакойныя і гучныя качкі гаспадароў. Над ровам вялікі дом стрыечнага брата дзеда Тодара — Саловіча, ніжэй — хатка самотнай старэнькай жанчыны Васілюньці. Адразу за ровам — невялікі дамок Новакавай і за ім, на ўзгорку, новы бабулін дом, дзе заўжды пры акне сваёй спальні, угледаючыся на дарогу, сядзела і чакала нас бабця Надзя.

Мая бабуля Надзя была шанаванай у вялікай сям'і Галубовічаў, а таксама сярод суседзяў і былых аднавяскоўцаў асобай. Ёй было за шэсцьдзясят гадоў. Яна пражыла няпростае жыццё — дзве страшныя вайны, бежанства, рэвалюцыя, вяртанне на бацькаўшчыну, што апынулася ў Польшчы, затым пераездам, пад уплывам агітацыі Сяргея Прытыцкага, у савецкую Беларусь.

Нарадзілася мая бабуля Надзея Галубовіч з Амельяновічаў у вёсцы Нягневічы на Наваградчыне ў заможнай сялянскай сям'і, якая на той час ужо амаль забылася пра сваё шляхецкае паходжанне. Яе маці, мая прабабуля Агата, як сведчыць сямейная легенда, паходзіла са збяднелага шляхецкага роду Кавэцкіх з Лозкаў. Маладзенькай дзяўчынай яна ўзяла шлюб з Сымонам Амельяновічам, з якім выхавала васьмёра дзяцей. Акрамя гаспадаркі сям'я жыла з пасады Сымона, які быў урраднікам, і талентаў Агаты да матэматыкі, якія дазвалялі ёй самастойна і з перспектывай вылічваць падаткі і дапамагаць рабіць гэта ўсёй вёсцы.

Важным здабыткам для сям'і былі і яе надзвычайныя здольнасці да арганізацыі ўсёй хатняй гаспадаркі. Уся вёска ведала, што такую цыбулю, як у Агаты, ніхто не здольны вырасціць, што столькі малака, колькі даюць кароўкі Агаты, ніхто не зможа мець, што такой белай бялізны, як пасля прання Агата вывесіць на падворку, ні ў кога не будзе, што такіх смачных страваў, як у Агаты, ніхто не прыгатуе, што падабраць так адзенне, як робіць Агата, ніхто не зможа, і пра гэта можна казаць бясконца…

Калі матуля пасля вайны жыла ў Абідаве, дык часцяком прыбягала ў Сланева да бабулі Агаты, каб нешта ёй дапамагчы, але маленькая, худзенькая, рухлівая, смяшлівая і вечна ў працы старэнькая Агата не прымала дапамогі і заўжды казала: «Ідзі, дзетачка, пагуляй, за свой век яшчэ напрацуешся!» Разам з тым яна з задавальненнем назірала за працай унучак, калі яны яе ўсё ж знаходзілі самастойна.

Сын Амельяновічаў Лёва, старэйшы бабулін брат, быў малодшым афіцэрам і загінуў у першай імперыялістычнай вайне. Сыны Давыд і Іван жылі пасля рэвалюцыі ў Мінску. Додзя быў інжынерам, працаваў на чыгунцы і жыў з жонкай Марысяй каля чыгуначнага вакзала амаль да канца 70-х гадоў. Іван усё жыццё працаваў бухгалтарам. Старэйшая бабуліна сястра Аляксандра яшчэ да рэвалюцыі выйшла замуж за маскоўскага гарадавога палкоўніка Гусева. Сястра Ксеня жыла ў Лозках, а Анюта выйшла замуж у вёску Дуб'ё. Наступнай была мая бабуля Надзея і малодшай — прыгажуня Люба, якая выйшла за ўдаўца Івана Кіклевіча ў Сланева. З цёцяй Любай ад 20-х гадоў

жыла, пасля вяртання з бежанства ў Казані, мая прабабуля Агата, — якая яшчэ да імперыялістычнай вайны пабудавала ў Сланеве невялічкую камянічку з чырвонай цэглы. Праўда, якасць цэглы была кепскай, і тады прабабуля ў 20-я гады разам з дзядзькам Іванам пабудавалі на тым жа пляцы, але далей ад вуліцы на ўзгорку вялікі драўляны дом з верандай, у якім усе і жылі, а ў камянічцы была лазенка з ваннай і калонкай для падагрэву вады і сталярня дзядзькі Івана. Абодва дамы і сёння стаяць у цэнтры старой вёскі Сланева.

Калі падчас Першай сусветнай вайны сям'ю Агаты разам з аднавяскоўцамі вывезлі ў Казань, бабуля Надзя вучылася там у школе, потым скончыла курсы кантралёраў і стала працаваць па здабытай спецыяльнасці ў лабараторыі Казанскага ўніверсітэта, дзе ў часе вайны выраблялі бомбы.

Жылі беларусы ў Казані асобна, займалі вялікую вуліцу, жылі заможна і «культурна», што вабіла мясцовых татараў, якія заляцаліся да беларускіх прыгажуняў, але кожная трымалася хрысціянскіх традыцыяў і ў маладых татараў не было аніводнага шансу. Бабуля Агата не раз аблівала вёдрамі вады мусульманскіх сватоў, хаця ў кожнай дачкі быў прыгатаваны багаты вясельны куфар, які чакаў жаніхоў.

У лабараторыі бабуля пазнаёмілася з Тодарам Галубовічам. Ён працаваў там жа тэхнікам. У хуткім часе яны ўзялі ў Казані шлюб і пасля рэвалюцыі вярнуліся на бацькаўшчыну. Вяртанне было цяжкім, у халодных і брудных вагонах, з доўгімі прыпынкамі на нейкіх станцыях, з недахопам прадуктаў, разам з хворымі на тыф. Вярталіся не на Наваградчыну, а на Радзіму Тодара, у Гаркавічы — старажытную вёску на Беласточчыне, мужчыны якой з даўніх часоў неслі службу на каралеўскім паштовым шляху. Продкі Тодара таксама былі каралеўскімі паштарамі. Можа, адтуль і прозвішча сям'і — Галубовічы?

Бацькі Тодара, Вікенці і Аўхіма, жылі на сваёй гаспадарцы, былі добрымі гаспадарамі. Яны асабліва клапаціліся пра адукацыю дзяцей. Сыны Тодар і Юлек, дачка Дуня вучыліся ў Крынках. Далей хлопцы працягвалі навуку ў віленскай рэальнай вучэльні.

Дваццаць гектараў зямлі, да таго яшчэ і луг — з боку Галубовічаў і грошы, якія дала на будаўніцтва дома Агата Амельяновіч сваёй любіміцы Надзеі ў пасаг, сталі добрым падмуркам сямейнаму дабрабыту для Тодара і яго маладой жонкі. Тодар быў выключна адораным у тэхніцы. У гаспадарцы шмат што было зроблена яго рукамі. Механічныя сеялкі, жнейкі, нейкія гаспадарчыя прылады дапамагалі ў працы і шчыра дзівілі аднавяскоўцаў, да Тодара прыязджалі па навуку нават з Крынкаў і Саколкі. На гаспадарчы двор да Галубовіча часцяком заходзілі па параду альбо дапамогу лепшыя гаспадары вясковай грамады Патэльскія, Парукі, Друці, Паляковы.

Пабудаваны ў Гаркавічах Тодарам і Надзеяй Галубовічамі дом быў найпрыгажэйшым у вёсцы. Высокі, трохпакаёвы з кухняй і дзвюма каморамі, дом з вулічнага фасаду запрашаў высокім ганкам, на які абапіраліся два драўляныя слупы, што неслі двухсхільную стрэшку з трохкутным франтонам. Ад падворка ў цэнтры фасада была адкрытая тэраса з цудоўным краявідам на

прыгожы кожнай парой года сад. На тэрасе ўлетку, на шару гадзіну, збіралася сям'я, каб выпіць кавы, гарбаты ці кампоту з падсушаным клінковым сырам і паразмаўляць пра тое, што зроблена і што яшчэ трэба зрабіць, проста ціха пасядзець, выцягнуўшы ногі, і адпачыць у цёплым коле блізкіх.

Вокны і дзверы гэтага дома з фасаду, слупы, франтончык і тэраса былі пафарбаваныя ў цёмна-бардовы колер; вокны, падваконні і дзверы ў інтэр'еры — у белы. Ганак і частку вулічнага фасаду абдымаў дзікі вінаград. Вакол дома і ўздоўж плота кожнай парой квітнелі кветкі і дэкаратыўныя кусты. У садзе і каля дома прадумана былі пастаўлены пафарбаваныя белай фарбай драўляныя лаўкі са спінкамі і парэнчамі. У той час у Гаркавічах кожная гаспадыня імкнулася з паездак у блізкія мястэчкі ці горад прывезці нейкія, яшчэ не вядомыя ў іх вёсцы, кветкі альбо хай сабе і вядомыя, але нязвыклай разфарбоўкі.

Гасцёўня гаркавіцкага бабулінага дома была абстаўлена моднай мяккай мэбляй, якую рабілі на заказ у горадзе. Пры ўваходзе стаяла старасвецкае велізарнае люстра ў разной аправе, і над усім панаваў велізарны модны ў тым часе фікус. Шафаў не было ў пакоях, дзве шафы з сезоннай і святочнай вопраткай стаялі ў каморы, якіх было дзве ў доме Галубовічаў: адна з прадуктамі, другая з адзеннем і рознымі хатнімі прыладамі.

Дзед Тодар марыў пабудаваць кожнаму са сваіх дзяцей дом у Гродне, але лёс распарадзіўся інакш. У сярэдзіне 30-х гадоў Тодара раптоўна адвезлі ў Гродна ў шпіталь на аперацыю. Пасля аперацыі бабуля Надзя паехала яго наведаць. Калі адыходзіла, выйшла на падворак і ўбачыла ў акне мужа, які падышоў, каб памахаць ёй на развітанне рукой. Бабуля была ўзрушана, усміхнулася яму і паехала дахаты. Тодар паціху пайшоў да ложка і раптам упаў. Падбегла сястра, лекар, санітар. Знямоглага паклалі на ложак, і ён ціха, як належыць працаўніку, адышоў у вечнасць…

Бабуля засталася адна з пяццю малымі дзецьмі. Самай малодшай Валі, маёй маме, было тры годзікі. Родныя бабулі жылі далёка, на Навагрудчыне, а тут, у Гаркавічах, толькі аўдавелая свякруха Аўхіма з сынам Юлькам і дачкой Дуняй. Старая Аўхіма не давярала бабулі, баялася, што яшчэ маладая, прыгожая, разумная, адукаваная і аўтарытэтная нявестка з добрай гаспадаркай хутка выйдзе замуж і ўсё багацце яе нябожчыка сына забярэ ў іншы дом.

Адносіны былі напружаныя. Не хапала Тодара, не хапала гаспадара, не ратавалі работнікі, якія прыходзілі здаля, за пяцьдзясят, а то і восемдзесят кіламетраў. Добра, што пастаянна на гаспадарцы працаваў малады, разумны, моцны, умелы і дасведчаны ў гаспадарцы Олесь Несцяровіч, сірата, чые бацькі памерлі ад тыфу падчас вяртання з бежанства. Олесь вучыўся і працаваў у Варшаве, ездзіў з братам на заробкі ў Францыю. Пасля вяртання працаваў у Тодара Галубовіча. У Олеся была зямля, але ёй да яго жаніцьбы распараджаўся Прытыцкі. Неўзабаве Олесь — Аляксандр Несцяровіч — прыйшоў да бабулі Надзеі прасіць рукі старэйшай дачкі Шуры, абяцаючы ўзяць на сябе ўсе клопаты па гаспадарцы і апеку над малодшымі дзецьмі. Шура не хацела, яе сэрца моцна білася пры сустрэчы з іншым маладым суседам, ды

ён быў ёй не да пары! Але маці настаяла. І ў адносінах да Аляксандра бабуля мела рацыю, — дзядзька Аляксандр добра дбаў пра гаспадарку, заўжды дапамагаў яе малодшым дзецям, выхоўваў іх, быў працавітым, умелым і зычлівым чалавекам.

Мая матуля заўжды вельмі цёпла ўзгадвала Гаркавічы, сваю сям'ю, сяброваk, суседзяў. «У Польшчы нам было добра», — часцяком казала матуля. Узгадваліся святы і фэсты, традыцыі і гульні. З дзяцінства памятаю, як мама зімовымі вечарамі на кухні нашай кватэры, што была ў доме на рагу Найдуса і Савецкай, пры гарачай печы апавядала пра тое, як добра апраналіся ў Гаркавічах. Шылі сукенкі, паліто, гарнітуры ў краўцоў і краўчых у Крынках ці Саколцы, ездзілі ў Гродна ці ў Беласток па абутак, капелюшы, бялізну, там дзецям заўжды куплялі розныя прысмакі, сярод якіх асабліва пажаданымі былі лёды, якія маме куплялі ў цукерні «Турка» на рагу Дамініканскай і Ажэшкі, што ў Гродне. На галовах вясковых жанчын былі капелюшы з рысавай саломкі, велюру ці аксаміту, для дзяцей шылі капялюшыкі з тканіны. Хусткі павязвалі на жніво, пры вандроўках у лес, пры працы на агародзе і гаспадарцы. У царкву, ці ў мястэчка альбо на святы абавязковымі для жанчын былі шаўковыя панчохі, пантофлі на абцасах і пальчаткі, мужчыны адзявалі гарнітуры, белыя кашулі і павязвалі краваты. Кожны імкнуўся добра выглядаць, а моладзь да таго ж яшчэ сачыла за модай! Жаночыя часопісы атрымлівалі праз пошту разам з папулярнымі часопісамі па сельскай гаспадарцы.

На Божае Нараджэнне ставілі ялінкі і ўпрыгожвалі іх цацкамі з паперы, саломкі і нават купленымі. Падчас Калядаў варажылі, пяклі булкі, бабкі, макоўцы. Клалі манетку у цеста, каб дасталася каму на шчасце. Перад святам усе прыбіраліся на падворку і ў доме, і калі нехта штосьці не адрамантаваў ці не паклаў на месца, моладзь падбірала і выносіла за вёску, і там часта можна было ўбачыць нечыю брамку ці нешта падобнае на тое, на чым моладзь, паклаўшы яе на санкі, вясёлай гурбой кацілася з горкі!

Да маёй бабулі Надзеі прыходзілі суседкі паразмаўляць, па параду ці нават па прароцтва. Вясковыя жанчыны лічылі, што цётка Надзея мае дар, яна ведае, ці будзе дзяўчына шчаслівая ў шлюбе з абраным хлопцам, ці складзецца сям'я, ці будуць дзеці. Вось і цягнуліся да яе дзяўчаты і іх матулі ў адказны, лёсавы час. Для падобных гасцей і асабліва бабуліных сяброваk на стале ў шкляной вазачцы заўжды ляжалі арэшкі і цукеркі, дзецям забаранялася іх браць. Прыходзілі да бабулі, каб параіцца наконт святочнай сукенкі, наконт меню і тэхналогіі прыгатавання страваў да святочнага стала, асабліва вясельнага. На святы ў госці прыходзілі суседзі, але найбольш збіралася сваякоў з Гаркавічаў, з вёскі Шудзялава, дзе жылі вельмі блізкія сябры-каталікі, ці з Адэльска, дзе аселі сябры па бежанстве. Прыязджалі нават здаля — з Наваградчыны. Прыязджалі на брычках, а калі ехалі вялікай кампаніяй, дык і на вазах. Дом быў адкрыты, а сям'я гасцінная і добразычлівая.

Калі ў 1939 годзе ў Гаркавічы прыйшлі саветы, людзі ў вёсцы былі здзіўлены ўбогай вопраткай рускіх вайскоўцаў і вінтоўкамі, якія збольшага віселі на плячах жаўнераў на вяроўках. Калі ў «запольскім» часе Олесь ездзіў у

Крынкі на кірмаш, па закупы ці для вырашэння нейкіх падатковых альбо сямейных справаў, яго сябры-габрэі разам з польскімі газетамі перадавалі яму і падпольныя, «камуністычныя» газеты ды ўлёткі, у якіх спрэс праслаўлялася жыццё беларускіх сялянаў у савецкай Беларусі, дзе ўсяго было дастаткова, жыццё было вясёлым і сытым.

Праўда, і тады ў вёсцы не вельмі верылі такім байкам, тым больш заможнае жыццё ў Гаркавічах у «запольскім» часе, дзе нават парабка немагчыма было знайсці, прымушала прагматычных вяскоўцаў кіравацца прынцыпам: ад дабра дабра не шукаюць. Таму для мяне было вялікім адкрыццём тое, што я прачытала ў праспекце пра С. Прытыцкага, які выпусціў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, куды я прыйшла працаваць у 1978 годзе. Аўтар сцвярджаў, што Прытыцкі быў парабкам у вёсцы, пасвіў кароў. Але я ведала з аповедаў старэйшых сваякоў, што Прытыцкія былі дастаткова заможнымі, што парабкаў у Гаркавічах знайсці было цяжка і іх наймалі з вёсак, што знаходзіліся за некалькі дзясяткаў кіламетраў, а кароў пасвілі па чарзе падлеткі па адным ад кожнай гаспадаркі альбо аплочвалі пастухоў.

Новае жыццё не палохала вяскоўцаў, але і не захапляла. Усе прыцішыліся ў чаканні развароту падзеяў. Неўзабаве саветы арганізавалі ў вёсцы школу, у якой сталі навучаць па-беларуску і рускай мове. У гэтую школу пайшоў з сям'і Надзеі Галубовіч старэйшы мамін брат Лёнік, а мама паступіла ў прыступкавы клас, дзе рыхтавалі да першага класа. Старэйшыя Надзеіны дочкі Шура і Вера паспелі скончыць польскую школу. Савецкая вясковая школа плённа працавала на станоўчы імідж новай улады, а ў сельсавеце пачалі працаваць вяскоўцы.

Але праз пэўны час сталі казаць пра магчымую высылку ў Сібір багатых вяскоўцаў, а такіх была бальшыня, і гэта насцярожыла бабулю, тым больш, што ў дом заходзілі рускія салдаты і выказвалі сваю незадаволенасць «багатым» выглядам дома і гаспадаркі. Бабуля звярнулася па дапамогу да солтыса, таксама заможнага гаспадара Парука, з якім былі амаль сваяцкія адносіны, бо разам перажылі бежанства, вайну, рэвалюцыю і цяжкое вяртанне на радзіму. Парук параіў сабраць добрых прадуктаў і грошай, што было хутка выканана, і солтыс пайшоў з гэтым да «ўлады», каб ратаваць бедную ўдаву з яшчэ малымі дзеткамі. Пасля гэтага сям'ю да вайны не чапалі. У вёсцы сталі знікаць людзі. Іх арыштоўвалі, пэўны час трымалі пад вартай у вёсцы, а потым кудысьці вывозілі, і яны знікалі навечна. Так забралі Костука Галубовіча — бацьку вялікай сям'і. Дзеці так ніколі і не даведаліся пра ягоны лёс.

Амаль да канца 1939 года праз вёску ад прыцемкаў перасоўваліся нейкія бежанцы, былыя польскія салдаты, увогуле незразумелыя людзі, для якіх і мяжа не стварала перашкодаў. Гэтыя людзі прасіліся на ноч. Бабуля ў дом не пускала, але ў хлеў ці адрыну — дазваляла. Зранку клікала малодшых дзяўчынак Жэню і Валю, каб дапамаглі сабраць і аднесці начным гасцям пакунак з хлебам, салам, цыбуляй, агуркамі і бутэлькай малака. Дзяўчынкі «па даросламу» дэманстравалі сваю апеку над дабрабытам сям'і выказваючы незадаволенасць бабулінай шчодрасцю ў такі неспакойны час, але бабуля звярта-

ла іх увагу да адвечных каштоўнасцяў спакойнай і запамінальнай фразай: «Лепш даваць, чым прасіць. Аднясіце пакунак гасцям».

Яшчэ больш начных прыхадняў з'явілася ўлетку 1941 года, да першай бамбёжкі ў вёсцы, пасля якой прыйшлі немцы і прынеслі на доўгія гады вайну. Першая бамбёжка добра запомнілася маёй маме. Гэта быў цёплы летні дзень, калі шмат хто з сялянаў адпачываў ў садзе. А маленькая Валечка сядзела высока на старой яблыні і ўглядалася ў неба. Раптам яна ўбачыла ў небе шмат чорных птушак, потым пачула гул і далей зразумела, што гэта не птушкі, самалёты! Валечка гучна закрычала: «Самалёты, шмат самалётаў, а каля кузні — танк!» Бабуля Надзя, перажыўшая Першую сусветную вайну, спахапілася і стала крычаць: «Хавайцеся! Самалёты! У сховішчы, хутка!» Тады бамбёжка асіраціла іх суседзяў Краўцовых, а Наўмовы страцілі маці і сына…

Неўзабаве ў вёску прыйшоў нямецкі вайсковы атрад, і начныя візіты скончыліся. Бабулю Надзею з дзецьмі выгналі з дому на пару дзён, каб пасяліць там нямецкага афіцэра — тоўстага, але не злога чалавека, які доўга хадзіў па падворку, аглядаў гаспадарчы двор, склеп і пакоі, зазірнуў у каморы і задаволены ўсеўся на верандзе. Сям'я бабулі прытулілася ў Костукавых і праз акно назірала за падзеямі, якія адбываліся на іх сядзібе. На наступны дзень афіцэр падышоў да бабулі і на ламанай польскай мове папрасіў падаіць карову. Бабуля падаіла і хацела працэдзіць малако праз анучку, але немец працягнуў кубак, каб наліла яму малака. Бабуля нязгодна заматала галавой, трэба яшчэ працэдзіць. Немец задаволена назіраў за бабуляй, і калі атрымаў малако і выпіў, дык доўга ўдзячыў. Потым стаў хваліць прыгажосць дачок, гаспадарку і гаспадара, але бабуля сказала, што гаспадар памёр і яна сама з дзецьмі і сваякамі вядзе гаспадарку. Гэта здзівіла немца, і нечакана ён запытаў, а чаму яна гаворыць па-руску, а не па-польску, хаця, як ён зразумеў, уважліва і цярпліва слухае і разумее яго ламаную польскую. Бабуля адказала, што мы беларусы і размаўляем па-беларуску. Наша мова — беларуская, а не руская. Яшчэ больш здзіўлены немец паўдзячыў бабулі і пайшоў да веранды, прыцокваючы ў знак пашаны да гаспадаркі. Увечары немец з'ехаў, і сям'я вярнулася ў хату.

Пазней чацвёра нямецкіх афіцэраў прыглядзелі бабуліну гаспадарку і размясцілі на яе падворку, пад шопай каля адрыны, сталоўку з кухняй, на якой гаспадарыў рускі палонны. Ніхто не пытаўся яго імя, усе называлі яго «Рускі». Гэты Рускі склікаў вясковых дзяцей і прасіў дапамагчы яму абіраць бульбу ці прынесці дровы альбо ваду. За гэтую працу Рускі частаваў дзяцей салодкай гарбатай з цукеркамі, даваў прымятыя боханы хлеба, якія праз дзень прывозіла з мястэчка машына з маўклівым кіроўцам у нямецкай вайсковай форме.

Вяскоўцы асцерагаліся немцаў, не супярэчылі ім, аддавалі ўсё, што яны прасілі і імкнуліся паменш кантактаваць з імі. Аляксандр заўжды казаў бабулі: «Маці, давайце ўсё, што яны просяць, каб нікога з сям'і не чапалі». Таму, калі аднаму афіцэру спадабаўся саматканы льняны ручнік у кухні, які

ён доўга мацаў і казаў: «Добрая праца», — бабуля прынесла з каморы чысты ручнік і аддала яму. Той доўга ўдзячыў і задаволены прыняў яго.

Даспадобы была немцам і бабуліна кухня. Аднойчы афіцэр зайшоў у хату, каб папрасіць кіпень, і ўбачыў на стале апетытнага выгляду блінчыкі-наліснікі, бабуля не вагаючыся прапанавала іх узяць, немец ухапіў талерку і, дзякуючы, пайшоў з хаты.

Але вайна — гэта не прыём нечаканых гасцей, і ў хуткім часе яна паказала свой пачварны твар. Наогул спачатку немцы паводзілі сябе стрымана, з адпаведнай дыстанцыяй да вяскоўцаў, але чым больш пагаршалася сітуацыя на фронце, тым больш негатыўна гэта адбівалася на іх адносінах да вяскоўцаў.

Аднойчы, бабуля Надзея сустрэла на вясковай вуліцы сястру Сяргея Прытыцкага Любу, якая павіталася з ёю, але бабуля заўважыла, што яна плача, і запытала, што здарылася. Люба працавала да вайны сакратаркай у сельсавеце, яе выклікалі ў камендатуру апошняй, услед за ўсімі супрацоўнікамі сельсавета, якія з камендатуры не вярталіся. Мабыць, і яе расстраляюць, казала маладая дзяўчына. Бабуля ўважліва паглядзела на яе і сказала: «Ідзі спакойна, Любачка, ты вернешся», пераўжагнала і яны разышліся. Праз тры дні Люба вярнулася дамоў і з таго часу заўжды пры сустрэчы дзякавала бабулі за «прароцтва», як яна казала.

Потым да іх дома прыйшла вестка, што ў школе расстралялі параненых рускіх салдат, за якімі наглядалі жанчыны з вёскі, у тым ліку і бабуля. Большасць параненых паспелі разабраць і схаваць на сваіх сядзібах вяскоўцы, але некалькі яшчэ заставаліся…

Аднойчы ўвосень на дарозе, недалёка ад Гаркавічаў партызаны здзейснілі дыверсію і немцы сагналі ўсіх мужчынаў вёскі, вывелі кожнага дзясятага і расстралялі дзевяць чалавек, сярод якіх былі два сыны цёткі Аляксандра, і яна, аўдавелая яшчэ да вайны, засталася зусім адна. Бязмежнае гора штодня прыводзіла бедную жанчыну на вясковыя могілкі ў Яраўлянах да магілаў яе сыноў, дзе яна ў роспачы праводзіла дні і ночы, а суседзі і сваякі амаль сілком вярталі яе ў вёску.

Застаўшыся ў адзіноце, гэтая жанчына ўсё часцей заходзіла ў дом бабулі, нешта ёй дапамагала на кухні, прыглядала за Олесевымі дзецьмі, ціха сядзела пры стале. Калі пасля вайны бабуля ад'язджала з сям'ёй на Наваградчыну, яна горка плакала ад таго, што не можа пакінуць сыноў, але вельмі хацела б паехаць з сям'ёй бабулі, якая сапраўды стала для яе роднай…

Не абмінуў бабулін дом вываз моладзі на працу ў Германію. Забралі Лёніка і Веру, а яшчэ і нарачонага Веры. Моладзь калонай павялі пад канвоем на станцыю, дзе пры пасадцы ў вагон Лёнік, Вера і яе нарачоны выслізнулі з пад пільнага вока канвіраў і пабеглі ў бок вёскі. Нарачонага Веры дагнала куля, і ён памёр на руках у Веры. Веру вярнулі ў вагон. Лёнік уцёк. Недалёка ад станцыі ён убачыў купку мужыкоў, што гулялі ў карты. Яны зразумелі, што хлопец уцякае ад пагоні, і прапанавалі далучыцца да гульні. Лёнік хутка скінуў з плячэй пінжак, нейкі мужык даў яму сваю кепку, і кампанія, шумна спрачаючыся, інсцэніравала гульню ў карты. Калі падбеглі канваіры і запы-

талі пра збеглага, уся кампанія стала ўпэўніваць, што ніхто тут не прабягаў. Так Лёнік неўзабаве вярнуўся дахаты.

Сям'я трошкі супакоілася толькі тады, калі прыйшоў ліст ад Веры, якая пісала, што працуе ў доме старога немца-баўэра, што да яе ставяцца добра, шануюць яе працу і пэўныя рэчы давяраюць рабіць толькі ёй, іншыя не ўмеюць так добра выконваць яе, як яна. Харчуецца яна з сям'ёй, ёй купляюць усё, што трэба, і нават добрыя тканіны, і яна сама шые сабе сукенкі і іншую вопратку модных фасонаў. Вера навучыла гаспадароў, як з большай эфектыўнасцю раскласці гародніну ў склепе альбо рэчы ў каморы, але навучыцца так цыраваць адзенне, як вучыла Вера, гаспадыня так і не змагла. Іх, немцаў, вельмі здзівіла, што Вера прыехала ў Германію не па сваёй волі, каб нечаму навучыцца і зарабіць, што яе прымусілі, як і ўсіх, каго прывезлі ў Германію. Немцы папрасілі, каб матуля Веры прыслала фоткі іх гаспадаркі. Вера напісала пра гэта ў лісце. Бабуля Надзея запрасіла нямецкага салдата, былога фатографа, і ён зрабіў некалькі здымкаў фасадаў іх дома, склепа, веранды і саду. Бабулі спадабаліся здымкі, а немцу-фатографу — прадукты, якімі была аплочана фотасесія.

У Германіі здымкі вельмі здзівілі Верыных гаспадароў. Кульгавы на параненую ў Першай сусветнай вайне нагу гаспадар нават панёс здымкі паказаць суседзям і з яшчэ большай пашанай стаў ставіцца да Эрыкі, як яны называлі Веру.

Вайна скончылася ў Гаркавічах неяк раптоўна. Ад'ехала кухня з кухарам Рускім. У хату прыйшоў старэйшы афіцэр, зняў фуражку, развітаўся з бабуляй, і невялікі атрад нямецкіх салдат пайшоў бабуліным агародам.

Па вёсцы прайшло папярэджванне, каб усе апрануліся ў белую вопратку, павязалі белыя хусткі і выйшлі на сенакос. Белыя групкі вяскоўцаў пацягнуліся за сады на луг. Раптам пачулі: «Ратунку! Самалёты!» Але самалёты праляцелі луг і сталі бамбіць поле, два мураваныя масты і нямецкія танкі, якія цягнуліся каля лесу. Праз некалькі гадзінаў усё сціхла. Калі вярнуліся ў вёску, былі здзіўленыя нейкім людзям, апранутым у вайсковую вопратку, якія з воркамі за плячыма хутка пакідалі вёску. Нехта стаў крычаць, што абрабавалі краму, якая займала палову дома Кастэцкіх — маладой прыгожай дзяўчыны і яе бабулі.

Пасля вайны па вёсцы папаўзлі чуткі, што з'явіцца новая мяжа, што Гаркавічы адыдуць да Польшчы, але ўсе землі на ўсход і Наваградчына, бабуліна радзіма, адыдзе да Саветаў. Казалі, што палякі вывезуць усіх беларусаў, што ім не будзе дзе жыць і трэба перабірацца ў Беларусь. Потым прыехаў сам Сяргей Прытыцкі і стаў агітаваць аднавяскоўцаў на пераезд у Беларусь. Большасць мелі сваякоў па той бок новай мяжы, як і мая бабуля, таму пагадзіліся, тым болей, што абяцалі зямлю ў памеры, які мелі ў Гаркавічах, абяцалі эшалон, абяцалі жытло, абяцалі добрае жыццё і адмену падаткаў на пяць гадоў! Страх застацца без сваякоў, а ўсе крэўныя бабулі апынуліся ў Савецкай Беларусі, а таксама агітацыя Прытыцкага, які паходзіў з вядомай і

паважанай сям'і, прымусілі бабулю з усёй вялікай сям'ёй і большасць іншых аднавяскоўцаў выбрацца за кардон.

Эшалон гаркавіцкіх беларусаў сустракалі на беларускіх станцыях з музыкай духавых аркестраў. Ехалі з вялікім багажом, везлі мэблю, валізкі з адзеннем і посудам, кароў, коней, нават, брычкі, харчаванне і насенне. Доўга, некалькі дзён жылі на вакзале ў Наваградку. Тут бабуля сустрэла былую суседку Краўцову, сыны якой хаця і паходзілі з беднай сям'і, нечым не дагадзілі Савецкай уладзе і іх арыштавалі яшчэ да вайны і кудысьці вывезлі. Краўцова была вельмі знясіленая, мабыць хворая, апранутая ў ватоўку, паверх якой была накінута хустка-ахілянка. Бабуля забылася пра тое, што Краўцова не вельмі любіла багатых суседзяў Галубовічаў, і адразу прапанавала дапамогу: «Грошай, шаноўная суседка, не магу даць, але ворак бульбы, муку, алей і сала дам, каб змаглі пражыць які месяц-два. А дзе твае мужыкі?» Краўцова не ведала і доўга ўдзячыла Надзячцы за ласку і дапамогу.

Зямлю і дом Надзеі Галубовіч з сям'ёй далі на хутары Абідава, да якога ад Касога двара вяла брукаваная дарога, абсаджаная старымі дрэвамі. Побач у невялікім сядзібным доме жыла старая пані Буглак з сынам, якія пазней выехалі ў Польшчу і даволі блізка ў невялікім доме з добрай гаспадаркай жылі Пясецкія, дачка якіх Ваця і сын Рысік сталі лепшымі сябрамі малодшай дачкі Надзеі Валі.

Сям'я тады была невялікай: сама Надзея і малодшыя дзяўчынкі Жэня і Валя. Сын Лёнік хутка паехаў вучыцца ў Ленінград, бо ведаў рускую мову ад часоў даваенных, калі вучыўся ў савецкай школе. Дачка Шура з сям'ёй жылі ў камяніцы недалёка ад іх гаспадаркі. Вера яшчэ не вярнулася з Нямеччыны, і вестак пра яе не было.

Гаспадарка была ў прыгожым месцы, сярод палёў над невялікай рачулкай. Дом, праўда, быў старэнькі і малы. Сюды ў Абідава прыязджалі ў госці браты Надзеі Додзя і Ваня, якія вельмі сумавалі па вясковым жыцці, па прыродзе, якая атачае селяніна. Аднойчы прыехалі з Масквы сястра з мужам і дзвюма дочкамі. Яны вельмі цяжка перажылі вайну, былі хворымі і знясіленымі. Старэйшая дачка, якая перад вайной стала студэнткай, у вайну цяжка захварэла на земляных працах пры стварэнні супрацьтанкавых равоў і хадзіла з цяжкасцю. Калі Жэня ці Валя выкідвалі рэшткі хлеба ў вядро для свінняў, гэтыя дзяўчаты, асабліва малодшая Наташа, стараліся непрыкметна дастаць яго і схаваць у кішэню.

Па гаспадарцы сям'і дапамагалі Бэрнат і Алеся, маладая сям'я, якія нічога не мелі, бо іх сем'і ад іх адвярнуліся, не даўшы ім блаславення. Бэрнат быў каталікам, а Алеся праваслаўнай. Абодва былі моцнымі, працавітымі і спрытнымі. Атрымлівалі за працу грошы, прадукты і любоў Галубовічаў. Калі Надзея з сям'ёй ад'язджалі ў Гродна, яны пакінулі свой дом, гаспадарку і нейкія прылады Бэрнату і Алесі, але пазней даведаліся, што ўсю нерухомасць забрала дзяржава.

Калі ўлетку 2001 года я з дачкой Натуляй павезлі бабулю на Наваградчыну, па мясцінах яе дзяцінства, мы сустрэлі і старэнькую пані Пясецкую і ста-

рэнькую Алесю, якая сядзела на лаўцы каля мураванага, з сілікатнай цэглы, дома, на ганку якога стаяла яе дачка — мажная ўсмешлівая жанчына. Хаця Алесі было каля 90 гадоў, яна, з напружаннем ўглядаючыся ў твар мамы, сказала, што працавала ў Надзеі Галубовіч, якая вельмі падобна тварам на «гэтую вось кабету», указала рукой на маму, а я адказала ёй, што гэта — дачка Надзеі, Валя. «Гэта малодшая», нібы канстатуючы ці, можа, запытаўшы, ціха сказала Алеся, і выраз яе светлых вачэй засведчыў зыход ва ўспаміны даўніх часоў…

Надыход калгаснага ладу падштурхнуў сям'ю да ад'езду ў Гродна, куды вярнуўся інжынерам пасля вучобы ў Ленінградзе Лёнік. Ён і пачаў будаўніцтва дома на Збажовай. Жэня і Валя, а ў хуткім часе і Вера, якая аднойчы з'явілася на хутары пасля года дармавой працы ў Віцебску, дзе яе ўтрымлівалі ў лагеры для рэпатрыянтаў, — перапрацоўвалі малако, даглядалі курэй і прадавалі плён сваёй працы на рынку ў Наваградку. Да грошай ставіліся ашчадна, адкладаючы на дом у Гродна.

Калі пераехалі ў Гродна, дом усім спадабаўся і планіроўкай, і добрымі матэрыяламі, і, галоўнае, месцам ды суседзямі. На гары жылі сваякі па Тодару Галубовічу — Саловічы і Алешчыкі, недалёка Ярмаліцкія і Кастэцкія, бліжэйшымі былі Пілецкія і Новакі. Пілецкая была дзіўнай асобай, яе прысутнасць побач заўсёды напружвала, трэба было глядзець, каб яна чаго не скрала. Аднойчы ўлетку Надзея прала на падворку бялізну, калі ўбачыла Пілецкую, якая бегла па дарозе з гары з гусяй пад пахай а за ёй мужчына, які крычаў, каб яна вярнула яму скрадзенае. Гэта была звыклая гісторыя з удзелам Пілецкай, таму нават анучу, якой мылі падлогу, не вешалі сушыцца на плот.

Далей, за Пілецкай, уздоўж Нёмана вузенькая сцежка вяла да наднёманскай крыніцы і далей да дома, які паглынаў вялікі сад. Дом стаяў у глыбіні пляца, хаваючыся за фруктовымі дрэвамі. Да дома ад брамкі бегла сцежка, абсаджаная флёксамі, аксаміткамі і астрамі. У гэтым доме жылі Інжынеравы. Не, Інжынеравы — гэта не прозвішча гаспадароў, іх прозвішча было Філітовічы. Мікалай Філітовіч працаваў галоўным інжынерам, яго жонка, цёця Надзя, займалася домам і выхаваннем дачкі Ніны, якая атрымала добрую адукацыю і пазней працавала ў Акадэміі навук Беларусі перакладчыцай. Але ў нашым доме іх называлі Інжынеравы. Гэта былі нашыя добрыя прыяцелі і вельмі блізкія людзі. Дзядзька Коля быў бязмежна цярплівым да дзяцей, хаця выгляд меў суровы з пячаткай журбы, якую не магла знішчыць нават усмешка. Філітовіч выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Адэсе, там скончыў інстытут і ажаніўся. Пасля вайны Філітовічы прыехалі ў Гродна і пабудавалі дом на Збажовай. Гэтая сям'я, асабліва цётка Надзя, часта заходзілі да бабулі і гасцявалі ў яе па святах.

Асабліва прыгожай была восень на Збажовай, калі спачатку ў садзе, а потым і на гарышчы стаяў яблычны водар. Пах яблык нават пранікаў у хату і доўга ішоў за мной, калі мы вярталіся ў горад. Да паху яблык вечарамі дадаваўся гаркаваты пах аксамітак і насычаны, моцны пах бабуліных улюбёных

настурцыяў, якія восеньскімі днямі весела стракаталі на сонейку на фоне драўлянага фасада дома. Восеньскія кампоты бабулі набіраліся асаблівага насычанага смаку, які ўзбагачаў і падкрэсліваў усходні кардамон.

На вераснёўскія вечаровыя пагавэндкі на падворак да бабулі збіраліся суседзі, уся сям'я, сваякі, іншым разам прыходзілі з горада гаркавіцкія госці. Спачатку ўладкоўваліся пад яблыняй-цыганкай, дзе стаяў стол і лавы. Калі не хапала месцаў на лавах, прыносілі з дома крэслы і табурэткі. Так здаралася даволі часта. Бабуля прыносіла з хаты талерку са свежаспечанымі бондачкамі — невялікімі круглымі булачкамі, цёця Вера выносіла збан з кампотам і разнастайныя кубкі і шклянкі. Грамада ўсаджвалася вакол стала, і пачыналіся размовы пра жыццё сённяшняе і ранейшае — «за польскім часам», якое, дзякуючы не столькі аповедам, а болей інтанацыямі голасу, уяўлялася мне нейкім вельмі цёплым і ружовым, а для дарослых — настальгічным. Іншым разам мой бацька, які быў савецкім чалавекам, франтавіком, камуністам, якога пасляваенны лёс прывёў у Гродна, дзе ён пазнаёміўся і пакахаў маю маму і пабраўся з ёю, спрабаваў нешта пярэчыць, але яго лагодна (бацьку любілі і шанавалі) і ўсё ж безапеляцыйна перабіваў хор «заходнікаў», якія зладжана на шматгалоссе спявалі алілуя сваёй маладосці, былому дабрабыту, устаяламу жыццю, спрадвечнай традыцыі, з якімі атаясамліваўся той самы «запольскі час».

Калі пачыналіся прыцемкі, уся грамада перабіралася на лавы паабапал сцежкі, што вяла ад брамы да дома, і размовы цягнуліся далей… Тут усе пачыналі казаць, як ім добра разам на гэтым падворку, што Пан Бог і чалавечы лёс, якім ён іх абдараваў, былі літасцівымі да іх, яны ж перажылі такую вайну і зараз гадуюць дзяцей, песцяць унукаў і трымаюцца добрай надзеі! Бабуля, як бы падсумоўваючы, казала: «Тут нам, на Збажовай, вельмі добра, як у раі, ну, хай сабе маленькім райку. Абы так было і надалей!» Усе ўхвальна ківалі галовамі, і кожны на некалькі хвілінаў адыходзіў у свет свайго глыбока асабістага і схаванага.

З надыходам цемры пачыналіся жарты і кпіны, то з дзядзькі Лёні, які аніяк не мог ажаніцца і, вельмі смешна скрабучы патыліцу, спрабаваў у галантнавясёлай манеры разважаць пра свае залёты да пекных паняў. Усе смяяліся, потым нехта ўзгадваў нешта сваё вясёлае і забаўнае. Жарты, смех, дабрыня і цяпло, якое мякка разлівалася па целе і сагравала кожнага, хто цесна сядзеў на старых простых лавах, былі народжаны з агульна перажытага мінулага, з ціхай радасці сённяшняга дня і з надзеі, што так будзе і надалей…

З-за фіранкі ў акне паказвалася касматая, сонная галава Аляксандра, які ўжо некалькі гадзінаў як пайшоў да ложка, бо зранку, а чацвёртай гадзіне ён падымаўся, каб да працы выплыць на сярэдзіну Нёмана і ўхапіць пару рыбінаў. Дык дзе ж тут паснеш! «Ану, разыходзьцеся, балбатухі!» — крычыць Аляксандр, што выклікае новую хвалю смеху і жартаў, але паціху, за поўнач, усе разыходзяцца, і толькі чыстае зорнае неба застаецца асвятляць месца нараджэння нашага «райка» на Збажовай…

Але надышлі шасцідзясятыя гады і прынеслі бурны рост дабрабыту, што заахвочвала людзей да больш выгодных умоваў жыцця з газавымі плітамі, гарачай вадой з крана, цёплымі туалетамі ў шматпавярховых дамах уздоўж шумных гарадскіх вуліцаў з выкладзенымі брукам ходнікамі, па якіх можна было з гонарам ступаць на высокіх абцасах. Са Збажовай сталі адыходзіць людзі. Старыя ад'язджалі да дзяцей у Польшчу ці адыходзілі ў свет нябесны да Боскага раю, маладыя пасунуліся ў новае добраўпарадкаванае, але зусім не райскае жыццё.

А на Збажовую так і не праклалі водаправод, газ і каналізацыю, не заасфальтавалі дарогу, і паступова жыццё прымусіла апошніх «збажоўцаў» з'язджаць да шматпавярховага гарадскога жытла. На пачатку 70-х гадоў цёця Вера атрымала кватэру на вуліцы Горкага і перасялілася туды разам з бабуляй. У сярэдзіне 70-х дзядзя Лёня пабудаваў кааператыўную кватэру на бульвары Ленінскага камсамола і перасяліўся туды з жонкай і сынам.

Апусцела Збажовая, раз'ехаліся людзі, закрыў паўднёвы край неба магутны гмах завода карданных валоў, што ўзнёсся над беражком. Зарос кустоўем і дрэвамі наднёманскі лужок. У недарэчна захаваных дамах пасяліліся іншыя людзі, і толькі памяць пра «раёк» на Збажовай засталася з тымі, хто перажыў тут тыя незабыўныя 40-я, 50-я і 60-я гады… Гэтую цёплую памяць «збажоўцы» панеслі ў свет сваёй будучыні.

гісторык, мастацтвазнаўца. Нарадзілася ў Гродне ў 1953 годзе. Закончыла гістфак Гродзенскага педінстытута і аспірантуру Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Працавала загадчыцай аддзела дакастрычніцкай гісторыі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея і даследчага аддзела «Гроднапраектрэстаўрацыі», старшым выкладчыкам кафедры беларускай культуры Гродзенскага ўніверсітэта. Друкавалася ў альманаху «Arche», часопісе «Наша вера». Аўтар дапаможніка для студэнтаў універсітэта «Архітэктура Гродна (з X ст. да 1939 г.)». Цікавіцца гісторыяй беларускай культуры, архітэктурай, жывапісам і народным тэкстылем.





ІГАР КУЗЬМІНІЧ

## Казачная Гародня

### Як горад атрымаў свой герб

Некалі вакол Гародні рос вялікі і густы лес, які называлі Гарадзенскай пушчай. Шмат у ёй вялося розных звяроў. Раз у год прыязджаў вялікі князь наш і кароль са сваёю служылай шляхтай на паляванні.

Аднаго разу пасля палявання сын ганчара пайшоў за сцены горада набраць дроў у лесе і ля крынічкі знайшоў маленькае алянятка. Маці аляняці, відаць, упалявалі, і малеча засталася адна. Хлопчык загарнуў аляняё ў свой кажушок і прынёс аслаблую істоту ў горад. Ішлі месяцы, а алянё ўсё жыло ў Гародні. Гарадзенцы палюбілі яго, кожны гараджанін прыносіў яму штось з'есці.

Пазней, калі алень заходзіў да кагосьці на надворак, лічылася, што ён прыносіць шчасце. Алень хадзіў па горадзе, выходзіў за гарадскія сцены, але вяртаўся на сваё ўлюбёнае месца пасярэдзіне гарадской плошчы за сценамі старога замка. Пераўтварылася маленькае алянё ў вялікага і ладнага аленя з вялікімі і ладнымі рагамі. А кожны з гарадзенцаў пачаў лічыць таго аленя сваім, родным, блізкім.

Роўна праз год і адзін дзень як маленькага тады аленя прынеслі ў горад, на ранку ён выйшаў у пушчу. Гараджане пачулі гукі паляўнічых труб і брэх паляўнічых сабак. Яны зразумелі, што пачалося каралеўскае паляванне. Вельмі перажывалі за свайго аленя, баяліся, каб хоць паляўнічыя не выйшлі на яго след. Бліжэй да вечара пачулі, як паступова брэх сабак пачаў набліжацца да гарадскіх сценаў, а ў вароты забег узмылены і вельмі стомлены алень. І зразумелі, што паляванне хутка будзе пад сценамі горада і аленя знойдуць.

Горад і гарадскія сцены — гэта адзінае, што можа абараніць любімага і дарагога для кожнага гарадзенца аленя. Гараджане выйшлі на плошчу і пачалі раіцца, і вырашылі абараніць аленя, не аддаваць вялікаму князю і каралю. Упершыню зачынілі вароты перад сваім князем і каралём. Пад'ехала каралеўскае паляванне і бачыць, што вароты зачыненыя. Вельмі раззлаваўся вялікі князь і кароль наш і загадаў адчыніць вароты і аддаць аленя, які схаваўся за гарадзенскімі сценамі.

Але гарадзенцы папрасілі прабачэння ў князя і караля свайго і сказалі, што не могуць выдаць аднаго са сваіх нават каралю. Горад, гарадскія сцены і гараджане — гэта адзіная абарона, што засталася ў аленя. Гэтыя словы яшчэ больш раззлавалі нашага князя і караля, і сказаў тады ён, што, калі гарадзенцы не выдадуць яму аленя да першых промняў сонца, ён спаліць горад і знішчыць назаўсёды абарончыя сцены.

Кароль загадаў сабраць войскі і сценабітныя машыны, і цэлую ноч да Гародні збіраліся войскі, якія акружылі горад. Вайскоўцы выкацілі сценабітныя машыны і накіравалі іх на сцены. А гарадзенцы не збіраліся страляць у сваіх, яны проста хацелі абараніць аленя. Сабраліся тады гараджане са свечкамі і паходнямі на плошчы, сталі вакол аленя і пачалі маліцца, каб Божанька дапамог і выратаваў гараджанаў і аленя ад вялікакняскага гневу.

І вось пачало пакрысе віднець, і вялікі князь і кароль наш меўся быў ужо аддаць загад страляць па мурах, і падняў быў нават руку, як раптам убачыў, што над гарадскімі сценамі лунае алень. А паміж яго рагоў свеціцца залаты крыж. Укленчыў тады наш вылікі князь і кароль, зразумеўшы, што гэта вестка яму.

Падышоў тады наш князь і кароль да варотаў і сказаў, што не будзе караць гарадзенцаў і не хоча забіраць аленя ад іх. А за тое, што абаранілі гарадзенцы свайго аленя і не выдалі, паабяцаў даць правы на самакіраванне, а гербам зрабіў аленя, які лунае над сценамі замка на нябесна сінім фоне з залатым крыжам паміж рагамі. З таго часу маюць гарадзенцы свой герб — аленя, а горад атрымаў асаблівае права: той, хто пражыў за сценамі год і адзін дзень, станавіўся гарадзенцам і атрымліваў свабоду, нават калі раней ён быў рабом.

**Пра чароўны падземны горад**

Велічны і слаўны наш горад, але не толькі сваімі людзьмі, замкамі, цэрквамі і касцёламі, але і яшчэ падземным горадам.

Старыя людзі казалі, што падземны горад узнік яшчэ да таго, як сюды прыйшлі першыя людзі. Гэта цмокі і вужы, якія жылі тут, капалі для сябе тыя хады і жылі там. І паколькі цмокі і змеі былі не простыя, а чароўныя, то і іх падземныя хады — падземны горад — таксама чароўны.

Так доўга думалі людзі, але вось адкуль дапраўды ўзяўся падземны горад. Некалі, калі прыйшлі нашыя продкі на гэтае месца, было яно ціхае і спакойнае. Таму мірна і добра жылося тут пасля таго, як знік вогненны цмок. У споры і працы праходзіла жыццё нашых продкаў. Але прыйшлі лайдакі-нападнікі, якія хацелі пажывіцца тым, што самі не стваралі. Усё, што было ў горадзе, вырашылі прыбраць сабе.

Як наляцелі нападнікі — не хацелі гарадзенцы напрацаванае аддаваць. Таму біліся з варожай пошасцю, і біліся насмерць. І ўбачыў гэта пушчанскі дух, які жыў ля Гародні… І пабачыў ён, што ворагі захопяць горад. Не захацеў Лясун страціць працавітых і добрых людзей, якія так добра даглядалі яго пушчу. Каб выратаваць некалькіх апошніх і самых мужных гарадзенцаў і гарадзенак, Лесавік схапіў за зямлю разам з лугам ды лесам па левым беразе Нёмана ды, пацягнуўшы на сябе і ўгору, здзёр тоўсты слой зямлі разам з раслінамі і як коўдраю пакрыў Гародню. А тая зямля на шпілях цэркваў ды касцёлаў, на дахах хатаў і павісла. І вуліцы і дарогі, ды і самі хаты захаваліся цэленькія. Накрыў лясун горад зямлёй, ад гэтага ўсё: і вуліцы з дамамі і цэрквы, і вежы замка, і валы — апынулася пад зямлёй.

Падняліся злыдні на гару і бачаць: няма не толькі людзей, а нават сценаў, дамоў і муроў замка. Падумалі яны тады, што зачараванае гэта месца, ды і пажывіцца няма чым — вакол толькі зямля ды лес. Угледзелі злыдні, што горы раптам сталі нейкія большыя, і кінулі наш горад у спакоі. А гарадзенцы, як толькі ворагі сышлі, выйшлі на божы свет і збудавалі копію старога горада. Наш стары чароўны горад знаходзіцца пад нашымі нагамі, калі мы гуляем яго вуліцамі.

Некалі людзі ведалі, як прайсці ў зачараваны падземны горад, але з часам горад пачаў хавацца і ад гарадзенцаў. Хоць шмат розных гісторый можна пачуць пра хады праз Нёман ці на Рынку — ранейшым цэнтры горада.

Падземны горад паказвае свае хады цяпер толькі тады, калі гарадзенцам пагражае вялікая небяспека.

Падчас аблогаў варагаў, крыжакоў, немцаў, шведаў, французаў ці яшчэ якіх захопнікаў гарадзенцы спускаліся ў падземны горад. У гэткія моманты ён заўсёды сам адкрываецца людзям. І гарадзенцы карыстаюцца сваім падземным горадам у такі час, каб выйсці і набраць прыпасы, а таксама для таго, каб нападаць на ворагаў. І не маглі ворагі зразумець, як гарадзенцы з'яўляюцца раптам сярод лесу далёка ад гарадскіх сценаў і таксама хутка знікаюць. Не ведаюць захопнікі пра падземны горад і думаюць, што гэта чары і сам горад зачараваны. Думаюць сабе так, што раз перад такой сілаю не скарыўся і надалей змагаецца горад, за лепшае лічаць кінуць яго, пакуль не здарылася з імі злое, і больш сюды не вяртацца.

А чары падземнага горада ў тым, што ніхто, колькі б ні шукаў, знайсці яго не можа, пакуль сам падземны чароўны горад таго не захоча. Шмат таямніцаў, усю сваю гісторыю, усе свае скарбы трымае Гародня ў тым падземным месцы, але не давярае нам, відаць, бо не паказвае таго, што мае.

Падземны горад сам раскрыецца, калі будзе перакананы, што з таго будзе карысць, а не на шкоду гарадзенцам ды і самой Гародні.

нарадзіўся ў 1972 годзе ў Гродне. Скончыў юрыдычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Працаваў намеснікам дэкана юрыдычнага факультэта. Выкладчык курсаў «МоваНанова». Казкі стаў складаць для сваіх трох дзяцей. Яны выйшлі ў выглядзе аўдыёкнігі «Казкі жыцця Мікіткі і Данілка́». У 2012 годзе «Мастацкая літаратура» выдала кнігу «Казачка пра гандляра Пятра, Казу і Каляды».





АНДРЭЙ МЯЛЕШКА

# Магічная мапа ад Андрэя Мялешкі

**Шанхай**

Раён з такой назваю звязаны з маім дзяцінствам. Менавіта сюды на пачатак гарадзенскай вуліцы Падольная, што каля самага Нёмана, бацькі вадзілі мяне ў дзіцячы садок. Тут недалёка бацька мой працаваў у будынку, які яшчэ за польскім часам служыў казармаю для майго дзеда. Дзед мой быў абаронцам Варшавы ў 1939 годзе, і менавіта з Шанхая іх частку накіравалі ў Варшаву.

Праз Шанхай праходзіць чыгунка, якая нібыта падзяляе «не бандыцкую» вуліцу Падольную з маленькімі вулачкамі ды завулкамі на самым «бандыцкім» раёне горада — Шанхаі. Тут існуе пяць Падольных завулкаў, а над імі месцяцца могілкі. Спярша ідуць праваслаўныя, дзе можна знайсці магілу маці Багдановіча і ваяроў вайны 1812 года, а потым каталіцкія, дзе дамінантаю з’яўляецца помнік Элізе Ажэшцы.

Сканчаецца Шанхай вуліцай Прыгараднай і Крайняй, што ўпіраюцца ў вайсковыя могілкі. Пра яго заўсёды падчас майго дзяцінства хадзілі легенды і паданні пра вялікую колькасць злачынцаў, што тут жывуць, і вельмі вялікім гонарам для гарадзенца гадоў трыццаць таму было прайсціся праз Шанхай, каб цябе ніхто не зачапіў і застацца жывым.

Над Шанхаем узвышаецца сваім шпілем будынак, які ў народзе мае назву «Замак Цмока». Адзін чалавек хацеў пабудаваць сабе замак амаль у цэнтры Гародні. Улады не дазволілі, і будынак застаўся недаробленым. Самым цікавым і магічным для мяне ў дзяцінстве з’яўляўся чыгуначны мост перад уваходам у Шанхай. «Гэты мост, — казаў мне бацька, — самы кароткі шлях з Шанхая ў Палесціну.

**Палесціна і яе сем Дальніх завулкаў**

Палесціна ў савецкі час была адным з самых далёкіх раёнаў Гародні. Прыватны сектар на вуліцы Пучкова і сямі Дальніх завулкаў заўсёды вабіў хлапчукоў сваёй таямніцай. Сюды мы прыходзілі па розныя цікавыя рэчы. А я змог ўпершыню патрапіць хіба ў пятым класе, калі аднакласнік завёў да сваіх бацькоў, якія жылі на 4-м Дальнім завулку. Менавіта тут мне дзядзькі з зоркамі на плячах, нейкія суседзі аднакласніка, адрамантавалі зламаны сцізорык.

Што было цікавага ў той таямнічай Палесціне — гэта тое, што туды мы, хлапчукі, заўсёды «дабіраліся чыгункаю». У сэнсе, праходзілі каля чыгункі, пачынаючы ад чыгуначнага моста і заканчваючы чыгуначнай станцыяй Ласосна.

На чыгунцы заўсёды можна было знайсці нешта цікавае: ці то каляровыя шкляныя шарыкі, што прывозіліся на гарадзенкі шклозавод, ці то якую манету, што выпадкова выпала з цягніка Варшава–Санкт-Пецярбург, ці пачак ад цыгарэт, які выкінуў у акно які-небудзь замежнік. Такія «скарбы» меў амаль кожны з маладзёнаў, якія накіроўваліся ўздоўж заводаў карданных валоў і шклозавода праз Палесціну да станцыі Ласосна. Тут таксама можна было знайсці які-небудзь шруб ці болт, з якога, паклаўшы яго на рэльсу перад цягнікам, пасля шукаць кавалак жалезіны, падобны на сцізорык.

**«Мост даўжынёй у два тыдні»**

Кожны з пяці мастоў, праз якія гарадзенцы пераязджаюць ці пераходзяць праз раку Нёман, мае свае таямніцы. Аднак самым цікавым для мяне ў дзяцінстве быў мост праз маленькую рачулку Ласасянку: каля таго месца, дзе Ласасянка ўпадае ў Нёман. Гэта былая вёска Ласосна, а цяпер гарадскі раён. Ля моста цераз Ласасянку можна было злавіць вудай стронгу. Яна, кажуць, заходзіла сюды на нераст з Балтыкі. Цяпер такая магчымасць страчана, бо літоўцы паставілі запруду на Нёмане.

І яшчэ гэта месца, пра якое існавала легенда, што менавіта тут адзін час праходзіла мяжа паміж Расейскай імперыяй і Каралеўствам Польскім і што, пераехаўшы мяжу 31 снежня ў каралеўстве, ты трапляў у царскую імперыю, дзе ўжо было 14 студзеня. Зараз праз гэты мост пралягае дарога — выезд з горада ў накірунку да Аўгустоўскага канала. Аснова моста засталася старая. Каменныя пліты, накладзеныя адна на адну, параслі імхом, і, дакрануўшыся да іх, можна адчуць пах стагоддзяў. А паверху па нядаўна пракладзенай чатырохпалосцы праносяцца аўто. І толькі кавалкі муроў старога млына за сто метраў ад моста сведчаць пра былыя часы вёскі Ласосна.

**«Шура-бура»**

Горка з такой назвай цягнецца ад завода карданных валоў да самага Нёмана. Мы любілі яе асабліва ўзімку. Тут ездзілі на лыжах і санках або спускаліся з горкі, падклаўшы ранец. Асаблівай асалодай было на сваіх маленькіх саначках разагнацца і паляцець на вялікай хуткасці ажно на сярэдзіну замёрзлага Нёмана. Гэта цяпер рака амаль не замярзае. А гадоў трыццаць таму замярзала амаль штогод. І жыхары вуліц Гарнавых, Чырвонапартызанскай і Леванабярэжнай пераходзілі Нёман, хоць і рызыкавалі жыццём.

Другой цікавай забавай было праехаць так званым паравозікам, чапляючы свае малыя санкі да вялізных саней, што прыносілі хлопцы з Леванабярэжнай. Бывала, што такі паравоз меў у даўжыню дзесяць-дванаццаць санак. Асаблівасцю такой пакатушкі было як даўжэй праехаць і не адчапіцца на хуткасці. Пазней на гэтай горцы мы выпрабоўвалі свае ровары.







нарадзіўся ў 1975 годзе. Журналіст і краязнаўца. Да напісання невялікіх абразкоў пра жыццё ў Гародні дарос толькі цяпер. Раней пісаў вершы, некаторыя друкаваліся ў «Нашай Ніве». Пісьменнікам і паэтам сябе не лічыць, але спадзяецца, што чытачам «Новага замка» будзе цікавым тое, як жыў наш горад зусім нядаўна.



# Дзённікі

## Сяргей Астравец

## Дзённік з вуліцы Тэлеграфнай

### Бутафорская сталіца

Няма чаго сказаць: зіма, мароз,
сталіцай абвясцілі горад
у галіне культуры на ўвесь
наступны год. Руцінна ля тэатра
аўто стаялі з надпісамі «прэса»,
і «хуткая» ад выклікаў адпачывала,
якая з выгляду «відала віды».

У радыёэфіры са сталіцы на Нямізе
мастак знаёмы нечакана па-расейску
размаўляў у студыі, але сказаў:
сталіца быць павінна там,
дзе замак, і Мінску з гэтым
не пашанцавала, а ў Гродне
маем цэлых два. Сталічныя
не любяць, калі гавораць
пра сталіцу, як пра звычайны
горад.

*19.I*

### Назаўтра пасля слэму

Па вуліцы, туды, дзе замкі,
у падворку спаборніцтва паэтаў
у кавярні, якая называецца
«антыкафэ».
Знянацку запісаўся я. Навошта?
Каб пачытаць свае ўрыўкі
з дзённіка «Вайна ў Дуброўніку».
Спаборніцтва паэтаў даўжынёю, —

смеху варта, тры хвіліны, як быццам
доўгая чарга на вуліцы,
як быццам час — валюта,
якую трэба эканоміць
і кожная хвіліна мае пробу
рыхтык залатую.
Але спаборніцтва такое — гульня,
вядома. Не больш. Напхалася
людзей,
няма стаяць паэтам дзе.
Што праўда, можна выпіць
капучына,
каб горла перад вершам прамачыць.
Даюць таксама каву, але па каве
вычарпаны сённяшні ліміт.

І што б там ні казалі:
другі больш надаецца
блін, каб выкінуць за плот.
Спаборніцтва паэтаў у першы раз
было чытаннем вершаў
без боязі суседа ці суседку
локцем зачапіць (паэтам важны
жэст!).
Падворак у Старым горадзе —
прайсці пад брамай — сцены
з чатырох бакоў.
Пад небам веснавым адкрытым
на крэслах у першым шэрагу
паэты і паэткі, і публіка,
і рэпарцёры, і мікрафон —
як мае быць,
каб адчуваць сябе паэтам,
адзіным сярод усіх.

Чатырохкутнік сценаў —
быццам трубадуры ў замку
і дамы — трубадуркі, і ружа
ў адной у руках нібы паэзіі
ўвасабленне.

А за сцянамі на званіцы
архаанёл з крыламі,
з трубой нябеснай у руках.
Пад ім — у нетрах вежы
гадзіннікавы механізм,
які рыфмуе час, нябачны
рытм уносячы у гарадзенскае
жыццё пяцьсот гадоў
ці блізка ад таго.

Паэты жылі ў горадзе
заўсёды, ды не было
спаборніцтваў такіх ніколі,
і не склікалі разам іх,
каб крылы разгарнулі
ці хвасты, каб публіка
падняла руку за цябе,
нібыта ведае ў вершах толк.

Цяпер па-хуткаму чыталі вершы
паблізу каланчы пажарнай,
дзе спаў трубач, паклаўшы
побач інструмент, у лагодных
снах сігналячы апоўдні
з вежы для турыстаў і паэтаў.
Паэтаў мноства, ён — адзін.
Дык хто важнейшы?
Той, хто горада трымае
голас у руках, ці хто складае
пра яго версэты?

А калі я скажу, што сфінксы
замка Новага важнейшыя
за іншых, нават за жывых,
бо лепей горад ведаюць,
бо тут яны з часоў,
калі хадзілі пагалоўна
ў парыках, апроч, канечне,
паспалітага народу.
Ніхто з цяперашніх
не бачыў столькі твараў
і столькі незайздросных
не перажываў падзей.
Але яны маўчаць,
чаго не скажаш пра паэтаў…

*25.I*

**Не выходжу**

Не выходжу амаль на паветра,
дзе няўтульна, раз'юшана шалее
сівер з Арктыкі. На стале
«Новы Замак» стосам ляжыць,
не выклікаючы пачуццяў.
(Не палюбілі вы яго, няхай,
а ён як быў, так будзе.)
Схаваўся ў чатырох сценах,
бамбусы апусціў, як летам.
Пісьмёны лютага на шыбах:
прыгожа, але нечытэльна.

Зіма, марозна тузаецца вецер,
трымцяць сцягі на даху,
яшчэ крыху — і ім не жыць,
занадта тонкія кашулі.
Гуляла дзесьці, думаць
перасталі пра яе.
Каляды і Раство мінулі.
І як сарвалася знянацку
з ланцуга, схапіла
ў абцугі. Не выпускае.
Пайшла ты к чорту валацуга!
Дахаты! Прэч!
Настылі сцены тоўстыя
і больш не грэюць.
Давай усе вокны захіляць
хутчэй, не бачыць каб яе,
нядобрую, якой спазненне
не пайшло ў карысць.
Усё зло сваё яна
трымала пры сабе
для нас, не пагубіла
па дарозе, не страціла
імпэту, прыхавала
для Гародні.

*30.I*

**Год пабудовы: 1888**

За вокнамі спусцела камяніца:
паверхі два, мансарда, дах,
пакрыты бляхай. І дрэва
райскай яблыні здранцвела побач.
Вучыліся ў руцэ трымаць аловак,
пэндзаль, галінкай крохкай
драўлянага вуглю на ватмане
рысункі крэсліць чорна-белыя
ў кантрасце: зіма і дрэва голае.
Але для школкі мастакоў
знайшоўся іншы дом…
Праходзіш міма: унутры пакояў
зачыненыя аканіцы,
такіх, здаецца, больш нідзе няма,
апошні напамін пра пабудовы год:
«адзінка і васьмёркі тры»,
сто дваццаць пяты год мінуў,
яшчэ стаіць.
Пішу ў ложку, загарнуўшыся
ў пледы, коўдры, мядзведзем
адчуваю не раўнуючы сябе.
Зіма цяжкая, позна прыплялася,
калючая і злая.
Перажывем ці не?

*30.I*

**Шыбы адталі**

І пасля слоў маіх адчайных,
якіх на вецер не кідаюць,
напруга раптам паслабела,
слупок папяціўся ўгору,
ператварыўшы ў слёзы па зіме
на вокнах галубіны пух
і лісце дробнае бяроз,
якімі студзень закаваў мяне
пад дахам у кватэры,
зрабіўшы мае вокны
непразрыстымі.
Я не здаваўся, пісаў штодня:
пра кнігі, пра людзей,
не забываў працягваць

свае пяцьсот старонак
у «Папяровым рыцары».
І Нёман не здаваўся,
сведчыў: такой тэмпературай
ты мяне не схопіш.
А вецер? Вецер для ракі нішто.
Уцёк ён ад зімы,
з рук выслізнуў
і паспяшаўся ўлева
ад Каложы да мора,
у Балтыку каб трапіць.

*3.II*

**Наш нібы Вавілон**

Да неба яліну разабралі
перад статуяй на плошчы
якраз на гадавіну смерці
помніка часоў савецкай улады,
якая затрымалася са стодамі
сваімі.

Мінула неўпрыцям
зімовая гвалтоўнасць
калі не меў жадання
слухаць радыё
з прагнозамі надвор'я.

Культурнаю сталіцай
абвясцілі горад
і запрасілі штукароў
спаборнічаць у спрыце
вочы памыляць.

У замку Новым
ажывілі караля партрэт
у разлічанай
на зацікаўленне турыстаў
анімацыі.
Нібы-кароль у парыку,
пры ім царыца
і спрытны Казанова.
Усе любаярлівыя некалі,
у XVIII стагоддзі.

Хай імітуюць жарсці,
палітэс, камедыянты.

На плошчы статуя —
цяжкая, змрочная,
але вышэйшая
за ўсіх жывых.

Але таксама Богу
месца ёсць, нясе,
сагнуўшыся, свой крыж.
А Гуджэроці, нунцый,
усмешкамі абмен
здзяйсняе з чыноўнікамі,
стырно якія ў руках
трымаюць ідэалогіі
з культурай. Няхай
жыве, таварышы,
культурная палітыка,
накіраваная на мір
паміж народамі,
якія насяляюць
Вавілон над Нёмнам.

*9.II*

**Зімовы рыцар**

Жалеза не грэе, не,
яно дапамагае зіме.
Падае снег, такі мокры
снег, як цяпер.
Рыцар у латах,
захіліся плашчом.

У студню падворка
няспешна сыплецца снег,
мокры дах
не ўспрымае яго,
але абыякава снегу,
хто і што думае,
каму недаспадобы
яго вяртанне.

Рыцар у латах,
захіліся плашчом.

Табе вядома,
што мокры снег
ад сухога цяплейшы.
Горшы тым, што
неабходны потым
агонь, каб сугрэцца,
абсохнуць,
не здымаючы латаў,
што сумежна штукарству.

Добра, што рыцар
у падворку,
што на пляц
не пусцілі,
што пастамент
не пад ім.

Захіліся плашчом
ад мокрага снегу,
дзясятага лютага
сёння яшчэ.

*10.II*

**Апосталы зніклі**

Зноў нападала ноччу
на Горадні дахі.
Белы снег асвяжыў
камяніцы.
Але штосьці не так.
Не хапае апосталаў двух.
Тры з паловай
стагоддзі
прастаялі
пад гэтым надвор’ем,
скурай, дрэвам сваім
перажыўшы
марозны парывісты
вецер, клімат гэты
вільготны: цяжка
дыхаць, не хапае
паветра! І страляюць,
і падаюць бомбы
на плошчы, быццам
з Бога вышыняў.

Невядома яшчэ:
ці хаваюць у тулавах
кулі, асколкі,
жалезныя часу
адзнакі, смерць
памерла ў якіх.
А пакуль двух
апосталаў,
Пятра, як вядома,
і Паўла, з біблейскім
цалкам узростам,
як можна меркаваць,
схаваюць пад паветкай:
каб прасохлі,
а значыць — сонца
ім чакаць, цяпла і лета,
бо толькі люты яшчэ,
пачатак.

Сыход апосталаў
будзённым быў.
Спачатку аблыталі
левага, Пятра.
Мужчынка ў халаце
шэрым, як заўгас,
стамескай працаваў,
каб ногі адарваць
апостала ад мура.
Раз-два: апушчаны,
ляжыць на доле,
задзёршы ключ
ад раю ў неба.
І фаліянт пры ім
таксама, без надпісу,
прынамсі не відзён,
не прачытаць.
Прахожы выпадковы
спыніўся, пстрыкае
у твар апостала.

На жаль вялікі,
табе здымаць

няма чым.
Але неўзабаве
няма Пятра.
Затое Павел,
пакінуўшы другую
нішу, ляжыць
бязрадна з кнігай,
з прыстаўленым
да ног мячом.
А міма паміж
святлафораў двух
бяжыць натоўп
і толькі часам
зрокам бакавым
адзначыць: пад нагамі
статуя драўляная,
старая і парэпаная,
не цягне блізка
да сягонняшніх
правадыроў і каля іх,
адлітых, як вядома,
з бронзы.



▪ *На здымку: апостал Павел*

**16 лютага**

Дзень незалежнасці
Літвы. Нядзеля.
Дождж зранку лье,
што люты, што зіма?
Снег змыты з вуліц,
горад мокры
і няўтульны.
Не мелі ў Літве сваіх вушэй,
спазніліся, зрабіўшы
безнадзейнай справу
абвяшчэння БНР
няхай сабе
ў «этнаграфічных
межах», Тарыбай
былі ўключаны яны
ў свае абшары.
І Горадня ўключана
была, і Беласток,
і нават Гайнаўка
ў далёкай пушчы.
Хто першы прамаўляе,
той мае рацыю.
Літва, абцятая няхай,
свой утрымала сцяг,
а БНР было наканавана
стаць прывідам.

Літва — жыцця твайго
кавалак. І сантымент.
Але не буду адзначаць
літоўцаў свята, вясна
зімой — не лепшы час,
штось хісткае, падступнае.
Для нас, для беларусаў.

*16.II*

**Fuerte Ventura**

На астравах наводшыбе,
дзе занікае інтэрнэт,
найлепей карыстацца СМС,
на беразе, схаваўшыся
ў скалах асабліва.

Зіма ў Гродне, прадзімае
дом наскрозь, хоць сцены
з цэглы ганарацца таўшчынёю,
і суткамі чакаеш зрухаў
за акном, пакуль у лядоўні
яшчэ нешта ёсць.
А з вострава з падвойнай

назваю, якая азначае
«Моцны вецер» ці «Моцна дзьме»,
прыходзіць першы СМС:
чырвонага віна бутэлька
на стале ў гатэлі чакала,
прыемна сустракаюць.

Віно таксама на сняданне,
і на абед, і на вячэру, і кава
ў міжземнаморскім стылі.
А потым сонца, пляж,
купанне ў акіяне. У Гродне
холад, дзьме, сціскае вецер сэрца.

Фуэртэ адгукаецца Вентура:
шмат загаралі, і раз
залезлі ў акіян, крыху
забыўся пра нядаўні
шторм і ўраган.

Дзесь недалёка пралятаў
калісьці Сент-Экзюперы
начным паштовым
сярод буйных паўднёвых зор,
не зачапіць якіх стараўся
крыламі.

Спачатку пад табою Маракеш,
агнёвым россыпам дамашніх
ачагоў, пасадка ў Агадыры,
запраўка самалёта, кубак кавы,
Дакар — наступны,
і наўскасяк праз акіян
у Буэнас-Айрэс з par avion.

Хто ў небе, той бліжэй
да зорак, а Месяц —
вось ён, хоць бяры
аберуч, сягоння Маладзік,
які ляжыць як лодка
з плыткім дном.
Не так, як у Гродне,
дзе гэта серп, а не
пасудзіна.

Паэт іспанскі быў сасланы
сюды, бясплодную паверхню
дзе зямлёю называць
не выпадала за чорны
вулканічны грунт, які
не меў крыніц вады,
а толькі дажджавую.
Вады няма, вось гэта пляга!
Як выжыць без вады? Калі
дажджы таксама рэдкасць?
Калодзежы з камення
складзены ў разліку
на залеву, у звычайны
час сухія: няма вады.

На пляжы спатыкаюцца такія
нібы студні на адлегласці:
хавацца ад вятроў,
каб з сонцам сам-насам.
Усярэдзіне ў паставах
нібы скарпіёны старыя немцы
ў голым выглядзе, якімі
нарадзіла іх германка-мутар.

Дажджы зганялі ў акіян
вятры з Сахары, пяском
на востраве стваралі пляжы.
І ў сціслых вершах
сасланага паэта
не хапала востра
вільгаці. У засмяглых
вуснах памірала прага
апельсінавага гаю
Іспаніі далёкай.

Сягоння ў супермаркеце
набудзь свабодна апельсіны
ці сок аранжавы, і апарат
на чэку выб'е імя,
дастойнае радкоў паэта
Мігеля Унамуна:
Летыцыя Кабрэра.

*16.II*

**Чытаючы «Нору»**

Перакуліўся дагары нагамі ціск.
Як быццам стрэлкі пераведзены
адразу на некалькі гадзін назад.
А значыць, кроў твая плыве
павольней, страціўшы імпэт,
нібыта цяжар на плячах.

Прачнуўся. Цёмна. Чатыры раніцы.
Над дахам гала Месяца.
Ніякай яснасці, абрыс прыблізны,
Як быццам нездаровы ён:
расплывісты ў люстэрку твар.

Твой сон яшчэ з табой,
але ўжо чакае «Нора»,
шэсцьсот старонак
пра жыццё ў Трыесце
будучага аўтара «Уліса»
з яго жанчынай, з якой
не мелі шлюбу, што
ў касцельнай да апошняе
душы краіне было
даволі неразважным.

Шыкоўныя архітэктурныя фасады Рыма
іх не ўразілі. Джэймс раздражняўся,
яму нагадваў горад чалавека,
які заробак мае, выстаўляючы
турыстам нябожчыцу старую.
У галаве яго стаялі цесна камяніцы
Дубліна, і вечны горад лішнім быў.

Не палюбілі Рым, віно не палюбілі,
хоць Нора выпівала за абедам
бутэльку, а Джэймс упарта
зазіраў у кілішак увечары,
закончыўшы занятак у банку.

Павольная ў ірландскіх жылах кроў,
але нібыта размяшаны порах у ёй,
жаль, сорам за радзіму і любоў
аднячасова як да маці
і да мачахі пачуцці.

І ўспаміны пра далёкі брук халодны
дранцвеюць, і сонца, якое
не здараецца напаленым,
чырвоным,
і фарбы стрыманыя,
што прыгнятаюць дома
і каторых так бракуе на чужыне
сярод багатых, часам зыркіх
фарбаў. Папрыка, цытрусы,
чырвонае віно, у аранжарэях
архідэі.

Галодныя ірландцы не маглі
ніяк спыніцца, у выхадныя
елі шэсць разоў, і ўсё ў кавярні,
як сведчыць падрабязны запіс
Джойса з пералікам ежы,
але трымалі ў галаве таксама
ірландскай кухні стравы,
наўперад цымус — «флячкі»
у белым соўсе па-дублінску.
Пабаляваўшы на пазычаныя грошы брата,
ён справаздачу пераслаў яму ў лісце,
каб слінкі той глынаў напэўна:
хлеб з маслам, шынка, кава на сняданне.
Наступным разам суп, пячонка баранова
з бульбай, хлеб, віно.
Затым гуляш, віно і хлеб.
Чацвёртым разам іншая пячонка,
сыр гарганзола, хлеб, віно:
праз дзве гадзіны.
Крыху пазней пячонка зноў,
хлеб, вінаград і вермут.
А потым праз гадзіну, нанач,
цялячыя катлеты, ранейшы хлеб,
салата, вінаград, віно.
Здурнець ад пераліку можна,
дальбог.

Спыняешся на думцы, што
лепей бы табе не ведаць

падрабязнасцяў, якія захавалі
надрукаваныя лісты ад Джойса
Норы, якіх інтымнасць мела,
як гвалтоўнае надвор’е,
жоўты колер небяспекі,
але адначасова — што
пра жыццё бывае цікавей
чытаць, чым сам раман,
які на дрожджах гэтага жыцця
затым паўстаў.
Сказаў аднойчы крытык:
бываюць кнігі для чытання,
пра іншыя гавораць толькі,
прайсці з канца ў канец іх цяжка,
галоўны вынік іх з’яўлення —
размовы вакол іх. «Уліс» —
у першых шэрагах…

*15–16.III*

**17 сакавіка**

Святога Патрыка ўспамін,
17-га, усё як і належыць.
Завешаны расейскімі
сцягамі Крым,
нібы бялізнай
на вяроўках.
Як быццам
кінуліся ўсе
настрымгалоў
адмыцца
ад украінскіх
фарбаў.
Нібы закончана вайна
і вораг ненавісны
на каленях.
Чужое гэта свята,
дзе масандры паграбы.

Хоць, скажам, і няродны
Патрык нам,
але бутэльку піва
з думкай пра яго
ўсё ж адкаркуеш
ледзь не перад сном,
закончыўшы ўсе клопаты
такога дня кантрастаў,
як нешчаслівы лёс —
то снег, то дождж,
то пахмурна, то раптам
ненадоўга сонца.
І вецер, шквальны
вецер нібы прамацаць
узяўся твой шкілет.
Цыклон шалее ў Гродне,
і нічога з ім не зробіш.

Пад вокладкай раман
пад назвай «Востраў Крым»,
які стаміўся ад свабоды.
Які адчуў аскоміну
заможнага жыцця
і страціў смак.
І самагубча захацеў
у абдымкі СССР,
дзе ўсё завешана
брывастым печанегам,
а ў крамах прадуктовых
успаміны толькі.
Свабоду цэняць
толькі страціўшы яе,
даўно вядома.

Раман — ён выдумка,
не больш, але з жыццём
злучае іх фінал.
Адзінае: у кнізе
дэсант паветраны
навідавоку ў жыхароў
сталіцы — Сімфі, якія
ў кавярнях вулічных
сядзяць з газетамі
і кубкам кавы.
А ў жыцці ён
паявіўся патаемна,
ніхто не бачыў,
напэўна, прыбыў морам,
дэсантнікі без парашутаў.

Быў Крым ва Украіны
і няма. І больш таго —
не будзе, такой цана
бывае, калі літаратура
раптам з-пад вокладкі
гвалтоўна трапляе
ў жыццё і разбурае
межы жанраў.

Такім запомніўся мне
Дзень святога Патрыка
апошняга, дзве тысячы,
халера, чатырнаццатага
года.

*17.III*

**Трафейная зямля**

А з Крымам атрымалася
аж да будзённасці
банальна. Маленькі
чалавек у тэлевізары
схапіў быка за рогі
і заваліў за выхадныя,
нібыта ілюзіяніст,
плюс потым яшчэ
пара тыдняў пайшлі
каб канчаткова
ўсё залатвіць: узяць
з рук, якія не трымалі,
бо вымушаны былі
быць поднятымі ўверх.
Два тыдні ў напрузе
ўсіх трымаў, у боязі,
у аблозе, у тэроры.

Цяпер спусцілі сцяг
блакітна-жоўты,
патапталі. Як некалі
ў нас зрабілі з родным
бел-чырвона-белым.
І шыльды ўкраінскія
з зацятасцю знішчаюць.

Субтропікі, паўднёвы
бераг Крыма, зайздросны
плод абласканы
марскою хваляй,
з нябачнымі ў горных склепах
бочкамі янтарнага віна.

А на вайне,
не аб'яўленай нават,
бочкі з віном —
самы лепшы трафей,
будзе чым
святкаваць.
Дайце — дзе
ад склепаў ключы?

Чужыя прагна
вусны пацягнуліся,
чужыя рукі
трымаюць нецярпліва
шклянкі, адзначыць
перамогу юдаву
патрэба.
Так проста сапраўды,
што больш звычайна
не бывае: як быццам
пірага сабе адрэзаў,
узяў на талерку
або наліў у шклянку
калі ніхто не прапаноўваў
табе бутэльку.
Ты самаабслужыўся,
дзякуй за ўвагу. Кропка,
ці, хутчэй, шматкроп'е.

*19.III*

**Гаспадары віна**

Са сціплай годнасцю
бутэлькі трымаюць
у сабе бурштын
паходжаннем
з узгоркаў, якія
пахіліліся ў бок мора,

у якім дэльфіны
гойсаюць
і разняволена
жывуць медузы.

Віно ў дубовых
бочках, якое
першымі калісьці
скаштавалі грэкі
ў часы Патрокла.
Апошнія на этыкетках
словы суседзяў
украінцаў анучай
мокрай будуць
змыты са школьнай
дошкі і ссыпаны
асколкі літар
у смецішча гісторыі
да іншых алфавітаў,
гліняных таблічак
ці проста слоў,
не запісаных нічыёй
рукою, бо не вядома
нам, ці мелі
запісаць магчымасць
свае думкі тыя
кімерыйцы, ці готы,
ці скіфы. Хутчэй
за ўсё не мелі.
І ўкраінскіх больш
не будзе слоў.
Ну, а віно старое
нальюць
у новыя бутэлькі.

І Украіне больш не піць яго,
яшчэ ўчора ўкраінскае,
цяпер чужое.
Віно, якое адабрана
гвалтам, табе сягоння
прадаваць спрабуюць
як імпартовы з-за мяжы
гатунак.
І што тады рабіць напраўду?
Нічога ты ім не параіш.

Пакуль жа навіна:
спыніла Украіна пропуск
крымскага віна
праз тэрыторыю сваю
як кантрабанду,
але не замарудзіла,
пайшло цераз пратоку
з Керчы іншым шляхам
у крамлёўскую сталіцу,
якая ўсе апошнія гады
любіла ваяваць з віном
рэспублік, якія не хацелі
кланяцца і якія, апроч віна,
нічога за душой не мелі.

*2.IV*

**Красавік**

1

У красавіку нарадзіўся, так,
мне дзве пяцёркі, 55,
і некаторыя прыяцелі мае,
між іншым, могуць думкай
запыніцца над лічбаю сваёй
і ўспомніць літаратараў
вядомых — адпаведная
нагода: так, яны таксама.

2

Красавіцкія пішуць часта:
хто ў газету, хто пад вокладку
кнігі, а хто — для радыёэфіру.
Спрыяльны месяц красавік
для творчасці напэўна.
Плюс горад: калі не вежы,
дык званіцы, і на адной —
гадзіннік, які найперш
для тых, хто піша — пра горад
і жыццё ў ім, пра нас у часе
піша…

3

І Чарлі Чаплін, каб яго!
Не ведаў, шчыра!
З'явіўся разам з намі, in April,
каб дурня клеіць, моўчкі.
Ды не маглі маўчаць у зале мы,
мы выбухалі смехам.
Цяпер наш Чаплін,
яго муляж у кацялку
ў суседнім доме, камяніцы,
у бары «Чарлі», па лесвіцы —
наверх — самотны статуй
пры бутэльках.
А што за камяніца?
Ёй сто гадоў: дзень у дзень!
Чакалі гараджане: сінема
адкрыта будзе
неўзабаве.
Але вайна знянацку!
Сеанс адменены,
кіно не будзе…

*16.IV*

**26-га**

Які цудоўны дзень,
чарнобыльская гадавіна
дзесь у падсвядомасці,
як сарцавіна дрэва,
а дзень зайздросны —
атмасфера свята,
з ядальні кожнай
музыка, на вуліцы
курцы, усе жэняцца,
каб свой замок
на мосціку
цераз Гараднічанку
замацаваць ключом
і выкінуць уніз.

Над рэчкаю тэраса
на другім паверсе —
пашанцавала
гэтаму вяселлю:
царква перад
вачыма, крыху
лявей наперад —
кірха, цагляная
муроўка ачышчана
ад тынку, рэстаўруюць,
а ўнутры прывезены
нядаўна з Нямеччыны
арган, яшчэ маўчыць.
А вішні атрасаюць
квецень, пад нагамі
белыя пялёсткі, ніколі
не было так рана,
каб горад Гартэн
белым і ружовым
здаваўся птушкам
у красавіку, каты
на мяккіх лапах
ступаюць асцярожна
па кветках,
што ўпалі на зямлю.

Сягоння тысяча
матацыклістаў
прашумела міма
дома, на стрэлкі
паглядзеў:
спатрэбілася
кавалькадзе
пяць хвілін.
Грукочуць кавасакі
і харлеі, што бывае
раз на год,
і на душы ўтульна.
Адно перашкаджае
раўнавазе: піраты
ў інтэрнэце, якія
не даюць табе
запоўніць бланк
анкеты на візу
«шэнген».

*26.IV*

**Дождж, званы, Папа святы**

Дождж прыйдзе неўзабаве,
Варшавы дахі намачыўшы.
У касцёле кафедральным
фігурка Папы Яна Паўла,
якога толькі што ў Ватыкане
святым пакутнікам за веру
абвясціў Францішак,
сёння Папа.
Мы чуць прывыклі
ад былога Папы:
вясёлых вам Калядаў,
дарагія беларусы!
Яго не абмінула куля,
ды не забіла.
Скульптуры алтара
бліскучай пазалотай
ззяюць, што робіцца
ніякавата, але бывае
пасля рыштаванняў
заўсёды так,
адценне стрыманае
набывае пазалота
з часам, калі нарэшце
цьмее і не крычыць,
не слепіць вочы.

Над Гроднам дождж,
архаанёл бляшаны
ў небе, і птушкі,
хто мацней, лятуць
скрозь кроплі,
складаюць-раскідаюць
крылы, нябесны
душ прымаюць
у адрыве ад зямлі.

І б’юць размерана званы,
ім суха, толькі гук
прыглушаны, скрозь
дождж гучаць званам
цяжэй.

*27.IV*

**Такі вось лёс**

А з Украінай што?
Не будзе Украіны.
Так вырашыў
маленькі злосны
чалавек, чэкіст,
пігмея з прозвішчам
Яжоў нашчадак,
наган якога
ў галаве яго
жартуе ўчора
з украінскім
братам ці сябрам
толькі, няважна,
ва ўсялякім разе
з суседам блізкім,
а жарт такі —
рулетка а ля-рус:
націснуў цынгель —
ха-ха-ха! Яшчэ
раз — ха-ха-ха!
Такі вось жарт
у лубянскім стылі,
вядома бо яму
самому і брату
ўкраінцу, што
ў барабане ёсць
патрон адзін, толькі
адзін, але ён ёсць.

*4.VI*

**Званкі на вайну**

1

Званок у Данецкую
народную рэспубліку,
так званую,
канечне.
А што ў вас чуваць?
Ці ўсё фатальна,
няма надзеі?
А што ў нас? Чутно

цяпер з аўтаматычнай
зброі стрэлы,
штурмуюць
тэлецэнтр,
такія справы.
На вуліцу ніхто
імкнецца
не выходзіць.

А днём раней
прыйшоў і-мэйл
такога зместу:
У нас сягоння
не было заняткаў
у школе,
бо ў мінулы вечар
штурмавалі
побач са школай
райвыканкам.
А сёння абяцалі
захапіць мясцовы,
наш выканкам,
але нічога не было
чамусьці.
Закрыўся банк,
дзе ў мяне заробак.
І што цяпер рабіць?
І з кожным днём
усё больш напружана.
Такія вось навіны.

Устаеш нібы з пахмелля,
з тлумнай галавой
і думаеш — ці гэта
сон дурны? Чаго чакаць
сягоння, якіх здарэнняў,
якога гвалту?

2

Няма ў Днепрапятроўску
«зялёных чалавечкаў».
Хоць блок-пасты
пастаўлены, там нашы,
свае людзі, якія
абароняць на выпадак
чаго. Начальнік новы,
алігарх, узброіў
па-сучаснаму, не горш
за дыверсантаў,
схавалі што свае
кукарды і шаўроны
з арлом расійскім.
Купіў наш алігарх
і паліва для танкаў
і для верталётаў,
бо армія
ў плачэўным стане,
папросту роспачным,
яна не абароніць.

І людзі на руках яго
насіць гатовы за тое,
што ў нас ціха,
калі ў суседзяў
побач не спыняецца
вайна, не толькі
стан ваенны.

І вось яшчэ:
за кожны зданы
аўтамат ён плаціць
і за «зялёных чалавечкаў»
паабяцаў плаціць.

3

А сёння рэферэндум
быў у нас, у Данецку,
стралялі гэтым разам
зусім блізка — па суседству.
А людзі шлі
на самазванчыя ўчасткі.
А перад тым мяне
раптоўна ўкусіў сабака,
ля самай школы.
А тут і гадавіна
Перамогі,
і рэферэндум
і доктара

прыйшлося
адкладаць
на панядзелак,
баюся, позна
будзе.

*12.V*

**Здранцвела Адэса**

У Адэсе чуткі,
што вады не будзе,
чакаецца дыверсія!
Дахаты, набірайце,
бо горад застанецца
без вады, як у фільме
пра вайну пад назвай
«Смага».
Як фаер-шоў
уначы было,
цяпер у доме
прафсаюзаў
абгарэлых трупаў
не распазнаць.
Нянавісць
да сваёй зямлі
да ўкраінскай
запаліла кнот
кактэйляў
Молатава,
у адказ такія ж
вогненныя
паляцелі
бутэлькі смерці:
і трупаў 46,
і гэта разам
з забітымі
на вуліцы
спачатку
з агнястрэльнай
зброі, з якой
стралялі ва
Украіны галасы.
Цяпер стаіць
на пастаменце
Рышэлье,
граданачальнік,
у засмучэнні
і жалобе.
А ў порце караблі
як кватаранты,
што з Крыму
вырвацца паспелі,
і на адлегласці —
якія з рускага палону
былі адпушчаны,
зняважаныя,
без магчымасці
адпомсціць,
за сябе, за Украіну.

*12.V*

**Крымская Рыўера**

«Кримська Рив’єра»,
а па-англійску
Crimean Riviera —
менавіта так.
Апошняя бутэлька
з украінскай назвай
ад інкерманскага завода
гатунковага віна:
«місто» Севастопаль.
У спакойнай бухце
ветразёвы карабель,
на моры штыль,
на беразе адразу горы.
У бутэльцы сок
ад шарданэ, алігатэ,
мускатныя гатункі,
а таксама любімы
мною піно-гры.
Букет цытрынава-мускатны,
на вока саламяны колер.
Ахаладзіць і ў келіхі,
а на стале, вядома,

стравы, у якіх дарункі
мора, асобна на талерцы
гародніна, сыры.
Апошняя бутэлька,
больш не будзе.
Са шкадаваннем
гляджу на карту:
тут поўнач, Украіна,
усход, Расія,
а гэта КРЫМ — чатыры
літары вялікія,
як быццам быў
неўкраінскім ён,
як быццам існаваў
асобна, як востраў
Крым у рамане.

*17.V*

**У Беластоку**

Руціна, краіна
недарэчнага хакею,
а тут ніякага няма,
тут сустракае вёска,
вуліца адна,
са сціплай годнасцю:
трымае рыцар
меч у руцэ.
Наступнае мястэчка
будзе мець яго
таксама на шчыце,
з адной адрознасцю:
трымаць свой меч
інакш ён будзе —
як стоячы на варце.
Ты едзеш у Белы —
скарочана прывыклі
на жаргоне называць
свой горад у Беластоку.
У Саколцы дождж,
дзве стрэлкі:
вуліца Гродзеньска
і — Крэсова.
Кудрыцкая Барбара
выбіраецца
ў еўрапарламент
ад спісу партыі «Пэ-О».
На сціплым пастаменце
сокал з бронзы
перад «ужондам»,
нібы абараняе
ад цыбулін каляровых —
на плошчы не касцёл,
царква.

І ў Беластоку дождж,
халодна і «мала чарна»
кава ў кардонным
кубку, а за акном
насупраць «ужонд»
ваяводскі і паласаты
сцяг: бела-чырвоны
плюс жоўта-блакітны —
да польскага падшылі
ўкраінскі.
У еўрапарламент
выбары адначасова
з прэзідэнцкімі
на Украіне.
Палякам нецікава
хадзіць галасаваць,
а ўкраінцам страшна,
бо ідзе вайна.

А ў Беластоку
цэлы дзень
дажджыста і ўтульна,
вялікі голаў
Замэнгофа
трымае ў памяці
Гародні сцены
і словы выдуманай
мовы.

Метамарфозы
з «дзядкам»,
Юзафам Пілсудскім,
табе здаецца, ён

спусціўся з пастамента,
быў над галовамі,
нароўні з дрэвамі
(ці гэта ты адчуў
сябе вышэй?),
пастаўлены цяпер
бліжэй да пешаходаў,
а некалі стаяў
зусім на бруку,
калі прывезлі
бронзавым сюды.

«Лісты з Амерыкі»
Пячынскага Кшыштофа,
пятнаццаць злотых,
і кубак кавы
у «Спулдзельні»,
якая адначасна
і кавярня, і кнігарня,
размова з выдаўцом.

Вакзала гмах
апяразаны адбіткам
радасці: палякі
дзесяць год
у Еўразвязе.
А на чыгунцы
на Варшаву «поцёнг»:
Пагоня на шчыце,
арол над галавой
у рыцара з мячом.

І зубр з клюшкай
з надпісам англійскім
на мяжы ў Брузгах:
«You are welcome».

*17.V*

**Маланкі**

Адчуўшы быццам з крыўдаю,
што больш не будзе Крыма,
на Нёман рушылі: заняты
зранку пляж усцяж.
Рака, якой самой прыемна:
не проста шмат вады,
але вады ласкавай, цёплай —
не трэба іншай,
калі ёсць свая.
І Нёман сам цябе нясе.
не вымагае дапамогі.
І качар з сіняй галавой,
які хавацца будзе побач
у чаратах.
І гучнік з неба,
дзе ажурная канструкцыя
з чыгункай над ракой
жаночым, лагодным нечакана
голасам, паведамляць
аб набліжэнні будзе цягнікоў.

У паветры гарадскім
нервовымі зігзагамі
стаіліся маланкі,
каб запаліць агонь,
калі пачне на небе
выраблядца
новае надвор'е,
у чарнільных фарбах
здабываючы блакіт.

І быццам рыс
рассыплецца знянацку,
так рэзка і скажона,
зірнеш у акно —
на хвалях даху
скокі, штось у небе
здарылася з цэльсіем
і фарэнгейтам:
у гарохі белыя
сягоння брук.

І не ляталі птушкі,
часова зніклі,
хоць любяць
мыцца пад дажджом.

*26–27.V.2014*

## Дзённікавыя занатоўкі

а. Дбаць пра дзённік, калі больш нічога іншага не занатоўваеш, можа быць толькі прыемнасцю. Калі пішаш пастаянна іншыя рэчы, пагатоў — вялікі літаратурны твор, рука стамляецца, калі даходзіць да жыццёвых запісаў. І нават калі табе шкада ўражанняў, думак, падзеяў, ты ўсё роўна апускаеш рукі. Хто піша, таму вядома, што пісаць небанальна дзённік, пісаць яго як літаратурны твор машынальна немагчыма. Без фарбаў у ім не будзе жыцця. На жаль, убачанае, перажытае знікне, таму што ты не здольны цяпер затрымаць на паперы, напісаць цікава для самога сябе звыклым — доўгім радком. Думкі сціскаюцца, каб адчуць сваю форму, набыць рытм, ператварыцца ў слупкі. Так узнікае дзённік, напісаны інакш, чым бывае звычайна. Так што вырашаць аўтару: пісаць ці не — і як пісаць свой дзённік. Табе дапамагае рэпарцёрская звычка. Калі акрэсліць: выходзіць рэпарцёрскі дзённік паэтычным радком, так бывае.

б. Толькі аўтару вырашаць, якім будзе па форме дзённік і ці будзе ўвогуле. Бо форма шукаецца навобмацак. Калі змест не знаходзіць для сябе слоў, ён знікае, не стаўшы ім.

в. Дзённік можа быць справай творчай, а можа руціннай. Залежна ад падыходу. А таксама ад твайго стану, ад лічбы слоў у тваіх шуфлядках, а перш, зразумела, ад моцы ўражанняў і жадання іх захаваць.

г. Скульптар можа карыстацца інструментамі: рэзаць, дзяўбці, высякаць, а можа толькі пальцамі рук. Залежна ад матэрыялу, але ў любым разе мэта — скульптура. Поўная ці толькі бюст. Рэалістычная ці з налётам абстрактнасці. Але ўсе гэтыя моманты залежаць ад выбару аўтара, нават калі, рэдкая ўдача, ён хоча ўдзельнічаць у конкурсе на лепшы твор.

д. Назіральнасць плюс рытм у душы, які перадаецца думцы. Такі нескладаны рэцэпт. Рытм парадкуе думкі. Зрэшты, гэта можа быць вядома, хоць і неабавязкова, тым, хто піша. Калі не, значыць, яны не адчуваюць у сабе такой пульсацыі, ходзяць іншымі шляхамі.

нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Закончыў БДУ. З 1984 года займаецца ў Гродне журналістыкай і піша пра горад. Апошнія па часе выхаду кнігі «Райскія яблычкі» і «Жалезная заслона з арнаментам».







# Сучасныя мемуары

## Мечыслаў Курыловіч

### З радаслоўнай буслянкі



*Мая бабуля (другая справа) – Паўліна Станіславаўна Курыловіч (1870–1941). Здымак зроблены ў ЗША ў 1904 годзе.*

Нарадзілася ў вёсцы Барбарычы (каля Гожы). Дзявочае прозвішча — Боціс. У 19 гадоў выйшла замуж за мясцовага хлопца Пятра Пясцюка. Пасля шлюбу маладыя адправіліся шукаць сваё шчасце (аж на цэлых шаснаццаць гадоў) у заакіянскую Амерыку, дзе па хрысціянскім запавеце — у любові і згодзе — у 1890 годзе паявілася на свет дачушка Юзэфа, а ў 1896 — сын Антон. У 1906 годзе вярнуліся на радзіму і купілі ў вёсцы Плябанішкі (каля Гожы) пяцьдзясят гектараў зямлі.

Пасля смерці мужа ў 1908 годзе ўзяла ў прымакі 70-гадовага Юзэфа Курыловіча з вёскі Вярдуба (каля Друскенік, цяпер ужо такой вёскі няма), і ў 1911 годзе з'явіўся на свет мой бацька — Пётр Курыловіч.

Гаспадыня ворнай зямлі, лугу і лесу да з'яўлення першых Саветаў жыла нябедна: вэнджаныя кумпякі, засоленае з духмянымі прыправамі ў мяса, галандскія самаробныя сыры, каралеўскія стронгі з мясцовай, безыменнай рачулкі, натуральны з гарчынкаю пустырніку мёд, статак авечак, каровы, якія давалі не менш як 20 літраў малака, коні і прыгожы, прасторны з прысадамі падворак. А «пальцам пханаю» можна было завязваць на ноч ад зладзеяў вароты, якіх, дарэчы, і не было, бо калі хто крыкнуў «лаві злодзея», то за ім гналася ўся вёска.

Дачка Юзэфа з мужам у 1912 годзе таксама выехала ў Штаты, сын Антон у 1928 — у Англію. У 1917 годзе памёр прымак Юзэф Курыловіч. Засталася з малалетнім Пятром, гаспадарку здала ў арэнду. На жыццё хапала. Дзеці вярнуліся (яшчэ да 1939-га) з валютай — сын у Плябанішкі, дачка з мужам у вёску Лесніцу (вотчына мужа). Але, як заўсёды на нашай пакутнай зямельцы, лёсавызначальная кропка ад нас не залежыць. Антон пасля стаханаўскай вахты ў Варкуцінскім ГУЛАГу ў 1957 годзе атабарыўся на гожскіх кладах. Муж Юзэфы яшчэ раней.

Бабуля Паўліна адышла ў лепшы свет, калі мне не было яшчэ і двух гадкоў, а ў мяне такое адчуванне, што яна заўсёды прысутнічала і прысутнічае ў маім жыцці. У апошнія дні свайго зямнога падарожжа яна папрасіла, каб яе пахавалі побач з мужам Пятром. Углядаюся ў гэты фотаздымак і ўспамінаю словы мамы: «Паўліна Станіславаўна вельмі хацела, каб і ты называўся Пятром». Але, як кажуць, найшла каса на камень: мама не пагадзілася з захапленнем свякрухі, бо хацела, каб я быў не безгалосым Пятром, а польскім спеваком, як Mieczysław Fogg (1901–1990) з надта папулярнаю тады песняю: «Ta ostatnia niedziela». (Дарэчы, удзельнік Варшаўскага паўстання, ён спяваў для жаўнераў у падпольных шпіталях і на барыкадах.) І на самай справе пасля хрышчэння ў мяне прарэзаўся голас і першыя два месяцы праяўляў нядрэнныя вакальныя здольнасці — гарланіў, як душа ў пекле, дзень і ноч на ўсю хату. І мая бабуля Паўліна абвінавачвала ў гэтым маю маму за яе дурны польскі густ. Так адстойваць свае перакананні магла толькі закаханая жанчына. Думаю, што так і было.

## Акавец



*Дачка дзядзькі Антона Леакадзія Антонаўна Пясцюк з мужам Генадзем і сынамі. Казахстан, г. Чурбан Нура, 1960 г.*

Леакадзія, 1927 года нараджэння, — гэта амаль адзіная гераіня таго часу, якая «справядліва» адспавядалася за акаўскі грэх (а можа, толькі за тое, што нарадзілася ў «бандыцкай» вёсцы Плябанішкі) у казахстанскай «Даліне смерці» пасля вызвалення Гродзеншчыны ад немцаў.

Нядаўна па польскім тэлебачанні бачыў інтэрв'ю Леакадзіі пра тыя жудасныя падзеі. Мякка кажучы, быў здзіўлены патрыятычнымі матывамі, і ў мяне склалася ўражанне, што таму журналісту, які інтэрв'юіраваў, вельмі хацелася прыўнесці ў яе шчырую споведзь пафасную афарбоўку. Атрымаўся артадаксальны польскі патрыятызм пра акаўцаў… Я з ёй сустракаўся, калі прыязджала на вотчыну бацькоў у васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя. Успаміны, вядома ж, былі: пра забойча-скрутныя допыты, пра галгофныя пакуты ў ГУЛАГах… Толькі ў тых успамінах ніколі не было і слова пра патрыятызм.

Яе маці Юля аднойчы ў размове з маёй мамай вынесла свой апраўдальны і абвінаваўчы вердыкт і мужу, і дачцэ: «Антак (яе муж) сядзіць ні за што, а Лёдзя за сваю дурноту — утрэскалася ў ляснога хлопца і бегала да яго на сустрэчы. І ўсе мае ўгаворы, каб кінула яго, што аб сцяну гарохам».

Пасляваенныя гады вёсак Гожскага сельсавета: жыццё пад пагрозай: ноччу, калі не адчыніш дзверы — спаляць, а адчыніш — накіруюць у лоб стрэльбу — і ні ежкі, ні адзежкі, голы, як сакол. Данясеш — забяруць на допыты, і там ужо абавязкова ўспомніш і імя, і прозвішча таго рабаўніка, якога раней ніколі і не бачыў, бо сярод тых галодных хлопцаў былі не толькі акаўцы

(парэшткі пасля няўдалай аперацыі пад Вільняй), але і свае, што хаваліся ў лесе, калі іх пасля 16 ліпеня 1944 года пачалі забіраць у савецкае войска ваяваць з немцам ці на прымусовыя працы ў шахты Данбаса.

Не выключана, што сярод іх былі і рамантычныя Робіны Гуды, якія помсцілі бальшавіцкім рабаўнікам, што экспрапрыіравалі ў іх зямлю і маёмасць. (Польскі пан забіраў у гаспадара кожны трэці сноп, немец — паўтара з трох, а Саветы — два, але і той панскі трэці не заўсёды гаспадару пакідалі.) Помсцілі за «лапанкі» (так мясцовыя людзі называлі нкусаўскія аблавы з татальным вобыскам): прыязджаюць і выцягваюць з хат, як бараноў са статка, самых здаровых і моцных мужыкоў, якія пасля знікаюць на доўгія гады бясследна, без права перапіскі. У 1949 годзе генеральная зачыстка «бандыцкіх» вёсак Гожскага сельсавета па загадзе партыі і ўрада была паспяхова і датэрмінова выканана.

Ужо даўно падпісаны ўсе дамовы паміж Рузвельтам, Сталінам і Чэрчылем. Але гэта для дасведчаных, а для недасведчаных кожны дзень па трафейным радыё (а пасля і па сарафанным) голас «праўды»: «Палякі, трымайцеся, мы з вамі. Амерыка і Англія хутка пакончаць раз і назаўсёды з кацапамі. На Каляды падзелімся аплаткам, а велікоднае яечка кожны будзе есці са сваёю сям'ёй».

Гавораць, што злачыннасць не мае нацыянальнасці. Бальшавікі з гэтым не пагадзіліся — злачынцамі і быдлам зрабілі ўвесь народ. У немцаў хапіла розуму паспавядацца і папрасіць прабачэння і за Асвенцім, і за Халакост… Бальшавікі, як спадкаемцы Івана Жахлівага, змагара за збіранне спрадвечна рускіх зямель, — бязгрэшныя, быццам ніколі і не было «турмы народаў», ГУЛАГаў, Курапатаў, Катыні, «жалезнай заслоны і дваццацігадовага застою». А палякі наогул анёлы.

Не хачу пакрыўдзіць ні ў чым не вінаватага рускага чалавека, які быў яшчэ ў горшым становішчы, але ў той час кацапы, бальшавікі, Саветы асацыяваліся найперш з людзьмі рускай нацыянальнасці, якія з прафесійнай крывадушнасцю перавыхоўвалі польскага пана: «не умеешь — научим, не хочешь — заставим», і да таго ж з артадаксальнай балбатнёю пра светлую будучыню, з ваяўнічым атэізмам і дзяржаўнай ідэалогіяй у школах — пра адвечна рускія заходнія землі, якія некалі захапілі польскія паны. Імі пужалі дзяцей: «Калі будзеш непаслухмяны, цябе забярэ бальшавік». І не было большай ганьбы, чым сказаць чалавеку за дрэнны ўчынак: «Ты што — кацап?»

Сёння толькі лянівы не кідае камень у бок Саветаў. Было ж нешта і добрае. Была абавязковая беларуская сямігодка. Ад беларускай мовы вызваляліся толькі дзеці вайскоўцаў. (У 1961 годзе, калі паступаў у інстытут, мая беларуская ўжо была непатрэбная: відавочна, падвучыліся ў Мураўёва: «Что не сделал русский штык, сделает русский язык».)

Палякі былі яшчэ «разумнейшыя»: у пачатковай польскай школе, дзе тры гады вучылася і Лёдзя, дзецям найперш патрэбна было вывучыць вершык: «Kto ty jesteś? Polak mały. Jaki znak twój? Ożeł biały».

…Для таго акаўца Леакадзія была сувязной. Ці мелі якое-небудзь значэнне яе «стратэгічныя» звесткі пра дыслакацыю старшыні калгаса, старшыні сельскага Савета, участковага міліцыянера? Яны і без яе наводкі з Янака Забароўскага з вёскі Лесніца, які паехаў у дровы, здзерлі кажух і боты, і крамы адкрывалі ноччу ўласным ключом, пакідаючы на развітанне фірменную цыдулку: «Супраць лома няма прыёму». Была на іх руках і кроў ні ў чым не вінаватых кіраўнікоў мясцовай улады і маладзенькай настаўніцы, якую прыслалі з Расіі ў Прывалкаўскую школу, ды яе заступніка, дваццацігадовага хлопца Уладзіслава Пелуця.

Безгаловыя хлопцы, ахвяры палітычных гульняў саюзнікаў Сталіна, калі ўжо была пастаўленая апошняя кропка па раздзелу Еўропы… У іх не было выбару: загінуць у катаваннях на допытах, ці, адыходзячы ў нябыт, прыхапіць з сабою яшчэ аднаго рабаўніка ў пагонах. Жывымі яны не здаваліся.

У 1950 годзе нкусаўцы везлі на возе цераз усю вёску знявечанага, акрываўленага, яшчэ жывога, «бандыта-акаўца». Каб бачылі, каб баяліся… Адзін да аднаго, як гэта зрабілі немцы ў 1943 годзе: забітых хлопцаў і дзяўчыну (плябанішская дыверсійная група, якая пусціла ў расход кіраўніка Гожскай гміны) цягнуў за ногі па дарозе цераз усю вёску нямецкі самаход. Глядзіце! І з вамі гэтаксама будзе…

Лёдзю тры месяцы трымалі ў камеры-адзіночцы як жывую сведку для апазнання забітых акаўцаў і мясцовых «бандытаў» і вадзілі на гэтыя апазнанні, як на працу. За ўвесь гэты час Лёдзя анікога «не апазнала», бо добра ўсведамляла: па радаводнай лініі перасадзяць усіх да сёмага калена. І кожны раз за яе «не, не знаю»: за валасы і галавою аб сценку. Дужыя, здаровыя мужыкі, якія «калолі» не аднаго «крутога бандыта» не маглі справіцца з кволаю, хударляваю дзяўчынай, якая не была патрыёткай, а проста верыла ў Боскую запаведзь — не рабі крыўду людзям.

Аднойчы пазнала і стрыечнага брата-дэзерціра, і таго акаўца, якому верыла, як сабе. Страціла прытомнасць. У той час не было дэтэктараў хлусні, і ёй паверылі, што баіцца крыві. Гэта быў яе апошні дзень на гродзенскай зямлі. Пасля пачалася доўгая дзесяцігадовая дарога па казахстанскіх ГУЛАГах.

Углядаючыся ў фотаздымак, лаўлю сябе на думцы: Лёдзя знайшла сваю мару. І, калі б Бог дазволіў ёй паўтарыцца, напэўна, нічога ў яе лёсе не змянілася б.



# IN MEMORIAM

ІГАР ЖУК

## Васіль Быкаў: з гісторыі аднаго непрыезду

У бязважкай паветранай высі — сярэбраная нітачка, жаўручок. Нітачка віецца, журліва свідруе паднебную глыбіню, як запрашае: хадзі, ну хадзі сюды. І я не стрымліваюся — асцярожна ступаю па гэтым крохкім срэбры ў неба. У неба сваёй памяці, каб вызваліць адну гісторыю, якая засталася няспраўджанай задумаю…



▪ *Васіль Быкаў. Здымак Аркадзя Перахода*

Цяпер я ведаю пэўна: учарашняе, былое — жаўручок, а згадкі — як падушачкі каціных лапак. Чым далей у глыбіню прасціраюцца згадкі, ажно туды, у салодка-бесклапотнае марыва дзяцінства, тым прызыўней свідруе сінь жаўручок і тым больш мяккія і казытлівыя «падушачкі»-лапкі, а іх дотыкі больш далікатныя і пяшчотныя. Кіпцюрыкі злой і знябожанай штодзённасці яшчэ не выпушчаны, а таму па-над усім сусветам бяспечна і звонка залівaецца сваёй срэбнай песняй маленькі шэры камячок, змыкаючы прастору былога і цяперашняга адным ружовым клубком.

Хаця не. Клубок цалкам завяршыцца не можа. Хтосьці з літаратараў сказаў разумна: учарашняе — гэта прастора, якая ўжо напоўнена сэнсамі, а цяперашнасць і будучыню складае прастора, якую сэнсамі напоўніць яшчэ толькі належыць. І вось я каторы год спрабую злучыць распушчаныя канцы клубка: узіраюся ў тры быкаўскія аўтографы — два лісты і навагоднюю віншавальную паштоўку — з далёкіх ужо сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, а згадкі пушыстымі шаўковымі спінкамі настойліва прыхінаюцца да шчакі. Узіраюся і думаю: іх насамрэч трэба напоўніць сэнсамі, звязваючы ў адно — былое і сённяшняе. Бо тры аўтографы мне яшчэ належыць перадаць захавальнікам пісьменніцкага архіва. Іх месца там. А пакуль яны жывуць са мной, як тры невядомыя і нерасказаныя імгненні жыцця пісьменніка Васіля Быкава, тры старонкі біяграфіі майго бацькі Жука Васіля Пятровіча ды тры

крокі маіх асабістых уваходжанняў у тэкст быкаўскага прысвячэння аповесці «Абеліск» — наогул адзінага выпадку прысвячэння ў творчай практыцы пісьменніка — незвычайна светламу чалавеку Міколу Арсеневічу Пашкевічу.

У Будславе мы жылі ў самым цэнтры, у адным з тых будынкаў, якія калісьці належалі знакамітай будслаўскай беларускай гімназіі. Пра гімназію ўжо ніхто амаль не ўспамінаў, — вядома ж, «за польскім часам»! А калі і ўспамінаў, то хіба толькі як анекдатычнымі выпадкамі пра звыклую заўсёдную вясковую завядзёнку — бойкамі паміж мясцовымі хлопцамі і «гімназістамі». У гэтым сэнсе Будслаў і сапраўды адмыслова вылучаўся з навакольных мястэчак. Казалі: «У Даўгінаве — абкрадуць, у Крывічах — абаб'юць, у Будславе — дададуць ды яшчэ й абгавораць». Традыцыя «дадаць» тут учэпістая. Захоўвалася яна крэпка, не тое што памяць пра гімназію, і мне добра было відаць з хатняга акна, як ледзь не кожны панядзелак местачковы сталяр рупліва латаў зеўры парканавых прагалінаў у плоце, што каля вясковага клуба, пасля чарговай суботняй танцавальнай вечарынкі. Парканіны тыя вымяралі моц і вынослівасць маладых задзірыстых хлапцовых спінаў, і цяпер дзядзька сталяр няспешна і самавіта падбіраў калы, раскіданыя навокал, прыжмурваючыся і прыкідваючы: перажывуць яны наступныя «танцы» ці пара адпраўляць на дровы.

Ад бернардзінскага касцёла, векавая слава якога зараз вядома, здаецца, ці не кожнаму, хата наша была захінута хіба што шапаткім ценем маладога, нядаўна пасаджанага кляновага парку. А фронтам перад намі паўставаў цэлы рад гандлёва-бытавых пабудоў. Тое было цывілізацыяй, і цывілізацыяй не абы-якой — выключнай, ганарлівай, шляхотна местачковай: «ларок» (павільёнчык са штодзённай драбязой ды прысмакамі), цырульня, КБА (камбінат бытавога абслугоўвання), «сельмаг», «жалезны» (так называлі магазін гаспадарчых тавараў), «культмаг», «чайная», «палатка» (быў такі дзіўны магазінчык, як цяпер сказалі б, «пакрокавай даступнасці»; працаваў ён толькі з самага ранку і толькі позна ўвечары для зручнасці рабочых другой змены). Далей туліўся кніжны магазін і, нарэшце, замыкаў гандлёвы рад цемнавата-змрочны квадрат прадуктовага магазіна, наскрозь прашыты нязменным саленаватым пахам падсушанай бачкавой камсы.

У цэнтры спыняліся рэйсавыя аўтобусы, заўсёды пыльныя, як потныя ад сваёй нялёгкай работы, і заўсёды гатовыя паламацца. Хто-кольвек з пасажыраў апошніх рэйсаў пастаянна рызыкаваў не даехаць да патрэбнага пункту прызначэння. І тады яны ішлі да жытла, на бліжэйшы аганёк — да нас. Бацька нікому не адмаўляў, і тое, што хтосьці незнаёмы калі-нікалі нясмела стукаўся ў хату, было ў сям'і звыклай справай.

Вось і гэты дробненькі, прабачлівы стук у дзверы не стаў вялікай нечаканасцю.

— Так-так, заходзьце, — бацька адрываецца ад капы сшыткаў са школьнымі сачыненнямі і чакальна глядзіць на дзверы.

Але за дзвярыма нязвыклая цішыня. Ніхто ўпоцемку сенцаў нават не шукае клямкі.

Стук паўтараецца зноўку, гэткі ж часты, як посып гароху, рытмічны, але больш працяглы і настойлівы: той, хто знадворку, мусіць, жартуе ці назнарок пацвельваецца.

— Коля, заходзь! — гэта ўжо мама радасна падае голас з кухні, таропка выціраючы рукі ручніком. Што ні кажы, а жанчыны, мабыць, маюць здольнасць матэрыю бачыць наскрозь — сэрцам бачыць. Бацькаў твар таксама святлее, здаецца, і ён здагадаўся, што за госць стаіць за парогам:

— Эйш-ш-ш, ты… Мікола?!

Дзверы расчыняюцца, і ў іх цёмным вечаровым праёме свеціцца на ўсю шырыню двух радоў роўненькіх, як падагнаных адзін да аднаго зубоў, прыязная ўсмешка Міколы Пашкевіча. Ён — з вячэрняга аўтобуса, прыехаў са Сватак, што кіламетраў за трыццаць адсюль.

І так бывала не раз. Як толькі Мікалай Арсеневіч з'яўляўся на парозе нашай хаты, нязменна асвятляючы прастору прамяністай ветлай усмешкай і сам нібы наскрозь адсвечваючыся ў гэтай жыццярадаснай адкрытай усмешцы, станавілася зразумелым: зараз у іх пачнуцца доўгія і задушэўныя бяседы, спаміж чаго гутарка абавязкова зойдзе і пра іх супольны і самы запаветны творчы праект пад назваю «Быкаў».

Успамін той ціхутка і бязважка ўспырхвае і адплывае некуды ўвысь, у бясхмарнае бялёсае неба — неба ўласнай маленькай радзімы. Той асабістай радзімы, якая складаецца з адухаўлення пражытага, што было толькі ў цябе аднаго і што ўжо, як ні намагайся, не паўтарыць. Яго не будзе — нідзе і ні ў кога не будзе. І толькі хіба праравецца адтуль срэбным жаўруком з-пад няісных бялёсых, як выцвілых ад часу, аблокаў. Праравецца і казытне душу падушачкамі каціных лапак, кампенсуючы настальгію па незваротнасці той дзіцячай адышоўшай радзімы, якая, па сутнасці, ужо сталася фактам адрэфлексаванай рэчаіснасці.

«*Шаноўны Васіль Пятровіч!*» — гэта і ёсць адтуль, з-пад бясхмарнага, з трэмалам жаўруковай песні, неба маёй асабістай бацькаўшчыны: запісаны на чыстым аркушы, але нідзе не агучаны голас Васіля Быкава. Звяртаўся Быкаў да бацькі такім чынам: «шаноўны» — не з дзяжурнага афіцыёзу. Узаемнае знаёмства іх, цёплае і прыязнае, трывала ўжо нямала часу. Колькі сябе памятаю, маральны культ Быкава існаваў у нашым доме пастаянна. І імя пісьменніка яшчэ з далёкіх шасцідзясятых (а паўстагоддзя, як ні круці, ці з боку індывідуальнага чалавечага лёсу, ці з боку агульнага гістарычнага руху — ладны прамежак часу) было нейкім сямейным імем. Яшчэ да Будслава. З тых жа Сватак мядзельскіх.

У вёсцы з дзіўнай — з адначасовым прысмакам першароднай цнатлівасці і здаровага жартоўнага вясельнага дзейства — назвай бацька настаўнічаў колькі год напачатку шасцідзясятых. Педагагічны калектыў мясцовай школы быў крэпкім, а галоўнае — надта інтэлігентным, з моцнай схільнасцю да гуманітарнага выхавання. Можа, тое было выпадковым, а можа, сама зямля, што падаравала ўжо літаратуры яркі талент Максіма Танка (ад Сватак да танкаўскай Пількаўшчыны — усяго нічога: нават камарык перамерае і не

стоміцца), усё яшчэ не супакоілася і разам з водарам залацістa-прагоністых стромкіх нарачанскіх соснаў няспынна працягвала вылучаць з сябе дух светланоснага жыццесцвярджэння. Настаўніцтва тут насамрэч было зайздросна творчым: чыталі, спявалі, вучылі, займаліся жывапісам — і ўсё выходзіла нібы без відавочнай натугі, лёгка, як само сабой, а галоўнае — прадуктыўна і не бясследна для выхаванцаў.

А Мікола Арсеневіч Пашкевіч, такі прыгожы і жыццялюбны, такі няўрымслівы і дзейсны, вылучаўся ў сваткаўскім настаўніцкім асяродку яшчэ і дадаткова — нястомнай энергетыкай дзейнасці і нескaнчонай прагай арыгінальнай выдумкі.

Нават і зараз, па ладным кавалку прамінулага часу, мне хочацца ідэальна рамантызаваць Міколу Арсеневіча, чаго я ніяк не саромеюся. Бо хто сказаў, што рамантычная праўда — гэта не зусім праўда, што гэта недарэчны і непрактычны каляровы падман? Не так яно задумана Сусветам. Усё ж гэта праўда, ды яшчэ якая — узвышаная, спаланяльная, гарачая. Як ад бліску знічкі, што толькі-толькі асляпляльна прамільгнула ў касмічнай цемені і тым разарвала яе непрабудную нерухомую застыгласць. І цэлы космас, ужо зыначаны і пераўтвораны сляпучым росчыркам, вымушаны глядзець на тую вогненную знічку, дзівячыся яе смелай панадрацыянальнай самаахвярнасці. Космас яшчэ доўга будзе трымцець і вагацца сваёй беспаветранай цёмнай глыбай і застываць няспешна, марудна, спакваля — у чаканні новага агністага следу. Ды абавязкова яшчэ і попелу. Бо добра вядома, што гісторыя беларускай духоўнай культуры не вельмі раскашуе выпадкамі шчаслівага завяршэння чалавечага лёсу. Хутчэй наадварот, беларуская ідэя надта ахвярапатрабавальная, пабудаваная часцей на ахвярадайнасці, чым на чаканай удзячнасці ад нашчадка. «Знічкі» тут запальваюцца слепа, гэта значыць — не ў сваім часе.

Мікола Арсеневіч ведаў тое з пэўнасцю і ў адным з лістоў да В. Быкава скрушна зазначаў: «…мы на Сотнікавых выхоўваем вучняў, але Рыбакі ў жыцці “перамагаюць”». Ведаў, ды кіраваўся імператывам іншай ісціны. Перад смерцю, такой нясцерпна дачаснаю (яму ішоў трыццаць шосты год), адчуваючы зусім ясна, што душа свой зямны шлях ужо адрабіла канчаткова, дарэшты і што нават мізэрнай надзеі на паратунак няма, ён пажадаў, каб прынеслі ў бальнічную палату сынаў фотаздымак. І надпісаў на адвароце выпакутаваны ўласным лёсам і сабой спасцігнуты імператыў веры: «О, колькі перад табою нераскрытых сакрэтаў у прыродзе, толькі дзярзай і спрабуй! Хай не палохаюць першыя няўдачы — першапраходцу заўсёды цяжка… Хай шлях твой будзе азораны любоўю да сваёй прафесіі!»

«Так жыць нельга, — калісь па-сяброўску журыла яго адна з калег па аспірантуры тагачаснага Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР. — Ты не згодзен, “шкраб”?..»

А як ён, «шкраб» («школьны работнік») Пашкевіч, мог быць згодным, калі ён не проста жыў — ён клікаў лёс, як ахвярнікі выклікаюць знішчальны агонь на сябе, не надта задумваючы над тым, што і кім зазываецца на спаборнасць: ім — лёс ці лёсам — ён? І ветлай раўназубай сонечнай усмешкай

скараў прастору — імкліва ішоў наперад: вучыў дзяцей, пісаў вершы, ладзіў творчыя сустрэчы, нават будаваў для ўсяе вёскі вадаправод (бо на цэлую вёсачку, дзе ён нарадзіўся, была толькі адна студня). Засталіся дзясяткі аркушыкаў чарнавых накідаў: вось развітальнае пажаданне вучням мінскай школы, да якіх ён студэнтам-практыкантам БДУ прыходзіў выкладаць родную мову і літаратуру; вось тэзісы розных выступленняў, ці то перад калгаснікамі, ці то на педсавеце, ці то на сходзе — і ўсюды з поўнай самаадачай; вось накіды ўступнага слова ў зборнік сваткаўскіх літгурткоўцаў «Маладая рунь»; вось канспект сустрэчы з М. Лыньковым, М. Танкам падчас іх адпачынку ў нарачанскай Купе; вось чарнавы рукапіс вялікага незакончанага апавядання. І такіх «вось» як паказальных кропак яго жыцця шмат. А калі Мікола Арсеневіч дазнаўся, што ў знакамітага івянецкага разьбяра па дрэве Апалінара Пупко бракуе для працы ліповых нарыхтовак, не палічыўся ні з часам, ні са сродкамі, наняў машыну і праз дзвесце з лішкам кіламетраў — свет няблізкі! — павёз тыя сваткаўскія ліповыя кругляκі ў Івянец. Апалінар Фларыянавіч, так мне здаецца, крануты быў не толькі патрэбным каштоўным матэрыялам, ён адчуў адразу большае — вялікасную роднасць душ: «Понять красоту, почувствовать и любить во всех её формах, — удзячна пісаў ён у адказ (тут захоўваецца мова, стыль і правапіс арыгіналу. — *І. Ж.*), — для этого надо иметь чуткую душу. Ведь у меня бывают иногда посетители, да и оружающие люди меня совершенно не понимают. Сидеть месяцами и вылепить или вырезать в дереве или изобразить кистью — карандашом что-либо — простая трата времени. Надо зарабатывать деньги. Вот их мысли. Они смотрят на меня как < на > человек<а> у которого не всё в голове в порядке».

Я асмельваюся прывесці гэтыя радкі з пісьма івянецкага майстра толькі зараз, калі, на жаль, ужо няма ў каго спытаць дазволу на іх прынародную маніфестацыю. Ёсць у мяне на тое сціплае апраўданне. Сусвет агульную хаду рэчаў вызначыў здавён: вытвараць і супрацьпастаўляць прагматычнаму разуменню ісціны рэдкія і яркія рамантычныя натуры, «мысли» якіх не заціскае просценькая грымаса эмпірыкі, маўляў, «надо зарабатывать деньги», і для якіх шырака і вольна расхінута натуральная для чалавечага праднаканавання задача: «понять красоту, почувствовать и любить во всех её формах».

Як жа тут проста і ясна, як чыста ўсё і светла! Мікола Арсеневіч выказаўся б любімым словам: хораша! А чытач хай ужо прымае рашэнне сам, дзе і ў чым тая ўсёабдоймная, рамантычная, глыбокая і не надта, яскравая праўда і ў каго насамрэч «не всё в голове в порядке». Хай па справядлівасці і сам разбіраецца, як яно заведзена пад гэтым вялікім купалам неба, дзе прызыўна і нескантона вагаецца нябачная сярэбраная нітачка жаўруковай трэлі.

Вернемся, аднак, да раскрытага намі быкаўскага пісьма.

«*Шаноўны Васіль Пятровіч!*

*Быў у ад'ездзе і таму не адразу адказваю на Ваша пісьмо, за якое Вам дзякуй, таксама як і за фотаздымкі Міколавай магілкі. Вядома, артыкул пра яго быў бы дарэчы*

*ў любой газеце, калі толькі якая ўзялася б яго надрукаваць. Але гэта апошняе дужа сумніцельна. Зрэшты, у такіх выпадках перш чым пісаць, трэба аб усім дамовіцца з рэдакцыяй, куды варта, мабыць, проста пазваніць.*

*Калі маеце магчымасць, калі ласка запрашаю ў Гродна ў любы час. Вядома, калі я бываю дома. Мабыць папярэдне трэба было б сазваніцца па тэлефоне, бо часта адлучаюся ў Мінск, Маскву і яшчэ туды-сюды.*

*З найлепшымі да Вас пажаданнямі і павагай*
*Васіль Быкаў*
*5 верасня 73 г.*»

Бацька даслаў тады В. Быкаву здымак толькі што ўстаноўленага надмагілля: на ссечаным промені мармуровай стэлы бронзавы барэльеф Міколы Пашкевіча і надпіс:

*Мікола Арсеневіч*
*Пашкевіч*
*1936–1972*
*Светлы след будзе вечна жывы…*

Пра аздобу помніка парупіліся шматлікія сябры, у тым ліку і краязнаўцы, гісторыкі і мастакі з мядзельска-маладзечанскага зямляцтва — Г. Каханоўскі, М. Чарняўскі, В. Шаранговіч. Але найпершы клопат і найважнейшы маральны абавязак станавіла цяпер патрэба парупіцца і пра памятнае слова — напісаць артыкул. Бацька звяртаўся да В. Быкава па падтрымку ў сутнасці ідэі і па параду, як яе ажыццявіць.

Чаму ў парадзе была значная неабходнасць? Здаецца, зараз я ведаю адказ: «адліга» скончылася, пасля яе цёплай і абнадзейвальнай хвалі надыходзіў час штылю, і ў гэтым падмарожаным застойным паветры, якое калі і ўскалыхвалася, дык хіба толькі апахаламі ўрачыстых транспарантаў ды партрэтаў партыйных дзеячаў, яркія і самабытныя падзвіжнікі, а тым больш падзвіжнікі роднага беларускага слова, былі не надта дарэчы. Вясковы настаўнік з Мядзельшчыны Васіль Жук і знаны беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, падобна, усведамлялі гэта з дастатковай ступенню крытычнасці. Вось Быкаў характэрна і агаворваецца наконт таго, ці возьмецца, ці асмеліцца якаянебудзь газета надрукаваць: «…гэта апошняе дужа сумніцельна».

Сумненне аказалася сурова прадбачлівым. Рэдакцыі, да якіх паступаў зварот, асцярожнічалі, і бацька нават прыкметна нерваваўся, раздражнёна пераказваючы аднолькавы, як затуплены з усіх канцоў ад шматкротнага выкарыстання, шаблон рэдакцыйных адказаў:

— Вось, чэрці паласатыя! — чамусьці ўся нячыстая сіла ўяўлялася яму ў такім, «паласатым», выглядзе; чаму так, Васіль Пятровіч ніколі не тлумачыў, і прымалася яно проста і звыкла, на веру. І, перакрыўляючы некага невідомага, дадаваў: — От, кажуць, каб гэта быў перадавік які, ударнік працы ці знатны брыгадзір, а так, падумаеш — дзіва: настаўнік…

Бацьку раздражняла ігнараванне вядучай думкі нарыса: каштоўнасць жа не ў самой прафесійнай занятасці чалавека, каштоўнасць у неацэнным і ўнікальным дары, якім да краёў быў напоўнены Пашкевіч, — у таленце жыць ярка. Можа быць, гэта і ёсць адзін з самых складаных і цяжка адаптавальных талентаў, што наогул дастаюцца чалавеку. Звычайна жыццё «пражываюць». Так нават і кажуць: «пражыў жыццё», «век пражыў»… І толькі рэдкія людзі здольныя годна несці падпісаны самой прыродай вялікасны талент, быць роўнавялікімі яму і няўхільна трымацца яго вышыні.

Быкаў жа — што значыць духоўная празорлівасць мастака! — паўнату разумення адразу выявіў. Атрымаўшы смутную вестку пра тое, што круг жыцця М. Пашкевіча завяршыўся, ён прыслаў у Будслаў кароткае і разам з тым надзвычай ёмістае, вычарпальнае сведчанне: «Вядома, цяпер такіх людзей мала, Мікалай Арсеньевіч сярод іх быў, мабыць, самы лепшы, самы самаадданы. Ну і вядома, лёс такіх самы трагічны. Відаць, тым, хто застаецца, трэба несці ў жыцці і іх частку. А несці трэба». Памятаецца, бацька часта цытаваў гэтае быкаўскае выказванне, знаходзячы яго бездакорным сутнасна. Цытаваў па памяці, бо сам ліст (так мне заўсёды думалася, а ўдакладніць своечасова неяк не даўмеўся) перадаў у Мядзельскі краязнаўчы музей для экспазіцыйнай старонкі Міколы Пашкевіча. І вось нядаўна, дзякуючы намаганням нястомнага шукальніка быкаўскіх крыніц Сяргея Шапрана, ліст гэты вярнуўся разам з трэцім нумарам часопіса «Дзеяслоў» за 2014 год.

Скарочаны варыянт нарыса ўсё ж паступова набываў друкаванае ўвасабленне — спачатку ў раённай газеце «Нарачанская зара». В. Быкаў адрэагаваў на публікацыю імгненна разам з віншаваннем у навагодняй паштоўцы:

*«Дарагі Васіль Пятровіч,*

*дзякуй Вам за пісьмо і за артыкул, я з задавальненнем прачытаў яго. Прыміце мае шчырыя Вам пажаданні з Новым, м. б. лепшым 1975 годам. Будзьце здаровыя і шчаслівыя. Прывітанне Сваткам і сваткаўцам.*

*Ваш В. Быкаў»*

І толькі пазней, ажно праз пяць з невялікім гадоў аўтарытэтны і папулярны часопіс «Маладосць» у вераснёўскай кніжцы за 1981 год цалкам надрукаваў нарыс «Сцежка застаецца людзям» за подпісам Васіля Жука, настаўніка, як там сказана, «Сваткаўскай школы». Апошняе было мілай агаворкай з боку маладосцеўскай рэдакцыі: мы к таму часу даўно жылі ў Будславе, але сваткаўская старонка жыцця і сапраўды ніколі не згасала на экране ўдзячнай сямейнай памяці.

А цяпер пра сам непрыезд.

Літаратурныя вечарыны і ў Сваткаўскай, і ў Будслаўскай школе ладзіліся вынаходліва. Іх годна падтрымлівала і цэнтральная школа раёна — мядзельская сярэдняя № 1. Тры нераўнадушныя, тры блізкія па духу настаўнікі — Мікола Пашкевіч, Васіль Жук, Канстанцін Каратай — за невялікі прамежак

часу кінулі ў нарачанскую зямлю ладнае каліва зацікаўленай прыхільнасці да беларускага мастацкага слова. І зямля прыняла тое з удзячнасцю.

Мяне часам не пакідае перакананне, што за ўсвядомленым асветніцкім, прапагандысцка-папулярызатарскім актам літаратурных сустрэч, якія яны ладзілі з імпэтным задзёрам, хавалася ці не гэткае ж усвядомленае перакананне: калі ніводны значны творца не падобны адзін да другога, значыць, і спосаб знаёмства з ім, расказ пра кожнага павінен быць адмысловым. І яны ўкладваліся ў арганізацыю літаратурных вечароў і сустрэч з беларускімі пісьменнікамі цалкам і без астатку.

Мікола Пашкевіч тут іграў, вядома ж, першую скрыпку. Іван Навуменка, Ніл Гілевіч, Язэп Семяжон, Рыгор Барадулін, Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша, Генадзь Бураўкін, Мікола Аўрамчык — вось наўскід не поўны пералік тых майстроў слова, хто завадной энергіяй М. Пашкевіча змог пабываць у Сваткаўскай школе толькі ўсяго ў першай палове шасцідзясятых. Прыезд Васіля Быкава склаў асаблівы гонар Пашкевіча; у яго дзённікавых запісах найважнейшай падзеяй пазначана: «29 красавіка 1971 г. у чацвер наведаў нашую Сваткаўскую школу В. Быкаў»

Каб акунуцца ў атмасферу тых імправізаваных літаратурных вечароў-сустрэч, варта расхінуць «часаў шаты» і прайсціся па Сватках паўвекавой даўнасці.

«Гасцінна расчыніліся дзверы клуба. І скрозь жывы людскі калідор на сцэну выходзяць госці пад дружныя прывітальныя воплескі прысутных. Барыс Сцяпанавіч Пястун, дырэктар школы, кароткім словам прывітаў пісьменнікаў і перадаў ход афіцыйнай часткі Алегу Антонавічу Лойку, які даходліва, проста і зразумела, хоць дзе з вясёлым гумарком, расказаў гісторыю развіцця роднай мовы і літаратуры, вытокі іх зараджэння. Потым у лёгкай жартаўлівай форме даў кароценькую характарыстыку з цікавымі жыццёвымі прыгодамі кожнаму са сваіх сяброў.

Першым выступіў Я. І. Семяжон, які, зноўку ў іранічным тактоўным тоне, адрэкамендаваў нам весельчака і гумарыста А. А. Лойку і прачытаў некалькі сваіх перакладаў з англійскай, нямецкай, французскай, індыйскай ды іншых моў.

Пасля другога выступлення было аб’яўлена, што гасцей прыйшлі вітаць піянеры нашай школы. <…> Паэты і ўсе прысутныя ў зале часта перапынялі вітанне піянераў бурнымі апладысментамі. Святочнасць, адкрытасць, шчырасць і душэўнасць адчувалася на працягу ўсяго вечара.

Была аформлена выстаўка твораў пісьменнікаў, праводзілася латарэя, у час якой паэты выйграныя кнігі падпісвалі і астаўлялі ў фонд школьнай бібліятэкі. У час конкурсу мастацкага чытання вучні атрымлівалі кнігі з аўтографамі ад саміх аўтараў. У кожнага вучня было па зборніку аднаго ці двух аўтараў, і ўсе атрымалі аўтографы. Госці ахвотна спявалі, танцавалі, разам з вучнямі нават гулялі ў “Ручаёк”. Вальсы часта перапыняліся так званым “калясом”, што дазваляла кожнаму патанцаваць з паэтам. <…> Многа смеху нарабіла полька “Енька”, так як некаторыя ўпершыню яе танцавалі.

Назаўтра вучні актыўна сабраліся праводзіць гасцей дадому. <…> Нават калгаснікі, ідучы на працу, неслі кнігі аўтараў, з якімі пазнаёміліся на вечары, чыталі іх творы…»

«Дакументы хлусяць, як людзі», — падобна, Юры Тынянаў не заўсёды меў рацыю. Яго афарыстычны парадокс не пра наш выпадак. Сціпленькая, цаною ў шэсць савецкіх капеек кніжачка «З вопыту работы літаратурнага гуртка Сваткаўскай школы Мядзельскага раёна», адкуль узята прыведзеная вышэй разгорнутая вытрымка, і праз паўстагоддзя пасля выхаду захавала водсвет і непаўторны водар тагачасных сваткаўскіх сустрэч. Бо створана яна не толькі як «дакумент». Створана яна гарачым перакананнем: звычайнага занятага чалавека мала далучыць да чытання, да кнігі. Трэба да яго наблізіць яшчэ і творчую свядомасць, гэта значыць, наблізіць таго, хто гэтую кнігу стварыў — аўтара, пісьменніка. Скарочаная да задушэўнасці дыстанцыя, — была ўпэўненасць у сваткаўскіх энтузіястаў, — дасць лепшы плён у прапагандзе роднага слова.

Дзіцячае вока памятлівае, і яно як сфатаграфавала: раніца, сваткаўцы, і стосікі кніжак у іх пад пахай.

Нешта падобнае адбывалася і ў Будслаўскай школе. Знаныя пісьменнікі бывалі тут частымі гасцямі. У планах, вядома ж, адмысловым чынам значыўся і В.Быкаў.

Пра тое, як не проста было атрымаць згоду пісьменніка на літаратурныя спатканні, Васіль Жук распавёў у «Дзеяслове» (№ 2 за 2005 год) праз публікацыю пісем Васіля Быкава таго ж Міколы Пашкевіча. Гэтая эпісталярная, а па сутнасці дакументальная гісторыя паказальным чынам пацвярджала: каб дамагчыся высакароднай мэты, не варта абыходзіць бокам непамысныя абставіны, аднак жа, каб, у сваю чаргу, мець права на падобную настойлівасць, трэба абапірацца на шчырую і самаадданую любоў да мастацкага слова. А таму і сам, пасля ўжо смерці сябра, ішоў выпрабаваным нялёгкім шляхам. Ліставаўся, тэлефанаваў, запрашаў, пакуль нарэшце згода не была атрымана. І нават умоўлена дата: 20 мая 1973 года.

Гісторыя перапіскі з Быкавым налічвае не малы часавы прамежак. Разбіраючы паперы, якія засталіся ў Васіля Пятровіча, я сутыкнуўся з пустым канверцікам, высланым Васілём Быкавым яшчэ са старога гродзенскага адраса: Гродна — 23, вул. А. Кашавога, д. 28, кв. 20. Паштовы штэмпель паведамляў, што гродзенскае паштовае аддзяленне прыняло канверт з пісьмом у сваю «вытворчасць» 17 снежня 1971 года, гэта значыць, амаль за два гады да вызначанай даты сустрэчы. На жаль, канкрэтна ўзнавіць змест лістоў пакуль што не ўдаецца, але, мяркуючы па агульным кантэксце іх тагачасных узаемаадносін, гаворка несумненна вялася пра перспектывы чарговай літаратурнай сустрэчы з Быкавым на Мядзельшчыне. На гэты раз каб абавязкова ў Будславе. Каля двух год, як паказваюць даты, працягвалася падрыхтоўка і шукалася магчымасць спраўдзіць задуманае. Але адшукаць у шчыльным асабістым графіку пісьменніка патрэбную фортку на гэты раз аказвалася справай невырашальнай.

Быкаў адказвае з адчуваннем некаторай няёмкасці, перапрашаючы:

*«Дарагі Васіль Пятровіч!*
*Дзякуй за запрашэнне, але 20 мая прыехаць я не змагу — увесь май дужа заняты адной тэрміновай працай, якую ўжо спадзяюся здаць. Можа, калі-небудзь у другі раз.*
*Жадаю Вам усяго самага найлепшага.*
*Будзьце здаровы.*
*З павагай*
*В. Быкаў*
*20.VI.73 г.»*

Так («калі-небудзь у другі раз») яно не склалася. Не тое што прыехаць — нават сустрэцца і пабачыцца больш па жыцці не склалася. І засталася гэтая чалавечая вінаватасць за непрыезд туды, дзе гасцінна, шчыра чакалі. З мноства быкаўскіх дарог гэтая аказалася не пройдзенай.

Існуе старажытная грэцкая легенда: дзяўчына, развітваючыся са сваім каханым, які выпраўляўся ў ваенны паход, папрасіла свайго абранніка прыхінуцца да скалы і вугалем абмалявала яго контур. Так лягчэй пераносіць ростань.

Нешта панадчасавае, глыбока інтымнае і разам з тым усёабдымна чалавечае ёсць гэтай кранальнай гісторыі. Мы і насамрэч часта прытуляемся да скалы сваёй памяці, адшукваючы надта значныя біяграфічныя крэскі-рыскі жыццёвай прасторы. І чым цяжэй на душы або чым далей крочым у жыццё, тым бліжэй хочацца быць да «малюнка» з так дарагім і блізкім контурам.

Вось і я прыхінаюся да Гародні як да сваёй «скалы». Часта падлоўліваю сябе на думцы: Гродна — скрозь быкаўскае места. І ў гарадскі воблік узіраюся прысутнасцю Васіля Быкава: вось тут ён бываў, вось гэта ён бачыў, старыя гродзенскія клёны яшчэ чуюць рэха яго крокаў, а стромкія нёманскія берагі памятаюць бег яго шпаркай маторнай лодкі. І недзе ў высокім бялёса-бясхмарным паднеб'і яго жаўрук няўпынна снуе так знаёмую срэбную нітачку вітальнай песні. Дый паветра тут настоена на значнасці яго асобы. І на прыватным прызнанні Быкава, чутым у прыгожым і незлапомным дзяцінстве. Здаецца, усё ад таго ж Міколы Пашкевіча: той, хто ў Гародні не бываў, чагосьці беларускага не зразумеў і ў душу не прапусціў.

І калі еду дадому, у Будслаў, я нібыта еду акурат тым шляхам, які не спраўдзілася прайсці Васілю Быкаву. Тут самая даступная і самая зручная дарога, якая, паміж іншага, злучае мае дзве беларускія «скалы»: бацькоўскую, будслаўскую, і духоўную, гродзенскую. Па гэтым шляху несупынна вандруюць са мной і ўспаміны-згадкі — як запозненае далучэнне да лёсу адной няздзейсненай гарадзенска-будслаўскай гісторыі.

А гэтым годам адкрылася дзіўная рэч: за Маладзечнам дарожныя службы з нейкай добрай прычыны памянялі змест указальнікаў, што фармавалі віцебскі напрамак. Раней указальнікі трымаліся розных арыенціраў руху:

на Барысаў, Бягомль, Зембін, Докшыцы, Полацк. На Полацк іх было найбольш, і трапляліся ў поле зроку найчасцей. Цяпер жа, акурат у год адыходу з зямнога прастору яшчэ аднаго знакамітага быкаўскага земляка вушачца Рыгора Барадуліна, пераважаў указальнік толькі адной указальнай знакавасці: «Ушачы».. «Ушачы»… «Ушачы»… Тое было дзіўным! Усе шляхі кіраваліся да адной кропкі. І нават падумалася: вось найкарацейшы шлях, што на сваім асфальтавым каромысле натруджана трымае «грузы» двух безумоўна важных для беларускай духоўна-культурнай самасці пунктаў: Гродна і Вушачаў. Дарога-«быкаўка».

І зараз я еду па ёй. Ад Быкава еду да Быкава

А над усім — крохкім срэбным абярэгам — чыстая няспынная паднебная трэлька жаўрука.



нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Зані Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру. З 1982 года працуе на кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Янкі Купалы. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Сустрэчны рух», «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання», калектыўнай манаграфіі «Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя», шэрагу артыкулаў па пытаннях развіцця нацыянальнай літаратуры. Сябра СБП.



АЛЯКСЕЙ ПЯТКЕВІЧ

# Побач з Васілём Быкавым

Прыехаў я на працу ў Гродзенскі педінстытут у 1957 годзе, але з Васілём Быкавым сустрэўся не хутка. Ён быў не з тых, што лёгка і проста ідуць на кантакт, каго спаткаць можна ва ўсякім кампанейскім ці выпадковым гурце. В. Быкаў, наадварот, цураўся ўсякіх тусовак, нечаканых знаёмстваў, быў негаваркім, замкнутым. Ды і я, прызнацца, нялёгка сходжуся з людзьмі. І калі ў чарговы свой прыезд у Мінск (а прыязджаць у сталіцу хацелася зноў і зноў: прыкіпеў да яе душою за восем гадоў вучобы) сустрэў на вуліцы Міколу Арочку і той спытаў: «Ну, як там Карпюк і Быкаў?», мне не было чаго сказаць. Ні тога, ні другога не ведаў. І толькі калі быў апублікаваны першы значны твор В. Быкава, аповесць «Жураўліны крык» («Маладосць». 1960. № 2), з'явілася сур'ёзная нагода, каб звярнуцца да аўтара і запрасіць на сустрэчу з чытачамі-студэнтамі. Сабраліся мы тады чамусьці не ў інстытуцкай аўдыторыі, як рабілі гэта кожны раз пасля, калі клікалі В. Быкава, а ў невялікай чытальнай зале дома Э. Ажэшкі. Пісьменнік не заняў месца побач са мною, перад чытачамі, а сціпла прысеў збоку, у адным радзе са студэнтамі. Я прыглядаўся да асобы, пра якую пачыналі ўжо гаварыць. Запомнілася моцная танклявая фігура, спраўны колеру хакі кіцель (называлі іх англійскімі), у такіх тады яшчэ хадзілі. Светла-рудаватая чупрына, зачасаная набок, пахмурны, строгі выраз твару. Госць дастаў з кішэні невялічкі блакнот, у якім штосьці занатоўваў падчас выступленняў студэнтаў, што дзяліліся думкамі пра твор. Пазней, калі прыходзіў на такія абмеркаванні, ужо не рабіў ніякіх запісаў, а сядзеў заўсёды моўчкі і слухаў. Толькі ў канцы агульнай размовы выступаў і выказваўся пра сваю задуму, пра тое, што пачуў ад студэнтаў, адказваў на пытанні.

Трэба сказаць, што гэтыя заключныя выступленні В. Быкава былі заўсёды вельмі цікавымі. Гаварыў ён, праўда, не надта складна — марудзіў, рабіў паўзы, падбіраючы словы, інтанацыя была даволі манатоннай. Але затое якія глыбокія і неардынарныя думкі выказваў, як нечакана ставіўся ў той ці іншай сітуацыі да жыцця і чалавека. Адразу было бачна, што гэта вялікі мастак са сваім арыгінальным успрыманнем свету. Для студэнтаў, прынамсі, яго, Быкава, слова на тых абмеркаваннях было сапраўднай школай маральна-грамадзянскага выхавання.

Тады ж, калі вялі размову пра «Жураўліны крык», таксама гаварыў цікава, падкрэсліваў, што вельмі важна выпрацоўваць уласную думку, зазначаў, што пра вайну яшчэ трэба пісаць і пісаць, каб зразумець прыроду чалавека і сучаснае жыццё. Рашуча падтрымаў студэнта, які ўсяляк бараніў «адмоўнага» героя з гэтай аповесці — Пшанічнага. Той студэнт — Павел Дубок — напісаў пазней у мяне ў семінарах дзве добрыя навуковыя работы па творчасці В. Быкава, і мы з ім, калі скончыў інстытут, шмат гадоў сябравалі.

Пасля той першай сустрэчы з В. Быкавым абмяркоўвалася ў педінстытуце яго кожная новая аповесць. Мне даводзілася арганізоўваць гэтыя акцыі, і ведаю, з якой прыемнасцю студэнты да іх рыхтаваліся і чакалі іх. Прыходзілі і выкладчыкі. Часам В. Быкаў вымушаны быў тэрмінова выехаць з Гродна, і абмеркаванне тады адбывалася без удзелу аўтара. Але тым не менш праходзіла заўсёды на адным дыханні. Нярэдка завязваліся бурныя дыскусіі. Такі вось напал пачуццяў узнік, калі разглядалі аповесць «Сотнікаў». В. Быкаў прысутнічаў. Спрэчкі тады зацягнуліся. Найбольш выказваліся пра такога персанажа, як Рыбак, і звязаную з ім ідэйную канцэпцыю твора. Большасць асуджала Рыбака як чалавека, які не вытрымаў выпрабаванняў і скаціўся да здрады. Гэтую думку ўсяляк абгрунтоўвалі выкладчыкі кафедры рускай літаратуры К. В. Асокіна і В. П. Барцэвіч. А старэйшы выкладчык кафедры гісторыі КПСС М. Ц. Перальмутар нават у запале сарваўся на высокую ноту: «Мы такіх шашкамі рубалі ў грамадзянскую вайну» (хаця наўрад ці трымаў ён калі шашку ў руках). Адна са студэнтак выказала процілеглую думку, баронячы героя аповесці і сцвярджаючы, што ён без віны вінаваты. Я падтрымаў і развіў гэтае меркаванне. Даказваў, што Рыбак — ахвяра сістэмы, якая яго нарадзіла. Ён не змог у крытычную часіну палону прыняць правільнае рашэнне, бо жыццё не вучыла яго дзейнічаць самастойна ў адказных абставінах. Ён не быў асобаю і наіўна палічыў, што зможа перахітрыць ворага, згадзіўшыся перайсці на яго бок. Хаця добра ваяваў у партызанах і не выпадкова быў пасланы на адказнае заданне.

В. Быкаў, як заўсёды, выступаў апошнім. Гаварыў аб тым, што на вайне вельмі добра раскрывалася рэальная сутнасць чалавека, што тое жыццё дае важныя ўрокі сучаснікам, што сумленнасць і годнасць заўсёды застаюцца найвышэйшымі каштоўнасцямі. Калі спыталі, чыю пазіцыю ў спрэчцы ён прымае, адказаў, што найбліжэй яму мая, хаця, калі пісаў, пра гэта не думаў.

Неўзабаве пасля таго абмеркавання я неяк спаткаў В. Быкава і адразу напомніў пра спрэчку наконт Рыбака. Кажу: помніце, К. Асокіна запярэчыла мне і сказала, што ўсё ж Рыбак закончаны нягоднік, падмацаваўшы гэта эпізодам з твора, дзе ён падлеткам змаладушнічаў, з-за чаго перавярнуўся воз са снапамі і дзецьмі, што сядзелі наверсе. Кажу, гэта сітуацыя сапраўды працуе на ачарненне Рыбака. Значыць, яна нелагічная ў кантэксце аповесці. В. Быкаў маўчаў, цярпліва выслухоўваючы мяне, і ніяк не выдаў свае згоды ці нязгоды. Але, калі аповесць увайшла ў двухтомнік (1974), стала бачна, што пісьменнік перапрацаваў эпізод з Рыбаком-падлеткам, які ў новай рэдакцыі праяўляе сапраўдную мужнасць, прыкладае ўсе свае юныя сілы і не дапускае падзення воза. Гэта сведчыць, што В. Быкаў лічыўся са старонняй думкай, хаця вельмі раўніва ставіўся да ўласнага тэксту, як і ўсякі сапраўдны мастак слова. Увогуле то я не рашаўся рабіць яму нейкія заўвагі як пісьменніку. Тым больш, што ўсё мне ў яго творчасці падабалася. Хаця пра літаратуру гаварылі мы, бывала, нямала. Больш, праўда, гаварыў ён, я пераважна слухаў. Сяды-тады раіў яму паправіць тое ці іншае слова або сказ. Часам згаджаўся. Было, што аповесць «Абеліск» у «Маладосці» я, чытаючы, моцна пакрэсліў,

найбольш выдзяляючы моўна-стылістычныя элементы кніжнага тыпу. Рабіў гэта для сябе. Пасля падумаў: а можа, Васілю Уладзіміравічу аддаць? Аддаў. Ён падзякаваў, падалося, зусім не фармальна. А што з маіх заўвагаў улічыў, не ведаю.

Мова давалася яму не лёгка. Не раз гаварыў, што пісаць па-беларуску пра жыццё на вайне, дзе выпрацаваўся досыць устойлівы рускамоўны лад маўлення, надта складана. Але інакш пісаць не мог. Ён любіў родную мову і шанаваў яе. Ды на пачатку свайго жыцця ў Гродне беларускім словам карыстаўся не так і часта. Дома, дзе жонка і дзеці гаварылі па-руску, беларускай мове месца амаль не было. Яго сябра, рускі паэт і музычны педагог, з якім В. Быкаў любіў бавіць рэдкія ў яго вольныя часіны (часцей на лодках па Нёмане), таксама не мог дадаць пісьменніку беларускага маўлення.

Ды і ўвогуле наш тагачасны літаратурны аўтарытэт лічыў, што нацыянальная ідэя павінна быць падпарадкавана сацыяльнай, і беларускасць — не самае галоўнае («бо прыйдзе матрос і заявіць: «Караул устал»). Мы ж, маладзейшыя літаратары-гродзенцы, думалі інакш. Гэта В. Быкаў ведаў. І на сваёй кніжцы «Адна ноч» зрабіў такі вось подпіс для мяне: «Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу, чалавеку выключнай беларускасці і знаўцу літаратуры з удзячнасцю і дружбай. В. Быкаў. 29/X-65». Але чаму «выключная беларускасць»? Яна была зусім звычайнай. Мы былі ўпэўнены, што беларускі патрыятызм — гэта тая чалавечая якасць, без якой нельга ўявіць інтэлігента, тым больш літаратара. Прынамсі, Д. Бічэль і я (можна лічыць і Л. Геніюш, А. Белакоза, хаця іх стасункі з Быкавым былі эпізадычнымі) няспынна «выхоўвалі» В. Быкава ў гэтых адносінах, ушчувалі за тое, што вельмі непаслядоўна трымаецца беларускай мовы. Помню, не раз бывала так. Сустракаю на вуліцы і адразу пачынаю такую гаворку: «Ну, што? Зноў выступалі на заводзе па-руску?» Маўчыць, апусціўшы вочы. А то пачынае апраўдвацца: «Ну, ведаеце, там жа спецыфічная аўдыторыя…» Якая, кажу, спецыфічная? Учарашнія вяскоўцы. А вы ж — беларускі пісьменнік. Як жа вы так можаце? На вас жа людзі глядзяць. І гэтак далей. Вядома, такія папрокі В. Быкаву не падабаліся. Гэта не перашкаджала нашым добрым адносінам. Але ці сталі мы сябрамі? Ці не стаяла паміж намі гэта мая прыдзірлівая патрабавальнасць да яго? Здаецца, не. Тым больш, што Васіль Уладзіміравіч паступова, не без нашага, пэўна, уздзеяння, стаў перакананым прыхільнікам нацыянальнага адраджэння. І на сустрэчы з чытачамі пачаў браць ужо мяне, каб папярэдне яго прадстаўляў. Так яму было зручней. З такіх сустрэч асабліва запомнілася тая, што прайшла ў мединстытуце, дзе выкладчыкі і студэнты доўга яго не адпускалі.

Варта тут прывесці і іншыя яго аўтографы, якія штосьці гавораць пра нашыя адносіны. На тытуле «Альпійскай балады»: «Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу, аднадумцу і сябру. Са шчырасцю. В. Быкаў. 29.X-64». На зборніку «Жураўліны крык»: «Шаноўнаму Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу са шчырасцю і павагай. Васіль Быкаў. 23/XI-65». На зборніку «Аповесці»: «Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу з вялікай удзячнасцю і павагай. В. Быкаў. 14/XI-69».

На кнізе «Альпійская балада» ў перакладзе на польскую мову: «А. М. Пяткевічу са шчырасцю і ў знак дружбы. В. Быкаў. 25/VII-70». На зборніку «Сотнікаў. Абеліск. Аповесці»: «Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу са шчырасцю і найлепшымі пажаданнямі на яго ніве. Васіль Быкаў. 21.XI.73».

Мы з ім некалькі разоў ездзілі ў суседнія Друскенікі, дзе спыняліся адпачыць ці падлячыцца пісьменнікі з Мінска. Ездзілі, у прыватнасці, адведаць Янку Брыля, Алеся Адамовіча, Рыгора Бярозкіна і інш. Быкаў браў таксі (каштавала тады нядорага), і мы ўдваіх выпраўляліся на сустрэчу. Паклікаў ён аднойчы А. Карпюка, але той саркастычна адмовіўся: «Чаго ехаць? Языкамі мянціць ды гарэлку піць?» А Васіль Уладзіміравіч любіў, калі збіраліся блізкія па духу людзі. І чарку ў такіх кампаніях піў ахвотна, ніколі не п’янеючы. Па дарозе на Друскенікі быў у добрым настроі, распавядаў розныя гісторыі з мінскага ці маскоўскага літаратурнага жыцця. У Друскеніках звычайна затрымліваліся доўга, гулялі па ваколіцах. Атмасфера была сяброўская і сардэчная, шмат гутарылі пра літаратуру. Аднойчы завязалася вострая спрэчка пра У. Маякоўскага. Было гэта ў санаторным нумары Р. Бярозкіна. Быкаў ніяк не хацеў прызнаваць Маякоўскага паэтам. Мы з Рыгорам Саламонавічам прыводзілі мноства сваіх аргументаў, гаварылі пра мастацкае наватарства, выключную тэхніку верша, вострае чуццё паэтычнага слова ў гэтага творцы. Але пераканаць В. Быкава не змаглі.

Увогуле то мы з В. Быкавым не так і часта бывалі ўдваіх. Я, як правіла, яму не тэлефанаваў, каб, крый Божа, не перашкодзіць у працы за пісьмовым сталом. Здаецца, толькі аднойчы патрывожыў па тэлефоне. Было яго 50-годдзе. Я быў тады ў апале і не мог арганізоўваць нейкую ўрачыстасць у педінстытуце. Таму падрыхтаваў толькі віншавальны адрас ад інстытута, падпісаў яго ў рэктара. Трэба было перадаць папку юбіляру. Патэлефанаваў. Сустрэліся на Савецкай плошчы. В. Быкаў узяў тую папку пад паху, і мы паволі пайшлі ўніз па вул. Маставой, затым па Падольнай выйшлі да Нёмана. Доўга сядзелі каля кустоў на беразе, і Васіль Уладзіміравіч распавядаў пра драматычныя перыпетыі друкавання сваіх твораў, пра жорсткі маральна-палітычны прэс, якім партыя ціснe на літаратуру. Пазней, калі прачытаў кнігу-подзвіг Сяргея Шапрана «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», многае з таго, што прыгадваў тады пісьменнік, высветлілася ва ўсёй паўнаце і дакладнасці.

В. Быкаў таксама рэдка мне тэлефанаваў. Было гэта, помніцца, калі гродзенскага гісторыка Б. Клейна выключылі з партыі і звольнілі з працы. В. Быкаў тады сказаў па тэлефоне: «Трэба тэрмінова сустрэцца». Я хутка сабраўся. Спаткаліся чамусьці на вул. Сацыялістычнай. Я адразу ж спытаўся: за што так Клейна? Быкаў адказаў, што за нейкую сіяністцкую змову. Хвалявала, аднак, В. Быкава ў гэтым здарэнні найбольш тое, як масіравана і вынаходліва сачылі за Б. Клейнам і праслухоўвалі яго. Запісвалі размовы ў парку, рэстаране, на працы і нават ва ўласнай кватэры. Пераказваючы ўсё гэта мне, В. Быкаў быў разгублены і вельмі ўзрушаны. Такім я яго яшчэ ніколі не ба-

чыў. Мы шмат часу хадзілі тады па вуліцах. Адчувалася, што яму трэба выгаварыцца.

Гэтак жа неадкладна папрасіў зайсці летам 1970-га, калі яму разбілі акно ў кватэры. Жыў тады на цяперашняй В. Траецкай, побач з Домам народнай творчасці. Разбілі акно з вуліцы, відаць, кінуўшы каменем. І калі я зайшоў, Васіль Уладзіміравіч адразу ж падвёў і паказаў. Маўляў, гэта ж ужо выходзіць за ўсякія рамкі. Я тады не выказаў ніякага здзіўлення, стараўся яго супакоіць і гаварыў нешта наконт лагічнасці гэтага здарэння ў сістэме адносінаў да яго афіцыёзу. Надзея Андрэеўна парэзала памідораў, яшчэ чагосьці, і мы прыселі ўдваіх за сталом. Гаварылі ўжо спакойна і не толькі пра разбітую шыбу. Я тады звярнуў увагу на вялікую бібліятэку ў кватэры. На паліцах стаялі не толькі асобныя тамы вядомых пісьменнікаў, а і поўныя камплекты ўсесаюзных літаратурных часопісаў. Відаць, што гаспадар уважліва сачыў за навінамі літаратуры. Знаю, што ён увогуле многа чытаў. Напрыклад, чытаў і ў цягніку. Аднойчы ехалі мы разам у Мінск, і ён, заняўшы сваю верхнюю паліцу, адразу ж разгарнуў кнігу і доўга не адрываўся ад яе. Калі я спытаўся пра аўтара, В. Быкаў паказаў тытул. Я тады крыху здзівіўся, убачыўшы ў яго руках томік прозы Тадэвуша Ружэвіча ў рускім перакладзе. Што ж, В. Быкаў чытаў самых розных аўтараў.

Сустракаліся мы не раз у гасціннай кватэры Дануты Бічэль на вул. Паповіча. В. Быкаў і я — з жонкамі. Размовы бывалі працяглымі і шумнымі. Калі ж гаварыў В. Быкаў, мы ўсе сціхалі. І не толькі з-за павагі да нашага таленавітага калегі. Яго проста цікава было слухаць. Аднойчы, калі ішлі, не спяшаючыся, з такога застолля дадому — а гэта было пасля з'яўлення ў друку «Сотнікава» — я спытаў, ці чытаў ён «Рассказ о семи повешенных» Л. Андрэева. Мне чамусьці здавалася, што не без уздзеяння гэтага твора так глыбока паказаны перадсмяротны стан Сотнікава і Рыбака. В. Быкаў адказаў, што не чытаў. Мне стала не па сабе ад таго, што западозрыў яго ў такім літаратурным уплыве. Прайшоў час. В. Быкаў прачытаў згаданы твор Л. Андрэева. А наконт уплываў сказаў мне, што гэта нармальная рэч, што жыццё, у тым ліку мастацкае, міжвольна ўплывае на чалавека. І тут успамінаецца такі факт. У кінатэатры «Чырвоная зорка» ішла нейкая замежная стужка пра вязня турэмнай адзіночкі. Я прыйшоў паглядзець адзін: жонка ад такога фільма адмовілася. У зале ўбачыў В. Быкава, які таксама быў адзін. На працягу ўсяго мастацкага дзеяння герой-зняволены цярпліва і настойліва дзёўб сцяну камеры, каб вызваліцца, але належнага выніку не дамогся. Выходзячы па заканчэнні сеанса, мы тады яшчэ нешта сказалі адзін аднаму пра гэты страшны сюжэт. Прайшоў час. І калі з'явіўся зборнік В. Быкава «Сцяна» (1997), а ў ім аднайменнае апавяданне, адразу ўспомніўся той трагічны фільм і думка В. Быкава пра міжвольнае ўздзеянне на чалавека тых ці іншых жыццёвых сітуацый.

Даўно склалася досыць пашыранае ўяўленне пра В. Быкава як пра нейкага суровага аскета, панурага і нелюдзімага, дарэшты замкнутага ў сабе. Такое бачанне мае, вядома, пад сабою падставу. І ўсё ж хочацца сцвердзіць,

што быў ён розным. Любіў пагаманіць у нашым блізкім гродзенскім коле, пажартаваць, пасмяяцца. Колькі такіх было цёплых сяброўскіх сустрэч! Праўда, не заўсёды тут В. Быкаў упісваўся сваёй эмацыянальнай рэакцыяй у агульны настрой суразмоўцаў. Такое назіралася нярэдка. Аднойчы Ніл Гілевіч у адзін з сваіх прыездаў у Гродна чытаў у гурце мясцовых літаратараў свае гумарыстычныя вершаваныя апавяданні, напісаныя яшчэ ў маладосці. Меліся кудысьці ад'язджаць і пакуль бавілі час. Гілевіч — гумарыст выдатны, тонка адчувае эстэтыку народнага жарту. І ўсе смяяліся. Быкаў жа, як я заўважыў, сядзеў пахмурны. Або яшчэ. Пасля нейкай літаратурнай вечарыны ў нашым універсітэце, прысвечанай Якубу Коласу, я запрасіў пісьменнікаў да сябе. Акрамя В. Быкава, былі Ю. Голуб, А. Слесарэнка, Г. Куранёў з Масквы, М. Казачэнка з Украіны, яшчэ хтосьці. Пакуль жонка збірала на стол, гаманілі пра рознае. Нехта ўспомніў такі анекдот: «Як пазбавіцца ад мышэй, што завяліся ў хаце? Адказ: загнаць усіх пад шафу і хуценька адпілаваць ножкі шафы». Усе дружна засмяяліся. У Быкава ж — я скасіў вока на яго — не ўздрыгнуў ніводзін мускул на твары. Яшчэ быў выпадак. Недзе ў пачатку 70-х мяне спрабаваў завербаваць КДБ. Іх чалавек папрасіў зайсці ў гасцініцу «Нёман», дзе ў іх быў свой службовы нумар, і доўга ўгаворваў згадзіцца на «супрацоўніцтва», каб сачыць за гродзенскімі пісьменнікамі. Я, натуральна, не згадзіўся. Распавядаючы пра гэта В. Быкаву, спадзяваўся, што пачую ад яго нейкія словы ўхвалы на свой адрас. Ён жа нечакана разрагатаўся. Убачыўшы мой здзіўлены позірк, патлумачыў: «Не вы першы і, напэўна, не апошні». І дадаў, што яму яшчэ раней паведамілі пра такія ж прапановы ад КДБ В. Іпатава і Ю. Голуб.

Па характары ён быў цвёрдым і стойкім. Я ўпэўнены, што яго жыццёвыя прынцыпы склаліся найперш на аснове традыцыйнай народнай культуры, якая фарміравалася вякамі і ў якой маральнасць лічылася вышэйшай каштоўнасцю. Ён трымаўся гэтых прынцыпаў паслядоўна і ў творчасці, і ў стасунках з людзьмі. Помню, як я прынёс у «Гродненскую правду» сваю рэцэнзію на «Трэцюю ракету», папярэдне нічога не ўзгадніўшы (не меў яшчэ адпаведнага вопыту). У рэдакцыйным пакоі былі В. Быкаў і журналістка Ірына Міхайлаўна Суворава, якая пасля стала другой жонкай пісьменніка. Яна адразу ж узяла ініцыятыву ў свае рукі і заявіла, што рэцэнзію не возьмуць. Прычына? Быццам бы абяцаў напісаць пра гэтую аповесць вядомы літаратуразнавец Алесь Адамовіч. В. Быкаў запярэчыў — на А. Адамовіча не варта спадзявацца: ён рэдка калі піша рэцэнзіі, ён вельмі заняты чалавек, ды і наўрад ці захоча пісаць для абласной газеты. А мясцовыя літаратурна-крытычныя сілы, працягваў В. Быкаў, трэба ўсяляк падтрымліваць і мацаваць, на іх газета павінна абапірацца. І. Суворава не здавала свае пазіцыі і пачынала нервавацца, нават павышаць тон. В. Быкаў быў спакойны, гаварыў скупымі фразамі, але ўпэўнена. Ён мяне ўжо ведаў. Ды наўрад ці з-за асабістых адносінаў рашыў мяне падтрымаць. Проста знаў, што так лепш для газеты. Я стаяў, слухаў іх спрэчку і думаў, хто ж тут галоўны. Напэўна, яна, журналістка. Толькі перамог В. Быкаў. Рэцэнзія была надрукаваная. Тады, дарэчы,

ды і пазней нашая абласная газета шырока змяшчала на сваіх старонках водгукі аб творах літаратуры, музыкі, тэатра, выяўленчага мастацтва, і не толькі мясцовых аўтараў.

Б. Клейн у сваіх успамінах настойліва сцвярджае, што ў Гродне дзейнічала тады апазіцыйная «тройка»: ён — Быкаў — Карпюк. На мой погляд, гэта звычайны міф. Ні В. Быкаў, ні А. Карпюк ніколі не былі прыхільнікамі нейкіх груповак ці аб'яднанняў. Нават паводле ідэйных арыенціраў. І аднаму, і другому найбольш рупіла, каб уцячы ад усіх за свой пісьмовы стол, каб ніхто за гэтым сталом не перашкаджаў, не адрываў ад творчай працы. Б. Клейн жа няспынна патрабаваў збірацца, каб абмяркоўваць яго шматлікія праекты і архіўныя знаходкі. Цярплівы і карэктны В. Быкаў склікаў нас, і мы моўчкі слухалі выступленні Б. Клейна на тую ці іншую тэму. А дзе «тройка»? Магчыма, што зрэдку і размаўлялі ўтраіх, асабліва калі каціліся ганенні на А. Карпюка.

У Саюз пісьменнікаў СССР мяне «ўпіхнуў» у 1971 годзе В. Быкаў. Калі на прыёмнай камісіі Саюза Іван Паўлавіч Мележ па праву старшыні задаў мне паўжартам першае пытанне: «Ну што, Аляксей Міхайлавіч, як вы дайшлі да жыцця такога?», я адказаў: «Я не вінаваты. Гэта ўсё Быкаў». Сапраўды было так. Ён сказаў, каб я падрыхтаваў спіс сваіх літаратуразнаўчых публікацый. Я не надаў гэтаму асаблівага значэння: раз Быкаў гаворыць, значыць, трэба. У спісе тым было ўсяго каля трыццаці артыкулаў і рэцэнзій. Аднак гэта В. Быкава не спыніла. Ён напісаў мне рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў. Падказаў Дануце Бічэль зрабіць тое ж самае (хто трэці даў рэкамендацыю, не помню). І вось зусім нечакана для мяне атрымліваю паперу з Саюза пісьменнікаў, у якой — выклік на прыёмную камісію. Тады прыём у сябры пісьменніцкай арганізацыі быў вельмі строгім, і не ўсе прэтэндэнты праходзілі праз сіта тайнага галасавання, якое праводзілася двойчы. Я ж прайшоў і на прыёмнай камісіі, і на Прэзідыуме праўлення. Безумоўна, што спрацаваў тут аўтарытэт В. Быкава.

У канцы 1977 года ўжо сусветна вядомым пісьменнікам, які вырас тут, у Гродне, В. Быкаў пераязджае ў Мінск. Гэты пераезд быў успрыняты намі, гродзенскімі літаратарамі, вельмі балюча. І не таму, што В. Быкаў пакідаў Гродна. Драматызм сітуацыі быў у тым, што ён пакідаў Надзею Андрэеўну. Іх разрыў быў нібы гром сярод яснага неба. Цяжка было апомніцца. Мы вельмі любілі і шанавалі жонку В. Быкава. Яна была тым чалавекам, які змог стварыць Васілю Уладзіміравічу ўсе ўмовы для творчасці. Працуючы настаўніцай, вяла ўсю хатнюю гаспадарку і адна, па сутнасці, гадавала дзяцей. Прытым ніколі не дазваляла сабе ні словам, ні рухам выставіцца наперадзе В. Быкава, застаючыся за яго спіной. Была нязменна тактоўнай, сціплай, абаяльнай. Як жа мог Быкаў так абысціся з ёю, пражыўшы разам жыццё? Ён жа быў для нас эталонам сумленнасці. Мы, натуральна, абураліся, не хаваючы гэтых сваіх пачуццяў. Да Надзеі Андрэеўны стараліся праявіць у той цяжкі для яе час як найбольш увагі і падтрымкі. На юбілейным банкеце Аляксея Карпюка, што адбываўся ў 1980 годзе ў рэстаране «Беласток» з удзелам вы-

сокага абласнога і гарадскога начальства, Надзея Андрэеўна выглядала безабароннай. Мы з жонкай адразу папрасілі яе сесці з намі за сталом, імкнуліся разгаварыць. У танцавальных паўзах я ўвесь час запрашаў толькі Надзею Андрэеўну, пакідаючы жонку адну, і яна не крыўдзілася, разумела.

З В. Быкавым сустракаліся ўжо рэдка, звычайна ў перапынках на розных пісьменніцкіх сходах і нарадах, дзе заўсёды вакол яго ўтвараўся натоўп, і пагаварыць не выпадала. Часам прыязджаў ён у Гродна, каб спаткацца з сынам і яго сям'ёй. Гэтыя свае візіты ніяк не афішаваў і ніколі не тэлефанаваў. Толькі ў чэрвені 1994 года адбылася яго сустрэча са студэнтамі і выкладчыкамі ўніверсітэта імя Я. Купалы. Збіраліся ў актавай зале корпуса беларускай філалогіі. В. Быкава вяла ў будынак цэлая світа ўніверсітэцкага кіраўніцтва на чале з рэктарам Л.Ківачам. Я чакаў каля ўвахода ў актавую залу. Калі яны падняліся на пляцоўку другога паверха, В. Быкаў, убачыўшы мяне, паскорыў крок і раскінуў шырока рукі. Світа з усмешкамі на тварах адразу ж застыла на месцы і не рухалася, пакуль мы абдымаліся. Атрымалася трохі тэатральна, але ў мяне адлягло ад сэрца: значыць, В. Быкаў не змяніў добрых адносін да мяне. У зале яго адразу ж запрасілі на сцэну. Ён стаяў адзін і гаварыў пра становішча ў краіне, у літаратуры, у грамадскім руху. Гаварыў знешне спакойна і стрымана, але з прыкметнымі нотамі трывогі за будучыню Беларусі і яе культуры. Я, седзячы ў перапоўненай зале, глядзеў на яго і думаў: вось яна, да болю знаёмая постаць… Але нешта зусім новае з'явілася ў гэтай асобе. Роля выступоўца, аратара, якой заўсёды цураўся В. Быкаў, зараз як бы пасавала яму. Прынамсі, ён пачуваўся ў гэтай ролі зусім натуральна. На сцэне быў не толькі вялікі пісьменнік, але і беларускі лідар, нацыянальны ідэолаг, удумлівы палітык.

Больш у Гродне, які В. Быкаў так любіў, ён ужо не выходзіў на людзі. І «Гродненская правда», якая адвяла тады свайму пісьменніку цэлую газетную паласу, больш пра яго, здаецца, не пісала.

У Мінску да В. Быкава на вул. Танкавую забягаў некалькі разоў, і то па нейкай патрэбе. Ірыны Міхайлаўны дома не заставаў. Апошні раз быў у 1996 годзе. Мы тады нядоўга пасядзелі ў яго рабочым кабінеце. Крыху пагаварылі, пераскокваючы з аднаго на другое. Васіль Уладзіміравіч выглядаў панылым, нібы стомленым жыццём. Ненадоўга адлучыўшыся, прынёс кілішак каньяку і цукерку. Мяне тады ледзь не да слёз крануў гэты жэст. Як многа ім было сказана! У тым ліку і нешта сумна-развітальнае. Усяго два гады заставалася да іх з Ірынай Міхайлаўнай ад'езду за мяжу.

АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

# Згадкі пра паэта Юрыя Гуменюка

## У «Крызе»

Мастацкая галерэя «Крыга» ў Гародні — месца знакавае не толькі для мастакоў, але і для гарадзенскіх пісьменнікаў, музыкаў. Знаходзіцца ў самым цэнтры каралеўскага места, ля колішняга Рынкавага пляца. Гаспадыня Марыся Мацко ўмее сабраць прыязную сябрыну. Тут адбываюцца прэзентацыі новых кніг, розныя паэтычныя імпрэзы. Менавіта тут 3 студзеня 2013 года апошні раз чытаў свае вершы Юры Гумянюк. Чытаў як заўсёды — выразна, артыстычна, высока ўзняўшы руку з аддрукаванымі лістамі. І менавіта тут у дзень ягонага нараджэння 24 верасня 2013 года адбылася вечарына памяці паэта, прэзентацыя кнігі «Назаві мяне геніем».

## Ягоная таямніца

Прафесар Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч у сваім слове пра паэта (а ягонае слова заўсёды — узор красамоўства) падкрэсліў, што Юры быў чалавекам загадкавым, рэччу ў сабе. Яго паэзія — гэта таямніца, якую застаецца разгадваць. Гэта творчасць далёка не для ўсіх, адно для абраных. Ёй характэрна складаная вобразнасць. Нагадаў, як упершыню з'явіўся Юры на сходзе знакамітае «Паходні», як чытаў свае вершы, здзівіўшы прысутных незвычайнасцю паэтычнае мовы. А пачынаў пісаць па-руску. Нядзіўна: узгадоўваўся ў выключна рускамоўным асяродку, вучыўся ў рускамоўнай школе, затым на польска-рускім аддзяленні філалогіі. А стаў знакавай постаццю беларускай літаратуры, беларускай Гародні. Што таксама не дзіўна, бо канец 80-х — пачатак 90-х — гэта быў наш час, які падказаў юнаму паэту з прэтэнзіяй не меней як на геніяльнасць, што геніем у Краі можна стаць толькі ў ягонай духоўнай аўры, толькі ў ягонай мове. А яшчэ была не менш выразная арыентацыя на элітарнасць, нонканфармізм. Чаму таксама заўсёды спрыяла беларускасць. Сябрына, у якую трапіў малады творца, якраз такою і была.

## Вось табе «Паходня»…

Гэта ўжо са згадкі прафесара Ігара Васільевіча Жука, дэкана факультэта беларускай філалогіі і культуры (які быў факультэт!), актыўнага ўдзельніка тых, ужо гістарычных падзеяў. Выступаюць паэты: Юрка Голуб, Юрась Пацюпа, Юра Карэйва, Юра Камягін. А тут яшчэ і новае імя — Юры Гумянюк. Ігар Васільевіч, які ўмее надзвычай дасціпна рэагаваць на ўсялякія жыццёвыя праявы, выдае Міхасю Ткачову, заснавальніку і кіраўніку суполкі, шыкоўна зыначаны афарызм: «Вось табе, "Паходня", і Юр'еў дзень!..»

Парадуймася, шаноўныя, за нашу беларускую Гародню! Бо якое імя тут ні называю: і тых, хто чытаў вершы, і тых, хто іх слухаў, усё гэта — Імёны…

**На прэзентацыі «Першацвета»**

Пачатак 90-х. Мінск. Перапоўнены Дом літаратара. Часопіс для моладзі «Першацвет» толькі пачаў выходзіць. Алесь Масарэнка, галоўны рэдактар, ладзіць прэзентацыю. Адзін за адным на сцэну выходзяць выступоўцы. Усе радасна вітаюць новае выданне. Настрой захоплена-ўзнёслы. І тут з'яўляецца Юры Гумянюк. Юны дэндзі ў элегантным светлым касцюме, з шыкоўнаю блонд-фрызураю, быццам з вокладкі глямурнага часопіса. Трымае «Першацвет» зусім непашанотна, двума пальцамі. А гаварыць пачынае з непадробным абурэннем, з прэтэнзіяй да рэдакцыі: абражаны ягоны выключны эстэтычны густ. І колеры вокладкі безгустоўныя, зусім не стасуюцца між сабою, і дызайн нічога не варты. І наогул, куды Вы, шаноўны Алесь Герасімавіч, гледзіце? Вось мы ў Гародні і Полацку «Калосьсе» выдаваць збіраемся без усялякае дзяржаўнае падтрымкі. То гэта будзе Часопіс!..

У тым памятным мне эпізодзе ўвесь ён — Юры Гумянюк. Эстэт, нонканфарміст, смелая, годная Асоба. Мо крыху занадта задзірыстая.

Дызайн вокладкі «Першацвета», дарэчы, з наступнага нумара змянілі…

**«Назаві мяне геніем»**

Каб цябе ўшанавалі, каб зразумелі, каго мелі побач і якім незаменным ты быў, трэба памерці. І каб выйшла кніга, якая пры жыцці паэта яшчэ невядома калі б пабачыла свет. І каб назву яна займела такую, якая раней наўрад ці магла б з'явіцца на вокладцы. Кніга сталася падарункам паэту да дня яго народзінаў. Прызямліўся ў Гародні яе ўкладальнік Алесь Аркуш з блізкага далёказамежнага Беластока. Расказаў пра сваё шматгадовае сяброўства з паэтам, падрыхтоўку выдання, пра назву. Добрая назва. Мяркую, Юры быў бы задаволены. «*Давай, назаві мяне геніем / проста так, пасярод аўтастанцыі!*» — усклікнуў ён у сваёй іранічна-правакацыйнай манеры ў вершы, пазначаным датай 1 чэрвеня 2000 года. А чаму ж не? І хіба сапраўды не бачыцца ён творцам геніяльна-адметнага таленту? Ізноў жа, бачыцца больш выразна, чым у адведзеным яму лёсам зямным часе. Часткова пагодзімся і з Алесем Аркушам, які ў пасляслоўі да кнігі сцвярджае: «Юры Гумянюк — першы клясычны беларускі эўрапейскі паэт. І невыпадкова ён нарадзіўся, жыў і пісаў свае вершы ў Гародні — самым эўрапейскім горадзе Беларусі». Часткова, бо першым класічным беларускім еўрапейскім паэтам быў усё ж Багдановіч. Думка: «Юры Гумянюк — паэт наскрозь гарадзенскі», скразная і ў вельмі файнай прадмове такога ж наскрозь гарадзенскага паэта Анатоля Брусевіча. Зразумела, што выйшла кніга ў серыі «Гарадзенская бібліятэка». А на вокладцы — карціна гарадзенскага мастака Сяргея Грыневіча «Вежа». Вежы, замкі, лабірынты, лесвіцы — гэты вобразны шэраг трымаў у палоне героя

вершаў і іх аўтара. Згадваючы паэта, мастак гаварыў пра надзвычайную блізкасць Юры да мастацкае сябрыны.

Так, ён быў блізкім для многіх. Але заставаўся трагічна адзінокім. Блукаў па тых лабірынтах прывіднага замка, з якіх не здолеў знайсці выйсця.

**Ты як...**

Казаць кабеце камплімент, скажаце, проста? Адкажу — не. Развучыліся мужчыны рабіць гэта. Стандартнае «Ты сёння прыгожая» з варыянтамі ніколі не задаволіць яе. Юра ўмеў сказаць тое, што не рабіла мужчыну бездапаможным у вачох кабеты, што запаміналася. І гэта гучала цалкам натуральна з ягоных вуснаў, бо ён жыў у іншым часе, дзе шляхетныя манеры былі звычкай.

Прыходжу неяк зімою на кафедру. Уся такая — у мяхах, капелюшы. «Ты як дама з сярэбранага веку!» — гэта Юра заміж прывітання. Якая кабета не хацела б быць дамай сярэбранага веку?

Сустрэча сплінавым восеньскім днём у скверы Жылібера. Яшчэ не пазнаю Юру, а ўжо насустрач нясецца ягоны голас: «Ала, ты як пані з трыццатых гадоў!» Кажа мне гэта паэт з таго ж часу: у класічным чорным паліто і пад капелюшом. Ён вельмі любіў тыя гады. Пачуваўся там сваім. Дзякую, Юра, што і мяне там сустракаў.

**Каб прагучаў жаночы голас**

Кіраўнік Гарадзенскай філіі СБП Юрка Голуб вырашыў неяк рэанімаваць нашу суполку, сабраўшы праз некалькі гадоў. Нагода была: заміж Юркі мусіў быць абраны Юры. Але тое не сталася: не хапіла кворуму, і пытанне адышло само па сабе. Назаўсёды. Юра прыйшоў пры ўсім сваім парадзе. Касцюм у нейкіх бардовых колерах, адпаведная кашуля і ўсе аксесуары. Ён хацеў быць абраным. Пра тое спытала ў дзейнага старшыні, бо для мяне заўсёды вырашальным момантам у такіх выпадках з'яўляецца жаданне чалавека быць. Зразумела, калі тое «быць» не перайшло ўсе межы не толькі прыстойнасці, але і закону.

Тады Юра яшчэ супрацоўнічаў з Радыё «Рацыя». Рыхтаваў рэпартаж і пра гэтую сустрэчу. Узяў колькі інтэрв'ю, папрасіў мяне сказаць, дадаўшы: «Хачу, каб прагучаў жаночы голас». Была адзінай кабетай на тым сходзе. Бо засталося нас, кабетаў, у гарадзенскай філіі СБП да недарэчнасці мала. Усе перабеглі ў СПБ. А Данута Янаўна тады не прыйшла.

Мяркую зараз: мо тое абранне было б для Юры нейкаю повяззю з жыццём, што ўтрымала б яго, дзе ён змог бы рэалізаваць сябе. Бо магчымасці ж ёсць. Нават у плане супрацы з паэтамі іншых краінаў, перакладчыцкай творчасці. Толькі трэба рабіць гэта. Праўда, на грамадскіх пачатках. Напрыканцы быў ён зусім незапатрабаваным, адкінутым на ўскраек, на вельмі стромы бераг, на абрыў бездані.

**Мая падвойная катастрофа**

2 студзеня 2013 года. Абласны шпіталь. Уралагічнае аддзяленне. Сяджу на крэсле (вольнага ложка пакуль няма), чакаючы аперацыі. На чарзе я сёмая, апошняя. Не ведаю, ці адбудзецца. Папярэдзілі: магчыма, не хопіць лекаў для наркозу. Жахлівы стан. Званок Дануты Янаўны: «Ведаеш, што Юры Гуменюка не стала?» — ?!.

Распавяла. Спытала, ці прыйду на пахаванне. «На жаль, не. Я далёка…»

Мой боль, мой жах — нішто ў параўнанні з ягонай трагедыяй.

Мая катастрофа падвоілася.

Праз гадзіну павезлі. Ісці не дазволілі: нельга. Укол, які мусіў супакоіць, меў адваротны эфект: была як у трасцы.

Перад часоваю пазамежнасцю чытала Багдановічаў рандэль «На могілках». Памятаючы, што пазамежнасць Юры Гуменюка — ужо вечнасць.

**На вокладцы Ганнінай кнігі**

Маладая гарадзенская паэтка Ганна Аўчыннікава — аўтарка пакуль адзінае паэтычнае кнігі «Ад зачыненай брамы», што пабачыла свет у Гародні ў 2011 годзе.

Ад зачыненай брамы — матыў, які паэтка вызначыла галоўным. Ствараючы вокладку, мастак таксама імкнуўся па-свойму адлюстраваць яго. А тая сімвалічная постаць адзінокага чалавека на гарадзенскай вуліцы пад капелюшом у чорным паліто, пэўна, не адной мне нагадала постаць Юры Гуменюка, паэта, духоўна блізкага маладой аўтарцы.

**Якія яны незвычайныя!..**

10 кастрычніка 2002 года. Прэзентацыя кнігі «Верш на Свабоду» па адным з нашых адрасоў на вуліцы Будзённага. У «Ратушы». Ладзіць Сяргей Астраўцоў. Кожны аўтар гаворыць пра сваё разуменне свабоды, кожны чытае свой верш. Абменьваемся аўтографамі. Разыходзімся. Чакаю аўтобуса на прыпынку. Гляджу, як падыходзяць яны: Юрась Пацюпа, Юры Гумянюк, Едрусь Мазько. Гляджу з захапленнем: якія яны незвычайныя, таленавітыя, прыгожыя, элегантныя. Юры ў сваім знакамітым капелюшы і доўгім паліто. Не памятаю, пра што перамовіліся да прыходу аўтобуса. Але назаўсёды запомніла тое адчуванне гонару за нашу літаратурную Правінцыю, дзе так годна зберагаецца дух каралеўскага места. Хай сабе адзінкамі. Але гэтыя адзінкі — Асобы…

**На ўспамін**

Мой экзэмпляр свабодаўскага выдання «Верш на Свабоду» музейны. Бо ў часе прэзентацыі, думаючы пра вечнае, папрасіла аўтографы ў некаторых аўтараў. Юра таксама надпісаў: «Шаноўнай Але Петрушкевіч з нагоды прэзентацыі гэтае кніжкі на ўспамін пра Тутанхамона Гарадзенскага». Даволі

банальна — думалася тады. Што за такі, надта сур'ёзны, афіцыйны зварот да пані, ды і пра які ўспамін вялося? Жывем у адным горадзе, у адным часе. Толькі Тутанхамон Гарадзенскі ратаваў ягоную адметнасць…

Затое як зразумела зараз! Бо і сапраўды — застаўся ўспамін. Надоўга. Назаўсёды. Памятацца будзе толькі светлае. Бо і было яго больш чым дастаткова.

*P. S.* **З трыпціха «Па адляцелых птахах».**

**III**
**Па Юрыю Гуменюку**

Знікла змрочная лесвіца, клетка,
і не стала зямлі пад нагамі.
Захацеў узляцець да Неба,
толькі Неба заўжды над намі.

Выбраў свет праклятых паэтаў,
свет багемы, свабодных амураў,
заставацца хацеў эстэтам
у жыцці гэтым негламурным.

Ён адрокся ад справаў агідных,
перакрочыў здранцвенне і стому,
лабірынты замкаў прывідных
і зрабіў свой апошні перформанс.



# Хроніка

## «Назаві мяне геніем»

Паэт Анатоль Брусевіч павітаў прысутных «у эпіцэнтры гродзенскага літаратурнага жыцця», назваўшы так галерэю «Крыга», дзе адбылася вечарына і прэзентацыя пасмяротнай кнігі вершаў Юрыя Гуменюка «Назаві мяне геніем» («Гарадзенская бібліятэка»). Літаратары чыталі яго вершы, выступалі барды. Вольга Хвашчынская выканала свае песні на вершы Юрыя. Прысутныя прывіталі маці паэта Крысціну Казіміраўну. Выступілі прафесар Аляксей Пяткевіч, паэтка і літаратуразнаўца Ала Петрушкевіч. Пра паэзію Гуменюка гаварыў прафесар Ігар Жук, паэтка Ганна Аўчыннікава.

Укладальнікам кнігі вершаў Юрыя Гуменюка стаў паэт, журналіст Алесь Аркуш, які прыехаў з Беластока. Пасля смерці Гуменюка ён вырашыў, што самым лепшым будзе сабраць і выдаць яго творы. Пад адной вокладкай удалося змясціць усе вершы паэта 1989–2012 гадоў, вядомыя на сённяшні дзень. Большасць раней друкавалася, яны ўзяты з прыжыццёвых зборнікаў. Асноўны — «Вуліца тыгровых архідэяў» выйшаў у Беластоку. Некалькі ранніх вершаў укладальнік знайшоў у «Чырвонай Змене». У кнізе таксама каля трох дзясяткаў новых твораў.

На чарзе кніжка эсэістыкі. У ёй біяграфічны нарыс, у якім апавядаецца пра сям'ю паэта, што друкаваўся ў беластоцкім «Часопісе», публікацыі з «Калосся», сярод якіх — пра Таварыства вольных літаратараў, сябрам якога ён быў, пра любімы Гродна, пра творчасць гродзенскіх мастакоў. Гумянюк дакладна ўпісаў сваё імя ў гісторыю беларускай літаратуры і ён у ёй застанецца, гаворыць Алесь Аркуш: «Так, як пісаў Юра, ніхто раней не пісаў, ні побач з ім пры яго жыцці не пісаў, і сёння ніхто так не піша».



▪ *Укладальнік кнігі «Назаві мяне геніем» Алесь Аркуш*

## Пяткевіч і Пяткявічус...

Дзесяць літоўскіх пісьменнікаў і паэтаў спаткаліся з беларускімі калегамі ў Гродне. Сустрэча адбылася на вуліцы Замкавай у Музеі гісторыі рэлігіі. Ён месціцца ў былым палацы Храптовіча, над брамай якога — алень святога Губерта на шчыце — герб Гродна.

Літаратуразнаўца, прафесар Купалаўскага ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч, знаёмячыся, узгадаў, што ў літоўскай літаратуры ёсць Вітаўтас Пяткявічус. Такія моманты нас аб'ядноўваюць. Гаворачы пра сябе і калегаў, Аляксей Пяткевіч зазначыў: «Літоўскіх пісьменнікаў мы больш ці менш ведаем. Кожны пабываў хоць у адным літоўскім горадзе: у Тракаі ці ў Каўнасе, а ў Вільні то напэўна, не кажучы пра суседнія Друскенікі. Жыццё ў Друскеніках было "крышку еўрапейскага тыпу", "нешта купляялі, нешта глядзелі, адпачывалі"». «Ездзілі больш адпачыць, паглядзець на Нёман, крышку іншы». Літоўскую літаратуру ён назваў адной з найбольш развітых сярод еўрапейскіх.

Перад сустрэчай прафесар Пяткевіч пагледзеў, «што ёсць літоўскага» ў яго бібліятэцы. Аказалася, не так і мала. Некалі літоўскія літаратары «прыязджалі па разнарадцы, па планах», але сёння гэта крыху змянілася. Хаця ўсе гэтыя сустрэчы былі цікавыя. Пачыналіся звычайна ў доме Элізы Ажэшкі, дзе мясцілася Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў.

Старшыня Саюза літоўскіх пісьменнікаў паэт Антанас Ёнінас, аднак, прызнаўся, што іхні «прыезд — гэта вялікі экспромт, таксама сама сустрэча, ніякага сцэнарыю яе няма». Ён зазначыў, што Аляксей Пяткевіч гаварыў больш аб аўтарах старэйшага пакалення, «многіх з іх ужо няма сярод жывых». Цяпер прыехалі людзі, якія прадстаўляюць не маладую, але сучасную літоўскую літаратуру. Гэта сярэдняе пакаленне, якое сёння вядзе рэй, сказаў Антанас Ёнінас.

Кіраўнік літоўскіх літаратараў прызнаўся, што на іх зрабіў ўражанне горад, дзе большасць упершыню, толькі трое раней наведвалі Гродна. Але самі сувязі з беларускімі пісьменнікамі Ёнінас назваў «даволі цеснымі» апошнім часам. У Літве штогод праходзяць два паэтычныя фэсты, на які прыязджаюць беларусы. Ажыццяўляецца праект «Вялікае княства паэтаў», у якім яны ўдзельнічаюць. У Гродна прыехаў адзін з тых, хто яго прыдумаў — паэт Уладас Бразюнас. Ён прывёз трэці выпуск альманаха «Magnus. Ducatus. Poesis», які аб'ядноўвае паэтаў некалькіх суседніх краін. Дарэчы, ён сам перакладае з некалькіх моваў, таксама з беларускай.

Паездку ў Беларусь наладзіла пасольства Літвы ў Мінску. На сустрэчы літаратараў прысутнічала генеральны консул Літвы ў Гродне Аўшра Чарнявічэне.

Апроч названых, у сустрэчы бралі ўдзел іншыя літаратары з Літвы: дзіцячая пісьменніца Гінтарэ Адамайціітэ, эсэістка, публіцыстка, філосаф Дайва Тамашайцітэ, паэт і перакладчык Віталь Асоўскі (піша па-руску), паэт і перакладчык Мар'юс Бурокас, паэт Гітыс Нарвілас, паэт Карнеліюс Плацяліс

(лаўрэат нацыянальнай прэміі ў галіне літаратуры і мастацтва Літвы, былы міністр асветы і навукі, сёння — галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва»), паэт Віктарас Руджанскас. Усе госці выступілі, паэты чыталі свае вершы, затым гучалі іх беларускія пераклады. Ад гродзенцаў бралі ўдзел таксама кіраўнік абласнога аддзялення СБП паэт Юрка Голуб, паэты Ала Петрушкевіч і Анатоль Брусевіч (абодва выкладаюць у Купалаўскім універсітэце), Яўген Петрашэвіч, празаік Сяргей Астравец.

Сярод дзесяці літоўскіх літаратараў толькі адзін не жыве ў Вільні, гэта Віктарас Руджанскас з Коўна, ён рэдагуе штотыднёвік «Нямунас». Ён сказаў: мы мелі агульнае Вялікае Княства Літоўскае, тады былі гістарычныя часы, каторыя нас аб'ядноўвалі. Але потым гэта «кудысьці знікла». Не толькі таму, што «палітычныя прасторы розныя сёння», «бо калі мы былі ў адзінай прасторы (савецкай), таксама гэтыя сувязі паміж Літвой і Беларуссю не былі вельмі якаснымі». Яны былі «неперыядычныя» і Віктарасу Руджанскасу ўспамінаюцца больш «як выпадковыя». Чаму? Ён мяркуе, што «не было матывацыі». Цяпер жыццё пакажа, ці штосьці памяняецца. Але «гэтая зямля нас, канечне, цікавіць: і сваімі гістарычнымі ўспамінамі, і тым, што адбываецца, і тым, што будзе», кажа літоўскі паэт.

А ўвогуле, калі даходзіць да такіх кантактаў, то разумееш, што сувязі патрэбны проста таму, што «прынцып чалавецтва — сябраваць, а не канфліктаваць». Віктарас Руджанскас дадае: «Такім поглядам я і гляджу на гэтую нашу паездку, на творчыя сувязі. Яны таксама недзе выпадковыя, але я перакладаў Ігара Бабкова і як рэдактар часопіса "Нямунас" друкаваў яго вершы. Перакладаў таксама Аксану Данільчык».

Гродна і Коўна — гарады недалёкія, стаяць на адной рацэ, але Руджанскас прызнаецца, што ў Гродне быў толькі аднойчы і вельмі даўно: у 1979 ці 1980 годзе. Напэўна, «не было матывацыі». Госць параўноўвае свае ўражанні: «Дзіўнае адчуванне: горад цяпер утульны, выглядае нейк велічна, ён вельмі чысты, напэўна таму адкрываецца прастора гэтага горада. Тады ў мяне не было такога ўражання. Хаця тады быў сонечны дзень, а сёння змрочна даволі, але самаадчуванне добрае, прыгожы горад».

Каб наладзіць літаратурныя сувязі паміж Гроднам і Коўнам, якія б творы цікавілі Руджанскаса-рэдактара? Ён адказвае: «Вершы пра Гродна ці пра Коўна мяне не цікавяць. Мяне цікавяць вершы, калі ў іх ёсць паэзія: пра каханне, пра смерць. Пра Гродна таксама, калі ёсць паэзія. Я сам не пішу ніколі спецыяльна гораду, помніку ці нейкаму дзяржаўнаму святу: ні "ў тыя" часы не пісаў, ні ў гэтыя я не пішу». Два гады Віктарас Руджанскас узначальваў Ковенскі аддзел Саюза літоўскіх пісьменнікаў, былі планы знайсці сувязі з Гродзенскім аддзяленнем, «але потым усё змянілася», сказаў ён.

## Кніга пра Наталлю Арсенневу

Ала Петрушкевіч напісала першую кнігу пра вядомую эміграцкую паэтку «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі». Ва ўступе аўтарка распавядае пра свой шлях да Наталлі Арсенневай. Таму што гэта сапраўды быў шлях — «нашаму пакаленню прыйсці да эміграцкіх пісьменнікаў было вельмі не проста. Па той банальнай прычыне, што яны не толькі не вывучаліся, а нават ніколі нідзе не ўзгадваліся. Гэтае імя я пачула напрыканцы 1980-х гадоў, а ўжо даўно закончыла беларускае аддзяленне філфака, ужо столькі часу працавала ў школе». Пачула таму, што пачаўся час вяртання, зазначае Ала Петрушкевіч.

Гэта быў 1989 год, курсы настаўнікаў у Гродзенскім абласным інстытуце ўдасканалення. Лекцыю чытаў прафесар Аляксей Пяткевіч. Тэма: творчасць пісьменнікаў беларускай эміграцыі. І гэта было сапраўды адкрыццё цэлай новай старонкі, якая ўжо даўно была, даўно існавала. І тады ўпершыню яна пачула вершы Наталлі Арсенневай.

У сваім універсітэце Ала Петрушкевіч падрыхтавала курс «Літаратура беларускага замежжа»: паўнавартасны, каля сарака гадзін лекцый і каля дваццаці — практычных заняткаў, зазначае яна. Быў таксама экзамен. Пазней гэты курс «схавалі, зашыфравалі», кажа Ала Петрушкевіч, далучылі да курсу «Літаратура бліжняга замежжа», дзе вывучаецца Літва і Украіна. Сёння ўвогуле застаўся «вельмі маленькі спецкурс».

Наталлю Арсенневу называюць лідарам эміграцкай паэзіі, заўсёды ставяць яе на першае месца, адзіную сярод мужчын-паэтаў. Хаця ёсць некаторыя даследчыкі, якія на гэтае месца ставяць Масея Сяднёва ці Алеся Салаўя. Ала Петрушкевіч аргументуе: «Атрымалася, што яна на сваіх плячах вынесла асноўны гэты цяжар. Адназначна яна на першых ролях. І менавіта ёй лёс даў стварыць вобраз, які характарызуе стан нашых эмігрантаў "між берагамі", стан міжбярэжжа: ад аднаго адплылі, а да другога так і не прысталі, так і пражылі там…»

Так, Наталля Арсеннева рускага паходжання, але стала «найвялікшай беларускай паэткай сярэдзіны XX стагоддзя», кажа Ала Петрушкевіч. Драматычны момант у канцы яе жыцця ўражвае: калі яна «даўно адкінуўшы з ужытку рускую мову, раптам у стрэсавым шокавым стане загаварыла па-руску, а па-першае, напачатку наступіў стан слепаты, цемры». У тым часе я пісала эсэ, узгадвае Петрушкевіч, якое называлася «Не прачытаць сваю кнігу». Яму вельмі не пашанцавала. Яно друкавалася два разы, але з купюрамі. Ала Петрушкевіч зазначае: «Яна не магла прачытаць сваю кнігу, таму што ня бачыла. А тады якраз выйшла кніга, над якой яна вельмі доўгі час працавала, гэта пераклад паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды». І ў гэтым стане, мала таго, што паэтка пакарана цемрай, яна пакарана яшчэ страшэннай траўмай. Яна ў стане амаль непрытомнасці. І тут да яе вяртаецца радзінная мова, мова яе бацькоў, руская. У стане шоку. Вось нейкая шокавая тэрапія, якая вяртае да вытокаў. Генная памяць. Чалавек не можа абарваць карэнне. Усё ж ён ад



▪ *Ала Петрушкевіч і Аляксей Пяткевіч на прэзентацыі кнігі пра Наталлю Арсенневу ў галерэі «Крыга»*

самага пачатку належыць таму краю, той мове, у якой нарадзіўся».

Наталля Арсеннева жыла ў Вільні ў пачатку ХХ стагоддзя. У падручніку па геаграфіі дробным шрыфтам было напісана, што ёсць Беларусь і беларуская мова і што найвялікшым паэтам беларускім ёсць Янка Купала. Яе гэта захапіла. Пазней быў Яраслаўль, дзе яна захацела пісаць вершы і дзе тады жыў Максім Багдановіч, яе будучы ўлюбёны паэт. Яны хадзілі па адных вуліцах, магчыма, бачылі адно аднаго, але не ведалі аб тым.

Пасля вяртання ў Вільню Наталля вучылася ў гімназіі і закахалася ў выкладчыка — Максіма Гарэцкага. Гэта падштурхнула яе напісаць беларускія вершы і перадаць яму, падкрэслівае Ала Петрушкевіч.

## Пісьменнік з Беластока Ігнацы Карповіч

Гродна наведаў польскі пісьменнік Ігнацы Карповіч, які мае беларускія карані. Як сам ён расцэньвае паведамленні ў інтэрнэце, што ў Гродне пабывае «польскі пісьменнік беларускага паходжання»? Адказ: «Я маю ўвогуле праблему з канцэпцыяй народа, гэта значыць, я не люблю такой канцэпцыі. Я магу адчуваць у нейкім родзе блізкасць да мовы, а не да гісторыі якойсьці групы людзей. А што да паходжання: мае бацькі таксама, але перш за ўсё дзяды, я з імі правёў свае першыя гады, паходзілі з вёскі, што непадалёк ад Беластока, якая называецца Случанка. І мая першая мова, хаця цяпер ужо не магу ацаніць, якая была маёй першай, але мне здаецца, што маёй першай мовай была беларуская. Бо бацькі працавалі, а мною займаліся дзяды. І будучы дзіцём я добра размаўляў па-беларуску. Яны называлі гэта: “папросту”, “па-свойму” размаўлялі, як бы не было ідэнтыфікацыі з Беларуссю».

Ён разумее беларускую мову, але не размаўляе на ёй сёння, кажа пісьменнік. Ігнацы Карповіч прызнаецца: «Відавочна, я ёсць такі — “з паміж”, “такі беларуска-польскі”, — і працягвае: — хоць для мяне важнейшай ёсць мова, таму больш ужываю польскую, працую на польскай мове».

Чым для Ігнацыя Карповіча ёсць польска-беларускае памежжа як для творцы? Наколькі яно яго прыцягвае, цікавіць?

Пісьменнік адказвае, што задумаў цяпер кніжку, якая будзе называцца «Вялікае Княства Літоўскае». Яна мае быць аб месцы, дзе ён нарадзіўся, гаворыць Карповіч: «Гэта Падляшша і гэтак далей, але якое цяпер расцята межамі. Але бывалі моманты ў гісторыі, калі іх не было, бо межы знаходзіліся

недзе ў іншых месцах. Гэта страшэнна цікава. Хоць мяне праз маіх дзядоў прыцягнула ідэнтыфікацыя не з народам, з беларускім, а толькі са сваякамі, якія навокал. Ідэнтыфікацыя, скажам, на ўзроўні пятнаццаці ці колькіх вёсак, не вышэй, не больш. Гэта — рэч, якая мяне ўсё больш цікавіць ці займае».

Пісьменнік удакладняе, што калі ўсё будзе добра, то напэўна недзе праз год ці два ён пачне чытаць, збіраць матэрыялы «і ўбачым, што з гэтага выйдзе», падсумоўвае ён. Такім чынам, кніга пакуль толькі ў планах, кажа Карповіч. Праўда: ён быў напісаў старонак дваццаць, але палічыў іх «страшэнна няўдалымі і вымушаны быў выкінуць у кош».

Ігнацы Карповіч узгадвае «свайго калегу», беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча, які памёр у Крынках на Беласточчыне: «Калі бачыў яго апошні раз, ён расказаў такую показку. Не ведаю, хіба за паўгады да смерці Сакрат кажа мне — слухай, ведаеш, устаю так, штосьці раблю, мыюся, хаджу, ем — і чагосьці мне не хапае. На другі дзень устаю, таксама хаджу, ем, але чагосьці мне не хапае. І праз тыдзень усвядоміў сабе, што тое, чаго мне бракавала, — цыгарэты, я хіба памру хутка… Гэта значыцца, ён забыўся на курэнне. І як сказаў, так і зрабіў…»

Ігнацы Карповіч вывучаў іберыстыку і афрыканістыку, жыў у Коста-Рыцы і Эфіопіі. Абедзве вядомыя сваімі гатункамі кавы. Для пісьменніка гэта звычайна важны напой. Дзе кава смачнейшая, пацікавіліся мы ў яго. У Коста-Рыцы яна вельмі добрая, але найлепшая — у Эфіопіі. Яе жыхары кажуць, што вырошчваць каву пачалі менавіта ў іх. Лепшай пісьменнік не піў.

У эфіопаў, кажа Ігнацы Карповіч, існуе цырымонія. Калі цябе запрашаюць дамоў, то каву гатуюць, пачынаючы з зялёнага зерня, якое спачатку пражаць, затым яго трэба растаўчы ў ступцы. Кава тады іначай смакуе, чым змолатая, узгадвае Ігнацы Карповіч. Затым трэба выпіць тры кубачкі, і нельга адмаўляцца: першыя за бацьку, за маці, апошні кубак, у якім напой самы слабы, п'ецца за дзяцей, а калі іх няма, то за быдла.

*Даведка:* Ігнацы Карповіч нарадзіўся ў 1976 годзе ў Беластоку. Першы раман выдаў у 2006 годзе, апошні — «Баладыны і рамансы» — у 2010. Гэты твор быў адзначаны прэстыжнай прэміяй часопіса «Палітыка» і намінаваны на галоўную літаратурную прэмію Польшчы «Ніке».



▪ *Ігнацы Карповіч*

## На вуліцы Ажэшкі ўспаміналі царскія часы

У Гродне па вуліцы Элізы Ажэшкі шпацыравалі дамы з кветкамі. На ганку дома, дзе жыла і памерла ў 1910 годзе сама пісьменніца, быў «салон пад баранамі» — пакой з карцінай з іх выявай, дзе яна некалі прымала гасцей. Літаратурна-гістарычнае свята, прысвечанае вуліцы, наладзіла абласная бібліятэка імя акадэміка Карскага ў рамках праекта «Жывая гісторыя», які ажыццяўляецца ў горадзе.

Сярод публікі ў старасвецкім адзенні была і гістарычная асоба — Эліза Ажэшка. Яна павітала гараджанаў «у сваім салоне» і запрасіла ў гістарычную вандроўку на цяперашнюю вуліцу Ажэшкі. Праўда, яна паведаміла, што ў 1907 годзе пісьменніцу ўзнагародзілі «дыпломам ганаровага грамадзяніна Гродна» і «вырашылі пераназваць вуліцу Садовую ў вуліцу Элізы Ажэшкі. Дзякуй, вялікі дзякуй, радасна, што, калі яе не стане, мінакам будзе нагадваць пра яе вуліца», падсумоўвае цяперашняя Ажэшка. Але толькі пазней прысутным на свяце раскажуць, што імя пісьменніцы вуліца атрымае толькі пры польскай уладзе — у 1920 годзе. Адным словам, царская ўлада падманула. Між іншым, пісьменніца жыла на самай лепшай гродзенскай вуліцы, якая ішла да чыгуначнага вакзала. Дык вось: улада царская дала ёй імя «губернатара Мураўёва», сціпла паведамілі вядучыя, хаця гараджанам вядома, што ён быў душыцелем паўстання 1863 года, а сама Ажэшка дапамагала паўстанцам.

Агулам публіцы паведамлялі цікавыя звесткі: у 1560 годзе на месцы вуліцы была дарога да Верцялішак, у магістрацкіх паперах яе называлі дарогай уздоўж Гарадніцы (цяперашняй рачулкі Гараднічанкі). Пазней яна стала называцца вуліцай Раскоша — ад назвы карчмы, што стаяла на ўездзе ў горад. У канцы вуліцы была другая карчма — Галеча. І вельмі важная рэч: вуліца пачынаецца з палаца князёў Масальскіх (ён захаваўся), у якім сёння, аб чым вядучыя паведамляюць вельмі паважна — «Чабурэчная»…



▪ *У ролі Элізы Ажэшкі супрацоўніца бібліятэкі Вера Матыс*

Свята праходзіла на беларускай мове, хоць яна зрэдку і кульгала. Па-беларуску былі выкананы ўсе плакаты. Атмасферу старой вуліцы стваралі не толькі дамы і рамеснікі, танцавальныя пары, але выставы старых кніг і рэчаў.

# Быкаўскія чытанні ў Новым замку

Дзявятыя Гродзенскія навуковыя чытанні прымеркавалі да 90-годдзя Васіля Быкава. Менавіта ў Гродне, дзе жыў доўгія гады, і стаў буйным празаікам. Чытанні падрыхтаваў аддзел краязнаўства абласной навуковай бібліятэкі імя акадэміка Яўхіма Карскага.

Сярод удзельнікаў былі выкладчыкі, краязнаўцы, пісьменнікі — усе, каму было што сказаць пра творчасць Быкава альбо хто быў з ім асабіста знаёмы. З Беластоку прыязджалі пісьменніца Міра Лукша і стары беларускі літаратар Віктар Швед, які быў знаёмы з Васілём Быкавым. Прагучалі шаснаццаць дакладаў. У полі зроку даследчыкаў, у прыватнасці, асэнсаванне асобы Васіля Быкава ў гродзенскім кантэксце. Сярод прамоўцаў быў літаратурны крытык, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў прафесар Ігар Жук.

**Васіль Быкаў як сачыніцель**

Ігара Жука заінтрыгавала думка пра тое, што Быкаў сябе аднойчы назваў больш сачыніцелем, чым фіксатарам фактаў з франтавога і не толькі франтавога жыццёвага вопыту. Даследчык зазначае: «Гэтая думка, што ён сачыніцель, раптам павярнула мяне да Быкава іншым бокам. Сачыніцельствам яму было займацца яшчэ больш цікава і па-пісьменніцку прымальна, чым проста перадаваць свае абагуленыя назіранні, асэнсаваныя і перажытыя. Чаму ён і перайшоў, аказваецца, на партызанскую тэму, што партызанка, партызанскі матэрыял яму, франтавіку, давалі магчымасць гэтага сачыніцельства».

«Вось я і паставіў перад сабой такую задачу, гаворыць Ігар Жук, паспрабаваць разабрацца: а ў чым жа інтрыга гэтага сачыніцельства, што інтрыгуе не ў самім факце пададзенага матэрыялу, а ў тым, як гэты матэрыял прапушчаны праз свядомасць Васіля Быкава. Як будуецца так званая наратыўная інтрыга ў прозе Васіля Быкава».

**Бутэлька, закаркаваная ўлёткай...**

Мы памятаем, працягвае Ігар Жук, што Быкава вінавацілі, што дзесьці ён як быццам няпраўду напісаў, не ведаў чагосьці. У партызанскіх аповесцях, напрыклад. Прычым яму і ад сяброў даставалася. Алесь Адамовіч некалі ўпікнуў яго за тое, што ў «Сотнікаве» бутэльку затыкаюць лістоўкай, гэта тое ж самае, што старублёўкай. Таму што не было чаго курыць. Такія дэталі, канечне, тонкасць, і іх трэба ведаць. Могуць быць промахі часам, але ў меншым. Васіля Быкава цікавілі экзістэнцыйныя магчымасці чалавека. Для яго гэта было важным.

Партызанка паявілася ў творчасці пісьменніка даволі рана, ужо ў 1960-х гадах: «Круглянскі мост», «Сотнікаў», якія былі напісаны яшчэ ў Гродне. А ў «Пайсці і не вярнуцца» там жа ўвогуле героі ідуць у Скідаль, нагадвае Ігар Жук і зазначае: «Так што ідэя сачыніцельства намі недаацэненая. А яно важнае для вялікіх пісьменнікаў: усё ж сачыняецца. Мастацкая літаратура

патрабуе сачыніцельства. Гэтую прастору для сябе ён бачыў у партызанскіх аповесцях, таксама і ў пазнейшых творах: у «Афганцы», у «Сцюжы».

**Музей**

Як адзначалі ўдзельнікі, пасля смерці пісьменніка ў Гродне не з'явілася ні мемарыяльнай шыльды, ні вуліцы, ні помніка. Толькі паўстаў грамадскі музей Быкава. Але ён знаходзіцца ў маленькім пакойчыку ветэранскай арганізацыі, і ў яго статусе нічога не змяняецца. Два гады запар прафесар Святлана Куль-Сяльверстава разам са сваімі студэнтамі займаецца матэрыяламі, сабранымі ў гэтым музеі. Яна расказвае: «Вырашылі зрабіць работу па ўпарадкаванні ці апісанні архіва Быкава, дакументаў, якія ёсць пры музеі. Таму што сёння невядома, які будзе лёс музея. Я вельмі спадзяюся і сэрцам гэтага хачу, каб ён перарос у сапраўдны вялікі музей Быкава, той, што трэба мець у Гродне. А як складзецца яго лёс — невядома. А я па сваім вопыце ведаю, як лёгка нішчацца, гінуць дакументы. Дастаткова выпадку: труба прарвала ці пажар здарыўся.

Святлана Куль-Сяльверстава зазначае, што ў музеі ёсць дакументы, якія ўразілі нават яе асабіста: «Вузкі пенальчык: паўтара метры на чатыры-пяць. Там працаваць унутры немагчыма, мы выносілі на вуліцу дакументы. Студэнты самі былі захопленыя. Гэта была моцная выхаваўчая акцыя. Калі яны самі сталі працаваць з чарнавікамі.

У музеі захоўваецца замежны пашпарт Васіля Быкава, мы яго сфатаграфавалі. У чым тут інтрыга? Цікава: што тут усе візы і выезды за мяжу. Той, хто будзе пісаць біяграфію пісьменніка, ён можа прасачыць — дзе і калі ён быў. Калі будзе пытанне: калі ён прыязджаў у Прагу на сустрэчу з калегамі, на літаратурныя сустрэчы, тут будуць усе дакладныя даты».

**Быкаў і турысты**

Дацэнт кафедры турызму і культурнай спадчыны Гродзенскага ўніверсітэта Віталь Карнялюк мяркуе, што жыццё і творчасць Васіля Быкава могуць і павінны стаць адной з самых цікавых турыстычных старонак Гродна, куды пісьменнік прыехаў пасля вайны досыць выпадкова, але затрымаўся надоўга.

Карнялюк: «І сам Быкаў піша: я прыехаў у горад, дзе ніхто мяне не ведаў. Быкаў тут стаіць у адным шэрагу з Дзюма і Шэкспірам. Людзі проста павінны ў пэўны час прыехаць у Гродна, таму што тут было створана чатырнаццаць твораў не толькі беларускай, але і



▪ *На быкаўскіх чытаннях*

сусветнай літаратуры. Гэты год дзевяностых угодкаў для турызму нашага прайшлі міма, калі казаць пра постаць Быкава. Гэтая дата была не заўважана. Таму, калі казаць пра магчымасці турыстычныя, то толькі праз прызму Васіля Быкава Гродна мае велізарны патэнцыял, роўны з нашымі замкамі, які можа прывабліваць турыстаў».

Удзельнікі чытанняў гаварылі аб тым, што ўлады павінны падтрымаць грамадскі музей Васіля Быкава, падняць яго статус, дапамагчы яму рэальна, не на словах, каб музей жыў і мог прымаць турыстаў.

## Краіна паміж Варшавай і Масквой

«Краіна памежжа» доктара гістарычных навук з Горадні Алеся Краўцэвіча выйшла ў выдавецтве «Архэ». Гэта 518 старонак выбраных тэкстаў, у якіх аўтар перш запрашае ў падарожжа ў сівыя вякі, калі пачало будавацца Вялікае Княства Літоўскае. Новая кніга агулам прысвечана нашай Беларусі, краіне на раздарожжы. Гісторык прызнаўся, што будзе яшчэ другі том — з навуковымі працамі, але пакуль назвы яго няма.

Алесь Краўцэвіч распавядае, што доўгі час рабочая назва кнігі была «Памежная зона», паколькі ён успрымае гісторыю нашай краіны праз прызму сітуацыі памежжа паміж цывілізацыямі, паміж палітычнымі сістэмамі, кажа ён: «Але калі кніга рыхтавалася да друку, Валеры Булгакаў прапанаваў іншую: “Краіна памежжа”. І потым я зразумеў, што ён мае рацыю, што нельга называць такія рэчы словамі з негатыўным адценнем, пасыл павінен быць пазітыўны. Памежжа — там, дзе сутыкаліся ўплывы іншых краінаў».

У першым томе ненавуковыя працы: эсэ, публіцыстыка, рэфлексіі, рэпартажы, папулярныя кніжкі, першы тэкст з 1986 года. Яны друкаваліся ў “ЛіМе”, гучалі на Радыё “Свабода” ў праграме “Дазвол на выезд”. Ёсць тэксты з газеты “Культура”. Шмат фотаздымкаў, ёсць сямейныя». Сам аўтар упершыню убачыў апублікаванымі і некаторыя свае рэчы, якія раней не трапілі пад кніжную вокладку. Ён удакладняе: «Гэта кніжка “Каралеўна мая Гародня”. Калісьці мне замовіў яе Сяргей Плыткевіч і не надрукаваў, прайшло ўжо восем гадоў. Упершыню надрукавана мая папулярная кніга “Ад Войшалка да Віценя”».



▪ *Алесь Краўцэвіч са сваёй новай кнігай*

Алесь Краўцэвіч — прафесійны гісторык, але ён таксама вядомы сваімі кніжкамі для шырокага чытача, у якіх папулярызуецца беларуская мінуўшчына. Як сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, ён прызнаецца: «Пішу марудна, адна старонка тэксту для мяне — гэта многа, але працую больш-менш рэгулярна, таму набралася… “Краіну памежжа” можна назваць літаратурнай працай, а не гістарычнай у некаторым сэнсе. Стараюся працаваць над словам, апрацоўваць літаратурна свае тэксты».

## Амерыканскія коміксы ў Доме Ажэшкі

Паверань ў справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд наведаў Гродна. Дыпламат, у прыватнасці, адкрыў перасоўную кніжную выставу. Яе можна было ўбачыць у Доме Элізы Ажэшкі, дзе знаходзіцца філія абласной бібліятэкі імя акадэміка Яўхіма Карскага. Госця прывітала дырэктарка бібліятэкі Лідзія Мальцава. Выстава прысвечана гісторыі коміксаў у ЗША, пачынаючы з канца XIX стагоддзя.

Скот Роланд сказаў, што любоў да жанру комікса «аб’ядноўвае розныя пакаленні ў многіх краінах свету і дапамагае лепей зразумець адно аднаго». Ён выказаў надзею, што прадстаўленыя на выставе кнігі, фільмы і гульні дапамогуць наведнікам глыбей зразумець гісторыю і культуру Злучаных Штатаў. Ён зазначыў, што «Амбасада ЗША і Гродзенская абласная навуковая бібліятэка плённа супрацоўнічаюць ужо больш за дзесяць год. У выніку гэтага партнёрства нам удалося пашырыць магчымасці для чытачоў аддзела замежнай літаратуры».

У Доме Элізы Ажэшкі адбылася размова амерыканскага дыпламата з чытачамі і супрацоўніцамі бібліятэкі. У госця запыталіся наконт яго ўлюбёнай кнігі. Ён удакладніў: руская ці амерыканская? (Скот Роланд валодае рускай мовай.) Любая! — быў адказ. Цяжкае пытанне, пачаў ён, паколькі толькі адну любімую не можа назваць. На англійскай гэта, напэўна, будзе «Прыгоды Гекльберы Фіна» і «Прыгоды Тома Соера» Марка Твэна, любімага пісьменніка, гэта ўнікальныя творы. А што датычыць класікаў рускай літаратуры, то можна назваць Пушкіна, Талстога, а сярод больш сучасных — Булгакава, «Майстар і Маргарыта».

На пытанне аб беларускіх пісьменніках амерыканскі дыпламат адказаў, што крыху чытаў Янку Купалу. У 1980-х гадах яму давялося бываць у Беларусі, і ён наведаў тады музей паэта ў Мінску.

А ці патрэбная вам беларуская мова ў Беларусі? Скон Роланд адказаў: «Па-першае, я хацеў бы ведаць беларускую мову і на ёй размаўляць. Я ў амбасадзе працую над беларускай мовай і прысвячаю некаторы час заняткам па ёй. Пакуль на памяць магу сказаць толькі “дарагія сябры”, але чытаю па-беларуску. Пасля 21 года дыпламатычнай працы я разумею, наколькі важна ведаць і размаўляць на мове той краіны, у якой ты знаходзішся і працуеш. І я буду прыкладаць усе намаганні, каб вывучаць беларускую мову, таму што я ўпэўнены: гэта дапаможа мне ў маёй працы ў Беларусі».

Скот Роланд наведаў Каложскую царкву (XII ст.) і прызнаўся, што яму рэдка даводзілася ў жыцці «бываць у такіх старажытных месцах».

## Сто гісторый «як стаць беларусам»

У галерэі «Крыга» адбылася прэзентацыя кнігі Севярына Квяткоўскага «Як стаць беларусам. Сто гісторый». Аўтар прызнаўся: для яго важна, што з пачатку 1990-х беларуская мова стала рабіцца прыкметай адукаванасці, нават элітарнасці. Калі пачаў распаўсюджвацца ў Беларусі інтэрнэт, то каментар на рускай мове выклікаў працяг дыскусіі. Але варта было напісаць па-беларуску, як тэма забывалася, усе пераходзілі на тое, што ты пішаш па-беларуску. І пачыналася. Маглі напісаць, што ты апазіцыянер або яшчэ хто-сьці, зазначае Севярын Квяткоўскі.

Як яму здаецца, цяпер тэма самаідэнтыфікацыі ўвогуле і нацыянальнай у прыватнасці абмяркоўваецца нашмат больш спакойна, разважліва. Значыць, грамадства перажыла свае дзіцячыя ментальныя хваробы, мяркуе Квяткоўскі. І на такія тэмы: хто такія беларусы, хто мы, навошта і куды рушым? — мы пачалі гаварыць значна больш прадуктыўна і без надрыву.

У гэтай кніжцы, канечне, больш гуманітарыяў. Чаму? Яны звычайна лепш гавораць. Але ў самім вялікім праекце, які быў у інтэрнэце, там было не сто гісторый, а прыблізна трыста пяцьдзясят. Гэта працягвалася не адзін год на пляцоўцы budzma.org. Далучыўся і tut.by. І аўтар быў прыемна ўражаны, што адмоўных, нядобразычлівых каментарыяў на гэтыя гісторыі было не так шмат. А расказваюць іх розныя людзі, не толькі журналісты, літаратары, музыканты. Сярод іх ёсць стаматолагі, інжынеры, праграмісты, рабочыя, міліцыянты. Гісторыі дапамагалі збіраць Ганна Валынец, Аляксандр Лукашоў, Арцём Мартыновіч, Аляксандр Ярашэвіч і Хрысціна Марчук.



▪ *Севярын Квяткоўскі на прэзентацыі ў «Крызе»*

Сама кніга з’явілася дзякуючы Андрэю Дзмітрыеву, які прафундаваў друк. Ён таксама быў на сустрэчы і цікава выказаўся. У Еўропе дзіўным было б спытаць: як ты стаў немцам, французам? Вельмі проста — нарадзіўся ім. А вось у беларусаў засталіся яшчэ такія дзіцячыя пытанні. І гэта кніга адказаў на такія простыя пытанні, зыходзячы з асабістага лёсу. Існуе грамадзянскі чыннік: быць беларусам — гэта

рашэнне ўнутранае. Часам беларусам надаюць пэўную колькасць станоўчых якасцяў: ветлівасць, талерантнасць. Але патрэбна больш разнастайная карціна. Напрыклад, трэба прызнаць, што беларусы даволі непунктуальныя людзі. Андрэю хацелася, каб лубочная карцінка беларуса, якога не існуе, яна знікла. Гісторыі ў кнізе цікавыя тым, што паказваюць людзей вельмі розных, са станоўчымі і адмоўнымі рысамі. Гэтага якраз не хапала: каб вобраз быў жывы, зазначае Андрэй Дзмітрыеў. Хаця ў кнізе таксама няма адказу на спрадвечныя беларускія пытанні, але ёсць гісторыі, праз якія на гэтыя адказы можна выйсці, робіць ён выснову. Для яго самога быць беларусам азначае жаданне жыць у гэтай краіне, каб яна была незалежнай і каб людзі адчувалі сябе вольна, былі самі сабой, паколькі быць беларусам — гэта шмат у чым быць сабой.

*Паводле* **www.svaboda.org**




АРБЫ ПАНЯМОННЯ

## «Сядзіба мастака» насупраць замка

Кастусь Качан нарадзіўся за 25 кіламетраў ад Навагрудка ў Лаўрышаве, дзе аднаўляецца стары праваслаўны манастыр. Жыў у Мінску, але вярнуўся ў Навагрудак, дзе стварыў «сядзібу мастака», не толькі для сябе, але й для іншых «братоў па пэндзлю». Яна знаходзіцца на Замкавай вуліцы, насупраць Замкавай гары.

У Гродне прайшла выстава мастака «Фарбы жыцця». Карціны можна было ўбачыць у галерэі «Крыга».

***«Барбізон»***

Кастусь Качан даўно меў задуму, «каб у Навагрудку, гістарычным горадзе, была карцінная галерэя». Але ажыццявіць доўга не выходзіла. Улады нібы падтрымлівалі, але толькі на словах. Пазней, калі з'явіліся грошы, ён выкупіў аварыйны будынак у цэнтры, блізка ад замка. Побач збудаваў новы дом, але ў старасвецкім стылі, і займаецца рэстаўрацыяй дома, які выкупіў. Мастак тлумачыць: «Не спяшаў пачынаць з яго, бо ён ужо быў "ніякі", яго абавязкова трэба было разбіраць і наноў складаць». Камяніцы будуць злучаныя паміж сабой.

Перад камяніцай драўляная дошка з разьбяным надпісам: «Сядзіба мастака Кастуся Качана». Праект выканаў вельмі вядомы архітэктар Лявонці Зданевіч, зазначае мастак: «Знайшлі з ім варыянт з элементамі навагрудскай архітэктуры. Вельмі хораша ўпісаўся ў вуліцу, стварае атмасферу, і гараджане дзячаць, што прыгожы куток атрымаўся».

У першай навагрудскай галерэі пакуль што творы самога Кастуся Качана. А з цягам часу ён мяркуе, што будуць адбывацца і выставы іншых мастакоў. На мансардзе дома, які рэстаўруецца, будзе накшталт міні-гатэльчыка, кажа ён: «Тры пакоі для прыезджых мастакоў, каб пастаянна дзейнічаў пленэр: адны працуюць, ад'язджаюць, на іх месца прыязджаюць іншыя». Так бачыцца бліжэйшая будучыня гаспадару мастацкай сядзібы. «Гэта будзе свой беларускі "Барбізон", як у Францыі», — падкрэслівае ён.

**Разваліны замка**

Уласна кажучы, навагрудскае сонца ўзыходзіць з-за Замкавай гары і заходзіць за сядзібай мастака. Пад яе вокнамі праходзяць турыстычныя групы, каб убачыць разваліны дзвюх вежаў. Што думае Кастусь Качан пра іх стан?

«Вы закранулі вельмі балючую тэму для ўсіх свядомых беларусаў, у тым ліку і для мяне. Тым больш, што я знаходжуся побач, — адказвае ён. — Гэта святое месца для ўсіх беларусаў. І трэба было з гэтага замка пачынаць тады, калі мы сталі незалежнымі. З гэтага месца, таму што адсюль пайшла наша дзяржава». Мастак працягвае: «Мяне туды цягне амаль кожны дзень пaглядзець, што там робіцца… Хацелася б, каб замак не страціў тую энергетыку, якая была і яшчэ ёсць».

У любым разе, вельмі важна, што нарэшце ўзяліся за вежу, якая бліжэй да касцёла, што стаіць пад Замкавай гарою. Мастак тлумачыць: «Яна ў аварыйным стане. Каб за яе цяпер не ўзяліся б, то яна напэўна звалілася б з гары. Там засталася адна сцяна толькі, а робяць вежу — чатыры сцяны». Другая вежа, большая, якая ў лепшым стане, таксама будзе адбудаваная, у ёй мяркуецца стварыць музей, паведамляе Кастусь Качан.

**Ландшафт**

«У Навагрудку яшчэ нямала таго, што "дыхае". Я, напрыклад, адчуваю і тыя ж дамы драўляныя, — прызнаецца Кастусь Качан. — Яны збудаваны яшчэ напачатку XX стагоддзя, але захавалі сваю аўтэнтычнасць, хоць да іх прыляпілі ўсякія прыбудоўкі з дошак, з абы-чаго. З гэтага ўсяго і складаецца атмасфера Навагрудка. Акрамя таго, ёсць таксама святыні: тая ж Барысаглебская царква ці той жа фарны касцёл. Але самае галоўнае ў Навагрудку — гэта ландшафт, настолькі цікавы, што з горада можна зрабіць "разынку", сапраўды музей. Існуе дзяржаўная праграма за 2014–2018 гады нешта з Навагрудкам зрабіць. Але будзе залежаць ад таго, хто будзе праектаваць, бо існуе небяспека "наламаць дроў", згубіць тое, што ёсць».

А што наконт помніка вялікаму князю і, адзін час, каралю Міндоўгу? Мясцовыя ўлады вырашылі, што ён аздобіць Навагрудак, для збору грошай была выпушчана дзяржаўная латарэя, але затым справа прыпынілася. Што думае наконт гэтага Кастусь Качан? Ён адказвае: «Таксама "катавасія" пачалася. Здаецца, добрую справу задумалі: паставіць у рэшце рэшт помнік Міндоўгу. Але нейкія гісторыкі пачалі пісаць артыкулы ў дзяржаўнай прэсе, што Міндоўг — гэта не наш герой. Але ж помнік не цяпер, дык потым, але будзе стаяць».

**Карціны, будучыя дзённікі**

Да Навагрудка не раз звяртаўся, пісаў пейзажы, архітэктуру, але таксама людзей, жыццё навагрудскае, кажа Кастусь Качан. Але ён не гатовы, каб адлюстраваць гістарычныя падзеі, партрэты асобаў, бо трэба дасканала ведаць, адчуць усё.

Звычайна ён працуе над некалькімі карцінамі адначасова. Любіць ездзіць па Беларусі, назіраць за жыццём у мястэчках. Перад гродзенскай выставай звярнуўся да некалі зробленага эцюду ў Гальшанах, дзе стаіць драўляны млын. І зараз зробіць на яго падставе зімовы пейзаж з млынам.

Дзённікі не пішу, але думаю гэта рабіць, адказвае Кастусь Качан на апошняе пытанне. Што ў іх было б? «Запісваў бы пра Наваградак, думкі пра мастацтва, пра жыццё. Дзеля чаго я ў Наваградак прыехаў? Дзеля чаго збудаваў гэты дом? Столькі энергіі, часу, здароўя і грошай паклаў? Таму што Наваградак мяне ў першую чаргу хвалюе», падсумоўвае мастак. Ён размаўляе па-беларуску і называе свой горад менавіта «Наваградкам».



▪ *Царква ў Сынкавічах на карціне К.Качана*

## Фантастычная Каложа

У Новым замку адбылася выстава даваеннага польскага мастака Зыгмунта Буйноўскага. Яе адкрыў пасол Польшчы Лешак Шарэпка. Карціны былі ўзяты са збораў Падляшскага музея ў Беластоку, а тры знайшліся ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным.



▪ *Карціна З. Буйноўскага «З-над старога Нёмана», у цэнтры якой Каложская царква*

Выстава называлася «Вяртанні», паколькі Зыгмунт Буйноўскі паказваў свае карціны ў Гродне ў 1926 годзе. І невыпадкова: ён маляваў гродзенскую архітэктуру. Гэтыя карціны можна было ўбачыць і цяпер. На іх Стары замак, касцёлы, кляштары, іншыя пабудовы, а таксама Каложа — царква на высокім нёманскім беразе. Палатно напісана ў 1926 годзе. Трэба сказаць, што мастак стварыў у пэўным сэнсе фантастычную рэканструкцыю храма. Як царква выглядала ў ранейшыя часы — невядома, выявы не захаваліся. Глядач бачыць магутны мураваны храм, з выгляду — абарончы.



▪ *«Стары Гродна», карціна 1927 года*

Да яго цягнуцца сагнутыя постаці. Сёння Каложа (страчаная палова якой — дашчаная) выглядае менш груваасткай. Дарэчы, карціна нагадвае стыль Язэпа Драздовіча.

У наведнікаў выставы выклікала цікавасць, што жыццё таленавітага майстра скараціла савецка-польская вайна, у якой ён удзельнічаў жаўнерам. У 1920 годзе ён быў моцна паранены ў Беларусі на Бярэзіне. Быў затым камісаваны з войска інвалідам. Памёр заўчасна, у 1927 годзе. Яму было 32 гады.

## «Паплыў да Каралеўца па ножыкі»

Супрацоўнік музея гісторыі рэлігіі ў Гродне Уладзімір Кіслы перадаў у адзін з касцёлаў сваю апошнюю знаходку. Яму далі на рэстаўрацыю невялікую карціну, а пад ёй ён знайшоў больш старую і больш па-майстэрску выкананую. Рэстаўрацыяй прадметаў мастацтва, перш за ўсё для музея, ён займаецца 35 гадоў. У Гродне на фасадах касцёлаў захаваліся драўляныя скульптуры, якім некалькі стагоддзяў. Каб іх аднавіць, давялося прыкласці рукі Уладзіміру Кісламу.

Сам Кіслы паходзіць з Дубна, вялікай вёскі на беразе Нёмана. Першыя «карціны» ўбачыў у царкве святога Мікалая, і гэта былі абразы. Разглядаў: як намаляваны рукі, ногі, твар. Раней храмы ў наваколлі былі ўніяцкія, расказвае ён: «Побач з хутарам Кустоўка ўніяцкая царква ў 1828 годзе ўпала ў Нёман, яе падмыла. Дагэтуль расказваюць, што стаяла царква і праваліласа пад зямлю, і ўтварылася возера, якое й цяпер называецца Царкоўнае. Яно ўтварылася са старыцы. Падмыла так, як падмыла Каложу ў 1853 годзе. Вядома, што гэта была царква святога Яўстаха. І што цікава: іканастас паспелі разабраць, і ён цяпер у дубненскай царкве».

У студэнцкія гады мастак быў знаёмы з пісьменнікам Уладзімірам Дамашэвічам, той пазнаёміў яго з самім Уладзімірам Караткевічам, які быў тады легендарнай асобай.

Мастак успамінае: «Што мяне потым найбольш уразіла, што Караткевіч не паленаваўся напісаць да мяне два разы і я маю гэтыя лісты. Я не лічу, што з ім сябраваў, але гарэлку піў з Уладзімірам Сямёнавічам. Я ведаю, што Гродна ён вельмі любіў. Калі ён спытаў: адкуль ты, хлопец, паходзіш, я сказаў, што з Дубна, ён тут жа дастаў здымак дубненскай царквы, сказаў: я там быў! Быў і ў школе маёй. Па-мойму, Караткевіч належаў да такіх людзей, для якіх не было такога месца ў Беларусі, якое б яны сваімі нагамі не спраўдзілі. Я ўжо тады маляваў, падарыў яму сваю карціну “Кароль Стах аддае душу д’яблу” называлася. Дзе тая карціна, які яе лёс, не ведаю. Мне пашчасціла на добрых людзей. Я нікуды наўмысна не лез, я звычайны майстар, але так складвалася, што я шмат у сваім жыцці сустрэў цікавых людзей».

Многія рэчы толькі цяпер пачынаеш асэнсоўваць з таго, што ў маленстве чуў, працягвае мастак. Пра «ножыкі», напрыклад. Як глыбока сядзіць традыцыя, проста здзіўляешся. Паколькі мы выраслі на беразе Нёмана, то ясная справа, што былі і тапельцы. Найчасцей гэта былі чужыя людзі, якія пры-

язджалі на нейкія святы і тапіліся, бо дубненцы ўсе былі плывучыя, я яшчэ здзіўляюся, як гэта ў нас перапонак няма на пальцах. Таму што мы выраслі ў вадзе. Я, памятаю, быў малы, і калі хто ўтопіцца, то часам бываюць людзі-жартаўнікі, так саркастычна казалі: «Паплыў да Каралеўца па ножыкі». Я, будучы малым хлопцам сялянскім, думаў, што Каралевец — гэта, магчыма, нейкая вёска: маўляў, утапіўся дый паплыў туды. І толькі потым, працуючы ў музеі, зразумеў наколькі гэта старажытная фраза. Утапіўся, «паплыў да Каралеўца», у Кёнігсберг. А чаму па ножыкі? Таму што Гродна і Кёнігсберг належалі да «ганзейскіх» гарадоў. З Кёнігсберга прывозілі халодную зброю, загатоўкі кордаў, шабляў, мячоў, нажоў. І, маўляў, паплыў да Каралеўца па ножыкі, такі жарт.

А ўвогуле, калі разабрацца, Прусія на нас вельмі ўплывала… Калі ўзяць беларускія словы, інструмент, напрыклад, то там пераважна яны ўсе нямецкага паходжання. Гэбаль — хобаль, дрот — драт, гартаваць — гартн, загартоўваць. Васэрвага, шыба, шляга — калатушка, шляген — біць па-нямецку. Далей: шаўм, у нас называлі не пена, а — шума. Потым у Дубне было такое слова шальбабон. Гэта — фасоля. Я так думаў: ну такі ўжо дзікі дыялект, нідзе няма, у ніводнай вёсцы. І толькі будучы ў Нямеччыне пачуў, шальбабонэ — гэта значыць гарох, фасоля. Бонэ — гэта фасоля. Вось такія рэчы старажытныя пазахоўваліся, і людзі проста не ўсведамляюць гэтага. Перадавалася нейк з пакаленняў.

Трэба, аднак, сказаць, працягвае мастак: немцы не прыязджалі сады нам саджаць. Хоць у 1941-м спачатку ўсё выглядала зусім нястрашна. Проста людзі не адразу зразумелі, што вайна ідзе на знішчэнне. Але першыя часы акупацыі, бацька казаў, былі сапраўды вельмі спакойныя. І людзі лаяльна ставіліся, таму што пасля польскай улады, пасля савецкай усталяваўся адносна добры парадак. Быў бургамістр, глядзелі за дарогамі, за вуліцамі. Напрыклад, бацька расказваў, што немец аддубасіў аднаго мужыка, калі ўбачыў, што ў яго страшна брудны конь. Ён паказаў, за што ён яго аддубасіў. То потым гэты мужык перш вылізваў каня, а потым ужо сябе і толькі тады выязджаў.

Я не ідэалізую гэтыя рэчы. Ясная справа, што немцы проста заігрывалі. І я ведаў, што аж да самай Ліды ў нас былі не акупацыйныя маркі, а рэйхсмаркі. Яны бачылі,



▪ *Былы палац Храптовіча, цяпер музей гісторыі рэлігіі, дзе працуе У. Кіслы*

што беларусы пры наяўнасці парадку ў цэлым паслухмяныя і працавітыя людзі. І адносіліся, прынамсі, лепш, чым да палякаў. Пра гэта сведчыць мая хросная маці. Яна была ў так званай няволі, працавала ў немца (пад Ольштынам, Аленштайнам), і яе палічылі полькай, бо польскія слоўцы ў нашым лексіконе прысутнічаюць, і гаспадыня пачула іх і навязвала ёй: прышывай гэты знак з літарай «П». Хросная сказала: я не з'яўляюся полькай.

І калі прыйшлі паперы на запыт з царквы, што яна беларуска праваслаўнага веравызнання, то радыкальна памяняліся адносіны. І з гэтым знакам больш да яе не чапляліся. Больш таго, да яе сталі адносіцца як да дачкі. І бацька ў гэтай маёй хроснай маці быў майстрам. Дык гэты баўэр прыслаў яму інструменты розныя. Я іх яшчэ, памятаю, бачыў, выдатныя нямецкія інструменты. Гэблікі розныя, пілкі. Але ідэалізаваць гэта не выпадае…

## «Зброя» паводле Караткевіча

Алесь Сураў з Гродна стаў сёлета ўдзельнікам трох салідных выставаў у Мінску. Дзве адкрыліся ўвосень: «Разумны метал» у Нацыянальнай бібліятэцы і «Пастулат» ва ўніверсітэце культуры. А самай буйной была — «Сто год беларускаму авангарду». Для майстра, які не належыць да Саюза мастакоў (ён сябра Саюза тэатральных дзеячаў), гэта вялікая ўдача, сведчанне прызнання яго творчых пошукаў.

### Рыдлёўка і сярпы

Алесь Сураў прызнаецца, што для яго было нечаканасцю, калі патэлефанавалі са сталіцы і сказалі, што хочуць выставіць яго даўнейшую працу, прычым гэта будзе вялікая прэстыжная выстава «Сто год беларускага авангарду». Гэта выкапнёвая рыба, зробленая з рыдлёўкі і калекцыі старых сярпоў (рэбры, сярпы больш выцягнутыя). «Я да яе стаўлюся спакойна, але яна зацікавіла мінскіх мастацтвазнаўцаў», — кажа мастак.

У жыцці творцы бываюць радасныя хвіліны. Сураў успамінае: «Заходжу ў кнігарню, а там важкі каталог гэтай выставы. Пачынаецца з Марка Шагала, сярод прац вядомых майстроў прыемна было ўбачыць дзесь на васьмідзясятай старонцы і сваю рыбу».

### Зброя для паўстанцаў Караткевіча

Для «Разумнага металу» мастак зрабіў трыпціх паводле твораў Уладзіміра Караткевіча. Гэта «Зброя», другая праца — «Сівая легенда» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», яны зробленыя з металу. Мастак не хавае пачуццяў: «Для мяне самога здзіўленне: я ўсё жыццё працаваў у тэатры, у жывапісе, а ўвагу на мяне звярнулі з нагоды маіх інсталяцыйных прац».

Праца «Зброя» ўяўляе з сябе бел-чырвона-белы сцяг з саматканага лёну і паса медзі на ім, а зверху прымацаваны каваныя лёзы кінжалаў. Сураў дадае: «Я думаю, каб Караткевіч убачыў мой трыпціх, яму б спадабалася, маю на-

дзею. А “Зброя” (дзе гаворка магла быць пра ручніцы) зроблена не паводле тэксту, выкарыстаны вобраз, мае ўяўленні на тэму караткевічавых твораў».

**Майстэрня XVII стагоддзя**

У Гродне мала засталося старых камяніц, а вось палац Сангушкаў XVII стагоддзя яшчэ стаіць. І ў ім майстэрня Алеся Сурава. Якія пачуцці гэта выклікае? Мастак распавядае, што нават у самых фантастычных снах не мог сабе ўявіць, што калі-небудзь будзе мець майстэрню ў гэтым доме (з відам на цэнтральную плошчу). Ён зазначае: «Вось якраз гэта я лічу верхам сваёй мастацкай кар’еры. Гэта неверагодная правакацыя для творчасці, можа, новы штуршок у нейкім гістарычным накірунку ці няхай нават у фантастычным. Я прачытаў, што за дом, каму належаў, — неверагодная гісторыя. Па-першае, гэта быў палац Сангушкаў, вядомага беларускага роду, якія адны з першых пабудавалі тут, на былым Рынкавым пляцы, свой дом. А потым насупраць будаваліся Радзівілы, Пацы. А за вокнамі перш была ратуша. Адно слова: Баторы тут жыў. Тады ўсе хацелі трапіць на гэты пляц».

Сам дом выглядае пасля пажараў і рамонтаў не зусім, можа, так, як некалі, разважае мастак, а вось у лёхах мала што магло змяніцца: «Сама таўшчыня сценаў значная, сутарэнні, якія я аблазіў. Я адчуў, які гэта магутны дом, з якой гісторыяй, што можна ў лёхах натрапіць на прывід…»

Сёлета Сураў зрабіў цікавую працу для горада: побач — прайсці цераз пляц — на вуліцы Стэфана Баторыя ў краме «Баторыя» ім створаны інтэр’ер бара ў стылі часоў Вялікага Княства Літоўскага. Начальства адно прасіла, каб ніякіх арлоў і рыцараў на конях. Давялося выкарыстаць іншыя гербы.



▪ *А. Сураў робіць такія дамкі ў стылі фахверк, якія былі і ў сярэднявечным Гродне, іх можна ўбачыць на гравюрах*

# Змест



# Паэзія

## Артур Камароўскі



## Мечыслаў Курыловіч



## Яўген Петрашэвіч



## Вікторыя Смолка



## Алесь Стадуб

# ПРОЗА



# СПАДЧЫНА

## ХРОНІКА



## ФАРБЫ ПАНЯМОННЯ

Альманах выходзіць на беларускай мове.

Як даслаць тэкст у «Новы замак»?

У альманах прымаюцца адпаведна падрыхтаваныя тэксты. Загалоўкі і абзацы павінны быць набраны праз адзін інтэрвал і выраўнаны па левым краі: у праграме Microsoft Word у пашырэнні doc альбо docx. Шрыфт Times New Roman. Не трэба рабіць водступ, каб пазначыць абзац, і самастойна размячаць у тэксце шрыфты. Нявычытаныя і створаныя ў іншых праграмах тэксты абцяжарваюць укладальніка чарнавой працай. Памятайце: нядбайнасць аўтараў ускладняе тэхнічную падрыхтоўку альманаха, яго вёрстку.

Ахвотныя надрукавацца абавязаны даслаць свой здымак у пашырэнні jpeg памерам не менш за 1000 кб (1 мгб). Неабходна таксама сціслая біяграфічная даведка са звесткамі, якія датычаць літаратурнай творчасці. Узор даведкі — у альманаху.

Матэрыялы трэба дасылаць у электронным выглядзе на адрас:
**novyzamak@gmail.com**

Нас можна знайсці, набраўшы ў пошуку **Новы замак**


*Літаратурна-мастацкае выданне*

**НОВЫ ЗАМАК**

*Літаратурны альманах. Гродна. MMXIV. № 3*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Юрка Голуб*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 24.02.2015. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 12,4. Ум. друк. арк. 17,18.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 72.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.